УДК 323.28(476)(092)
ББК 66.3(4 Беи)6
М 25

**Маракоў Л. У.**
М 25 **Ахвяры і карнікі** / Леанід Маракоў. — Мінск, 2007. — 440 с.

Кніга складаецца з трох частак.

У першай падаюцца біяграфічныя даныя пісьменнікаў, дзеячаў культуры і грамадства, знішчаных сталінскімі органамі НКВД усяго за адну ноч — 29–30 кастрычніка 1937 г. — самую чорную ноч у беларускай культурнай гісторыі. Апісваюцца лёсы іх сваякоў. Па крупінках, на працягу дзесяці гадоў аўтар збіраў звесткі пра пакутнікаў. Спачатку былі адшуканы імёны чатырнаццаці закатаваных, потым дваццаці двух, трыццаці пяці, сямідзесяці…

У другой частцы прыводзяцца 6000 (шэсць тысяч!) іменаў расстраляных у той жа Мінскай унутранай турме НКВД у перыяд так званага КРЫВАВАГА ТУНЭЛЯ СМЕРЦІ (жнівень 1937 – лістапад 1938).

Трэцяя частка кнігі складаецца з інфармацыі, якую аўтару ўдалося сабраць пра сталінскіх апрычнікаў, што ўчынілі гэта страшнае злачынства, нелюдзяў, якія катавалі і расстрэльвалі ні ў чым не вінаватых людзей. І гэта аказалася самым цяжкім: бальшавікі правялі татальнае знішчэнне слядоў арганізаванага імі генацыду супраць эліты беларускага народа – спачатку забілі тых, хто расстрэльваў, потым выканаўцаў гэтай акцыі, а затым і апошняй…

**УДК 323.28(476)(092)**
**ББК 66.3(4 Беи)6**

# ТОЛЬКІ АДНА НОЧ

У Архіве прэзідэнта Расійскай Федэрацыі (АПРФ, вопіс № 24, справа № 411) захоўваецца «Список лиц, подлежащих суду военной коллегии Верховного суда Союза ССР». У спіс уключаны «ворагі народа» з усяго Савецкага Саюза ад Далёкаўсходняга краю да яго заходніх межаў, ад паўночнай ледзяной Комі АССР да сонечных курортаў Крыма. Спіс датаваны: 7 верасня 1937 года. Падпісаны І. Сталіным, В. Молатавым, Л. Кагановічам, К. Варашылавым, М. Яжовым. Спіс асуджаных па першай катэгорыі (да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу) па Беларускай ССР налічвае 103 чалавекі, па другой катэгорыі (прыгавораны да 10 і больш гадоў зняволення ў канцлагерах) — 6 чалавек. Спіс па Беларускай ССР датаваны 15 верасня 1937 і падпісаны І. Сталіным, В. Молатавым і начальнікам 8-га аддзела Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай бяспекі СССР старшым маёрам дзяржаўнай бяспекі У. Цэсарскім. У спіс уключаны:

Абухоў Барыс Аляксандравіч,
Аронаў Навум Мееравіч,
Афанасьеў Ігнат Ільіч,
Бабкоў Сямён Дзмітрыевіч,
Барзуноў Георгій Фёдаравіч,
Бейлін Саламон Хаімавіч,
Белацаркоўскі Абрам Давыдавіч,
Бурдыка Іван Сямёнавіч,
Варшаўскі Станіслаў Юльянавіч,
Васільеў-Вашчылін Рыгор Мікітавіч,
Вольны (Ажгірэй) Анатоль Усцінавіч,
Габаеў Моўша-Нохім Ізраілевіч,
Габрусёў Апанас Сцяпанавіч,
Гейштэрн Антон Міхайлавіч,
Гінзбург Якаў Яфімавіч,
Госін Абрам Мендзелевіч,
Гурскі Канстанцін Іосіфавіч,
Гурэвіч Нохман Гіршавіч,
Дзмітроў (Дзмітраў) Мікалай Андрэевіч,
Дзьякаў (Дзякаў) Ананій Іванавіч,
Дракахруст Абрам Генрыхавіч,

Дудар Алесь (Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч),
Елянсон Гірш Борухавіч,
Ермакоў Мікалай Паўлавіч,
Жывуцкі Іван Сцяпанавіч,
Замалін Навум Міхайлавіч,
Зарэцкі (Касянкоў) Міхась Яфімавіч,
Зянковіч Аляксандр Сазонавіч,
Іваноў Аляксандр Васілевіч,
Ігнаценка Дзмітрый Кузьміч (асуджаны па другой катэгорыі),
Іспраўнікаў Прохар Іванавіч,
Кавалёў Сямён Трафімавіч (асуджаны па другой катэгорыі),
Каваль (Кавалёў) Васіль Пятровіч,
Кантар Саламон Мендзелевіч,
Капітанакі Міхаіл Васілевіч,
Карпенка Іван Іванавіч,
Качанаў Герасім Антонавіч,
Кляніцкі Віктар Сямёнавіч,
Кляшторны Тодар Тодаравіч,
Кудзелька Іосіф Фадзеевіч,
Кучынскі Аляксей Сцяпанавіч,
Левін Аляксандр Самойлавіч,
Левін Саламон Вульфавіч,
Лейбін Піня Майсеевіч,
Ляйбовіч Хаім Элясавіч,
Ліхтэнштэйн Сямён Давыдавіч,
Лукашонак Мікіта Сяргеевіч,
Лявонны Юрка (Юркевіч Леанід Мікалаевіч),
Лямперт Саламон Рыгоравіч,
Мазель Эліязар Якаўлевіч,
Малаў (Малоў) Барыс Міхайлавіч,
Маракоў Валерый Дзмітрыевіч,
Маргелаў Сцяпан Прохаравіч,
Марголін Міхаіл Саламонавіч (вядома, што арыштаваны быў і яго брат),
Масленнікаў Павел Аляксандравіч,
Мелік-Шахназараў Андрэй Паўлавіч,
Мілевіч Антон Сігізмундавіч (асуджаны па другой катэгорыі),
Мірлін Абрам Навумавіч,
Міснікоў Мікалай Данілавіч,
Міхееў Мікалай Іванавіч,
Мурзо Сяргей Мікітавіч,

Мухін Павел Максімавіч,
Навахрэст Якаў Пятровіч,
Несцяровіч Іван Іванавіч,
Падсявалаў Іван Іванавіч,
Паплыка Іван Майсеевіч,
Пасманік Міхаіл Львовіч,
Піваварaў Залман Рувімавіч,
Пітомцаў Міхаіл Мікітавіч,
Пратапопаў Апалон Уладзіміравіч,
Пурыс Ізраіль Лейзеравіч,
Пуцілоўскі Аляксандр Андрэевіч,
Пуцінцаў Іван Андрэевіч,
Пыж Рыгор Фёдаравіч (асуджаны па другой катэгорыі),
Пятрашын Кузьма Рыгоравіч,
Пятровіч (Нёманскі) Іван Андрэевіч,
Разумоўскі Арон-Лейб Сіманавіч,
Рыдзеўскі Міхаіл Антонавіч,
Самахвалаў Аляксандр Рыгоравіч,
Сандамірскі Якаў Рыгоравіч,
Сапрыцкі Оскар (Аскар) Абрамавіч,
Саракош (Сарокаш) Іван Усцінавіч,
Спектар Якаў Мееравіч,
Старынскі Васіль Сямёнавіч,
Сташэўскі Васіль Пятровіч,
Стрэле Георгій Уладзіміравіч,
Суроўцаў Мікалай Якаўлевіч,
Сялоў Дзмітрый Паўлавіч,
Сярдзюк Панцеляймон Іванавіч,
Таненбаўм Мірон Барысавіч,
Таўбін Юдаль Абрамавіч,
Троіцкі Іван Васілевіч,
Трумпацкі Эля Хацкелевіч,
Успенскі Яўген Канстанцінавіч,
Фалкін Рыгор Якаўлевіч,
Фінкельштэйн Аба Алтэравіч,
Фломбаўм Яўсей Еўнавіч,
Фрэнкель Іосіф Львовіч (асуджаны па другой катэгорыі),
Харлац Дзмітрый Сямёнавіч,
Хатулёў Пётр Фёдаравіч,
Чарнушэвіч Аляксандр Анікеевіч,
Чарняк Мікалай Платонавіч,

Чарот (Кудзелька) Міхась Сямёнавіч,
Чачура Канстанцін Георгіевіч,
Шалай (Шалаеў) Макар Ксенафонтавіч,
Шапіра Юдаль Ісакавіч,
Шастакоў Павел Пятровіч,
Элькін Якаў Веньямінавіч (таксама арыштаваны і яго брат),
Ярковіч Іван Канстанцінавіч (асуджаны па другой катэгорыі).

Згоду, дакладней, загад на знішчэнне па ўсім СССР тысяч (атрымаецца мільёнаў) ні ў чым не вінаватых людзей далі вышэйшыя кіраўнікі краіны. Загад дадзены, і яго трэба было выконваць, а лепш... перавыконваць. Што і было зроблена ў невыпадкова прызначаную ноч.

29 кастрычніка 1937 года, напэўна, у гонар 20-годдзя кастрычніцкага перавароту, у сталіцы Беларусі Мінску адбылася акцыя, аналагаў якой яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва. На працягу ночы ў сутарэннях унутранай турмы НКВД, так званай «амерыканкі», былі расстраляны паэты Алесь Дудар, Юрка Лявонны, Валеры Маракоў, Сяргей Мурзо, Зяма Півавараў, Міхась Чарот, празаікі Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Васіль Сташэўскі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Анатоль Вольны, літаратурныя крытыкі Саламон Левін, Пятро Хатулёў, Макар Шалай, журналіст Павел Шастакоў, наркам асветы Аляксандр Чарнушэвіч, рэктар БДУ Ананій Дзьякаў (Дзякаў), нам. наркама земляробства БССР Аскар Сапрыцкі, адказны сакратар СНК БССР Іван Бурдыка, начальнік упраўлення па ахове аўтарскіх правоў пры СП БССР Іосіф Кудзелька, начальнік планава-фінансавага ўпраўлення наркама асветы БССР Дзмітрый Сялоў, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, педагог, рэдактар Аляксей Кучынскі, загадчык секцыі геаграфіі Інстытута экономікі АН БССР Сцяпан Маргелаў, загадчык вучэбнай часткі Мінскага педагагічнага інстытута Міхаіл Рыдзеўскі, фізік Яўген Успенскі, дацэнт Віцебскага ветэрынарнага інстытута Навум Замалін, выкладчык Мінскага Белпедтэхнікума Ігнат Афанасьеў, настаўнік Іван Жывуцкі, студэнт 5 курса БДУ Саламон Лямперт.

Паэты Ізі Харык, Арон Юдэльсон, празаікі Платон Галавач, Майсей Кульбак, літаратурны крытык Якаў Бранштэйн, журналіст Віктар Вайноў, наркам асветы Аляксандр Варончанка, крытык, публіцыст Хацкель Дунец, наркам юстыцыі БССР Максім Ляўкоў, другі сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Дзеніскевіч, загадчык асобага сектара (аддзела) ЦК КП(б)Б Міхаіл Лабадаеў, сакратар Барысаўскага РК КП(б)Б Леў Майсееў, дзяржаўны дзеяч, педагог, публіцыст Язэп Каранеўскі, вучоны-аграхімік Рыгор Пратасеня дададзены ў смяротны спіс мясцовымі энкавэдыстамі.

Сёння ўжо цяжка ўдакладніць, калі — 29 (у 23.45, да прыкладу) або 30 (скажам, у 00.15) кастрычніка 1937 — расстралялі празаіка і грамадскага дзеяча Янку Нёманскага (Пятровіча), паэтаў Тодара Кляшторнага і Юлія Таўбіна, нам. загадчыка сельскагаспадарчага аддзела рэдакцыі газ. «Віцебскі пралетарый» Прохара Іспраўнікава, дырэктара трэста «Галоўхлеб» БССР Георгія Барзунова, дырэктара Белпрамторга Саламона Кантара, загадчыка аддзела хлебнай групы наркамата ўнутранага гандлю Барыса Малава, загадчыка сакратарыята СНК БССР Якава Спектара, дырэктара конесаўгаса № 120 Георгія Стрэле, загадчыка лабараторыі Віцебскай ветэрынарнай станцыі Івана Карпенку, нам. дырэктара па навуковай рабоце Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі Элізара Мазеля, загадчыка кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Якава Сандамірскага, загадчыка лабараторыі Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі Паўла Мухіна, загадчыка лабараторыі біяфабрыкі № 5 у Віцебску Панцялея Сердзюка.

Тое ж самае можна сказаць і пра дададзеных у спіс мясцовымі энкавэдыстамі начальніка Упраўлення вышэйшай школы Наркамата асветы БССР Вадзіма Башкевіча, нам. наркама асветы БССР Іосіфа Гершона, загадчыка аддзела школ і навукі ЦК КП(б)Б Мікалая Арабея, старшыню ЦК прафсаюзаў БССР Захара Кавальчука, сакратара Варашылаўскага РК КП(б)Б Захара Кавалёва, начальніка Упраўлення будаўнічых работ пры СНК БССР Анатоля Аўгусціновіча, начальніка Упраўлення шкляной прамысловасці Наркамата лёгкай прамысловасці БССР Мікалая Кандрашука, нам. наркама Наркамата саўгасаў БССР Леанарда Лашкевіча, сакратара Дзяржынскага РК КП(б)Б, члена ЦК КП(б)Б (з 1937) Барыса Мар'янава, кансультанта Упраўлення справамі СНК БССР Дзям'яна Міхайлава, дырэктара Гідролізнага доследнага завода Наркамата мясцовай прамысловасці Сяргея Міцькова, кансультанта СНК БССР па камунальных і транспартных справах Васіля Петрушэню, наркама саўгасаў БССР Андрэя Турлая, начальніка аддзела землеўпарадкавання Наркамата земляробства БССР Ісака Фрыдмана, начальніка службы Днепра-Дзвінскага параходства ў Гомелі Віктара Яркіна.

Уключаныя ў сталінскі смяротны спіс начальнік Ветэрынарнага ўпраўлення Наркамата земляробства БССР Пасманік Міхаіл Львовіч (н. ў 1903), яго нам. Іваноў Аляксандр Васілевіч (н. ў 1898) і старшы ветэрынарны ўрач Ветэрынарнага ўпраўлення Гурскі Канстанцін Іосіфавіч (н. ў 1903) (з машыністам паравознага дэпо станцыі «Мінск» Бяганскім Іосіфам Вікенцевічам (н. 1.1.1881), бацькам таксама рэпрэсаванай пісьменніцы Ядвігі Бяганскай, і 20 іншымі, далучанымі да спіса

мясцовымі энкавэдыстамі) асуджаны да ВМП і расстраляны 17 кастрычніка 1937.

Наркам унутранага гандлю БССР Гурэвіч Нохім Гіршавіч (н. ў 1895), падчас арышту беспрацоўны Ермакоў Мікалай Паўлавіч[1] (н. 1.5.1894), загадчык кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Міхееў Мікалай Іванавіч (н. ў 1905), загадчык склада «Галоўнафты» Пятрашын Кузьма Рыгоравіч, падчас арышту беспрацоўны Пітомцаў Міхаіл Мікітавіч[2] (н. 13.11.1902), нам. начальніка штаба, палкавы камісар 16-га стралковага корпуса Паплыка Іван Майсеевіч[3] (н. ў 1890), вайсковец, старшы афіцэр БВА Пратапопаў Апалон Уладзіміравіч, ветэрынарны ўрач Віцебскай біяфабрыкі Чарняк Мікалай Платонавіч[4] (н. ў 1885), ветэрынарны ўрач Віцебскай біяфабрыкі Чачура Канстанцін Георгіевіч, загадчык кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Кляніцкі Віктар Сымонавіч (н. ў 1879), загадчык кафедры анатоміі гэтага ж інстытута Абухоў Барыс Аляксандравіч, загадчык кафедры заагігіеннага інстытута Старынскі Васіль Сямёнавіч, дацэнт інстытута Качанаў Герасім Артамонавіч (н. у 1907), прафесар Віцебскага медыцынскага інстытута Троіцкі Іван Васілевіч (н. у 1893) былі асуджаны да ВМП і расстраляны 31 кастрычніка 1937 г.

У гэты ж дзень расстраляны і далучаныя да спіса мясцовымі энкавэдыстамі пробашч касцёла кармелітаў у Чавусах Магілёўскай вобл. Казюнас Павел Мацвеевіч (н. ў 1868), выкладчык Магілёўскага сельскагаспадарчага тэхнікума Маеўскі-Лукша Давыд Якімавіч (н. ў 1899), дырэктар Мінскага (Беларускага) навукова-даследчага інстытута прамысловасці Слонім Самуіл Захаравіч (н. 30.9.1888), праваслаўны святар Раеўскі Аляксандр Сямёнавіч (н. ў 1868) і 30 іншых.

---

[1] 4.11.1937 арыштавана, а 28.11.1937 асуджана да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР яго жонка Ермакова Францішка Іванаўна.

[2] 4.11.1937 арыштавана, а 28.11.1937 асуджана да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР яго жонка Пітомцава Аляксандра Георгіеўна, настаўніца Мінскай школы № 6.

[3] 25.9.1932 органамі АДПУ арыштаваны і 2.12.1932 асуджаны за ўдзел у «контррэвалюцыйнай кулацкай арганізацыі» да 5 гадоў ППК яго брат Паплыка Сцяпан Майсеевіч; 6.11.1937 (з сынам Канстанцінам; н. ў 1917) арыштавана, а 16.5.1938 асуджана да 8 гадоў зняволення і выслана ў Краснаярскі край жонка Івана Паплыкі Юлія Іванаўна, загадчыца чытальнай залы Магілёўскай цэнтральнай бібліятэкі.

[4] 15.11.1937 арыштавана, а 16.5.1938 асуджана да 8 гадоў ППК жонка Мікалая Чарняка Марыя Еўсцігнееўна, фельчар Віцебскай чыгуначнай бальніцы; хутчэй за ўсё рэпрэсаваны і іх дзеці.

Загадчык лабараторыі Віцебскай ветэрынарнай станцыі Капітанакі Міхаіл Васілевіч (н. ў 1904) арыштаваны 17.5.1937, прыгавораны да 10 гадоў ППК і этапаваны ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай чыгункі, дзе адбываў пакаранне да 7.9.1945.

Лёсы ўключаных у смяротны спіс Аронава Навума Мееравіча, Бабкова Сямёна Дзмітрыевіча, Бейліна Саламона Хаімавіча, Белацаркоўскага Абрама Давыдавіча, Варшаўскага Станіслава Юльянавіча, Васільева-Вашчыліна Рыгора Мікітавіча, Габаева Моўша-Нохіма Ізраілевіча, Габрусёва Апанаса Сцяпанавіча, Гейштэрна Антона Міхайлавіча, Гінзбурга Якава Яфімавіча, Госіна Абрама Мендзелевіча, Дзмітрова Мікалая Андрэевіча, Дракахруста Абрама Генрыхавіча, Елянсона Гірша Борухавіча, Ігнаценкі Дзмітрыя Кузьміча, Кавалёва Сямёна Трафімавіча, Левіна Аляксандра Самойлавіча, Ляйбовіча Хаіма Элясавіча, Лейбіна Піні Майсеевіча, Ліхтэнштэйна Сямёна Давыдавіча, Лукашонка Мікіты Сяргеевіча, Марголіна Міхаіла Саламонавіча (вядома, што арыштаваны быў ягоны брат), Масленнікава Паўла Аляксандравіча, Мелік-Шахназарава Андрэя Паўлавіча, Мілевіча Абрама Сігізмундавіча, Мірліна Абрама Навумавіча, Міснікова Мікалая Данілавіча, Навахрэста Якава Пятровіча, Несцяровіча Івана Іванавіча, Падсявалава Івана Іванавіча, Пурыса Ізраіля Лейзеравіча, Пуцілоўскага Аляксандра Андрэевіча, Пуцінцава Івана Андрэевіча, Пыжа Рыгора Фёдаравіча, Разумоўскага Арона-Лейбы Сіманавіча, Самахвалава Аляксандра Рыгоравіча, Саракоша Івана Усцінавіча, Суроўцава Мікалая Якаўлевіча, Таненбаўма Мірона Барысавіча, Трумпацкага Элі Хацкелевіча, Фалкіна Рыгора Якаўлевіча, Фінкельштэйна Абу Алтэравіча, Фломбаўма Яўсея Еўнавіча, Фрэнкеля Іосіфа Львовіча, Харлаца Дзмітрыя Сямёнавіча, Шапіры Юдаля Ісакавіча, Элькіна Якава Веньямінавіча (таксама арыштаваны ягоны брат), Янковіча Аляксандра Сазонавіча (далучаны мясцовымі энкавэдыстамі), Ярковіча Івана Канстанцінавіча невядомыя, але найхутчэй, яны ў кастрычніку-лістападзе 1937-га былі арыштаваны і асуджаны тройкамі НКВД да ВМП.

29 кастрычніка 1937 года толькі ў Мінскай турме НКВД энкавэдысты расстралялі не менш за 70 чалавек (праўдападобна, больш за 100). І заўважце каго! Дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, навукоўцы, літаратары, работнікі асветы. Ніколі ні раней, ні пазней такога адсеву не рабілася. Вынішчалі эліту беларускай інтэлігенцыі, мозг нацыі... Вынікі таго расстрэлу мы адчуваем нават цяпер, праз 70 гадоў! Страх, што ўеўся ў нашы гены, душыць, як пятля, сціскае нашыя шыі, не дае дыхаць...

У жніўні таго юбілейнага для бальшавікоў 1937-га іх гвардзейцы-энкавэдысты пачалі татальнае вынішчэнне інтэлектуальнай беларус-

кай эліты. Толькі за тры восеньскія месяцы паслугачамі таталітарнага рэжыму было рэпрэсавана больш за 600 грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі. За перыяд жа так званага крывавага тунэля смерці (жн. 1937 — снеж. 1938) расстраляна не менш за дзесяць тысяч чалавек.

Рэпрэсаваны... Знайшлі ж бальшавікі слова! Не канкрэтнае — расстраляны або загублены на катарзе ці замардаваны ў ссылцы, а замежнае, не кожнаму да канца зразумелае — рэпрэсаваны (з лацінскай repressor — падаўленне). Не, гэта было не падаўленне, гэта было вынішчэнне, генацыд супраць беларускага народа!

Першага жніўня 1937 г. на вялікім вогнішчы ў «амерыканцы» энкавэдысты Сакалоў (нам. начальніка Мінскай унутранай турмы НКВД), Абрамчык, Гарбацэвіч вынішчылі — спалілі — некалькі дзесяткаў тысяч (!) рукапісаў беларускіх літаратараў. Гарэлі творы, якія не праскочылі цэнзуру або пісаліся ў стол, для нас, нашчадкаў. Гарэлі рукапісы М. Багуна, С. Баранавых, А. Вольнага, П. Галавача, У. Галубка, Ц. Гартнага, С. Дарожнага, А. Дзеркача, А. Дудара, Х. Дунца, М. Зарэцкага, С. Знаёмага, В. Каваля, Т. Кляшторнага, М. Кульбака, Ю. Лявоннага, В. Маракова, С. Мурзо, Я. Нёманскага, З. Піваварава, С. Ракіты, А. Розны, В. Сташэўскага, Б. Тарашкевіча, Ю. Таўбіна, У. Хадыкі, І. Харыка, М. Чарота, В. Шашалевіча, А. Юдэльсона і многіх іншых. Гарэла амаль уся спадчына пісьменнікаў «першага прызыву». Няма чалавека — няма толькі адной праблемы. Няма рукапісаў — няма паэтаў, няма гісторыі, няма народа!

Нашу гісторыю разам з нашым народам ЯНЫ ўвесь час і выкарчоўваюць. Калі мячом, калі агнём.



С П И С О К

ЛИЦ, ПОДЛЕЖАЩИХ СУДУ ВОЕННОЙ КОЛЛЕГИИ

ВЕРХОВНОГО СУДА СОЮЗА ССР.

"   " сентября 1937 г.

*Спіс асобаў, якія падпадаюць пад суд Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР (7 верасня 1937 года).*
*За: Сталін, Молатаў, Кагановіч, Варашылаў, Яжоў.*
*(АПРФ, в. 24, с. 411, л. 1.)*



65

БЕЛОРУССКАЯ С.С.Р.

СПИСОК

ЛИЦ, ПОДЛЕЖАЩИХ СУДУ ВОЕННОЙ КОЛЛЕГИИ

ВЕРХОВНОГО СУДА СОЮЗА ССР.

сентября 1937 г.

*Спіс асобаў, якія падпадаюць пад суд Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР (15 верасня 1937 года).*
*Сталін, Молатаў.*
*(АПРФ. в. 24. с. 411. л. 65.)*

| | 1-я кат. | 2-я кат. | 3-я кат. |
|---|---|---|---|
| 1. Белорусская ССР | 103 | 6 | 0 |

*АП РФ, оп.24, дело 411, лист 66*

## Асуджаныя па першай катэгорыі (расстрэл)

1. АЖГИРЕЙ (ВОЛЬНЫЙ) Анатолий Устинович
2. АРОНОВ Наум Мейерович
3. АФАНАСЬЕВ Игнатий Ильич
4. БАБКОВ Семен Дмитриевич
5. БЕЙЛИН Соломон Хаимович
6. БЕЛОЦЕРКОВСКИЙ Абрам Давыдович
7. БОРЗУНОВ Георгий Федорович
8. БУРДЫКО Иван Семенович
9. ВАРШАВСКИЙ Станислав Юльянович
10. ВАСИЛЬЕВ-ВАЩИЛИН Григорий Никитич
11. ГАБАЕВ Мовша-Нохим Израилевич
12. ГАБРУСЕВ Афанасий Степанович
13. ГЕЙШТЕР Антон Михайлович
14. ГИНЗБУРГ Яков Ефимович
15. ГОСИН Абрам Менделевич
16. ГУРЕВИЧ Нохман Гиршевич
17. ГУРСКИЙ Константин Иосифович
18. ДАЙЛИДОВИЧ-ДУДАРЬ Александр Александрович
19. ДМИТРОВ Николай Андреевич
20. ДРАКОХРУСТ Абрам Генрихович
21. ДЬЯКОВ Ананий Иванович
22. ЕЛЕНСОН Гирш Борухович
23. ЕРМАКОВ Николай Павлович
24. ЖИВУЦКИЙ Иван Степанович
25. ЗАМАЛИН Наум Михайлович
26. ЗЕНКОВИЧ Александр Сазонович
27. ИВАНОВ Александр Васильевич
28. ИСПРАВНИКОВ Прохор Иванович
29. КАНТАР Соломон Менделевич
30. КАПИТАНАКИ Михаил Васильевич
31. КАРПЕНКО Иван Иванович
32. КАЧАНОВ Герасим Антонович
33. КЛЕНИЦКИЙ Виктор Семенович
34. КЛЯШТОРНЫЙ Федор Федорович
35. КОВАЛЬ Василий Петрович
36. КОСЯНКОВ-ЗАРЕЦКИЙ Михаил Ефимович
37. КУДЕЛЬКО Иосиф Фаддеевич
38. КУДЕЛЬКО-ЧАРОТ Михаил Семенович

39. КУЧИНСКИЙ Алексей Степанович
40. ЛЕВИН Александр Самойлович
41. ЛЕВИН Соломон Вульфович
42. ЛЕЙБИН Пиня Моисеевич
43. ЛЕЙБОВИЧ Хаим Эльясович
44. ЛИХТЕНШТЕЙН Семен Давидович
45. ЛУКАШЕНОК Никита Сергеевич
46. ЛЯМПЕРТ Соломон Григорьевич
47. МАЗЕЛЬ Элиазар Яковлевич
48. МАЛОВ Борис Михайлович
49. МАРГЕЛОВ Степан Прохорович
50. МАРГОЛИН Михаил Соломонович
51. МАСЛЕННИКОВ Павел Александрович
52. МЕЛИК-ШАХНАЗАРОВ Андрей Павлович
53. МИРЛИН Абрам Наумович
54. МИСНИКОВ Николай Данилович
55. МИХЕЕВ Николай Иванович
56. МОРЯКОВ Валерий Дмитриевич
57. МУРЗО Сергей Никитич
58. МУХИН Павел Максимович
59. НЕСТЕРОВИЧ Иван Иванович
60. НОВОХРЕСТ Яков Петрович
61. ОБУХОВ Борис Александрович
62. ПАСМАНИК Михаил Львович
63. ПЕТРАШИН Кузьма Григорьевич
64. ПЕТРОВИЧ Иван Андреевич
65. ПИВОВАРОВ Залман Рувимович
66. ПИТОМЦЕВ Михаил Никитич
67. ПОДСЕВАЛОВ Иван Иванович
68. ПОПЛЫКО Иван Моисеевич
69. ПРОТОПОПОВ Апполон Владимирович
70. ПУРИС Израиль Лейзерович
71. ПУТИНЦЕВ Иван Андреевич
72. ПУЦИЛОВСКИЙ Александр Андреевич
73. РАЗУМОВСКИЙ Арон-Лейба Симонович
74. РЫДЗЕВСКИЙ Михаил Антонович
75. САМОХВАЛОВ Александр Григорьевич
76. САНДОМИРСКИЙ Яков Григорьевич
77. САПРИЦКИЙ Оскар Абрамович
78. СЕЛОВ Дмитрий Павлович
79. СЕРДЮК Пантелеймон Иванович
80. СОРОКОШ Иван Иустинович
81. СПЕКТОР Яков Мейерович
82. СТАРИНСКИЙ Василий Семенович
83. СТАШЕВСКИЙ Василий Петрович

84. СТРЕЛЕ Георгий Владимирович
85. СУРОВЦЕВ Николай Яковлевич
86. ТАНЕНБАУМ Мирон Борисович
87. ТАУБИН Юлий Абрамович
88. ТРОИЦКИЙ Иван Васильевич
89. ТРУМПАЦКИЙ Эля Хацкелевич
90. УСПЕНСКИЙ Евгений Константинович
91. ФАЛКИН Григорий Яковлевич
92. ФИНКЕЛЬШТЕЙН Аба Алтерович
93. ФЛОМБАУМ Евсей Евнович
94. ХАРЛАЦ Дмитрий Семенович
95. ХОТУЛЕВ Петр Федорович
96. ЧЕРНУШЕВИЧ Александр Аникеевич
97. ЧЕРНЯК Николай Платонович
98. ЧЕЧУРО Константин Георгиевич
99. ШАЛАЕВ Макар Ксенофонтович
100. ШАПИРО Юдель Исаакович
101. ШЕСТАКОВ Павел Петрович
102. ЭЛЬКИН Яков Вениаминович
103. ЮРКЕВИЧ-ЛЯВОННЫЙ Леонид Николаевич

## Асуджаныя па другой катэгорыі (ППК)

1. ЕРКОВИЧ Иван Константинович
2. ИГНАТЕНКО Дмитрий Кузьмич
3. КОВАЛЕВ Семен Трофимович
4. МИЛЕВИЧ Антон Сигизмундович
5. ПЫЖ Григорий Федорович
6. ФРЕНКЕЛЬ Иосиф Львович


Начальник 8 отдела ГУГБ НКВД
Ст.Майор Государствен.Безопасности

(Цесарский)

В данном деле пронумеровано двести сорок восемь (248) листов.

Нач. 12 отделения лейтенант ГБ
30/IV-40 г.

*Кр.: АПРФ, в.24. с. 24. с. 411. л. 250.*

**АРАБЕЙ Мікалай Лявонавіч** [16.1899, в. Вялікая Вобрына Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны дзеяч. З сялянскай сям'і. Скончыў рэальнае вучылішча ў Петраградзе. З 1919 (?) да 1930 у Чырвонай арміі на палітрабоце. З ліп. 1919 да снеж. 1920 на Зах. фронце. У ВКП(б) з 1920. У 1926 скончыў курсы ўдасканальвання вышэйшага начсаставу. З лют. да верас. 1930 — інструктар ЦК КП(б)Б, потым вучыўся ў Інстытуце чырвонай прафесуры ў Маскве (да ліст. 1933). Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Пасля вяртання ў Мінск — памочнік сакратара ЦК КП(б)Б, дырэктар Белпартвыдавецтва. З верас. 1935 да мая 1936 — загадчык аддзела школ і навукі ЦК КП(б)Б. 17.1.1936 бюро ЦК КП(б)Б рэкамендавала А. на пасаду наркама асветы БССР, а таксама ў члены ЦК і кандыдатам у члены бюро ЦК КП(б)Б. Пры абмеркаванні гэтага пытання на пленуме адзін з яго ўдзельнікаў заявіў, што А. у 1923 выступаў у абарону Л. Троцкага. Узнікла «персанальная справа», пры разглядзе якой 4.3.1936 бюро ЦК адмяніла сваё рашэнне аб вылучэнні наркамам і вызваліла А. ад пасады загадчыка аддзела школ і навукі ЦК КП(б)Б, выключыла з членаў партыі і накіравала на перавыхаванне на абутковую фабрыку ў Мінску ў якасці нарміроўшчыка. Кантрольная партыйная камісія пры ЦК ВКП(б), куды ён звярнуўся з апеляцыяй, пацвердзіла выключэнне з партыі. Арыштаваны 27.4.1937 у Мінску па адрасе: пл. Парыжскай Камуны, д. 14, кв. 11. Асуджаны 29.10.1937 пазасудовым органам НКВД як «удзельнік антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.7.1957. Асабовая справа А. № 10752-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 26/92, кв. 25 арыштавана ўрач Ляхаўскай паліклінікі, маці дваіх дзяцей **Арабей Дэбора Майсееўна** (н. 29.8.1902 у мяст. Старыя Дарогі Бабруйскага пав. Мінскай губ.), жонка Мікалая Арабея. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК. Этапавана праз Оршу ў АЛЖЗР[1]

[1] Акмолінскае лагернае аддзяленне жонак здраднікаў радзімы, адзін з трох астравоў «Архіпелага ГУЛАГ». Створана ў пачатку 1938 на базе 26 працоўных пасёлкаў.

Акмолінск (ад Ак-Мола — Белая Магіла), з 1961 — Цалінаград, з 1992 — Акмала, з 10.12.1997 Астана (па-казахску — сталіца), сталіца Рэспублікі Казахстан.

НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 27.4.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа А. № 6693-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *БНДЦЭД*; *Жертвы политического террора...*; *Рэпрэсаваныя...*

**АЎГУСЦІНОВІЧ Анатоль Ільіч** [4.9.1904, Орша Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Да арышту — начальнік Упраўлення будаўнічых работ пры СНК БССР. Арыштаваны 10.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Праўдная, д. 6, кв. 8. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «член антысавецкай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 10.8.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа А. № 10858-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

16.2.1938 у Мінску па адрасе: Каралінскі зав., д. 8, кв. 4 арыштавана хатняя гаспадыня **Аўгусціновіч Алена Іванаўна** (н. 28.2.1907 у Мінску ў сям'і служачага; атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю; выйшла замуж, гадавала дзіця), жонка Анатоля Аўгусціновіча. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана праз Оршу ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. У 1941 пераведзена ў АЛЖЗР НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 15.2.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 4.9.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа А. № 6895-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ*, *ІКБР*; *Жертвы политического террора...*; *Рэпрэсаваныя...*



*Памятны знак вязніцам АЛЖЗР (АЛЖИР) у пас. Малінаўка (Казахстан).*

**АФАНАСЬЕЎ Ігнат Ільіч** [2.1.1888, в. Гарадзечна Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], педагог. З сям'і бел. селяніна-серадняка: бацька меў 5 дзесяцін зямлі, дом і карову. Скончыў настаўніцкую семінарыю. У 1910-я г. — настаўнік Мсціслаўскага 2-класнага прыходскага мужчынскага вучылішча. У 1920–30-я г. выкладчык МБПТ, Мінскай 2-гадовай школы культпрасветработнікаў, Яўрэйскага педагагічнага тэхнікума. Жонка А. Марыя Васілеўна (н. ў 1881, хатняя гаспадыня) жыла ў Магілёве з іх агульным сынам Барысам і сваёй дачкой Вольгай Сцяпанаўнай Пятровай. Арыштаваны 29.4.1937 у Мінску па адрасе: вул. Падлесная, д. 8/22, кв. 1[1]. Пры вобыску разам з інш. рэчамі ў А. забралі ягоны пашпарт (серыя ФО № 534970). Асуджаны тройкай НКВД 28.10.1937 як «удзельнік шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 15.5.1992. Асабовая справа А. № 35624-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: Памятная книжка Могилевской губернии. Могилев, 1915. С. 168; *Рэпрэсаваныя...*

**БАРЗУНОЎ Георгій Фёдаравіч** [23.4.1901, с. Гоці (?) Тульскай губ., цяпер Бялёўскі р-н Тульскай вобл., Расія — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сялянскай сям'і. Член ВКП(б) з 1925. Да арышту — дырэктар трэста «Галоўхлеб» БССР. Арыштаваны 22.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 36/43, кв. 17. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД за «дзейнасць у складзе антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі правых» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 4.7.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Б. № 10667-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

16.5.1938 асобай нарадай НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы і ворага народа» да 8 гадоў ППК маці чацвярых дзяцей **Барзунова Марфа Захараўна** (н. ў 1900 у с. Таць Тульскай губ., цяпер Бялёўскі р-н), жонка Георгія Барзунова. Этапавана праз Оршу ў АЛЖЗР НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 24.4.1946. Далейшы лёс невядомы.

---

[1] Праз няпоўныя тры месяцы 25.7.1937 арыштаваны новы жыхар гэтай кватэры работнік Мінскага дрэваапрацоўчага завода Барысюк Іван Лаўрэнцевіч. Н. ў 1916 у Гродзенскай губ. у бел. сялянскай сям'і. Прыгавораны 1.11.1937 як «агент польскіх разведвальных органаў» да ВМП і 4.12.1937 расстраляны ў Мінскай унутранай турме НКВД (гл. таксама с. 146).

Кр.: *НАРБ, ІКБР; Жертвы политического террора...; Рэпрэсаваныя...*

**БАШКЕВІЧ Вадзім Ігнатавіч** [12(24).3.1904, в. Сёмкаў Гарадок Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і бел. настаўнікаў. Да 1919 скончыў школу першай ступені і 3 курсы Мінскай гімназіі. У сувязі з заняццем Мінска ў жн. 1919 польскімі легіянерамі вучоба была перапынена. У 1920 працаваў загадчыкам валаснога рэўкама ў мяст. Сенніца каля Мінска. Пасля быў загадчыкам клуба ў в. Новы Двор Самахвалавіцкага пав., інструктарам Мінскага павятовага камітэта, загадчыкам аддзела палітпрасветы і нам. сакратара Мінскага павятовага камітэта камсамола Беларусі. З сак. 1924 — інструктар Барысаўскага акруговага камітэта КСМБ, у ліст. пераведзены на пасаду загадчыка аддзела палітпрасветы Слуцкага акруговага камітэта ЛКСМБ. У 1928 уступіў у ВКП(б). У студз. 1931 прызначаны нам. загадчыка сектара навукі і культуры ЦК КП(б)Б, потым начальнікам Упраўлення вышэйшай школы Наркамасветы БССР. Быў жанаты, гадаваў двое дзяцей. 23.8.1936 пастановай бюро ЦК КП(б)Б адхілены ад работы «за сувязь з нацдэмамі і прамое патуранне контррэвалюцыйным трацкісцкім элементам». Са жн. 1936 беспрацоўны, нягледзячы на тое, што неаднаразова звяртаўся ў партыйныя і савецкія органы з просьбай уладкаваць яго на работу. Арыштаваны ў Мінску ў 1936 па адрасе: вул. Валадарскага, д. 30, кв. 4. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 як «член антысавецкай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23.5.1956. Асабовая справа Б. № 6577-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.



Кр.: *БНДЦЭД; Рэпрэсаваныя...*

**БРАНШТЭЙН Якаў Анатолевіч** [10.11.1897, Бельск Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], крытык, літаратуразнавец. З сям'і службоўца. У 1914–18 жыў у Варшаве. Друкавацца пачаў у 1918. У 1919 пераехаў у Савецкую Расію (Арол). Добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную армію. Пасля дэ-



Я. Бранштэйн
з жонкай М. У. Мінкінай.

мабілізацыі (1921) працаваў у рэдакцыі газ. «Орловская правда». У 1925 скончыў літаратурны ф-т 1-га Маскоўскага ун-та. У 1926–30 вучыўся ў Камуністычнай акадэміі ў Маскве. З 1930 навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР. З 1932 адначасова прафесар МПІ. У 1932–37 адказны сакратар СП БССР. Член СП СССР з 1934. Член-карэспандэнт АН БССР з 1936. Як крытык выступаў з 1925. Б. *«беспадстаўна атаясамліваў метад са светапоглядам, супрацьпастаўляў рэалізм усім іншым «антырэалістычным кірункам». Памылкова лічыў, што ўздым мастацкай культуры непасрэдна залежыць ад уздыму палітычнай свядомасці творцы, а значыць, ад палітычнай накіраванасці мастацкай літаратуры...»* (І. Багдановіч). Арыштаваны 6.6.1937 у Мінску па адрасе: 2-гі Апанскі зав., д. 4б, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член трацкісцкай арганізацыі і арганізатар тэрарыстычнай групоўкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 27.6.1956. Асабовая справа Б. № 6889-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

11.2.1938 асобай нарадай НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы і ворага народа» да 8 гадоў ППК **Бранштэйн Раіса Аляксандраўна** (н. у 1904 у Харкаве), верагодна, сваячка Якава Бранштэйна. Этапавана ў АЛЖЭР НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 18.10.1945. Далейшы лёс невядомы.

Тв.: Атака: [Зборнік артыкулаў]. Мн., 1930. Ідыш; Аб стане яўрэйскай літаратуры ў перыяд рэканструкцыі. Мн., 1932. Ідыш; Літаратурная вучоба: У дапамогу выкладчыкам літаратуры і кіраўнікам літгурткоў. Вып. 1. Мн., 1935.

Кр.: *Бародзіч Д.* Спадчына Я. Бранштэйна // *ЛіМ*. 1958. 23 ліп.; *Лынькоў М.* Ён быў сярод нас... // *ЛіМ*. 1962. 25 снеж.; *НАРБ, ІКБР*; *Возвращенные имена; БП*. Т. 1; *Жертвы политического террора...; Рэпрэсаваныя...*

**БУРДЫКА Іван Сямёнавіч** [7.9.1900, в. Хутар Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1925 уступіў у ВКП(б). Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. адказны сакратар СНК БССР. Арыштаваны 28.6.1937 у Мінску па адрасе: Омскі зав., д. 5а, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 30.11.1957. Асабовая справа Б. № 11025-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *БНДЦЭД; Рэпрэсаваныя...*

**ВАЙНОЎ Віктар Лявонавіч** [23.2.1904, в. Палужжа Карэліцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], журналіст. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Камуністычны ун-т. У 1926–27 сакратар Магілёўскага акружкама КП(б)Б, пазней загадчык сельскагаспадарчага сектара (аддзела) газ. «Звязда». У чэрв. 1936 выключаны з ВКП(б). На момант арышту працаваў загадчыкам экспедыцыі карамельнага цэха фабрыкі «Камунарка». Жыў з жонкай у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 60, кв. 4. Маці В. Марыя Васілеўна і сястра Алена жылі ў в. Палужжа. Брат Сцяпан працаваў рабочым на заводзе імя Дзмітрыева ў Магілёве, другі брат Іван жыў у Томастоне, штат Канектытут, ЗША, таксама працаваў рабочым. Арыштаваны 8.12.1936. Пры вобыску разам з інш. рэчамі забраны і пашпарт В. (серыя ФД № 043726). Асуджаны да ВМП з канфіскацыяй маёмасці 28.10.1937. Расстраляны. Рэабілітаваны 28.4.1956. Асабовая справа В. № 5913-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

4.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 60, кв. 4 арыштавана на той час рабочая Мінскай скураной фабрыкі імя Куйбышава (а ў 1930–36 член ВКП(б), партыйны і савецкі работнік у Мінску і Смалявічах) **Растоўская Рэвека Лазараўна** (н. 31.3.1904 у г. Цельшы Ковенскай губ., цяпер Літва, у сям'і службоўца), жонка Віктара Вайнова. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 4.9.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 17.1.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Р. № 5881-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР*; *Жертвы политического террора...*; *Рэпрэсаваныя...*

**ВАРОНЧАНКА Аляксандр Аўксенцевіч** [14.2.1905, Чэрыкаў Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У 1935–36 — загадчык агітацыйна-масавага аддзела Мінскага гаркама КП(б)Б, пасля сакратар Кагановіцкага РК КП(б)Б Мінска, наркам асветы БССР. Арыштаваны 3.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 28. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «актыўны член антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі, створанай па заданні палякаў» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.5.1957. Асабовая справа В. № 10308-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

20.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Чыгуначная, д. 10, кв. 1 арыштавана настаўніца Мінскай вячэрняй школы № 15, маці дваіх дзяцей **Варончанка (Ясэпкіна) Хася Самуілаўна** (н. ў 1908 у мяст. Хіславічы Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Аляксандра Варончанкі. 28.11.1937 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і ворага народа, прыгаворанага да ВМП» і «саўдзельніца яго контррэвалюцыйных злачынстваў» да 8 гадоў ППК. Этапавана ў АЛЖЗР НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 28.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Мінскага абл. суда 27.7.1957. Асабовая справа В. № 10634-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *БНДЦЭД; Жертвы политического террора...; Рэпрэсаваныя...*



**ВОЛЬНЫ Анатоль** [сапр.: **Ажгірэй Анатоль Усцінавіч**; 19.11(2.12).1902, ст. Пухавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, празаік, кінадраматург, журналіст. З сям'і службоўца. Вучыўся ў Ігуменскай гімназіі (паступіў у 1911). У 1920 пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную армію. Пасля дэмабілізацыі ў 1921 працаваў у ЦК ЛКСМБ, у газ. «Малады араты». Вучыўся ў БДУ. Публікаваўся з 1921. У 1920–30-х г. быў актыўным удзельнікам літаратурна-мастацкага руху ў Беларусі. З 1923 —

у літаб'яднанні «Маладняк». Адзін з пачынальнікаў прыгодніцкага жанру ў бел. прозе. Член СП Беларусі з 1934; заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1935). Паводле сцэнарыяў В. пастаўлены фільмы «Хвоі гамоняць» (1929, сааўтар К. Дзяржавін), «Атэль «Савой» (1930), «У агні народжаныя» (1930), «Сонечны паход» (1931), «Новая радзіма» (1935) і інш. Яго называлі «майстрам контррэвалюцыйных анекдотаў». Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 4.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. М. Горкага, д. 4, кв. 6. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.12.1957. Асабовая справа № 11054-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсаваны і сваякі В.

Тв.: Камсамольская нота: Вершы. Мн., 1924 (з А. Александровічам); Ваўчаняты: Раман беларускіх лясоў / Сааўт. А. Александровіч, А. Дудар. Мн., 1925 (2-е выд. 1929); Два: Аповесць. Мн., 1925; Чарнакудрая радасць: Вершы. Мн., 1926; Зборнік фельетонаў. Мн., 1927; Табе: Вершы. Мн., 1927; Суседзі: Гумарэскі і фельетоны. Мн., 1932; Шасцідзесятая паралель: Кінааповесць. Мн., 1935.

Кр.: *Айзенштадт Г.* Ждите нас, звезды!: Докум. очерк о комс. поэте, журналисте и сценаристе А. Вольном // *Знамя юности*. 1978. 5 окт.; *Айзенштат Г.* З ліку першапраходцаў // *Чырвоная змена*. 1981. 21 крас.; *Брадзянскі Б.* На шляху да рэалізму: Пра творчасць кінадраматурга А. Вольнага // *ЛіМ*. 1935. 16 сак.; *Шушкевіч С.* Талент, загартаваны Кастрычнікам: Да 70-годдзя з дня нараджэння А. Вольнага // *ЛіМ*. 1972. 1 снеж.; Яго ўспамінаюць добрым словам // *Шушкевіч С.* Выбр. тв.: У 2 т. Т. 2. Мн., 1978; *БП*. Т. 2; *Рэпрэсаваныя...*



**ГАЛАВАЧ Платон Раманавіч** [5(18).4.1903, в. Пабокавічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], празаік. У 1922–23 — інструктар Барысаўскага павятовага камітэта камсамола, з 1926 — загадчык аргаддзела, з 1928 — першы сакратар ЦК ЛКСМБ. У 1929–30 — нам. наркама асветы БССР. У 1922–23 вучыўся ў Мінскай партшколе, у 1926 скончыў Камуністычны ун-т Беларусі. Быў рэдактарам газ. «Чырвоная змена», час. «Малад-

няк», «Полымя». З'яўляўся адным з лідэраў літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і БелАПП. Ініцыятар арганізацыі крытыка-творчага аддзялення МПІ. З пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці (1921) Г. змагаўся за чысціню роднай мовы, за яе дакладнасць і выразнасць. Першае апавяданне «Загубленае жыццё» апублікавана ў газ. «Савецкая Беларусь» у 1925. У 1927 выйшла кніга апавяданняў «Дробязі жыцця». Тэматыка шматлікіх аповесцяў, апавяданняў, нарысаў звязана з грамадзянскай вайной і жыццём вёскі. Яго творы карысталіся поспехам, перакладаліся на рускую, польскую, украінскую, чэшскую, яўрэйскую і інш. мовы.

Як успамінаў паэт Павел Пруднікаў (таксама рэпрэсаваны), *«Платон Галавач быў рослы, стройны, прыгожы малады чалавек з бялявай чупрынай, якой не стараўся закрываць свой шырокі і высокі лоб, з блакітнымі вачамі, белымі, як цукар, зубамі, з правільнымі рысамі твару, на якім заўсёды ззяла ўсмешка, акуратна апрануты і абуты. Пераважна любіў хадзіць у светла-шэрым касцюме і белай кашулі-касаваротцы, вышытай беларускім народным арнаментам і падпяразанай тонкім поясам з кутасамі. Ён заўсёды з кожным быў прыветлівы і стараўся трымацца роўным. У час гутаркі ніколі не перабіваў свайго субяседніка. Спачатку даваў магчымасць выказацца яму, а потым ужо гаварыў сам, ніколі ні на каго не павышаў голасу. Скажу шчыра — не любіць яго была нельга»*.

А вось што прыгадваў пра пісьменніка Я. Скрыган (таксама рэпрэсаваны) у сваёй кнізе «Некалькі хвілін чужога жыцця» (Мн., 1990. С. 52): *«Любіў глядзець трошачкі спадылба, гаварыў вельмі спакойна і ціха, голас у яго быў мяккі, з малюсенькім насавым гучаннем. І здалося зусім нечаканым, што няма ў яго ні рэзкага жэсту, які звычайна выпрацоўвае прафесія, ні строгага позірку, ні павышанай камандзірскай ноты — усё па-чалавечы проста і душэўна»*.

Арыштавалі Г. 11.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8/1, кв. 34. Пры вобыску следчыя канфіскавалі 67 сшыткаў рукапісаў (магчыма, сярод іх быў і раман «Ён»). У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Ва ўнутранай турме НКВД лёс звёў Г. з яшчэ адным рэпрэсаваным пісьменнікам С. Шушкевічам, які пазней успомніў такі эпізод (прыведзены ў кнізе В. Куляшовай «Лясному рэху праўду раскажу», Мн., 1989): *«Платона Галавача і Васіля Каваля я бачыў апошні раз 3 кастрычніка 1937 года. Іх прывялі сведчыць супраць мяне. Скатаваны і знясілены, Платон Раманавіч доўга маўчаў... Нарэшце загаварыў: «За [мной] няма ніякай віны, таксама, як і за кожным з нас». Сказаў і заплакаў...»*

Перад «судом» Г. пакінуў у камеры запіску: *«Таварышы, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя яшчэ скажа праўду*

*пра нас. Платон».* Але на «судзе» (пачаўся ў 22.15, а скончыўся праз пятнаццаць хвілін) вінаватым сябе прызнаў.

28.10.1937 у 22.30 тройкай НКВД асуджаны як «арганізатар тэрарыстычнай групоўкі» і за «правядзенне нямецка-фашысцкай дзейнасці» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны праз некалькі гадзін пасля прысуду.

З сакрэтнай даведкі начальніка 1-га спецаддзела НКВД Шавялёва: *«Акт аб выкананні прысуду захоўваецца ў Мінску ў Асобым архіве 1-га спецаддзела НКВД СССР том 8 ліст 1б».*

Асабовая справа Г. № 6852-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. Многія яго творы засталіся няскончанымі, у тым ліку кніга пра паўстанне 1863–64 і К. Каліноўскага. Імем Г. названы вуліца і завулак у Бабруйску. У 1968 на будынку Гарбацэвіцкай школы Бабруйскага р-на, дзе вучыўся Г., адкрыта мемарыяльная дошка.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8/1, кв. 34 арыштавана хатняя гаспадыня, маці дачкі Галіны і сына Ралана **Вечар Ніка Фёдараўна** (н. ў 1905 у в. Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ.), жонка Платона Галавача. 28.11.1937 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і расстралянага ворага радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (в. Далінская). Пасля вызвалення вярнулася на радзіму. Рэабілітавана трыбуналам БВА 24.7.1956. Асабовая справа В. № 6759-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

У асабовай справе Г. захоўваецца рапарт:

*Зам. Министра внутренних дел БССР полковнику Ханяк.*

*Рапорт.*

*В 1 спецотдел МВД БССР поступило заявление Вечер Нины Федоровны о розыске Головача Платона Романовича, осужденного ВК Верховного суда СССР к ВМН.*

*Прошу вашего согласия объявить заявителю Вечер Н. Ф., что муж ее, Головач П. Р., находясь в лагере, 25 декабря 1944 г. умер от паралича сердца.*

*Начальник 1 спецотдела МВД БССР майор Минаев.*



*П. Галавач з жонкай Нінай Фёдараўнай. 1928 г.*

На рапарце ёсць рэзалюцыя: *«Согласен. 19.VIII»* (1956 г. — *Л. М.*) *Подпіс.*

Тв.: Збор твораў: У 3 т. Мн., 1958. Т. 1. Апавяданні. Нарысы. Артыкулы. Т. 2. Аповесці. Т. 3. Праз гады: Раман; Пісьмы // Полымя. 1963. № 4; Некалькі слоў пра сябе // Пра час і пра сябе. Мн., 1966; Праз гады. Мн., 1992; Спалох на загонах. Мн., 1996.

Кр.: *Булацкі Р. В., Карніловіч Э. А.* Платон Галавач — публіцыст. Мн., 1973; *Бугаёў Дз.* З кагорты першых // Бугаёў Дз. Талент і праца. Мн., 1979; *Каленкович И.* Творчество Платона Галавача: (Жанрово-стилевое своеобразие): Автор. дис. канд. филол. наук. Мн., 1979; *БП*. Т. 2; *ЭГБ*. Т. 2; *Рэпрэсаваныя...*

**ГЕРШОН Іосіф Хаімавіч** [лют. 1900, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны служачы. З сям'і рабочага. Атрымаў пачатковую адукацыю. У 1919 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту — нам. наркама асветы БССР. Арыштаваны 26.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камунальная, д. 21/25, кв. 7. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 як «член антысавецкай тэрарыстычна-шпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.8.1957. Асабовая справа Г. № 10812-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

4.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Рабкораўская, д. 16, кв. 8 арыштавана настаўніца школы слабаадукаваных пры Мінскай войлачнай фабрыцы, маці дваіх дзяцей **Гершон (Шведзік) Броня Борухаўна** (н. 9.8.1898 у Бабруйску; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Іосіфа Гершона. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 29.8.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 13.1.1956. Асабовая справа Г. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; Жертвы политического террора...; Рэпрэсаваныя...*

**ДЗЕНІСКЕВІЧ Мікалай Міхайлавіч** [26.4(9.5).1904, в. Закаблукі Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны дзеяч. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю, працаваў слесарам на Мінскай чыгунцы. З 1921 — на камсамольскай рабоце. З 1925 — сакратар Аршанскага камітэта ЛКСМБ, потым на партыйнай рабоце. У 1930 скончыў курсы партыйных работнікаў у Маскве. З 1933 — загадчык аддзела ЦК КП(б)Б, сакратар Лёзненскага райкама, Віцебскага гаркама КП(б)Б (1937), другі

сакратар ЦК КП(б)Б. Арыштаваны з жонкай 26.7.1937 на дачы ЦК КП(б)Б «Гарадзішча». Асуджаны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі правых» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.2.1956. Асабовая справа Д. № 5900-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

26.7.1937 разам з мужам арыштавана ўрач Лёзненскай бальніцы **Коршун Ірына Васілеўна** (н. 4.12.1912 у Мінску ў сям'і рабочага), жонка Мікалая Дзеніскевіча. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы, прыгаворанага да ВМП» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР, потым у Салікамскі інвалідны лагер НКВД Молатаўскай (цяпер Пермскай) вобл. Вызвалена 26.7.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 10.12.1955. Асабовая справа К. № 6301-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

З нарыса Н. Курганавай і П. Марцава «Личный номер — 902»:

*«Со страхом ждала ночи* (успамінае Ірына Коршун. — **Л. М.**). *Каменные стены не могли заглушить вопли и стоны заключенных. Конвейер допросов замедлял свой бег лишь днем. Однажды забрали польку. Прошло двое суток. Ее уже перестали ждать. Через неделю в камеру на носилках внесли какую-то грязную женщину и вывалили на пол. Ее подняли, уложили на нары. Четырехугольное опухшее лицо, такое же тело, ноги. Вся в кровоподтеках». Ирина делала «новенькой» холодные примочки. Когда та пришла в сознание и произнесла ее имя, по голосу Коршун узнала польку! Почти восемь суток она простояла на допросе под ярким светом. Падала. Отливали водой, поднимали. Били по суставам пивными бутылками. Она назвала лучших коммунистов Польши, предала мужа. Подписала все!..*

*Однажды днем Ира услышала у двери своей камеры крик Н. Денискевича: «Ирочка, родная». Затем слышно было, как он вырвался и бежал по коридору с криком: «Клянусь тобой, ни в чем не виноват!» Ирина стала стучать в дверь кулаками, мисками, кружками. Она истерично кричала: «Звери, куда его увели, так не издеваются в фашистских тюрьмах над политзаключенными, как здесь над невиновными людьми!»*[1]

Кр.: *Жертвы политического террора*...; *ЭГБ*. Т. 3; *Рэпрэсаваныя*...

[1] Правда истории: память и боль. Мн., 1991.



**ДЗЯКАЎ Ананій Іванавіч** [1.10.1896, в. Багданаўка Мсціслаўскага пав., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны дзеяч, педагог. З сялянскай сям'і. Скончыў пачатковую школу. Удзельнічаў у 1-й сусветнай вайне. За мужнасць у баях атрымаў афіцэрскае званне. У 1918 уступіў у ВКП(б), узначаліў Вяземскі зямельны аддзел. У 1919–23 служыў у Чырвонай арміі (камандзір роты). З 1923 — нам. старшыні Мсціслаўскага павятовага выканкама. У 1924 прызначаны нам. старшыні (потым старшынёй) Магілёўскага акруговага выканкама. У ліп. 1928 накіраваны на вучобу ў Прамысловую акадэмію ў Маскву, але вучыцца не давялося — быў прызначаны нам. старшыні (пазней старшынёй) Віцебскага выканкама. У 1930–34 вучыўся ў Маскве ў Інстытуце чырвонай прафесуры. З лют. 1934 — нам. рэктара, рэктар БДУ. Быў жанаты, гадаваў двое дзяцей. З восені 1935 загадчык аддзела ЦВК БССР. У ліп. 1936 прызначаны наркамам асветы БССР. Арыштаваны 11.5.1937 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д. 21/52, кв. 24. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі, які праводзіў шкодніцкую работу ў галіне народнай асветы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.4.1957. Асабовая справа Д. № 10175-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

22.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. 11 ліпеня, д. 18, кв. 2 арыштавана хатняя гаспадыня **Дзякава Марыя Іванаўна** (н. 19.2.1904 у Мсціславе, атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю), жонка Ананія Дзякава. 28.11.1937 асобай нарадай НКВД асуджана як «жонка здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана праз Оршу ў АЛЖЗР НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 22.9.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 8.6.1956. Яе асабовая справа № 6688-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *БНДЦЭД; Яноўскі А., Зельскі А.* Гісторыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў біяграфіях яго рэктараў. Мн., 2001. С. 47–60; *Жертвы политического террора...; Рэпрэсаваныя...*





Н. Вішнеўская.

**ДУДАР Алесь** [сапр.: **Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч**; 24.12.1904, в. Навасёлкі Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Петрыкаўскі р-н Гомельскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, крытык, перакладчык, першы муж паэткі і настаўніцы Наталлі Вішнеўскай[1]. З бел. сялянскай сям'і. У час 1-й сусветнай вайны Дайлідовічы знаходзіліся ў бежанстве. Выязджалі ў Тамбоўскую вобл. (Казлоў, цяпер Мічурынск). Вясной 1917 сям'я вярнулася ў Беларусь. Пасля сканчэння (1921) сярэдняй школы (па іншых звестках — сямігодкі) Д. уступіў у тэатральную трупу славутага У. Галубка. Першы верш апублікаваў у 1921 у газ. «Савецкая Беларусь». У 1923 — адзін з заснавальнікаў мінскай, віцебскай і полацкай філій «Маладняка». Выступаў таксама як крытык і празаік. Перакладаў з рускай, нямецкай, французскай моў. У 1927–28 вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ.

Алесь Звонак успамінаў: *«Малады, круглатвары, з усмешліва-цёплым позіркам, высокі і зграбны... вочы яс-*

[1] Вішнеўская Наталля Вячаславаўна [3.5.1907, Коўна, цяпер Каўнас, Літва — 3.5.1989, Ленінград], паэтэса, рэдактар. У час 1-й сусветнай вайны з бацькамі ў эвакуацыі ў Самарскай губ. Пасля грамадзянскай вайны Вішнеўскія жылі на Случчыне. Тады пачала пісаць вершы. Уплыў на фарміраванне паэтэсы аказаў Якуб Колас, які ўвёў яе ў літаб'яднанне «Маладняк» і дапамог стаць студэнткай МБПТ (1924). Удзельнічала ў 1-м з'ездзе «Маладняка» (1925). Публікавалася з 1926. У 1928, на апошнім курсе вучобы, пабралася шлюбам з А. Дударом, з якім пазнаёмілася ў «Маладняку». Неўзабаве мужа арыштавалі і выслалі ў Смаленск. Нягледзячы на ярлык жонкі «ворага народа», В. удалося паступіць у БДУ (1929). Аднак на працягу года яе творы не друкаваліся, яна не магла знайсці працы, часам галадала. У 1930 «Малад-



*А. Дудар і В. Каваль.*

*ныя, усмешлівыя, з нейкімі іскрынкамі. Голас мяккі, задушэўны, здаецца, крыху з прышэптам… Гэта і ёсць Алесь Дудар»*[1].

У выніку кампаніі супраць бел. пісьменнікаў-студэнтаў Д. вымушаны пакінуць ун-т. У снеж. 1927 выйшаў з «Маладняка» і далучыўся да новага аб'яднання «Полымя». За верш «Пасеклі наш край папалам…» арыштаваны ДПУ 20.3.1929; высланы на тры гады ў Смаленск. Зноў арыштаваны ў Смаленску 22.7.1930 і прывезены ў Мінск на допыты па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У 1931 зноў у Смаленску. Пасля сканчэння тэрміну высылкі вярнуўся ў Мінск. Сябра СП БССР з 1934. У 1935–36 у асноўным займаўся перакладамі. Трэці раз арыштаваны 31.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Праўдная, д. 15а, кв. 2. Як з «нацдэмам са стажам»,

няк» і «Савецкая Беларусь» зноў пачалі друкаваць вершы В. У сувязі з узбуджэннем новай справы на А. Дудара і выклікам В. на допыты яна вырашыла шукаць паратунку ў Маскве (1930). Тут працавала ў бел. секцыі Дзяржвыдавецтва народаў СССР. Пасля яе ліквідацыі перайшла ў газ. «Гудок», рэдагавала бел. старонку. Там пазнаёмілася са сваім другім мужам А. Звонакам. У 1934 вярнулася ў Мінск. У 1936 па справах А. Дудара і А. Звонака зноў выклікалася на допыты. Арышту пазбегла дзякуючы падказцы знаёмага следчага. Разам з маці пераехала ва Украіну, потым у Ленінград (1938), дзе выйшла замуж за бел. паэта Я. Бобрыка. З 1942 — у Горкаўскай вобл. У 1945 вярнулася ў Ленінград, працавала бібліятэкарам. Выгадавала двух дзетдомаўскіх хлопцаў (абодва сталі капітанамі далёкага плавання). У канцы 1940-х — пачатку 1950-х г. зноў выклікалася на допыты ў МДБ. З 1962 на пенсіі. Да літаратурнай дзейнасці не вярнулася.

[1] *Звонак А.* Неспакойныя сэрцы. Мн., 1973.

следчыя з Д. доўга не цырымоніліся і адразу пачалі катаваць. «Гутаркай» з паэтам займаўся вядомы сваімі садысцкімі схільнасцямі следчы Быхоўскі. Пасля трохсутачнага «канвееру» паэт «успомніў», што сапраўды лічыў, быццам *«Москва русифицирует Беларусь... и все беды Беларуси идут от Москвы... а период с двадцать пятого по двадцать шестой годы был золотым веком истории белорусской литературы...»*[1].

Журналіст З. на адным з допытаў у НКВД, не вытрымаўшы катаванняў, паведаміў пра такі выпадак: *«Дудар вытащил спрятанные фото высланных нацдемов и, вспоминая о совместной с ними деятельности, высказывался об этом периоде как о расцвете белорусской культуры...»*

28.10.1937 Д. быў асуджаны тройкай НКВД як «член антысавецкай аб'яднанай шпіёнска-тэрарыстычнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 21.9.1957.

Тв.: Выбраныя творы. Мн., 1959; Вежа: Вершы і паэмы. Мн., 1984.

Кр.: *Багдановіч І.* Будучыня з сінімі крыламі: Літаратурны партрэт А. Дудара // *Роднае слова.* 1994. № 12; *Міхнюк У.* Арыштаваць у высылцы: Дакументальны нарыс пра Алеся Дудара. Мн., 1996; *Маракоў Л.* Алесь Дудар: штрыхі да партрэта пісьменніка // *Роднае слова.* 2001. № 12.



**ДУНЕЦ Хацкель Майсеевіч** [студз. 1897, Слонім Гродзенскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], крытык, публіцыст. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. З 1920 у РКП(б), на партыйнай рабоце ў Віцебску. З 1926 у Мінску. Публікаваўся з 1927. Працаваў нам. рэдактара яўрэйскай газ. «Октобэр», рэдактарам газ. «Літаратура і мастацтва», быў адным з кіраўнікоў яўрэйскай секцыі СП БССР. У 1930–35 нам. наркама асветы БССР. Сябра СП БССР з 1934. У сярэдзіне 1930-х г. абвінавачваўся ў трацкізме. У 1935 выключаны з партыі, зняты з усіх адказных пасад. Працаваў культработнікам на

[1] З асабовай справы А. Дудара № 10861-с (захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі).

заводзе імя Кірава. Арыштаваны 8.6.1936 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 5/30, кв. 3. Асуджаны 27.8.1936 да 5 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Зноў арыштаваны ў крас. 1937, этапаваны ў Мінск. 28.10.1937 тройкай НКВД прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Верагодна, рэпрэсавана і жонка Д. Па першай справе (№ 19688-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны 24.1.1967 калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР, па другой — 2.3.1967.

Кр.: Рашэнні парткома Наркамасветы і Саюза савецкіх пісьменнікаў па справе тав. Дунца: Пастанова бюро Мінскага гаркома КП(б)Б // *ЛіМ.* 1935. 23 лют.; *БП.* Т. 2; *Рэпрэсаваныя...*

**ЖЫВУЦКІ Іван Сцяпанавіч** [17.9.1912, в. Зарэмец (?) Ігуменскага або Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяперашняе месцазнаходжанне не ўстаноўлена — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], педагог. З сям'і вясковага каваля бел. паходжання, у сярэдзіне 1930-х г. старшыні калгаса. Скончыў МПІ (1934). Выкладаў бел. і рускую мову і літаратуру ў СШ мяст. Заслаўе Мінскага р-на. Маці Ж. Леанора Адольфаўна — хатняя гаспадыня. Брат Іосіф (н. ў 1910) знаходзіўся ў Марыінскім канцлагеры НКВД Кемераўскай вобл.; другі брат (імя невядома, н. ў 1911) вучыўся на рабфаку ў Мінску; малодшы брат Віктар (н. ў 1921) вучыўся ў школе. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 28.10.1937 пазасудовым органам НКВД як «удзельнік контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.10.1959. Асабовая справа Ж. № 14857-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД.*

**ЗАМАЛІН Навум Міхайлавіч** [1905, мяст. Кадзіна Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — 29 ці 30.10.1937, Мінск, турма НКВД]. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Да арышту дацэнт Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Быў жанаты. Арыштаваны 25.7.1937. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «удзельнік антысавецкай дыверсійна-тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 9.2.1967. Асабовая справа З. № 13401-п з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *НАРБ, ІКБР.*



**ЗАРЭЦКІ Міхась** [сапр.: **Касянкоў Міхаіл Яўхімавіч**; 20.11.1901, в. Высокі Гарадзец Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], празаік, драматург, перакладчык, крытык. Дзяцінства прайшло ў в. Зарэчча пад Шкловам — адсюль паходзіць і псеўданім. Вучыўся ў Аршанскім духоўным вучылішчы і Магілёўскай духоўнай семінарыі (у 1917 пакінуў семінарыю пасля 2 гадоў вучобы). У 1919 настаўнічаў на Магілёўшчыне. Уступіў у ВКП(б). У 1920–27 палітработнік Чырвонай арміі. Публікавацца пачаў у 1922. З 1924 член літаб'яднання «Маладняк», уваходзіў у Цэнтральнае бюро арганізацыі. У 1926–27 рэдагаваў час. «Маладняк». У 1927 стаў адным з ініцыятараў утварэння новага літаб'яднання «Полымя». У жн. — кастр. 1927 у складзе дэлегацыі бел. літаратараў наведаў Латвію, Чэхаславакію, Германію, Францыю. Адзін з ініцыятараў тэатральнай дыскусіі ў ліст. 1928 [артыкулы «Два экзамены (Да пытання аб тэатральнай крытыцы)», «Чым пагражае нам Белдзяржкіно? (Да крытыкі тэматычнага плана)»]. Выступленні З. у друку былі расцэнены як праявы нацыянал-дэмакратызму. Разам з А. Александровічам і А. Дударом заявіў пра выхад з БДУ (публікацыя ў «Савецкай Беларусі» 4.12.1928). У 1929 выключаны з ВКП(б) за «праяўленне нацыянал-дэмакратызму». Член СП Беларусі з 1934. Працаваў загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва АН БССР. Ажаніўся, гадаваў сына Вячаслава і дачку Радаміру.

П. Пруднікаў успамінаў: *«Гэта быў стройны, вышэй сярэдняга росту, бландзіністы, маладжавы на погляд чалавек. Заўсёды акуратна апрануты, падцягнуты, добра прычэсаны, чыста паголены. Твар яго меў удумліва-дабрадушны выгляд, вочы — сіне-блакітныя. Гаварыў ціха, але пераканаўча. Ніколі не павышаў голасу. Паходка была быстрая, імклівая, але не мітуслівая».*

Я. Скрыган удакладняў: *«У 1927 годзе Міхась Зарэцкі выглядзеў зусім іначай* (чым аўтар гэтых радкоў. — **Л. М.**). *Гэта быў ужо ў поўным сэнсе слова пісьменнік і інтэлігент. Папулярнасці і славе яго адпавядаў вонкавы выгляд. Апрануты ён быў, як тады казалі, чыста па-еўрапейску: самае моднае элегантнае паліто, бліскучыя пальчаткі і капялюш. А капялюш на той час мала хто насіў, гэта было нават вельмі смела. Бачылі яго найчасцей*



*М. Касянкоў і Р. Касянкова (брат і дачка М. Зарэцкага).*

*разам з А. Александровічам і А. Дударом... Мы тады зачытваліся М. Зарэцкім. Пісаў ён многа, горача і ярка»*[1].

Арыштаваны 3.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Абутковая, д. 23, кв. 3.

Пратакол вобыску ў кватэры М. Зарэцкага:

*Взято для доставления в НКВД Белоруссии следующее:*

*Паспорт.*

*Заграничный паспорт.*

*Удостоверение СП № 1543.*

*Другие документы:*

*писем — 44 штуки, открытки — 13 шт., адресов телеф. и телег. — 10 штук, телеграмм — 3 шт., 9 пакетов с выписками из контрреволюционной троцкистской литературы, 19 записных книжек, 20 тетрадей с разными записями* (магчыма, сярод іх быў і раман «Крывічы». — **Л. М.**), *фотокарточек — 20 шт., групповых фото — 50 шт., написанных общих тетрадей — 2 шт.*

*Рукопись на 3129 листах. Разная переписка на 953 листах...*

*Книг с автографами — 83 шт., книг разных авторов и изданий — 80 шт., Зарецкий — сочинения — 36 шт.*

Асуджаны тройкай НКВД 28.10.1937 у 18.30 (пасяджэнне працягвалася 15 хвілін) як «актыўны член нацыянал-фашысцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 7.12.1957. Асабовая справа К. № 11069-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. Многія рукапісы З. загінулі, у прыватнасці, гістарычная драма «Рагнеда» (1929), працяг рамана «Крывічы».

[1] *Скрыган Я.* Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990. С. 33.

Таксама рэпрэсавана жонка пісьменніка **Марыя Іванаўна Касянкова** (некаторы час пакаранне адбывала з Л. Геніюш).

Два дакументы з асабовай справы Міхася Зарэцкага:

*Секретно*

*Справка*

*Приговор о расстреле Косенкова-Зарецкого Михаила Ефимовича приведен в исполнение в Минске 29/X–1937. Акт о приведении приговора в исполнение хранится в Особом архиве в спецотделе НКВД СССР, т. 8, лист 155.*

*Нач. отд. спец. отд. НКВД СССР*

*лейтенант госбезопасности Шевелев.*

*22 октября 1956. Секретно.*

*Начальнику Главного управления милиции МВД СССР,*

*Начальнику 1 спецотдела МВД СССР,*

*Главному военному прокурору.*

*Прошу дать указание соответствующему отделу ЗАГС о выдаче гражданке Косенковой Марии Ивановне свидетельства о смерти ее мужа Зарецкого М. Е.:*

*«Зарецкий Михаил Ефимович, 1901 г. рождения, был осужден Военной Коллегией Верховного Суда СССР 28 октября 1937 г. и, отбывая наказание, умер 13 июня 1941 г.»*

*Гр. Косенкова М. И. проживает по адресу:*

*г. Баку 40, III Поперечная, д. 15, кв. 3.*

*Зам. Председателя Военной Коллегии Верховного Суда СССР*

*А. Борисоглебский.*

Тв.: Збор твораў. Т. 1–4. Мн., 1989–1992.

Кр.: *Мушынскі М.* Нескароны талент: Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага. Мн., 1991; *БП.* Т. 2; *ЭГБ.* Т. 3; *Рэпрэсаваныя...*

**ІСПРАЎНІКАЎ Прохар Іванавіч** [16.3.1902, в. Трыбулінцы (?) Вяліжскага або Віцебскага пав. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], журналіст. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У першай палове 1930-х г. нам. дырэктара па гаспадарчай часці Віцебскай ветэрынарнай станцыі. З кастр. 1936 упаўнаважаны Галоўліта, нам. загадчыка сельскагаспадарчага сектара (аддзела) газ. «Віцебскі пралетарый». Быў жанаты, гадаваў двое дзяцей. Арыштаваны 3.7.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Свярдлова, д. 19. Перавезены ў Мінск. На допытах яго жорстка катавалі, і ён агаварыў сябе, прызнаў, што з'яўляўся «членам фашысцкай арганізацыі, контррэвалюцыянерам, трацкістам,

шкоднікам», «праводзіў работу па зрыве выпуску супрацьсібіраязвеннай сыроваткі» і г. д. Асуджаны тройкай НКВД 29.10.1937 да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.6.1958. Асабовая справа І. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

*Кр.: НАРБ*, ф. 4, в. 21, с. 1097, л. 151—152; *Рэпрэсаваныя...*

**КАВАЛЁЎ Захар Ціханавіч** [1900, в. Узлогі Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Хоцімскі р-н Магілёўскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны работнік. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1922). Працаваў сакратаром Чэрыкаўскага гаркама КП(б)Б, быў загадчыкам аддзела Аршанскага акругкама. Падчас арышту — сакратар Варашылаўскага РК КП(б)Б. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 9.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 171, кв. 6. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Абвінавачваўся ў тым, што «праводзіў шкодніцкую работу ў сельскай гаспадарцы — тармазіў калгаснае будаўніцтва, насаджаў у вёсцы хутары і г. д.; пры абмене партыйных дакументаў знарок зберагаў патрэбныя арганізацыі контррэвалюцыйныя кадры». Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 14.11.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 10990-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсавана і жонка К.

Кр.: *НАРБ, ІКБР.*



**КАВАЛЬ Васіль** [сапр.: **Кавалёў Васіль Пятровіч**; 4(17).8.1907, в. Сава Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Горацкі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], празаік. У 1925 скончыў агульнаадукацыйныя курсы пры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі; увосень 1925 паступіў у Магілёўскі педтэхнікум. Тады ж быў прыняты ў літаб'яднанне «Маладняк». Пачаў друкавацца ў 1926 у час. «Аршанскі маладняк». У 1926–29 (з перапынкам) вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ, але кінуў вучобу і пайшоў на творчую працу. Пасля дру-



Злева направа: В. Каваль, С. Дарожны, З. Астапенка, Ю. Таўбін. Пачатак. 1930-х гг.

гога расколу «Маладняка» ў 1928 абраны членам Цэнтральнага бюро аб'яднання і ўведзены ў рэдакцыйную групу час. «Маладняк», дзе застаўся пасля ўтварэння БелАПП. Увосень 1928 крытык А. Мардвілка пісаў: *«Ніхто* (як В. Каваль. — **Л. М.**) *не ахапляе так эмацыянальна сілу зямлі і цягу да яе чалавека, самую існасць сялянскага жыцця і працы».* З 1931 К. — актыўны ўдзельнік Беларускага літаратурнага аб'яднання Чырвонай арміі і Флота. У 1932–34 служыў у войску, быў ваенным журналістам газ. «Красноармейская правда» ў Смаленску.

Я. Скрыган успамінаў: *«Аказалася, што ён зусім не пявучы, не такі паэтычны і ласкавы, як назва яго кнігі* («Як вясну гукалі». — **Л. М.**), *а наадварот, маўклівы, спакойны, з чорнымі і цвёрдымі валасамі, трохі насуплены, задуманы, трохі недаверлівы, з нізка апушчанаю галавою, з цяжкаю верхняю губою і як бы пужлівымі вачыма... Усміхаўся ён скупа, як бы баючыся, каб чаго нядобрага не падумалі пра яго ўсмешку»*[1].

Арыштавалі К. 2.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 3/2, кв. 4. Асудзілі 28.10.1937 як «члена антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Верагодна, былі рэпрэсаваны і сваякі К. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда

[1] *Скрыган Я.* Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990.

СССР 24.9.1957. Асабовая справа К. № 10898-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Выбраныя творы. Мн., 1932; Выбранае: Аповесці і апавяданні. Мн., 1959; Следапыты; Санька-сігналіст. Мн., 1961.

Кр.: *Пальчэўскі А.* Васіль Каваль // Пальчэўскі А. Выбр. тв. Т. 2. Мн., 1975; *Казека Я.* Васіль Каваль // Казека Я. Падарожжа ў маладосць. Мн., 1984; *Грамадчанка Т.* Васіль Каваль // Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20–30-х гг. Мн., 1985; *БП.* Т. 3; *ЭГБ.* Т. 3; *Рэпрэсаваныя...*

**КАВАЛЬЧУК Захар Захаравіч** [1893, в. Крыўляны Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Жабінкаўскі р-н Брэсцкай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. З 1911 у ЗША. Працаваў на аўтамабільных заводах Дэтройта ліцейшчыкам, страгальшчыкам. У 1916 уступіў у члены Рускай федэрацыі, якая ўваходзіла ў Сацыялістычную партыю Амерыкі. Пасля яе распаду стаў членам Кампартыі ЗША, за прыналежнасць да якой быў арыштаваны і высланы за межы краіны. Пераехаў у СССР. Працаваў ліцейшчыкам на заводзе Аўтамабільнага маскоўскага таварыства. Уступіў у ВКП(б) (1920). У 1921 паступіў у ВЧК, адкуль накіраваны на вучобу ў Маскоўскую савецкую партыйную школу. Пасля яе заканчэння член Маскоўскай павятовай кантрольнай камісіі, загадчык агітпрапа павятовага Маскоўскага камітэта. У 1930 накіраваны ў БССР. Працаваў сакратаром Аршанскага акруговага камітэта партыі, загадчыкам аддзела кадраў ЦК КП(б)Б. З 1932 старшыня ЦК прафсаюзаў БССР, член ЦК КП(б)Б. Пастановай Бюро ЦК КП(б)Б у 1936 вызвалены ад сваіх абавязкаў за прыналежнасць да трацкісцкай апазіцыі ў 1923. Выведзены са складу кандыдатаў у члены Бюро ЦК КП(б)Б, члена ЦВК БССР і Прэзідыума ЦВК БССР. Падчас арышту — дырэктар рыбакансервавага завода. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 29.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 36/43, кв. 22. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «актыўны член контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.9.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 7252-с (спынена з-за адсутнасці складу злачынства) захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсавана і жонка К.

Кр.: *БНДЦЭД; НАРБ, ІКБР.*

**КАНДРАШУК Мікалай Фёдаравіч** [1897, мяст. Скідзель Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Член ВКП(б) з 1919. Падчас арышту — начальнік Упраўлення шкляной прамысловасці Наркамата лёгкай прамысловасці БССР. Быў жанаты, гадаваў двое дзяцей. Арыштаваны 1.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камуністычная, 3-ці дом Саветаў, кв. 26. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД за «дзейнасць у складзе польскай шпіёнскай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 16.4.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 10197-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсавана і жонка К.

У верас. 1937 органамі НКВД арыштаваны інжынер Аршанскага ільнокамбіната **Кандрашук Канстанцін Фёдаравіч** (н. ў 1894 у мяст. Скідзель), брат Мікалая Кандрашука. 20.10.1937 асуджаны за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП і 4.11.1937 расстраляны ў Віцебскай турме НКВД. Рэабілітаваны 4.12.1957 трыбуналам БВА. Групавая справа Канстанціна Кандрашука і інш. № 10895-п (усяго каля 30 чалавек) захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *БНДЦЭД; НАРБ, ІКБР.*

**КАНТАР Саламон Мендзелевіч** [май 1894, Горкі Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. Член ВКП(б) з 1922. Да арышту — дырэктар Белпрамгандлю. Быў жанаты, гадаваў двое дзяцей. Арыштаваны 18.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 32/1, кв. 11. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД за «дзейнасць у складзе антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.7.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа К. № 10677-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсавана і жонка К.

Кр.: *БНДЦЭД; НАРБ, ІКБР.*

**КАРАНЕЎСКІ Язэп Пятровіч** [31.12.1887 (12.1.1888), Заслаўе Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны дзеяч, педагог, публіцыст. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1909), Віленскі настаўніцкі інстытут (1914). З 1915 выкладаў у Мінскім настаўніцкім інстытуце. У 1915–17 член культурна-асветнага гуртка «Наш край», з мая 1917 — арганізацыі «Маладая Беларусь». З 1916 у эвакуа-



цыі ў Яраслаўлі. У маі 1918 прыехаў у Мінск, дзе вёў перамовы з урадам БНР па пытанні рээвакуацыі Мінскага настаўніцкага інстытута. У 1919–20 школьны інспектар і выкладчык геаграфіі Мінскай беларускай гімназіі. У 1920 нам. старшыні Беларускай камуністычнай арганізацыі; са жн. 1920 член КП(б)Б, загадчык аддзела ў Наркамаце асветы БССР. Правадзейны член Інбелкульта з 1924. Быў дырэктарам МБПТ. Публікаваўся ў перыядычным друку па праблемах адукацыі. З 1926 — нам. старшыні Інбелкульта. З 1927 — прарэктар Камуністычнага ун-та імя У. Леніна, з кастр. 1928 — намеснік, з кастр. 1929 да ліп. 1931 — рэктар БДУ. З 1932 — у Маскве, нам. дырэктара па вучэбнай частцы Інстытута чырвонай прафесуры сусветнай гаспадаркі і сусветнай палітыкі. Арыштаваны 15.7.1937 у Маскве па адрасе: Цвярскі бульвар, д. 10, кв. 5. Крымінальную справу К. запатрабаваў НКВД БССР, і ён быў этапаваны ў Мінск.



*Беларускія пісьменнікі У. Барашка, М. Хведаровіч, М. Ніканові͏ч, Я. Каранеўскі, С. Дарожны, П. Броўка на курорце ў Сочы. 1931 г.*

Пасля катаванняў на допытах у верас. 1937 прызнаўся ў «шпіянажы на карысць Польшчы», у правядзенні «контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай прапаганды». Асуджаны 28.10.1937 тройкай НКВД як «член антысавецкай нацыяналістычнай тэрарыстычнай шпіёнскай дыверсійнай арганізацыі» да ВМП. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 6.4.1957. Асабовая справа К. № 16406-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.




Пасля арышту К. арыштавана і асуджана да 5 гадоў пазбаўлення волі яго жонка **П. Г. Каранеўская**. Пакаранне адбывала з 3-гадовым сынам Юрыем.

Тв.: Да пачатку вучэбнага года // Асвета. 1924. № 3; Паслякастрычніцкі перыяд // Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Мн., 1924; Інстытут беларускае культуры (Інбелкульт) // Наш край. 1927. № 10.

Кр.: *ЭГБ*. Т. 4; Гісторыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў біяграфіях яго рэктараў. Мн., 2001; *Рэпрэсаваныя...*

**КАРПЕНКА Іван Іванавіч** [1905, мяст. Парычы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Светлагорскі р-н Гомельскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. — загадчык лабараторыі Віцебскай ветэрынарнай станцыі. Жыў у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Свярдлова, д. 19. Арыштаваны 26.6.1937. Перавезены ў Мінск. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 за «дзейнасць у складзе антысавецкай групы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда

СССР 24.10.1957. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

29.11.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Свярдлова, д. 19 арыштавана ветэрынарны ўрач Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі **Карпенка Аляўціна Васілеўна** (н. ў 1904 у мяст. Каршуноўка Тамбоўскай вобл., Расія), жонка Івана Карпенкі. Верагодна, у канцы 1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 27.5.1957 трыбуналам Маскоўскай ВА. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *Рэпрэсаваныя...*



**КЛЯШТОРНЫ Тодар Тодаравіч** [26.2(11.3).1903, в. Парэчча Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі р-н Віцебскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, перакладчык. Пасля службы ў войску вучыўся на рабфаку ў Оршы. Першыя вершы апублікаваў у 1925 у час. «Аршанскі маладняк». Першы зборнік вершаў «Кляновыя завеі» выйшаў у 1927. Аўтар паэмы «Калі асядае муць», у якой адзін з герояў сведчыў: «Мы ходзім пад месяцам і ГПУ». Пасля выйшлі зборнікі «Светацені» (1928), «Ветразі» (1929), «Палі загаманілі» (1930), «Праз шторм — на штурм» (1934). Член літаб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», БелАПП. Перакладаў рускую паэзію на бел. мову. На вершы К. напісаны песні І. Івановым, М. Равенскім. У 1931 скончыў БДУ. Працаваў на радыё, у рэдакцыях бел. газет і часопісаў. Член СП Беларусі з 1934.

П. Пруднікаў успамінаў: *«Тодар Кляшторны быў ціхі, спакойны і выключна ветлівы чалавек. Ён заўсёды і ўсюды стараўся быць непрыкметным. Многа ведаў, слухаў іншых, але сам гаварыў мала. З выгляду ён быў прыгожы, высакарослы, крыху сутулаваты, як быццам гнуўся знарок, саромеючыся свайго росту, сінявокі, з добрай чупрынай непаслухмяных валасоў каштанавага колеру. Апрануты звычайна не па модзе. Як на вопратку, так і на абутак асаблівай увагі не звяртаў. Усе яго думкі і клопаты былі сканцэнтраваны на адным — паэзіі, якой ён самааддана служыў з дзіцячых гадоў свайго жыцця...*

*Вершы свае Тодар Кляшторны чытаў ціха, больш унутраным голасам, характэрным толькі для паэтаў. Ні жэстаў, ні мімікі не прымяняў. І, нягледзячы на ўсё гэта, слухачы яго вельмі добра прымалі. Асабліва тады, калі ён чытаў вершы на тэму кахання...»*

Арыштаваны 3.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Фабрычная, д. 10/4, кв. 7. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 у 11.00 як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці.




Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.6.1957. Асабовая справа К. № 10476-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

28.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Фабрычная, д. 10/4, кв. 7 арыштавана маці траіх дзяцей **Германовіч Яніна Міхайлаўна** (н. ў 1909 у в. Раванічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл.), жонка Тодара Кляшторнага. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК. 24.1.1938 прыбыла з Аршанскай турмы ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 1.12.1945. Верагодна, у канцы 1940-х — пачатку 1950-х г. зноў арыштавана і выслана ў г. Бялова Кемераўскай вобл. Канчаткова вызвалена ў 1955. Рэабілітавана трыбуналам БВА 4.11.1955. Як напісана ў асабовай справе Г. № 5570-с (захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі), у 1957 кошт канфіскаванай у яе сям'і маёмасці быў «кампенсаваны». Памерла ў 1959 у Мінску.

Тв.: Залатое вязьмо: Выбр. вершы. Мн., 1960; Выбраныя вершы. Мн., 1970; Сляды дарог. Выбранае. Мн., 2003.

Кр.: *Хранить вечно*; *Багдановіч І. Э.* Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння. Мн., 2001; *Шушкевіч С.* Права на песню // Шушкевіч С. Выбр. творы: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2.; *БП*. Т. 3; *ЭГБ*. Т. 4; *Рэпрэсаваныя...*

**КУДЗЕЛЬКА Іосіф Фадзеевіч** [1894, в. Рудзенск Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сялянскай сям'і. Прымаў удзел у грамадзянскай вайне, узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. У 1924 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. — начальнік Упраўлення па ахове аўтарскіх правоў пры СП БССР. Арыштаваны 30.4.1937 у Мінску па адрасе: Койданаўскі тракт, д. 29, кв. 1. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 (?) як «актыўны член антысавецкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 2.12.1958. Асабовая справа К. № 13352-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: Койданаўскі тракт, д. 29, кв. 1 арыштавана бактэрыёлаг Мінскага мясакамбіната **Аляксеева (Кудзелька) Уладзіслава Мікітаўна** (н. ў 1901 у в. Кабылля Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер в. Кастрычніцкая Вілейскага р-на Мінскай вобл.; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Іосіфа Кудзелькі. 29.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і расстралянага здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК. У студз. 1938 этапавана (з Аршанскай турмы) у Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР. 15.8.1938 пераведзена ў Сярэдне-Азіяцкі канцлагер НКВД Узбекскай ССР. Вызвалена і рэабілітавана ў перыяд 8.12.1943–10.1.1944. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа А. № 7253-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

13.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 40, кв. 10 арыштаваны парт. і дзяржаўны дзеяч **Кудзелька Іван Фадзеевіч** (н. 30.11.1891 у в. Рудзенск; з 1914 у арміі; з сак. 1918 у Чырвонай арміі; уступіў у ВКП(б) (1918); з 1922 працаваў на Мінскім чыгуначным вузле; з 1925 сакратар Гарадоцкага, Глускага райкамаў КП(б)Б; у 1930 сакратар Мазырскай акруговай кантрольнай камісіі; з 1932 — загадчык аддзела кадраў ЦК КП(б)Б; у 1933 сакратар Мінскага гаркама КП(б)Б; з 1935 наркам фінансаў БССР), брат Іосіфа Кудзелькі. 28.7.1937 пазасудовым органам НКВД асуджаны за «дыверсійна-шпіёнскую дзейнасць у Наркамфіне БССР» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці і расстраляны (28.6.1938). Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.3.1957. Асабовая справа К. № 10144-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

22.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 40, кв. 10 арыштавана хатняя гаспадыня, маці дваіх дзяцей **Кудзелька Ксенія Якаўлеўна** (н. 21.1.1894 у с. Лоцманская Каменка, цяпер Днепрапятроўскай вобл., Украіна), жонка Івана Кудзелькі. 8.10.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзі-



*Ксенія і Іван Кудзелька з дзецьмі.*

мы» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай ССР (ст. Поцьма). Далейшы яе лёс невядомы. Рэабілітавана 12.4.1957 судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа К. № 10179-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

17.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 40, кв. 10 арыштаваны **Кудзелька Уладзімір Іванавіч** (н. ў 1921 у Днепрапятроўску), сын Івана Кудзелькі. 8.10.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджаны разам з маці як «член сям'і здрадніка радзімы» да 3 гадоў ППК і этапаваны ва Усольскі канцлагер НКВД Свярдлоўскай вобл. 18.8.1941, верагодна, лагернай тройкай прыгавораны за «антысавецкую прапаганду» да 10 гадоў ППК. Загінуў у зняволенні 10.5.1942. Рэабілітаваны 27.12.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа К. № 11320-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

18.11.1937 у в. Крыніца Смілавіцкага р-на Мінскай вобл. арыштаваны **Кудзелька Міхаіл Фадзеевіч** (н. ў 1897 у в. Рудзенск), верагодна, малодшы брат Іосіфа і Івана Кудзелькаў. 15.2.1938 пастановай НКВД асуджаны за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП і 15.3.1938 расстраляны ў Мінскай турме НКВД. Рэабілітаваны 15.6.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа К. № 10590-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Хранить вечно*; *ЭГБ*. Т. 4; *Рэпрэсаваныя...*



**КУЛЬБАК Майсей Саламонавіч** [13(25).3.1896, мяст. Смаргонь Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, празаік, драматург. Вучыўся ў Валожынскім ешыбоце. У сувязі з пачаткам 1-й сусветнай вайны ў 1914 пераехаў у Мінск. Экстэрнам здаў экзамен на званне народнага настаўніка. Працаваў у школах і гімназіях Смаргоні, Мінска, Вільні. Пачаў публікавацца з 1916. Прыхільна сустрэў Кастрычніцкую рэвалюцыю, якой прысвяціў пафасную паэму «Горад» (1919). У 1919 К. знаходзіўся ў Вільні. З 1920 да 1927 жыў у Вільні і Берліне. Вярнуўся ў Мінск у 1928. Працаваў у рэспубліканскіх газетах, у яўрэйскім сектары БелАН. Член СП Беларусі з 1934. Перакладаў на ідыш творы Я. Коласа і Я. Купалы.

З успамінаў М. Хведаровіча: *«М. Кульбак быў вясёлым чалавекам, у якім жыла, як кажуць, «смяшынка-залацінка», умеў цікава расказаць, і я не раз бачыў, як Купала, Колас і Чорны сядзелі з ім на канапе ў Доме пісьменніка і ўважліва яго слухалі...»*[1]

Арыштаваны 11.9.1937 у Мінску па адрасе: 2-і Акопны (?) зав., д. 4б, кв. 1.

З успамінаў Г. Рэлеса: *«Увосень 1937 года, калі сталінскія душагубы з'явіліся па яго, ён сказаў жонцы:*

*— Ну, Зэльдэ, прыйшла і мая чарга. Залішне казаць табе, што я ні ў чым не вінаваты. Ты сама гэта ведаеш. Але мы ўжо больш ніколі не ўбачымся. Беражы дзяцей.*

*Выканаць гэты запавет поўнасцю Зэльдэ не ўдалося. Услед за ім арыштавалі і яе... Сын загінуў у гета... Цудам ацалела толькі дачка...»*[2]

Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай трацкісцка-тэрарыстычнай арганізацыі» і за «сувязь з польскімі разведорганамі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.12.1956. Асабовая справа К. № 8179-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску арыштавана настаўніца адной з СШ горада **Кульбак Зэльда Барысаўна** (н. ў 1897 у Вільні), жонка Майсея

[1] *Хведаровіч М.* Шчыры сябра, самабытны пісьменнік: Да 70-годдзя з дня нараджэння М. Кульбака // *ЛіМ.* 1966. 22 сак.

[2] *Рэлес Г.* Майсей Кульбак у Мінску // *Полымя.* 1996. № 4.

Кульбака. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана праз Оршу ў АЛЖЗР НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 5.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 24.7.1956. Асабовая справа К. № 6761-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Выбранае. Мн., 1970; Зельманцы: Раман. Мн., 1960.

Кр.: *Барскі А.* Майсей Кульбак — прыгожая і трагічная кветка беларускай зямлі // *Ніва* (Беласток). 1984. 15 студз.; *Возвращенные имена*; *БП*. Т. 3; *Жертвы политического террора...; Рэпрэсаваныя...*

**КУЧЫНСКІ Аляксей Сцяпанавіч** [4(16)2.1892, в. Выдранка Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны і грамадскі дзеяч, педагог. Скончыў гарадское вучылішча, здаў экстэрнам экзамены на званне сельскага настаўніка. З 1909 працаваў у школах Рагачоўскага пав. У 1916 скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут. Мабілізаваны ў армію. Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый. Са снеж. 1917 у Мсціслаўскім пав.; працаваў у дзяржаўных і партыйных органах. Уступіў у ВКП(б) (1917). Рэдактар газ. «Думы бедняка». З 1922 у Смаленску. Працаваў у губкаме РКП(б), у газ. «Рабочий путь», быў рэдактарам газ. «Смоленская деревня». З мая 1929 у Беларусі, в. а. рэдактара газ. «Рабочий». З 1930 нам. рэдактара газ. «Савецкая Беларусь». Падчас арышту в.а. рэктара БДУ. Арыштаваны 7.2.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 23, кв. 44. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны тройкай НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай шпіёнска-тэрарыстычнай арганізацыі, удзельнік у падрыхтоўцы тэрарыстычнага акта над адным з кіраўнікоў дзяржавы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.7.1957. Асабовая справа К. № 10604-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 23, кв. 44 арыштавана выкладчыца нямецкай мовы Беларускага політэхнічнага інстытута **Кучынская (Старасценка) Алена Фёдараўна** (н. 30.12.1894 у Оршы Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл., у сям'і бел. службоўца; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Аляксея Кучынскага. 28.11.1937 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана праз Оршу ў АЛЖЗР НКВД Казахскай ССР. Зноў арыштавана і другі раз асуджана 14.2.1940 да ссылкі на 5 гадоў у Краснаярскі край. Вызвалена 5.11.1942. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуна-

лам БВА 11.12.1956. Асабовая справа К. № 8164-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 разам з маці арыштаваны сын Алены і Аляксея **Кучынскі Дзмітрый** (н. 9.11.1919 у Мсціславе Магілёўскай вобл.) — вучань 10 класа СШ № 2 Мінска. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджаны як «член сям'і ворага народа» да 5 гадоў ППК і этапаваны ў Ягрынскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. З 1940 — у Краснаярскім краі. Вызвалены 14.2.1940. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 25.12.1956. Асабовая справа К. № 9890-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *БНДЦЭД; Жертвы политического террора...*

**ЛАБАДАЕЎ Міхаіл Гаўрылавіч** [1905, мяст. Прапойск Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Слаўгарад Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны работнік. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1927). Да арышту — нам. першага сакратара ЦК КП(б)Б, адначасова загадчык асобага сектара (аддзела) ЦК КП(б)Б. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 26.7.1937 у Мінску па адрасе: зав. Круглы, д. 1, кв. 1. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 28.10.1937 тройкай НКВД як «удзельнік антысавецкай арганізацыі правых» і за «шкодніцкую работу ў сельскай гаспадарцы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 27.7.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Л. № 10751-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

26.7.1937 арыштавана медсястра Мінскай скурна-венералагічнай клінікі, маці дваіх дзяцей **Лабадаева Вольга Ігнатаўна** (н. 8.7.1908 у в. Лашанцы Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл.), жонка Міхаіла Лабадаева. 28.10.1937 ці 28.11.1937 асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК. Этапавана праз Оршу ў АЛЖЗР НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 27.7.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 4.9.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л. № 6885-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

14.8.1938 у Прапойску арыштаваны **Лабадаеў Гаўрыла Паўлавіч** (н. ў 1873), верагодна, бацька Міхаіла Лабадаева. 2.11.1938 тройкай НКВД асуджаны за «шпіянаж і ўдзел у контррэвалюцыйнай партыі» да ВМП і 18.11.1938 расстраляны. Рэабілітаваны 20.7.1960 трыбуналам БВА. Асабовая справа Л. № 7127-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД; Жертвы политического террора...*

**ЛАШКЕВІЧ Леанард Янавіч** [1899, Рыга, цяпер Латвія — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. З сям'і польскага рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1920). Да арышту — нам. наркама Наркамата саўгасаў БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 1, кв. 13. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД за «дзейнасць у складзе антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 21.3.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Л. № 10143-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, асуджана і жонка Л.

Кр.: *Рэпрэсаваныя...*



**ЛЕВІН Саламон Вульфавіч** [жн. 1912, пас. Ратамка Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], літаратурны крытык. З сям'і служачага. Блізкі сябар літаратурнага крытыка П. *Хатулёва*. Скончыў МПІ (1934). Выкладаў літаратуру ў адной з мінскіх СШ. Жыў з бацькам Вульфам Беркавічам (н. ў 1877), вартаўніком пры Доме Ураду, і маці Соняй Лазараўнай (н. ў 1877), хатняй гаспадыняй. Арыштаваны 13.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 9, кв. 2. Пры вобыску разам з інш. рэчамі канфіскаваны і пашпарт Л. (серыя ФЗ № 091212). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда СССР 29.11.1989. Асабовая справа Л. № 28720-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; Рэпрэсаваныя...*

**ЛЯВОННЫ Юрка** [сапр.: **Юркевіч Леанід Мікалаевіч**; 16(29).7.1908, Чавусы Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт. Вучыўся ў Чавускай сямігодцы, Магілёўскім педтэхнікуме, МПІ (за распаўсюджванне «контррэвалюцыйных вершаў» выключаны, але пазней ад-



навіўся і ў 1934 скончыў літаратурны ф-т). Друкавацца пачаў у 1924. Першыя зборнікі паэзіі «Камсамольскія вершы» і «Штурм» выйшлі ў 1930. Член СП Беларусі з 1934. Працаваў у рэдакцыях газ. «Магілёўскі селянін», «Звязда», час. «Работніца і калгасніца Беларусі». Разам з С. Грахоўскім пераклаў на бел. мову раман Ж. Верна «80 000 лье пад вадой». Некаторыя вершы Л. пакладзены на музыку.

З успамінаў С. Грахоўскага: *«Ён гадзінамі чытаў па памяці Маякоўскага і Кірсанава, Ціханава і Лугаўскога. У яго быў тонкі густ да слова, да формы, а пра сябе ён часта гаварыў: «Сапраўднае я яшчэ напішу, значнае наперадзе…»*[1]

Арыштаваны 30.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Фурманская, д. 9, кв. 2. З падследных, якія праходзілі з ім разам, толькі Л. пасля бясконцых катаванняў не пацвердзіў, што Цішка Гартны «контррэвалюцыянер», «нацдэм» і г. д. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.4.1957. Асабовая справа Ю. № 10242-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1938 у Мінску па адрасе: вул. Фурманская, д. 9, кв. 2 арыштавана бухгалтар «Белсольэнерга» **Гольдберг Яўгенія Абрамаўна** (н. ў 1907 у Мелітопалі, цяпер Украіна), жонка Юркі Лявоннага. 28.11.1938 асобай нарадай НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК. Этапавана праз Оршу ў АЛЖЗР НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 5.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 2.6.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Г. № 6656-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Выбранае. Мн., 1960.

Кр.: *Грахоўскі С.* Савецкая № 68: Трыццатыя гады...: Успаміны // Дзень паэзіі. Мн., 1978; *Шушкевіч С.* З маладнякоўскага племя // *ЛіМ*. 1968. 30 ліп.; *БП*. Т. 4; *Жертвы политического террора…*; *Рэпрэсаваныя…*

[1] *Грахоўскі С.* Так і было. Мн., 1986.

**ЛЯМПЕРТ Саламон Рыгоравіч** [27.3.1916, Мінск — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], навучэнец. З сям'і службоўца. Скончыў 7-класнае гарадское вучылішча. У першай палове 1930-х г. вучыўся на гістарычным ф-це Ленінградскага дзяржаўнага ун-та, потым перавёўся на 5 курс БДУ. Жыў з маці Ідай Я. (поўнае імя па бацьку невядома, н. ў 1887), інвалідам, і сястрой Вольгай, працавала бібліятэкарам. Арыштаваны 17.2.1937 у Мінску па адрасе: вул. Абаронная, д. 13, кв. 1. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 17.4.1992 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Л. № 34836-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД.*

**ЛЯЎКОЎ Максім Архіпавіч** [12.5.1894, в. Кавалі Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. З 1918 — ваенны камісар Рудабельскай воласці Бабруйскага пав. У 1920-я г. атрымаў вышэйшую адукацыю (?). З 1931 — наркам юстыцыі і пракурор БССР. Старшыня Цэнтральнай камісіі па справах былых чырвонагвардзейцаў і партызан. З 1933 — сакратар ЦВК БССР. У 1932–37 — член ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 13.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31. Асуджаны тройкай НКВД 28.10.1937 як «агент польскай разведкі і член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 21.9.1957. Справа Л. № 10936-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

18.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31 арыштавана адказны сакратар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б **Ляўкова Ніна Уладзіміраўна** (н. 18.2.1902 на ст. Мураўёва, цяпер Латвія; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Максіма Ляўкова. У 1936 выключана з ВКП(б) за «абарону свайго брата, абвінавачанага ў прыналежнасці да трацкістаў». 16.5.1938 асуджана асобай нарадай пры НКВД СССР як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 18.10.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 12.2.1957. Асабовая справа Л. № 9982-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ЭГБ*. Т. 4; *Жертвы политического террора...; Рэпрэсаваныя...*

**МАЗЕЛЬ Елізар Якаўлевіч** [1895, Палтава, цяпер Украіна — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], навуковец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту — нам. дырэктара па навуковай рабоце Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі. Арыштаваны 26.4.1937. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД за «дзейнасць у складзе антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 28.9.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

10.11.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Свярдлова, д. 19 арыштавана хатняя гаспадыня **Мазель Разалія Львоўна** (н. ў 1899 у Палтаве ў сям'і купца), жонка Елізара Мазеля. 14.12.1937 пастановай НКВД асуджана за «дзейнасць у складзе контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП і 9.1.1938 расстраляна ў Віцебскай турме НКВД. Рэабілітавана 27.10.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД.*

**МАЙСЕЕЎ Леў Абрамавіч** [15.11.1897, Веліж Віцебскай губ., цяпер райцэнтр Смаленскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны работнік. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1919). Служыў у Чырвонай арміі. Падчас арышту — сакратар Барысаўскага РК КП(б)Б. Арыштаваны 8.8.1937. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 28.10.1937 тройкай НКВД як «член трацкісцкай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 19.12.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 9857-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

13.11.1937 у Барысаве арыштавана загадчыца дзіцячага сада пры заводзе імя Молатава, маці дваіх дзяцей **Майсеева Марыя Рыгораўна** (н. ў 1903 у Мінску; член ВКП(б) з 1925), жонка Льва Майсеева. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка Радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 13.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 30.10.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа М. № 7411-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД.*

**МАЛАЎ Барыс Міхайлавіч** [ліст. 1904, Мінск — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і бел. рабочага. Член ВКП(б). Да арышту — загадчык аддзела хлебнай групы Наркамата ўнутранага гандлю. Быў жанаты, гадаваў двое дзяцей. Арыштаваны 19.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлоўская, д. 8, кв. 15. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.3.1958 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 11563-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсавана і жонка М.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД.*



**МАРАКОЎ Валерый Дзмітрыевіч** [14(27).3.1909, мяст. Козырава Мінскага пав., цяпер у межах Мінска — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, перакладчык. Старэйшы сын Дз. Маракова[1]. Падчас 1-й сусветнай вайны — у бежанстве ў Мцэнску (Расія) і Ромнах (Украіна). У 1924 скончыў 4-ю Мінскую сямігодку і да канца 1925 працаваў мулярам разам з бацькам. З чэрв. 1925 у друку пачалі з'яўляцца яго першыя вершы («Чырвоная змена», «Малады араты» і інш.). У снеж. па пастанове ЦБ юных піянераў і пры спрыянні А. Якімовіча прызначаны

---

[1] **Маракоў Дзмітрый Захаравіч** [21.9.1880, в. Азяроўка (Азераўкі, Азяроўкі, Азяранка) Пскоўскай губ. — 18.11.1968, Мінск], старшыня царкоўнага савета Козыраўскай царквы. Паводле некаторых звестак, удзельнік руска-японскай вайны 1904–05, І Усебеларускага кангрэса (верагодна, як дэлегат ад бежанцаў або эсэраў). Па звестках С. Шушкевіча і П. Пруднікава, вуліца Вялікаморская, дзе М. паставіў (каля 1906–07) першы дом, спачатку мела назву *Марская*, а потым, калі яна пашырылася, была перайменавана ў Вялікаморскую. Адзін з арганізатараў (з епіскапам Мінска М. Семянякам і настаяцелямі Козыраўскай царквы У. Бірулем і І. Зенюком (цесцем паэта Я. Бобрыка) рэлігійнай антысавецкай арганізацыі ў мяст. Козырава (1933–35). У канцы сак. 1935 у арганізацыю пранік правакатар і 4.5.1935 яе члены былі арыштаваны. 10.8.1935 М. і іншыя ўдзельнікі арганізацыі прызнаны «судом» вінаватымі ў тым, што *«пачынаючы з 1933 г., пасля прыезду*



*Дзмітрый Захаравіч Маракоў*

сакратаром рэдакцыі час. «Піянер Беларусі». Належаў да «другога прызыву» (1926) маладнякоўцаў, да якіх яго прывёў І. Барашка. У канцы 1926 пэўны час (па запрашэнні А. Звонака) жыў у Полацку, друкаваўся ў газ. «Чырвоная Полаччына». Першы зборнік вершаў выйшаў у 1926. Другі — у 1927. У тым самым годзе паступіў у МБПТ, але пасля двух курсаў адкліканы з вучобы і прызначаны загадчыкам літаратурнага аддзела газ. «Савецкая Беларусь», дзе працаваў з перапынкам да канца 1930. М. Гарэцкі ў той час пісаў пра М.: *«Маракоў вызначаецца лірычнасцю, эмацыйнай напружанасцю, гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы і гучанне».* С. Шушкевіч пазней успамінаў: *«Маракова заўважыў і акрыліў бацькоўскай ласкай і прыхільнасцю Янка Купала. Народны паэт не раз запрашаў да сябе юнака на сваю кватэру і цешыўся яго першымі творчымі крокамі, даў паэту не адну сваю кнігу з цёплым і шчырым аўтографам»*[1]. У 1931 М. паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне МПІ (скончыў у 1934). Адначасова працаваў у час.

---

*ў Мінск М. Семянякі на пасаду епіскапа, у Козыраўскай царкве пачалі групавацца рэлігійныя, кулацкія і іншыя антысавецкія элементы, якія паставілі сабе за мэту, пад прыкрыццём царквы і выканання рэлігійных абрадаў, настройваць у антысавецкім духу насельніцтва горада і бліжэйшых раёнаў... Толькі пасля арышту гэтай контррэвалюцыйнай групы святароў прыпынілася распаўсюджванне правакацыйных чутак і пачаўся масавы прыліў людзей у калгасы».* На працэсе 25 удзельнікаў арганізацыі асудзілі да розных тэрмінаў зняволення. М. быў асуджаны да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Тайшэцкі канцлагер НКВД Іркуцкай вобл., потым пераведзены на шахты ў Кісялёўск Кемераўскай вобл. Зноў арыштаваны 17.9.1938. Прыгавораны 26.9.1939 Іркуцкім абл. судом за «антысавецкую агітацыю» да 4 гадоў ППК. Вызвалены ў жн. 1943, але ў сувязі з забаронай уезду ў Беларусь дадому вярнуўся толькі праз 10 гадоў. М. неаднаразова выклікалі ў НКВД-КДБ. Апошні раз дапытвалі ў 1960 (у 80 гадоў!). М. ні разу не атрымаў пенсіі, бо не меў дакументаў (НКВД згубіў іх і асабовую справу), якія б пацвердзілі яго працоўны стаж прыкладна з 1897–98 г. Па другой справе (№ 3488) рэабілітаваны 13.10.1960 прэзідыумам Вярхоўнага суда РСФСР.

[1] *Шушкевіч С.* Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968.




«Чырвоная Беларусь». Сябра СП Беларусі з 1934. У пачатку 1935, спрабуючы пазбегнуць арышту, паехаў у мяст. Чэрнеўка Барысаўскага р-на. 1 сак. вярнуўся дадому. Праз 3 тыдні арыштаваны органамі Дзяржбяспекі. Пасля 3 месяцаў знаходжання ва ўнутранай турме НКВД вызвалены. Паўторна арыштаваны 6.11.1936. Арышт быў праведзены супрацоўнікамі НКВД БССР Авербухам і інш. згодна з ордэрам № 700, выдадзеным 3.11.1936 і сапраўдным адны суткі (арыштавалі па ўжо несапраўдным ордэры — беззаконнасць у беззаконнасці). Як потым высветлілася, мог мець месца ўзброены супраціў пісьменніка пры арышце. Паводле слоў Тодара Кляшторнага, сказаных у верас. 1936 у Доме пісьменніка М. Багуну і П. Хатулёву, «*Маракоў, калі ад'язджаў з Мінску на раён, узяў з сабой наган і казаў, што ён будзе са зброяй у руках бараніць сябе…*» Калі б В. Маракова арыштоўвалі не на Мінскім вакзале, а ў пакоі, які ён здымаў у Барысаве і дзе, магчыма, прыхаваў так і не знойдзены энкавэдыстамі наган, апошнія вымушаны былі б «браць» пісьменніка з боем…

28.10.1937 пасля года катаванняў знявечанага М. тройка НКВД асудзіла (у 19.30; пасяджэнне працягвалася 15 хвілін) як «члена контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23.4.1957. Асабовая справа М. № 10234-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

З сакрэтнай даведкі начальніка 1-га спецаддзела НКВД Шавялёва: *«Акт аб выкананні прысуду захоўваецца ў Мінску ў Асобым архіве 1-га спецаддзела НКВД СССР, том 8, ліст 155»*.

Тв.: На залатым пакосе: Вершы. Мн., 1927; Вяршыні жаданняў. Паэзія. Мн., 1930; Права на зброю: Вершы. Мн., 1933; Лірыка. Мн., 1959; Вяршыні жаданняў: Вершы, паэмы. Мн., 1989; Рабінавая ноч: Выбранае. Вершы, паэмы, проза, публіцыстыка, крытыка, пераклады. Мн., 2003.

Кр.: *Рагойша В.* Сердце, согретое грустью // *Вопросы литературы*. 1990. № 6; *Пруднікаў П.* Паэт эмоцый // *Маладосць*. 1998. № 3; *Грахоўскі С.* Растаптаныя пялёсткі // *Голас Радзімы*. 1998. 7 мая; *Звонак А.* З успамінаў аб В. Маракове // *Першацвет*. 1998. № 10–11; *Маракоў Л.* Валеры Маракоў: Лёс, хроніка, кантэкст. Мн., 1999.

**МАРГЕЛАЎ Сцяпан Прохаравіч** [28.3.1902, в. Расохавічы Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], эканаміст, географ. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1927), аспірантуру пры НДІ сельскай і лясной гаспадаркі (1930). З 1931 працаваў у Інстытуце эканомікі АН БССР: вучоны сакратар інстытута, загадчык секцыі эканамічнай геаграфіі. Адначасова выкладаў у Інстытуце народнай гаспадаркі, прафесар. Кандыдат эканамічных навук (1934). Распрацоўваў тэорыю размяшчэння ў БССР тэхнічных сельскагаспадарчых культур і перапрацоўчай прамысловасці. Адзін з кіраўнікоў групы па складанні Вялікага атласа БССР. Арыштаваны 23.1.1937 у Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 54а, кв. 11. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член з 1927 антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.7.1957. Асабовая справа М. № 10673-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 54а, кв. 11. арыштавана лабарантка дражджавога завода «Чырвоная зара», маці дваіх дзяцей **Гоманава (Маргелава) Серафіма Георгіеўна** (н. 27.6.1904 у Горках Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл., у сям'і рабочага; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Сцяпана Маргелава. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД прыгаворана як «член сям'і здрадніка радзімы, асуджанага да расстрэлу» да 8 гадоў ППК. Этапавана праз Оршу ў АЛЖЗР НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 9.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 2.10.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Г.-М. № 7215-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Да пытання аб рэсурсах Палесся БССР. Мн., 1933; Эканамічная геаграфія БССР. Мн., 1936 (у сааўт.).

Кр.: *Возвращенные имена; Жертвы политического террора...; Рэпрэсаваныя...*

**МАР'ЯНАЎ Барыс Лазаравіч** [1894, мяст. Татарск Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны работнік. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. — сакратар Дзяржынскага РК КП(б)Б, член ЦК КП(б)Б (з 1937). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 9.8.1937 у Дзяржынску Мінскай вобл. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 9.5.1959 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 14127-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсавана і жонка М.
Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД.*

**МІХАЙЛАЎ Дзям'ян Мацвеевіч** [30.10.1905, в. Хоцімск Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту — кансультант Упраўлення справамі СНК БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 23.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, 3-ці дом Саветаў, кв. 17. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 24.9.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 10893-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсавана і жонка М.
Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД.*

**МІЦЬКОЎ Сяргей Рыгоравіч** [20.3.1896, в. Косашчына Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], партыйны работнік. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў вясковую школу. Да 1915 жыў з бацькамі, дапамагаў ім па гаспадарцы. У 1920-я г. уступіў у ВКП(б). Працаваў у Полацку, Клімавічах, Гомелі, Оршы, Лёзне, Расне, Віцебску, Мсціславе. З сак. 1929 загадчык вясковага аддзела ЦК КП(б)Б. У 1930-я г. дырэктар Гідролізнага вопытнага завода Наркамата мясцовай прамысловасці. Дэлегат 8–15 з'ездаў КП(б)Б. Гадаваў дачку Алену (н. ў 1926). У студз. 1936 выключаны з ВКП(б). Арыштаваны 20.6.1937 у Мінску па адрасе: Грушаўскі пас., д. 32, кв. 1. Падчас вобыску канфіскаваны пашпарт М. № 608317. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «актыўны член антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі правых» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 23.5.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 10379-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД.*

**МУРЗО Сяргей Мікітавіч** [1912, Масква — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, настаўнік. З сям'і рабочага. Да 1930 працаваў токарам на Віцебскім станкабудаўнічым заводзе «Камінтэрн». У 1934 скончыў МПІ.


Лист № ...
к делу № ...

АНКЕТА АРЕСТОВАННОГО

1. Фамилия: Митяков
2. Имя и отчество: Сергей Григорьевич
3. Дата рождения: число „20“ месяц Марта год 1836.
4. Место рождения: дер. Косаровщина Дисненского уезда Виленской губернии (ныне Польша)
5. Местожительство (адрес): г. Минск, Грушевский поселок, дом № 32, кв. 1.
6. Профессия и специальность: Служащий
7. Место службы и должность или род занятий: Директор Гидролизного опытного завода Карболмелиоратора
8. Паспорт: Выдан 3-им Отделением Милиции г. Минска № 608312
9. Социальное происхождение: Из крестьян-середняков.
10. Социальное положение:
а) до революции: Жил вместе с родителями, занимался хлебопашеством до 1915 года.
б) после революции: Служащий на разных работах и должностях.
11. Образование (общее и специальное): Окончил сельскую школу в 1912 году.
12. Партийность (в прошлом и в настоящем): Исключен из членов партии в январе м-це 1936 года.
13. Национальность и гражданство (подданство): Белорус, СССР.
14. Категория воинского учета запаса и где состоит на учете: На воинском учете состоит, как админ. состав.
15. Служба в белых и др. кр. армиях, участие в бандах и восстаниях против Советов (когда и в качестве кого): Не установлено.
16. Какие репрессии подвергался при советской власти: судимость, арест и др. (когда, каким органом и за что): Не подвергался.
17. Состав семьи: Дочь Лена 11 лет, проживает г. Минск, Грушевский поселок № 32, кв. 1.

Подпись арестованного: [illegible]

1. Особые внешние приметы
2. Кем и когда арестован
3. Где содержится под стражей
4. Особые замечания

Подпись сотрудника, заполнившего анкету: [illegible]

„20“ июня 1937 г.

ПРИМЕЧАНИЕ: Анкета заполняется четко и разборчиво со слов арестованного и проверяется по документам.

З асабовай справы № 10379-с.



З успамінаў З. Біралы: «*Мой аднакурснік Сяргей Мурзо ў чарзе* [па хлеб. — **Л. М.**] *страціў прытомнасць. Апамятаўшыся, ледзь дайшоў да інтэрната*».

З успамінаў С. Шушкевіча: *«Дэкан інстытута знайшоў пад падушкай студэнта — былога віцебскага рабочага* (Сяргея Мурзо. — **Л. М.**) *— два тамы твораў С. Ясеніна і патрабаваў выключыць з інстытута чытача «кулацкіх упадніцкіх твораў». На агульным студэнцкім сходзе выступіў В. Маракоў. Ён нагадаў зборнік С. Ясеніна «Русь Савецкая», «Паэму пра 26», даказаў, што яго сябар ведае, як адрозніць станоўчае і патрэбнае ад шкоднага і слабога. Студэнт скончыў інстытут разам з усімі таварышамі крытыка-творчага аддзялення».*

Друкаваўся з 1929. Належаў да так званых паэтаў-ударнікаў, асноўнай тэмай якіх было ўслаўленне працы рабочага. Быў членам Віцебскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Да арышту — настаўнік СШ у Краснаполлі Магілёўскай вобл. Арыштаваны 3.11.1936 у Мінску або пасля арышту дастаўлены ў Мінск, бо разам з шэрагам літаратараў абвінавачваўся ў адным злачынстве. Асуджаны 28.10.1937 тройкай НКВД як «член антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 29.10.1937. Рэабілітаваны 10.11.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа М. № 3929 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

З архіваў НКВД:

*Справка.*

*Дело Мурзо Сергея Никитича вместе с заключением, в котором ставится вопрос о прекращении дела за отсутствием преступления, представлено 28.6.56 г. в… Коллегию Верховного суда СССР для рассмотрения. №№ 9-17987-37.*

*30.8.1956.*

Тв.: Ля сталёвых бліскучых машын // Рытмы будавання. Віцебск, 1930.

Кр.: *БП.* Т. 4; *Маракоў Л.* Валеры Маракоў: Лёс, хроніка, кантэкст. Мн., 1999; *Рэпрэсаваныя...*

**МУХІН Павел Максімавіч** [1907, в. Забалоцце Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], навуковец. З бел. сялянскай сям'і.

Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. загадчык лабараторыі Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.7.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 11-я Ветэрынарная, д. 19. Перавезены ў Мінск. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 за «дзейнасць у складзе антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.10.1957. Асабовая справа М. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Верагодна, рэпрэсавана і жонка М.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД; Рэпрэсаваныя...*



**НЁМАНСКІ Янка** [сапр.: **Пятровіч Іван Андрэевіч**; 31.3(12.4).1890, мяст. Шчорсы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], празаік, публіцыст, эканаміст, грамадскі дзеяч. У 1909 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю; у 1915–16, 1918 вучыўся на гісторыка-філалагічным ф-це Петраградскага ун-та. У 1916 мабілізаваны ў армію, накіраваны ў школу прапаршчыкаў. У 1918 — загадчык выдавецкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята. У 1918–19 разам з Ц. Гартным выдаваў газ. «Дзянніца». Там з 1918 пачаў друкаваць публіцыстычныя творы. У 1919–21 — у Чырвонай арміі. З 1922 у Мінску; працаваў у планава-эканамічных органах. Нам. старшыні Дзяржплана БССР. Член Інбелкульта. Акадэмік БелАН з 1928. У 1929–31 сакратар АН БССР. З 1931 загадчык аддзела эканомікі НДІ прамысловасці. У 1933–36 узначальваў кафедру фінансавых дысцыплін у Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі. З першым апавяданнем «Над Кроманню» выступіў у 1922 (час. «Полымя»). У 1927–32 член праўлення літаратурнага аб'яднання «Полымя». На працягу 1928–30 пісаў раман «Драпежнікі», які застаўся няскончаным (рукапіс 2-й часткі быў спалены энкавэдыстамі пасля арышту). Арыштаваны 27.4.1937 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д. 21/52, кв. 25.

З асабовай справы Янкі Нёманскага (№ 10052-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі):

*Протокол обыска*

*Изъято:*

*4 тетради* (рукапісаў, сярод якіх, магчыма, была другая частка рамана «Драпежнікі». — **Л. М.**), *разная переписка, блокнотов 11 штук, 10 книг под ред. Петровича, книга «Война с белополяками», журн. «Полымя» — 25 штук, «Красная новь» — 2 шт., 2 книги под редакцией Некрашевича, 1 книга под ред. Дунца, 1 книга под ред. Гартного и разн. книги — 7 шт., вся переписка и документы…*

*Постановление*

*1937 г. мая, 10 дня. Я, инспектор при наркоме Внутренних дел БССР, лейт. Гос. Без. Кац М. И., рассмотрев следственное дело № 9751, нашел:*

*Материалами следствия в достаточной степени установлено, что Петрович И. А. состоял членом национал-фашистской организации в БССР и проводил организационную, вредительскую и разрушительную к-р деятельность.*

*На основании ст. 128 УПК БССР*

*Постановил:*

*Петровича Ивана Андреевича привлечь по настоящему делу в качестве обвиняемого, предъявив ему обвинение по ст. 68, 69, 70, 72, 76 УК БССР.*

*Инспектор при наркоме лейт. Кац.*

Асуджаны тройкай НКВД 29.10.1937 у 10.00 як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.3.1957.

4.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. 11 ліпеня, д. 18/7, кв. 2 арыштавана старшы эканаміст Наркамата лясной гаспадаркі БССР, маці траіх дзяцей **Пятровіч Глафіра Дзмітрыеўна** (н. 26.4.1892 у г. Нараўчат Пензенскай губ., цяпер райцэнтр Пензенскай вобл., Расія; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Янкі Нёманскага. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і расстралянага ворага народа» і «саўдзельніца ягоных контррэвалюцыйных злачынстваў» да 8 гадоў ППК. 24.1.1938 прыбыла з Оршы ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 25.11.1945. Пасля вызвалення жыла ў Віцебску ў дачкі Лідзіі. Неаднаразова звярталася ў АН БССР і КДБ з прашэннем прызначыць ёй пенсію за беспадстаўна рэпрэсаванага мужа, але адказу не дачакалася. Рэабілітавана трыбуналам БВА 6.3.1956. Асабовая справа П. № 6643-с знаходзіцца ў архіве КДБ Беларусі.

15.11.1937 у Мінску арыштаваны навучэнец Мінскага дарожна-механічнага тэхнікума **Пятровіч Андрэй Іванавіч** (н. 10.7.1922 у Ноўгарадзе, Расія), сын Янкі Нёманскага і Глафіры Пятровіч. 28.11.1937 «тройкай» НКВД асуджаны як «член сям'і ворага народа» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-Уральскі канцлагер НКВД Свярдлоўскай вобл. Загінуў у зняволенні ў 15 гадоў. Рэабілітаваны 9.5.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа П. № 6594-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: На зломе: Апавяданні. Мн., 1925; Творы. Мн., 1984.

Кр.: *Строева Т.* Адзін з пачынальнікаў // *ЛіМ.* 1980. 4 крас.; *Хомчанка В.* Абавязак памяці // *ЛіМ.* 1985. 15 ліст.; *Савік Л.* Янка Нёманскі // Гісторыя беларускай літаратуры XX ст. Мн., 1999. Т. 2; *Платонаў Р.* Лёсы. Мн., 1998; *БП.* Т. 4; *ЭГБ.* Т. 5; *З асабістага архіва Л. С. Савік; Хранить вечно; Рэпрэсаваныя...*

**ПЕТРУШЭНЯ Васіль Аляксандравіч** [1904, в. Сінягова Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Старадарожскі р-н Мінскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Да арышту — кансультант СНК БССР па камунальных і транспартных справах. Арыштаваны 9.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 31/33 (у 1937 значная частка жыхароў гэтага «элітнага» дома арыштавана і прыгаворана да расстрэлу), кв. 4. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 17.2.1966 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа П. № 19413-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР.*



**ПІВАВАРАЎ Зяма [Залман Рувімавіч**; 24.5(5.6).1910, мяст. Касцюковічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, перакладчык. Пачаў пісаць вершы пабеларуску ў 1925, тады ж упершыню апублікаваў іх у клімавіцкай газ. «Малады камуніст». У 1927 паступіў у Мсціслаўскі педтэхнікум. У 1929 пераехаў у Ленінград. Публікаваўся ў ленінградскіх альманахах і часопісах. Уступіў у БелАПП. З 1931 вучыўся на

літаратурным ф-це МПІ (скончыў у 1934). У 1934–36 супрацоўнік газ. «Чырвоная змена». Перакладаў рускіх паэтаў. Выступаў у друку і як тэатральны крытык. Арыштаваны 13.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Чычэрына, д. 30, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі», за «антысавецкую прапаганду» і «ўдзел (з 1934) у тэрарыстычнай групоўцы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.3.1958. Асабовая справа П. № 11556-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсаваны сваякі П.

Тв.: Лірыка двух нараджэнняў: Вершы. Мн., 1934.

Кр.: *Левін С.* Пра творы Зямы Піваварава // *ЛіМ*. 1934. 31 студз.; *Шушкевіч С.* У буднях працоўных гартаваўся радок // *Чырвоная змена*. 1971. 17 крас.; *Русаковіч В.* Зяма Піваварaў // *Полымя*. 1985. № 6; *БП*. Т. 5; *Рэпрэсаваныя...*

**ПРАТАСЕНЯ Рыгор Іванавіч** [1.12.1899, в. Сенніца Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], аграхімік. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1932–33 працаваў нам. дырэктара Інстытута аграглебазнаўства АН БССР. У снеж. 1933 выключаны з КП(б)Б, потым працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзела Інстытута аграглебазнаўства. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.11.1936 у Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 54а, кв. 15. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член трацкісцка-тэрарыстычнай шпіёнска-шкодніцкай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.8.1957. Асабовая справа П. № 10820-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, асуджана і жонка П.

Кр.: *Возвращенные имена; Рэпрэсаваныя...*



**РЫДЗЕЎСКІ Міхаіл Антонавіч** [30.10.1885, Рэчыца Мінскай губ., цяпер Гомельская вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], педагог, верагодна, сваяк Сцяпана Некрашэвіча. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У канцы 1920-х — пачатку 1930-х г. дырэктар МБПТ. Падчас




арышту — загадчык вучэбнай часткі МПІ. Арыштаваны 27.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 30, кв. 11 (27.10.1933 у гэтай жа кватэры быў арыштаваны і дацэнт Мінскага медыцынскага інстытута Хаім Манасзон). Асуджаны тройкай НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай тэрарыстычна-шпіёнскай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 11.5.1957. Асабовая справа Р. № 10284-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

20.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Нова-Мясніцкая, д. 26, кв. 61 арыштавана хатняя гаспадыня **Рыдзеўская Алена Рыгораўна** (н. 20.5.1889 у в. Масееўка Магілёўскай губ., цяпер Светлагорскі р-н Гомельскай вобл.), жонка Міхаіла Рыдзеўскага. 28.11.1937 (?) асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР. Пасля вызвалення (1945) вярнулася на радзіму. Жыла разам з дачкой Аленай у Мінску ў кватэры зяця — П. Броўкі, але прапісана была на раёне. Рэабілітавана 3.7.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Р. № 6659-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

20.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Нова-Мясніцкая, д. 26, кв. 61 разам з маці арыштаваны студэнт МБПТ (?) **Рыдзеўскі Алег Міхайлавіч** (н. ў 1919 (?) у в. Сарочынцы, цяпер Харкаўская вобл., Украіна), верагодна, сын Міхаіла Рыдзеўскага. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджаны за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК і этапаваны ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 4.9.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Р. № 6904-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Сын Міхаіла Рыдзеўскага Ігар (н. ў 1916) падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Працаваў у Мінскім гарадскім тэатры. З 1943 сувязны партызанскай групы Казанцава. У другой палове 1940-х г. рэпрэсаваны. Пасля вызвалення (1956?) вярнуўся на радзіму. Працаваў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР, потым — дырэктар вучэбнага тэатра Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, здымаўся ў тэлефільме «Справа Ігнатоўскага» (1991). У 1990-я г. — супрацоўнік літаратурнага музея П. Броўкі. Аўтар успамінаў.

Дачка Міхаіла Рыдзеўскага Алена (н. 15.4.1911 у в. Ісакавічы, цяпер Лоеўскі р-н Гомельскай вобл.) у 1930-я г. выйшла замуж за паэта Петруся Броўку. Працавала ў Інстытуце мовазнаўства, потым — дырэктарам музея П. Броўкі. Памерла 15.8.1982.

Кр.: *Рэпрэсаваныя...*

**САНДАМІРСКІ Якаў Рыгоравіч** [1902, Крамянчуг Палтаўскай губ., цяпер Палтаўская вобл., Украіна — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], педагог. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту — загадчык кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.7.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Ветэрынарная, д. 11/21. Перавезены ў Мінск. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 за «дзейнасць у складзе нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.10.1957. Асабовая справа С. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Паводле некаторых звестак, рэпрэсаваны і бацька Якава Сандамірскага.

Кр.: *Рэпрэсаваныя...*



**САПРЫЦКІ Аскар Абрамавіч** [1894, в. Халочча Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чачэрскі р-н Гомельскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. Падчас арышту — нам. наркама земляробства БССР. Арыштаваны 26.4.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31/2, кв. 3. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай дыверсійна-тэрарыстычнай

арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 27.10.1956. Асабовая справа С. №7399-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кастрычніцкая, д. 3, кв. 4 арыштавана настаўніца Мінскай школы № 2, маці дваіх дзяцей **Сапрыцкая Берта Навумаўна** (н. 9.1.1900 у Гомелі ў сям'і службоўца; мела вышэйшую адукацыю), жонка Аскара Сапрыцкага. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД прыгаворана як «член сям'і ворага народа, асуджанага да ВМП» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена ў 1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 24.7.1956. Асабовая справа С. № 6763-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *БНДЦЭД; Рэпрэсаваныя...*

**СПЕКТАР Якаў Мееравіч** [студз. 1891, мяст. Копысь Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. Падчас арышту — загадчык сакратарыята СНК БССР. Арыштаваны 2.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 36/43, кв. 24. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД як «член антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.8.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. № 10859-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. 1-я Лекарта, д. 3, кв. 7 арыштавана краўчыха фабрыкі імя Крупскай **Спектар Фаня Яфімаўна** (н. 10.12.1903 у мяст. Копысь у сям'і службоўца), жонка Якава Спектара. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК. Этапавана ў Аршанскую турму НКВД. З 24.1.1938 у Карагандзінскім канцлагеры. Вызвалена 5.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 6.8.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа С. № 10648-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; Хранить вечно; Жертвы политического террора…*

**СТАШЭЎСКІ Васіль Пятровіч** [11(23).3.1895, в. Свінка Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Лугавая Капыльскага р-на Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], празаік, драматург, педагог. З бел. сялянскай сям'і. У 1914 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Ваяваў у 1-ю сусветную вайну і ў час грамадзянскай вайны ў Расіі. У 1918–20 і ў 1923 настаўнічаў. У 1920 — удзель-



нік антыпольскага руху на Случчыне. У 1920–21 служыў ваенкамам. Уваходзіў у арганізацыю «Маладая Беларусь», БПС-Р, са студз. 1920 член Беларускай камуністычнай арганізацыі, са жн. член КП(б)Б. За пратэсты супраць арышту членаў БПС-Р выключаны ў маі 1921 з КП(б)Б. Публікавацца пачаў у 1923. У 1924 скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут. Выкладаў гісторыю і літаратуру на настаўніцкіх курсах і на рабфаку ў Оршы. Першую п'есу апублікаваў у 1926. З 1926 жыў у Мінску. Адказны сакратар літаратурнага аб'яднання «Маладняк». У 1928–29 працаваў у рэдакцыі газ. «Савецкая Беларусь». З 1929 — адказны сакратар літаратурнага аб'яднання «Полымя». Член СП Беларусі з 1934. У 1936 Беларускі тэатр юнага гледача паставіў яго п'есу «Мікола Гоман».

З аўтабіяграфіі Я. Ермаловіча (1967): *«Засталася ў памяці сустрэча з Васілём Сташэўскім. Што ў ім захапляла, дык гэта нязгасны аптымізм, любоў да жыцця і вера ў яго. Знаходзячыся ў вельмі цяжкіх жыццёвых умовах, кашляючы кроўю (ён хварэў туберкулёзам), Сташэўскі расказваў анекдоты, жартаваў, спяваў, дзяліўся сюжэтамі ненапісаных твораў, якія спадзяваўся з цягам часу напісаць, і ні разу не заікнуўся аб тым, што хворы і што вось-вось можа памерці...»*

Арыштаваны 4.11.1936. Асуджаны 28.10.1937 да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.6.1957. Асабовая справа С. № 10477-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Правіянцкая, д. 33, кв. 1 арыштавана гідратэхнік Мінскага інстытута харчовай прамысловасці **Сташэўская Лідзія Пятроўна** (н. 2.10.1908 у Мінску ў сям'і службоўца), жонка Васіля Сташэўскага. 28.11.1937 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 6.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 24.7.1956. Асабовая справа С. № 6762-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Бацька і сын; У цемры: П'есы. Мн., 1927; Беспрытульная: П'еска (у 1 дзеі). Мн., 1927; Архангелы з крэсаў: П'еса. Мн., 1930; Прысяга ў лесе: Шэсць сцэн з 1919–1920 гг. Мн., 1930; Шуміць Бярэзінка: Аповесці, апавяданні, нарысы. Мн., 1963.

Кр.: *Александровіч С.* Жывыя старонкі часу // *Полымя*. 1963. № 12; *Сабалеўскі А.* Васіль Сташэўскі // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. Мн., 1975. Т. 2; *Шушкевіч С.* Талент грамадскага гучання // *ЛіМ*. 1975. 28 сак.; *БП*. Т. 5; *ЭГБ*. Т. 6/1; *Жертвы политического террора…; Рэпрэсаваныя...*

**СТРЭЛЕ Георгій Уладзіміравіч** [1900, в. Кашэдары Трокскага пав. Віленскай губ., цяпер Літва — 29 ці 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны дзеяч Беларусі. З бел. рабочай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Бабруйску (да 1924), Клімавічах (да 1926), Мазыры, Оршы (старшыня акруговага выканаўчага камітэта). З 1929 у Мінску ва Упраўленні народнагаспадарчага ўліку, потым у Калгасцэнтры. З 1933 начальнік Упраўлення жывёлагадоўлі (конегадоўлі і ветэрынарыі) Наркамата земляробства, нам. наркама. З 1936 дырэктар конесаўгаса № 120 у Мсціславе Магілёўскай вобл. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 29.4.1937. Абвінавачваўся як «актыўны ўдзельнік нацдэмаўскай контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі». Падчас следства жорстка катаваны. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 29 ці 30.10.1937 да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 22.3.1958. Асабовая справа С. № 3647 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

22.1.1938 арыштавана хатняя гаспадыня **Стрэле Ганна Пятроўна** (н. ў 1903 у в. Адаменкі Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Лёзненскі р-н Віцебскай вобл., у бел. сялянскай сям'і), верагодна, жонка Георгія Стрэле. 16.5.1938 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана Вярхоўным судом БССР 3.3.1958.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; БНДЦЭД.*

**СЯЛОЎ Дзмітрый Паўлавіч** [5.8.1896, в. Яхрабол, цяпер Яраслаўская вобл., Расія — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сялянскай сям'і. Да арышту — начальнік планава-фінансавага ўпраўлення Наркамата асветы БССР. Арыштаваны 20.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 33, кв. 8. Асуджаны 28.10.1937 тройкай НКВД як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 3.8.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. № 10816-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: Транспартны зав., д. 18, кв. 3 арыштавана прадавец магазіна № 3 Галоўхлебзбыта **Сялова (Баркоў-**

**ская) Лізавета Маркаўна** (н. 28.12.1902 у мяст. Лоеў Мінскай губ., цяпер райцэнтр Гомельскай вобл., у сям'і рабочага), жонка Дзмітрыя Сялова. 28.11.1937 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана праз Оршу ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 10.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 5.11.1956. Асабовая справа С.-Б. № 7414-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; Жертвы политического террора…*

**СЯРДЗЮК Панцялей Іванавіч** [1907, станіца Старамінская Азоўска-Чарнаморскага краю, Украіна — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту — загадчык лабараторыі біяфабрыкі № 5 у Віцебску. Арыштаваны 27.1.1936 на рабоце. Перавезены ў Мінск. Асуджаны 29.10.1937 тройкай НКВД за «дзейнасць у складзе антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 29.10.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа С. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *НАРБ, ІКБР.*



**ТАЎБІН Юлій [Юдаль Абрамавіч**; 2(15).9.1911, Астрагожск Варонежскай губ., цяпер Варонежская вобл., Расія — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў сям'і аптэкара. У 1921 пераехаў з бацькамі ў Мсціслаў. Пасля заканчэння сямігодкі (1928) паступіў у Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум, адначасова стаў сябрам аршанскай філіі «Маладняка», друкаваўся ў часопісе філіі. Разам з Т. пачалі вучыцца Змітрок Астапенка і Аркадзь Куляшоў (пазней вядомая «тройца мсціслаўцаў»), будучы выпускнік першага выпуска прафесійных літаратараў МПІ (1934), «камсамольскі паэт» (як называў яго аднакурснік С. Шушкевіч) Зяма Півавараў, будучы «ўдзельнік вызвалення Заходняй Беларусі» (І. Багдановіч), дзіцячы пісьменнік Павел Леванові ч (загінуў падчас 2-й сусветнай вайны), Ганна Сапрыка і інш. Першыя вершы з'явіліся ў 1926 на старонках час. «Ма-

ладняк Калінішчыны» (Клімавічы). Увосень 1930 выйшаў першы зборнік вершаў «Агні». Тагачасная крытыка ставілася да Т. насцярожана; яго абвінавачвалі ў рабскіх адносінах да старой буржуазнай літаратуры. У 1931–33 вучыўся ў МПІ (паводле іншых звестак — у БДУ). Стаў членам БелАПП.

Сцяпан Ліхадзіеўскі пазней успамінаў: *«Юлі Таўбін... Гэта быў юнак, ад прыроды ўзнагароджаны вялікім паэтычным талентам. Сціплы, добры, таварыскі, чалавечны, ён выклікаў да сябе ўсеагульную любоў і павагу»*.

Сяргей Грахоўскі ў сваёй кнізе «Так і было» адзначыў, што *«сярод пісьменнікаў Таўбін быў адметны ад усіх: зрэнкі аксамітна-чорных вачэй, здавалася, бачаць навылёт, выразныя тоўстыя губы нечым нагадвалі Пушкіна, у свае дзевятнаццаць гадоў ён хадзіў трошкі сагнуты, нібы толькі ўстаў з-за стала. Можа, так і было...»*.

Арыштаваны ў канцы лют. 1933. Прыгавораны 10.8.1933 да 2 гадоў ссылкі (паводле звестак В. Куляшовай, *«повадам для першага арышту Юлія Таўбіна стаў ліст з-за мяжы ад цёткі, якая нібыта пераехала з Польшчы ў Амерыку»*). Тэрмін адбываў у Цюмені. Настойліва вывучаў англійскую мову, многа перакладаў з яе. Перакладаў таксама творы Г. Гейнэ, У. Маякоўскага. 4.11.1936 паўторна арыштаваны і этапаваны ў Мінск. 29.10.1937 выязная сесія ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР прысудзіла паэта да расстрэлу.



*М. Багун (загінуў у перасыльным лагпункце 17.2.1938), З. Астапенка (знік у 1940-я г.), Ю. Таўбін. 1930 г.*

Незадоўга да арышту Юлі Таўбін паслаў у Ленінградскае аддзяленне выдавецтва «Художественная литература» падборку перакладаў на рускую мову вершаў Альфрэда Хаўсмана, якія потым увайшлі ў зборнік «Антология новой английской поэзии» (выйшаў праз 20 дзён пасля расстрэлу паэта). Пераклад верша англійскага паэта «Законы Бога и людей» прагучаў своеасаблівым пасланнем з «таго свету»:

*…Себе другой избрал я путь —*
*Они хотят меня вернуть.*
*Но я, хуля законы их,*
*Им не навязывал своих.*
*Мол, как угодно, господа, —*
*Раз вы туда, так я сюда.*
*Так нет же! Им стерпеть нельзя,*
*Что у него своя стезя.*
*Они грозят — иди назад,*
*Не то — тюрьма, петля и ад.*
*Как не робеть мне! Суд их скор.*
*Могу ль вступить в неравный спор?*
*Не я построил этот мир.*
*Я в нем блуждаю, чужд и сир.*
*Хоть глупые, но господа —*
*Они. Их сила, их права.*
*А нам на Марс не улететь*
*С тобой, душа моя… Так впредь*
*Смирись и следовать сумей*
*Законам Бога и людей…*

Рэабілітаваны 29.8.1956.

Тв.: Каб жыць, спяваць і не старэць…: Вершы. 1928–1930. Мн., 1931; Тры паэмы. Мн., 1931; Мая другая кніга: Вершы. Мн., 1932; Таўрыда: Паэма. Мн., 1932; Выбраныя вершы. Мн., 1957; Вершы. Мн., 1969.

Кр.: *Бечык В.* Голас маладосці // *ЛіМ*. 1973. 8 сак.; *Грахоўскі С.* Жыве ў памяці маёй: Успаміны // Дзень паэзіі-73. Мн., 1973; *Азгур З.* Пад небам і пад дахам майстэрні: [Успаміны] // *Полымя*. 1974, № 2; *Бярозкін Р.* Пра Юлія Таўбіна // Бярозкін Р. Кніга пра паэзію. Мн., 1974; *Маракоў Л.* Ліст з таго свету // *Голас Радзімы*. 1999. 26 жн.

**ТУРЛАЙ Андрэй Аляксеевіч** [30.11.1894, в. Вялікая Кракотка Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. У 1918 уступіў у КП(б)Б. У 1935–36 сакратар Полацкага райкама партыі. Член ЦК ВКП(б). Падчас арышту —

наркам саўгасаў БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 9.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. М. Горкага, 3-і дом Саветаў, кв. 8. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны тройкай НКВД 29.10.1937 як «член антысавецкай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.9.1956. Асабовая справа Т. № 7222-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

22.9.1937 арыштавана **Турлай Раіса Абрамаўна** (н. ў 1903 у Бабруйску), жонка Андрэя Турлая. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД БССР асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 22.9.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 26.9.1955. Яе асабовая справа № 5551-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Жертвы политического террора…; Рэпрэсаваныя…*

**УСПЕНСКІ Яўген Канстанцінавіч** [18.10.1891, Вільня — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], фізік, грамадскі дзеяч, педагог. З сям'і службоўца. Скончыў Віленскую гімназію (1910), фізіка-матэматычны ф-т Маскоўскага ун-та (1915). З бел. нацыянальна-вызваленчым рухам пазнаёміўся ў студэнцкія гады (з 1911) у Віленскім зямляцтве пры Маскоўскім ун-це. Пасля заканчэння ун-та працаваў у Бабруйску і Глуску: у гімназіях, школах, палітэхнікуме і педтэхнікуме, вёў фізіку і матэматыку. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі абраны ў бюро Настаўніцкага саюза. Падчас нямецкай і польскай акупацыі ўваходзіў у Бабруйскую беларускую раду. Летам 1918 быў ініцыятарам першых настаўніцкіх курсаў у Бабруйску. У час польскай акупацыі — адзін са стваральнікаў Беларускага нацыянальнага камітэта. У 1921 уступіў у ВКП(б). Быў нам., потым загадчыкам Бабруйскай палітасветы. Працаваў разам з Алесем Адамовічам, прымаў удзел у правядзенні беларусізацыі. У верас. 1922 па запрашэнні У. Ігнатоўскага пераехаў у Мінск. Прызначаны загадчыкам Галоўпалітасветы і Галоўпрафасветы пры наркаме асветы БССР. Са студз. 1923 — асістэнт, потым дацэнт кафедры фізікі педагагічнага ф-та БДУ. З мая 1924 — нам. дэкана педагагічнага ф-та, загадчык фізіка-матэматычнага і прыродазнаўчага аддзяленняў. Увосень 1924 арганізаваў таварыства «Прэч непісьменнасць». З 1929 — дэкан фізіка-матэматычнага ф-та. У 1925–36 прафесар БДУ. Першы ў Беларусі пачаў выкладаць фізіку на бел. мове. Быў дэлегатам навуковых з'ездаў у Маскве, Ленінградзе, Берліне. У 1931–36 супрацоўнік Фізіка-тэхнічнага інстытута БелАН. У кастр. 1935 выключаны з ВКП(б) за «прытупленне класавай пільнасці і адрыў ад партыйнага жыцця». З 1936 — прафесар і загадчык ка-

федры фізікі Гомельскага педінстытута. Асноўныя працы У. прысвечаны квантавай тэорыі ядра атама, гісторыі і метадалогіі фізікі. Арыштаваны 20.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 97, кв. 12. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «актыўны член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай шпіёнска-тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.7.1957. Асабовая справа У. № 10764-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

15.11.1937 у Мінску па адрасе: Грушаўскі пас., д. 23 арыштавана касір Аптэкаўпраўлення Белмедінструментаў **Успенская Ксенія Міхайлаўна** (н. 13.11.1892 у Вільні ў сям'і службоўца), жонка Яўгена Успенскага. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД БССР асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 5 (ці 30).9.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 12.6.1956. Асабовая справа У. № 6686-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

19.11.1937 у Мінску па адрасе: Грушаўскі пас., д. 23 арыштаваны сыны У. — **Рыгор** (н. 5.5.1919, вучань Мінскай СШ № 4) і **Уладзімір** (н. 28.7.1916, студэнт фізіка-матэматычнага ф-та БДУ) **Успенскія**. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД БССР асуджаны як «члены сям'і расстралянага ворага народа» да 5 гадоў ППК і этапаваны (хутчэй за ўсё, разам з маці) у Карагандзінскі канцлагер Казахскай ССР. Уладзімір вызваліўся 19.11.1942. Пра далейшы лёс Рыгора нічога не вядома. У 1956 трыбуналам БВА браты рэабілітаваны. Іх асабовыя справы № 6660-с (Уладзіміра) і № 6662-с (Рыгора) захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *НАРБ, ІКБР; ІКР; Гесь А.* Успенскі Яўген Канстанцінавіч // Университет профессорский. Гомель, 2005. С. 327–329; *Возвращенные имена; Жертвы политического террора…; Рэпрэсаваныя...*

**ФРЫДМАН Ісак Сямёнавіч** [1887, Сімферопаль, цяпер Украіна — 29 або 30.10.1937, Мінск, турма НКВД], службовец. Атрымаў вышэйшую адукацыю, уступіў у ВКП(б) (1918). Да арышту — начальнік аддзела землеўпарадкавання Наркамата земляробства БССР. Быў жанаты, меў двое дзяцей. Арыштаваны 15.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148/19, кв. 57. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 28 ці 29.10.1937 тройкай НКВД за «шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы» і як «член тэрарыстычнай арганізацыі правых» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 25.5.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР Асабовая справа Ф. № 10367-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсавана і жонка Ф.
Кр.: *НАРБ, ІКБР.*



**ХАРЫК Ізі [Ісак Давыдавіч**; 6.3.1896, па іншых крыніцах 17.3.1898, мяст. Зембін Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт. У 1919 добраахвотна ўступіў у Чырвоную армію, удзельнічаў у грамадзянскай вайне ў Расіі. У 1916–23 — член арганізацыі «Паалей-Цыён». У другой палове 1920-х г. уступіў у ВКП(б). Літаратурную дзейнасць пачаў у 1920 публікацыямі ў яўрэйскіх газетах. У 1921–23 вучыўся ў Вышэйшым літаратурным інстытуце імя В. Брусава ў Маскве. У 1922 у Мінску выйшла першая кніжка вершаў «Трапятанне». З 1925 друкаваўся ў яўрэйскім час. «Штэрн». У 1927 скончыў яўрэйскае аддзяленне педагагічнага ф-та 2-га Маскоўскага дзяржаўнага ун-та. З 1928 сталі з'яўляцца пераклады вершаў Х. на бел. мову. Пераехаў у Мінск, працаваў рэдактарам час. «Штэрн». У 1931 абраны членам ЦВК БССР. Член СП Беларусі з 1934. Член прэзідыумаў СП БССР і СССР. Да 1936 у Мінску, Маскве і Кіеве выйшла 13 яго кніг на яўрэйскай мове. З пачатку 1930-х г. выступаў з артыкуламі і нарысамі таксама ў беларускамоўных выданнях. Х. перакладаў на яўрэйскую мову творы Я. Коласа, М. Чарота. Член-карэспандэнт БелАН з 1936. Адзін з аўтараў «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну» (1936). Вершы «Над Бярозай» і «Хлеб» былі пакладзены на музыку С. Палонскім.

З успамінаў перакладчыка Юркі Гаўрука (таксама рэпрэсаванага): *«Я ніколі не забуду той атмасферы давер'я, зацікаўленасці, любові і пашаны, якая адразу ж устанавілася паміж паэтам і яго слухачамі. Ізі Харык чытаў многа, з вялікім уздымам. Яго гучны, выразны голас з пявучай інтанацыяй, запал, аптымізм і публіцыстычная вастрыня вершаў літаральна зачаравалі вучняў* (Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. — **Л. М.**). *Твары іх гарэлі, вочы блішчалі. Яны гатовы былі слухаць яго бясконца... Фізічна моцны, з энергічнымі рысамі твару і пышнай чорнай чупрынай, ён быў увасабленнем жыццярадаснасці...»*[1]

[1] *Гаўрук Ю.* Ступень адказнасці. Мн., 1986.

Арыштаваны ў Мінску ў Доме спецыялістаў. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член трацкісцка-зіноўеўскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.6.1956. Асабовая справа Х. № 6870-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 52 арыштавана хатняя гаспадыня, маці дваіх сыноў (Юлія і Давыда) **Харык Дзіна (Матліна) Звулаўна** (н. ў 1911 у Бабруйску), жонка Ізі Харыка. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД СССР асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена ў 1946. Вярнулася на радзіму. Працавала выхавацелькай у дзіцячым садзе, загадвала бібліятэкай Мінскага аб'яднання габрэйскай культуры імя Ізі Харыка. Дзіне Харык не раз прапаноўвалі з'ехаць за мяжу, у Ізраіль, ЗША, але яна адмаўлялася. Усё чакала сваіх сыноў. Рэабілітавана 14.8.1956. Памерла 11.3.2003. Асабовая справа Х. № 6846-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Адданасць: [Выбр. тв]. М., 1970. Яўр.; Пераклады: Выбр. тв. Мн., 1958; Выбранае. Мн., 1969.

Кр.: *Лынькоў М.* Таленавіты паэт // *Маладосць*. 1958. № 6; *Броўка П.* Пра паэта і таварыша // *ЛіМ*. 1973. 23 сак.; *Хведаровіч М.* Сугучнасць часу // *Беларусь*. 1976. № 3; *БП*. Т. 6; *Наша Ніва. 2003. 18 крас.; Рэпрэсаваныя...*



**ХАТУЛЁЎ Пятро** [**Пётр Фёдаравіч**; 29.6.1912, Віцебск — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], літаратурны крытык. Пачаў выступаць на старонках бел. перыядычнага друку ў 1932. У 1934 скончыў МПІ. Працаваў у рэдакцыі газ. «Літаратура і мастацтва». На працягу 1934–36 апублікаваў, пераважна на старонках гэтай газеты, артыкулы, рэцэнзіі, нататкі пра творчасць А. Александровіча, П. Броўкі, Э. Самуйлёнкі, Ю. Таўбіна, У. Хадыкі, І. Шапавалава і інш. Выступаў супраць вульгарызатарскага падыходу да літаратуры, заклікаў улічваць асаблівасць гістарычнага часу і не шукаць ворагаў у XIX ст. Арыштаваны 3.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Р. Люксембург, д. 44, кв. 12.

З пратакола допыту П. Хатулёва ад 13.11.1936: *«В 1931 году у меня обнаружили нацдемовские стихи* (вершы, якія былі прысве-

чаны М. Багдановічу. — **Л. М.**), *написанные еще в Витебске и привезенные с собой. В связи с этим обо мне был поставлен вопрос на общеинститутском собрании, на котором мои стихи были осуждены, а мое пребывание в институте оказалось под вопросом...»*

Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.9.1966. Асабовая справа Х. № 19561-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: «Мая другая кніга» Юлія Таўбіна // *ЛіМ*. 1932. 15 чэрв. Сааўт. І. Малец; Заўвагі пра творчасць П. Броўкі // *Полымя рэвалюцыі*. 1934. № 4.

Кр.: *Мушынскі М.* Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20–30-я гады). Мн., 1975; *БП*. Т. 6; *Рэпрэсаваныя...*



**ЧАРНУШЭВІЧ Аляксандр Анікеевіч** [1899, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], парт. і дзяржаўны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Удзельнік партызанскага руху ў Беларусі ў грамадзянскую вайну, потым барацьбы з бандытызмам. З 1922 на парт. рабоце: сакратар Грэскага райкама КП(б)Б, загадчык аддзелаў Бабруйскага і Віцебскага акруговых камітэтаў партыі, культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б. З кастр. 1932 — сакратар Мінскага гаркама КП(б)Б. У сак. 1933 — лют. 1936 наркам асветы БССР, потым загадчык аддзела забеспячэння Бел. геалагічнай разведкі. Член ЦК КП(б)Б (1929–36), член Бюро ЦК КП(б)Б (1931–34). Арыштаваны 19.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 31/33, кв. 30. Асуджаны тройкай НКВД 28.10.1937 як «член нацыянал-фашысцкай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.12.1956. Асабовая справа Ч. № 9842-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

4.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 64, кв. 2 арыштавана студэнтка 5 курса БДУ **Чарнушэвіч Марыя Лукінічна** (н. ў снеж. 1902 у в. Грыбаўшчына Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.), жонка Аляксандра Чарнушэвіча. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі

канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 5.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 26.6.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ч. № 6689-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ЭГБ*. Т. 6/2; *Жертвы политического террора…; Рэпрэсаваныя…*



**ЧАРОТ Міхась** [сапр.: **Кудзелька Міхась Сымонавіч**; 7.11.1896, мяст. Рудзенск Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, драматург, празаік, рэдактар, грамадскі дзеяч, стрыечны брат Іосіфа і Івана *Кудзелькаў*. У 1917 скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Мабілізаваны ў армію; служыў афіцэрам запаснога палка ў Кузнецку. Вясной 1918 вярнуўся ў Мінск; пачаў настаўнічаць у бел. школе; паступіў у МПІ. Спяваў у хоры Тэраўскага пры «Беларускай хатцы», быў старшынёй тэатральнай суполкі «Маладзік». Друкавацца пачаў у 1918. У 1919 — член Белнацкама і створанай пры ім Вайсковай Рады. Быў адным з арганізатараў Беларускай камуністычнай арганізацыі. З 1920 — супрацоўнік, у 1925–29 рэдактар газ. «Савецкая Беларусь». У 1922 апублікаваў першы зборнік вершаў «Завіруха». У 1923 удзельнічаў у стварэнні літаб'яднання «Маладняк», з якога выйшаў у канцы 1927. Некаторы час быў членам літаб'яднання «Полымя», потым уступіў у БелАПП. У 1922–24 — кандыдат у члены, у 1924–31 — член ЦВК БССР. У 1924 вучыўся ў Маскве ў Дзяржаўным інстытуце журналістыкі. У 1930-я г. працаваў загадчыкам літаратурнага сектара Дзяржаўнага выдавецтва БССР, кансультантам у кабінеце маладога аўтара СП БССР. Падчас арышту загадчык літаратурнага сектара Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Быў жанаты, гадаваў сына Вячаслава, дочак Святлану, Зінаіду, Алену (усе ва ўзросце ад 6 да 11 гадоў). Арыштава-



*М. Чарот з братам А. Кудзелькам.*

ны 24.1.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 35, кв. 1, адначасова выключаны з ВКП(б).

З пратакола вобыску: *«...документы, журналы — 210 штук, книги — 85 штук, переписка — 127 страниц, рукописи — одна пачка...»*

Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 у 10.00 як «агент польскай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Апошні верш «Прысяга» запісаў на сцяне мінскай унутранай турмы НКВД.

З успамінаў Міколы Хведаровіча: *«У 1939 годзе я быў пераведзены ў адзіночную камеру. Уважліва аглядзеў сцены, шукаючы надпісаў, і вось у кутку прачытаў тэкст верша, выкалупаны нечым вострым на сцяне. Гэта была апошняя сустрэча з маім любімым паэтам і другам Міхасём Чаротам. Гадамі я захоўваў гэтыя яго словы ў сэрцы:*

*Я не чакаў*
*І не гадаў,*
*Бо жыў з адкрытаю душою,*
*Што стрэне лютая бяда,*
*Падружыць з допытам,*
*З турмою.*

*Прадажных здрайцаў ліхвяры*
*Мяне заціснулі за краты.*
*Я прысягаю вам, сябры,*
*Мае палі,*
*Мае бары, —*
*Кажу вам — я не вінаваты!»*[1]

Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.12.1956. Асабовая справа К. № 8153-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. Імем Ч. названы вуліцы ў Маладзечне і Рудзенску.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Старажоўская, д. 47, кв. 2 арыштавана хатняя гаспадыня **Дадыка Ефрасіння Тарасаўна** (н. ў 1903), жонка Міхася Чарота. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (Акмолінск). Загінула ў зняволенні ў першай палове 1940-х г. Рэабілітавана 11.3.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ч. № 10102-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Творы: У 3 т. Мн., 1932–1936; Збор твораў: У 2 т. Мн., 1958; Выбраныя вершы і паэма «Босыя на вогнішчы». Мн., 1967; Выбранае. Мн., 1982.

---

[1] *ЛіМ*. 1965. 22 чэрв.

Кр.: *Ярош М.* Міхась Чарот: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1963; *Яго ж.* Міхась Чарот. Мн., 1966; Песняр революционной романтики. Мн., 1983; *БП.* Т. 6; *Рэпрэсаваныя...*



**ШАЛАЙ Макар** [сапр.: **Шалаеў Макар Ксенафонтавіч**; 17.2.1906, в. Цельцы Расонскага р-на Віцебскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], літаратурны крытык. Скончыў партшколу ў Віцебску. У 1925–26 сакратар Народнага дома пры выканкаме Расонаў. Член Беларускай літаратурна-мастацкай камуны (1927–28). Друкаваўся ў час. «Росквіт». Працаваў у газ. «Чырвонаармейская праўда». Выступаў з рэцэнзіямі на творы П. Броўкі, А. Александровіча, Я. Скрыгана, Г. Брэскай і інш. У 1928 паступіў у БДУ (пры дапамозе наркама асветы А. Баліцкага і П. Шукайлы).

З успамінаў Я. Скрыгана: *«Я жыў з Макарам Шалаем, чалавекам нястрымнага запалу спрэчак. Ён назубок ведаў класікаў марксізму, Чарнышэўскага, Герцэна, Дабралюбава, Пісарава, Пляханава і логікай іх мыслення збіваў з ног любога праціўніка. Ён не мысліў сябе без спрэчак і шукаў толькі такога асяроддзя…*

*Мы, асабліва Макар Шалай і Апанас Сідарэнка, заспрачаўшыся па якой кнізе ці па якому пытанню эстэтыкі, маглі забыць на абед, на вячэру, хапацца за чубы, прасядзець усю ноч, плаваючы ў сінім дыме…»*

З восені 1928 — член «Маладняка», потым БелАППа. Арыштаваны 15.3.1933 па справе «Беларускай народнай грамады». Пасля катаванняў вызвалены з дыягназам шызафрэнія. Пасля вызвалення вярнуўся на радзіму. У сярэдзіне 1930-х г. выкладаў літаратуру ў Расонскай СШ. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Другі раз арыштаваны 17.11.1936, верагодна, у мяст. Расоны Віцебскай вобл. Перавезены ў Мінск.

З успамінаў С. Грахоўскага: *«З «амерыканкі», унутранай турмы НКВД у Мінску, мяне перавялі ў старую турму на вуліцы Валадарскага. Пасля адзіночкі ў «амерыканцы», дзе я амаль развучыўся гаварыць, у вялікай «замкавай» камеры, нягледзячы на глыбокую ноч, мяне сустрэлі — бог ты мой! — сябры-пісьменнікі Сяргей Дарожны, Сымон Куніцкі, Макар Шалай... На прагулку нас выводзілі ў турэмны двор, які быў разбіты на маленькія клетачкі метраў па дваццаць — дваццаць пяць. У гэтых клетках мы і хадзілі кругам... Кругам у клетках...»*

Асуджаны 28.10.1937 тройкай НКВД як «член антысавецкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.7.1957. Асабовая справа Ш. № 6742-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000; *Рэпрэсаваныя...*

**ШАСТАКОЎ Павел Пятровіч** [1889, в. Манастыршчына Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], рэдактар, журналіст, педагог, дзяржаўны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. З 1906 працаваў настаўнікам школы граматы ў в. Шэнькаўка Мсціслаўскага пав. У 1907 паступіў у Полацкую настаўніцкую семінарыю. З 1912 настаўнічаў у Мсціславе. У жн. 1913 быў залічаны ў Віцебскі настаўніцкі інстытут. З пачаткам 1-й сусветнай вайны мабілізаваны ў войска. У 1916 стаў прапаршчыкам. Ваяваў на Румынскім фронце. У 1917 пераведзены ў Маскву. У пачатку 1918 вярнуўся ў Мсціслаў. Удзельнічаў у падрыхтоўцы першага павятовага з'езда Саветаў. Працаваў загадчыкам аддзела народнай асветы. Зімой 1920 прызначаны ваенным камісарам павета. Потым стаў рэдактарам павятовай газ. «Думы бедняка», у якой публікаваў свае артыкулы і вершы. У 1920 пераехаў у Мінск. Служыў начальнікам палітасветы губваенкамата. З-за хваробы пакінуў армію. З 1921 працаваў у Мсціславе загадчыкам павятовага зямельнага аддзела. Потым прызначаны загадчыкам аддзела народнай асветы Магілёўскага акруговага выканкама. Пісаў нарысы і артыкулы па-беларуску і па-руску, публікаваўся ў мясцовай прэсе, у газ. «Савецкая Беларусь». Увосень 1926 пераведзены ў Маскву, прызначаны загадчыкам бел. сектара Камуністычнага ун-та нацыянальных меншасцяў Захаду імя Ю. Мархлеўскага, дзе таксама выкладаў бел. мову і літаратуру. Арганізаваў у Маскве святкаванне 20-годдзя літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа. Быў адным з укладальнікаў зборніка артыкулаў «Літаратурная творчасць К. М. Міцкевіча (Якуба Коласа)» (М., 1928), аўтар уступнага артыкула ў зборніку. Удзельнічаў у стварэнні Цэнтральнага беларускага клуба ў Маскве (лют. 1928), член праўлення клуба. З восені 1928 — у Мінску. Сябраваў з Я. Купалам. З чэрв. 1929 рэдактар газ. «Рабочий». У верас. 1929 прызначаны рэдактарам газ. «Савецкая Беларусь», дзе публікаваў свае нарысы і артыкулы. У апошнім нумары газеты выступіў з крытыкай бюракратычных парадкаў (артыкул «Лісты знізу»). 21.3.1933 газета была закрыта. У маі 1933 прызначаны рэдактарам газ. «Калгаснік Беларусі». Зрабіў выданне папулярным сярод чытачоў і аўтараў. У жн.

1935 газета закрыта. Ш. прызначаны дырэктарам Белдзяржвыдавецтва. Падчас арышту — нам. наркама асветы БССР, старшы кансультант Белдзяржкіно БССР. Быў жанаты, гадаваў двое дзяцей. Арыштаваны 30.1.1937 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, 16 (2-гі Дом Саветаў). Асуджаны 28.10.1937 як «член дыверсійна-шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны 29.10.1937. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.11.1956. Асабовая справа Ш. № 7772-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

20.11.1937 у Мінску арыштаваны вучань адной з мінскіх школ **Вадзім Паўлавіч Шастакоў** (н. ў 1921), сын Паўла Шастакова. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД СССР 16-гадовы падлетак быў асуджаны як «член сям'і здрадніка радзімы» да 5 гадоў ППК. Далейшы яго лёс невядомы.

10.2.1933 у Мінску па адрасе: вул. Першамайская, д. 11, кв. 3 арыштаваны адказны сакратар Наркамата земляробства БССР **Шастакоў Сяргей Пятровіч** (н. ў 1896 у в. Манастыршчына Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія; атрымаў вышэйшую адукацыю; у 1919–22 служыў у Чырвонай арміі), брат Паўла Шастакова. 8.5.1933 асуджаны як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Далейшы яго лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 16.7.1958. Асабовая справа Ш. № 11070-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Верагодна, рэпрэсавана і жонка Ш.

Тв.: Да новых перамог на культурным фронце // *Савецкая Беларусь.* 1928. 14 кастр.; Лісты знізу // Там жа. 1933. 21 сак.

Кр.: *Карніловіч Э.* Сябра Янкі Купалы // *Маладосць.* 1995. № 10; *Рэпрэсаваныя...*



**ЮДЭЛЬСОН Арон Ісакавіч** [17.7.1907, Рыга — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, публіцыст. Паходзіў з настаўніцкай сям'і. Пачаў публікавацца ў 1923 у нелегальным друку Латвіі. Да 1928 жыў у Латгаліі, потым пераехаў у Беларусь. З 1929 выступаў у яўрэйскім друку Беларусі. У 1930 паступіў у МПІ. Найбольшы лірызм і мастацкую чуйнасць выявіў у ранні латгальскі перыяд творчасці, калі натуральныя пачуцці яшчэ не былі дэфармаваны класавай ідэалогіяй. Працаваў у рэдакцыі яўрэйскай газ. «Октобэр»,

на радыё. Да 1935 часта публікаваўся ў час. «Штэрн». Член СП Беларусі з 1934. У 1935 быў сакратаром яўрэйскай секцыі СП. Арыштаваны 11.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 98, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член трацкісцкай арганізацыі, які рыхтаваў тэрарыстычны акт» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.4.1957. Асабовая справа Ю. № 10266-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 (?) у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 98, кв. 2 арыштавана інспектар Дзяржаўнага банка, маці дваіх дзяцей **Шур Бася Саламонаўна** (н. ў 1902 у пас. Урэчча Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл., у сям'і службоўца; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Арона Юдэльсона. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 28.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 10.6.1957. Асабовая справа Ч. № 10394-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Камбінат: Паэма. М.; Харкаў; Мн., 1931. Ідыш; Межы: Проза і вершы. Мн., 1934. Ідыш; У нашай сталіцы: (Нарысы). Мн., 1934. Ідыш; Чырванасцяжны калгас «Колас» / Сааўт. Х. Шынклер. Мн., 1934. Ідыш; Прывітанне: Вершы. Мн., 1961.

Кр.: *Базарэвіч М.* Прывітанне светламу дню // *ЛіМ.* 1961. 29 жн.; *Хведаровіч М.* Ён быў у нашым страі // *ЛіМ.* 1967. 18 ліп.; *БП.* Т. 6; *Жертвы политического террора...; Рэпрэсаваныя...*

**ЯРКІН Віктар Іванавіч** (29.11(9.12).1889, в. Дзякоўскае Раманаў-Барысаглебскага пав., цяпер Тутаеўскі р-н Яраслаўскай вобл., Расія — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД), дзяржаўны дзеяч БССР. Скончыў Кіндзякоўскае народнае вучылішча (1901). У 1902–05 член арганізацыі анархістаў-камуністаў на Пуцілаўскім заводзе (Пецярбург). У 1-ю сусветную вайну на Зах. фронце (1915–17). З 1918 старшыня ЧК Зах. вобл. у Смаленску. Са студз. 1919 старшыня ЧК БССР, адначасова з сак. 1919 старшыня Мінскага гарсавета. З мая 1919 на чэкісцкай рабоце ў Паволжы. З 1921 у сістэме Наркамата шляхоў зносін СССР. У 1935–37 начальнік службы Дняпроўска-Дзвінскага параходства ў Гомелі. Дэлегат І з'езда КП(б)Б (снеж. 1918), І Усебел. з'езда Саветаў (лют. 1919). Член ЦБ КП(б)Б, ЦК КП(б)ЛіБ, ЦВК БССР і Літ.-Бел. ССР. 26.2.1937 арыштаваны і 28.10.1937 тройкай НКВД асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1967.

Літ.: *ЭГБ.* Т. 6/2.

# РАССТРАЛЯНЫЯ Ў МІНСКАЙ УНУТРАНАЙ ТУРМЕ НКВД У ПЕРЫЯД КРЫВАВАГА ТУНЕЛЯ СМЕРЦІ
## (жнівень 1937 — лістапад 1938)

**19 жніўня 1937**

ВАРАНЕЦ Іван (Іаан) Васілевіч*[1] (н. 20.6.1864), праваслаўны святар, свяшчэннамучанік. Чарговы раз арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

ЖУДРО Казімір Іпалітавіч (4.3.1897), рабочы Бярэзінскага лесакамбіната. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

КЕБІЧ Канстанцін Паўлавіч (1882), працаваў у калгасе «Чырвоны бераг»[2]. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

КУЛІКОЎСКІ Ігнат Гіляравіч**[3] (1870), вартаўнік калгаса «Бальшавік». Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

ЛУХВІЧ Іван Язэпавіч** (1898), цясляр калгаса «Ударнік». Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

ПЛЫШЭЎСКІ Міхаіл Пятровіч* (1.11.1862), праваслаўны святар, свяшчэннамучанік. Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

РАСОЛЬКА Сцяпан Цярэнцевіч (1872), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

САМУСКЕВІЧ Канстанцін Мікалаевіч (21.5.1868), працаваў у калгасе імя Куйбышава. Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

ШПАКОЎСКІ Аляксандр Францавіч* (15.7.1874 або ў 1875), брат В. *Шпакоўскага* (гл.: расстраляныя 2.3.1938) і І. *Шпакоўскага* (гл.: 26.3.1938), былы стараста Ільінскай царквы ў мяст. Шацк Пухавіцкага р-на. Чарговы раз арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

**21 жніўня 1937**

БУДКЕВІЧ Барбара* (20.11(2.12).1886), гісторык. Арыштавана ў 1937.

---

[1] З біяграфіямі персаналіяў, адзначаных зорачкай, можна азнаёміцца: Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991. Энцыклапедычны даведнік: У 3 т. (4 кн.). Мн., 2002—2005; Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі. 1917—1967. Энцыклапедычны даведнік: У 2 т. Мн., 2007; Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Мінска. У 4 кн. Кн. 3. Мн., 2004; а таксама ў *ЭГБ, БЭ* і іншых выданнях.

[2] Удакладніць цяперашняе месцазнаходжанне тагачасных калгасаў, саўгасаў, лесгасаў, леспрамгасаў, лесхімгасаў і г. д. для гэтага выдання не ўяўлялася магчымым.

[3] Персаналіі, адзначаныя дзвюма зорачкамі, *хутчэй за ўсё*, расстраляны ў Мінскай турме НКВД.

### 22 жніўня 1937

ВАСІЛЬЕЎ Аляксій Піліпавіч* (1870), праваслаўны святар. Чарговы раз арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 9.8.1937.

НАВАКОЎСКІ Ігнат Дамінікавіч (вер. 1892). Арыштаваны 30.5.1937. Асуджаны 17.8.1937.

### 25 жніўня 1937

АНТАНЕВІЧ Вікенцій Гіляравіч (1870), пенсіянер (Бярэзінскі р-н). Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

БІРУКОВІЧ Леанід Платонавіч* (1866 ці 1871), праваслаўны святар, свяшчэннамучанік. Чарговы раз арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ГОМАН Васіль Якаўлевіч (1877), працаваў у калгасе «Ударнік». Арыштаваны 16.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

КАЗЮКА Рыгор Міхайлавіч** (1886), вартаўнік рачнога параходства (Бярэзінскі р-н). Арыштаваны 19.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

КАЛЕНІК Мікалай Піліпавіч (1875), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 19.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

КІМБАР Пётр Баляслававіч (1905), працаваў у калгасе «Чырвонае Беразіно». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

КУР'ЯНОВІЧ Кузьма Яфімавіч (1872), калгаснік. Арыштаваны 23.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ЛАМАКА Іван Якаўлевіч (1886). Арыштаваны 19.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ПАЛЯГОШКА Павел Міхайлавіч (8.11.1871), вартаўнік калгаса «Прагрэс». Арыштаваны 20.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ПРАШЫНСКІ Эдуард Іванавіч (1886). Арыштаваны 10.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ПЯТКЕВІЧ Антон Антонавіч (20.3.1887), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 20.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

РУДАКОЎСКІ Язэп Францавіч (1872), працаваў у калгасе «Чырвонае Беразіно». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

УРУБЛЕЎСКІ Браніслаў Вікенцевіч (1903), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 20.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ШУКАН Іван Канстанцінавіч (4.2.1884), рабочы саўгаса «Раванічы». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

### 27 жніўня 1937

АБРАМОВІЧ Людвіг Язэпавіч (1867), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 19.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

АНДРЭКУС Канстанцін Антонавіч* (1870 або 1875), каталіцкі святар. Паводле некаторых звестак, чарговы раз арыштаваны ў чэрв. 1937. Асуджаны 25.8.1937.

АРЛОЎСКІ (СВІРЫДОЎСКІ) Баляслаў (Казімір) Іванавіч* (1907), галоўны адміністратар Тэатра юнага гледача ў Мінску. Арыштаваны 6.5.1937. Асуджаны 25.8.1937.

БАБРОЎНІЦКІ (БАБРАЎНІЦКІ) Язэп Міхайлавіч (1904), інструктар па грамадскім харчаванні Белхарчгандлю ў Мінску. Арыштаваны 30.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

БАРАВІК Ян Антонавіч* (2.6.1877), каталіцкі святар. Арыштаваны 31.5.1937. Асуджаны 25.8.1937.

БЯЛЁК (БЕЛЕК) Міхаіл Тамашавіч (1882), загадчык аранжарэі трэста «Зеленбуд» у Мінску. Арыштаваны 9.3.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ВАСІЛЕЎСКІ Іван Аляксандравіч (1901), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ВЯНГЕРСКІ Уладзімір Антонавіч (1911), рымар-саматужнік. Арыштаваны 11.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ГАРАЎСКІ Вільгельм Іванавіч* (19.4.1908), польскі празаік. Арыштаваны ў пачатку 1937.

ГАРАЎСКІ-ГРАКАЛА Адам Іванавіч* (16.1.1905), брат В. *Гараўскага,* навуковы супрацоўнік БелАН. Арыштаваны 21.1.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЖДАНОВІЧ Вячаслаў Антонавіч (1857). Арыштаваны 26.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ЗАВАДСКІ Аляксандр Пятровіч (1914), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 26.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЗАРЭМБСКІ Фелікс Паўлавіч* (20.5.1893), выкладчык Мінскага тэхнікума народна-гаспадарчага ўліку. Арыштаваны 20.1.1937. Асуджаны 25.8.1937.

КАВАЛЕНЯ Аляксандр Дзмітрыевіч* (21.2(5.3).1895), археолаг. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 25.8.1937.

КАЗЛОЎСКІ Іван Войцехавіч (1910), працаваў у калгасе «Новае жыццё». Арыштаваны 15.6.1937. Асуджаны 25.8.1937.

КАЗЛОЎСКІ Пётр Цярэнцевіч (16.2.1893), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

КАЗЛОЎСКІ Фёдар Войцехавіч (1907), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 11.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

КЕМЯЖУК (ІВАНОВА) Аляксандра (Марыя) Пятроўна* (15.11.1898). Працавала дырэктарам школы ў в. Іванішчавічы, цяпер Слаўгарадскі р-н. Арыштавана 2.2.1937. Асуджана 25.8.1937.

КЛЯЦКО Барыс Тарасавіч** (1878), працаваў у калгасе «Памяць Леніна». Арыштаваны 15.6.1937. Асуджаны 17.8.1937.

КОРБУШ Яўген Іванавіч* (1905), артыст драматычнага тэатра ў Фрунзе. Арыштаваны 20.7.1937. Асуджаны 25.8.1937.

КРАСНІК Казімір Іванавіч (1894), брат М. *Красніка* (гл.: 3.12.1937), часова в.а. дырэктара саўгаса «Чырвоны сувязіст». Арыштаваны 24.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЛАДУЦЬКА Ануфрый Максімавіч (1871), працаваў у калгасе «Перадавік». Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ЛАРЫЁНАЎ-БОГУШ Васіль Аляксандравіч (1908). Арыштаваны 29.3.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЛЯЎДАНСКІ Аляксандр Мікалаевіч* (29.8(10.9).1893), археолаг, прафесар. Арыштаваны 19.5.1937. Асуджаны 25.8.1937.

МІКЛУШ Франц Якаўлевіч (29.1.1877), начальнік Мінскага паляўнічага спартыўнага камітэта. Арыштаваны 28.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

МІЦЬКО Аркадзь Міхайлавіч (4.1.1903). Арыштаваны 16.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ПАВАРЫЧ Дзмітрый Яўсеевіч (1889), працаваў у калгасе «Важаты». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ПАЛАНЕВІЧ Феліцыян Аляксандравіч (20.11.1893), працаваў у калгасе «Дзяржынскі». Арыштаваны 23.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ПУТОН Язэп Карлавіч (1890), працаваў у калгасе імя Чарвякова. Арыштаваны 17.6.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ПРЫТУЛА Аляксандр Францавіч (Фаміч)* (12.11.1879), каталіцкі святар. Чарговы раз арыштаваны 5.6.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ПРЫШЧЭПЧЫК Язэп Казіміравіч (13.12.1884), працаваў у калгасе «Чырвоны Усход». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

РАДКЕВІЧ Язэп Іванавіч (14.2.1894), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

РАЙКО Станіслаў Міхайлавіч* (1873), каталіцкі святар. Арыштаваны 13.2.1937. Асуджаны 25.8.1937.

РЫНЕЙСКІ Антон Альгердавіч* (1903), археолаг, гісторык, краязнавец. Арыштаваны 19.5.1937. Асуджаны 25.8.1937.

САК Аляксандр Мікалаевіч* (14.8.1890), каталіцкі святар, паэт. Чарговы раз арыштаваны 11.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

САМСОНЧЫК Рыгор Васілевіч (1895), цясляр. Арыштаваны 9.5.1937. Асуджаны 25.8.1937.

СЕЧКА (Сячко) Іван Вікенцевіч (1890), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 14.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

СНАЦКАЯ Марыя Аляксандраўна* (1913), музыкант. Арыштавана ў 1937. Асуджана 25.8.1937.

ЦУПКА Вацлаў Міхайлавіч (1914), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 10.3.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ШКУРДЗЭ Аляксандр Рыгоравіч (16.9.1907), рабочы ў Мінску. Арыштаваны 23.4.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЯНУКОВІЧ Пётр Янавіч* (18.10.1863), каталіцкі святар. Чарговы раз арыштаваны 9.6.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЯСЬКЕВІЧ Мікалай Вікенцевіч (1871), касір калгаса «Спартак». Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ЯЧЭЙКА Антон Ігнатавіч* (11.3.1873), каталіцкі святар. Арыштаваны 7.6.1937. Асуджаны 25.8.1937.

**29 жніўня 1937**

АНТАНЕВІЧ Віктар Адольфавіч (3.1.1887), брат Вікенція *Антаневіча* (гл.: 18.11.1938), працаваў у калгасе «Чырвоная зараніца». Арыштаваны 19.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ЛЕАНОВІЧ Аркадзь Мікалаевіч** (26.8.1919), навучэнец. Арыштаваны 8.5.1937. Асуджаны 29.8.1937.

КАЗЛОЎСКІ Іван Язэпавіч (1890), працаваў у калгасе «Чырвоны баявік». Арыштаваны 18.6.1937. Асуджаны 27.8.1937.

РАХАНСКІ Язэп Мікалаевіч (20.3.1878), пастух калгаса «10-ты з'езд Саветаў». Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

УСАЧОНАК Купрыян Іванавіч (1874), працаваў у калгасе «Энергія». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ШАЛУПЕНКА Яфім Раманавіч (1880), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 19.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ЮРЭЦКІ Мікалай Міхайлавіч (1906), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 29.3.1937. Асуджаны 29.8.1937.

**31 жніўня 1937**

ВЯРБІЦКІ Язэп Карлавіч (1878), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ДЗЕГЦЯРОЎ Давыд Мінавіч (1865), калгаснік. Арыштаваны 19.5.1937. Асуджаны 12.8.1937.

ДЗЕГЦЯРОЎ Іван Мінавіч (1872), брат Д. *Дзегцярова*, калгаснік. Арыштаваны 19.5.1937. Асуджаны 12.8.1937.

ЕРЧАКОВІЧ Іван Язэпавіч (1880), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

МАСЛОЎСКІ Барыс Вікенцевіч (2.1.1870). Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

МІЛАШЭЎСКІ Вікенцій Канстанцінавіч (1891), працаваў у калгасе «Памежнік». Арыштаваны 21.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ПІТКЕВІЧ Аляксандр Казіміравіч (30.8.1888), працаваў у калгасе «Світанак». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

РУДЗІК Лукаш Іванавіч (1856), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 12.8.1937.

РУДЗІК Якаў Лукашавіч (1881), сын Л. *Рудзіка*, селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

ЧАХОВІЧ Станіслаў Юльянавіч (1870), селянін-аднаасобнік. Асуджаны 12.8.1937.

ШЫХ Міхаіл Андрэевіч (1896), працаваў у калгасе імя Гікалы. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 22.8.1937.

**2 верасня 1937**

БАСЬКО Ціт Адамавіч (крас. 1873), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 21.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

БАТУРЫЦКІ Язэп Іванавіч (1904), возчык Шацкага леспрамгаса. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ВАСІЛЬЕЎ Сергій* (1870), протаіерэй. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ВІКТАРОВІЧ Авакум Іванавіч (ліп. 1873), каваль калгаса «10 год ЛКСМБ». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ВОСІПЧЫК Пётр Васілевіч (18.8.1877), працаваў у калгасе імя Куйбышава. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ГАПАНОВІЧ Сцяпан Казіміравіч* (1865), былы псаломшчык Ільінскай царквы ў мяст. Шацк Пухавіцкага р-на. Чарговы раз арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ГАРЭЛЬСКІ Кандрат Пятровіч (10.3.1875), працаваў у калгасе імя Калініна. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ДАКУЦЬКА (ДАКУЦЬКО) Васіль Міхайлавіч** (1868), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ДЗЕМІДОВІЧ Сцяпан Дзмітрыевіч (1900), рабочы. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ДЗЯЎГО (ДЗЯЎГА) Іван Мікалаевіч (1864), працаваў у калгасе імя Кірава. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ДОЎНАР Антон Мартынавіч (1885), працаваў у калгасе «Світанак». Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЖЫВІЦА Мамерт Антонавіч (1875), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

КАТЛІНСКІ Ілья Пятровіч (1880), рабочы Шацкага лясніцтва. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

КСЯНЕВІЧ Язэп Адамавіч (1892), працаваў у калгасе «Праца». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЛАГАЦКІ Іван Язэпавіч (1878), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЛАДУЦЬКА Нічыпар Пятровіч (1874), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЛЯПЁШКА Васіль Савіч (1875), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

МАКАСЬ Пракоп Міхайлавіч (1875), цясляр. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

РАЗЕНГАУЗ Капель Вульфавіч (1869), рамізнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

СЛІЗЕВІЧ Антон Феліцыянавіч (1878), працаваў у калгасе «Праца». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ТРАЦЭЎСКІ Антон Міхайлавіч (1874), працаваў у калгасе «Світанак». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ШРУБОК Герасім Язэпавіч (1870), працаваў у калгасе «Чырвоная Беларусь». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ШЫЛАЙ Аляксей Рыгоравіч (1870), працаваў у калгасе «Новы шлях». Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

**4 верасня 1937**

БАЧЫЛА Пётр Міронавіч** (8.5.1884), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 19.7.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ВЕРЫН Іван Дзмітрыевіч (21.9.1876), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ГАЛІМСКІ Антон Лукіч** (1886), працаваў у калгасе «Камвуз Беларусі». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ГАЎРЫЛЬЧЫК Іван Прохаравіч** (1874), возчык Чэрвеньскага леспрамгасу. Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ДАШКЕВІЧ Язэп Аляксандравіч** (1886), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 10.7.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ДЗЕВЯЛТОЎСКІ Напалеон Міхайлавіч** (1867), працаваў у калгасе імя Молатава. Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ЗЫЛЬ Рыгор Іванавіч** (18.4.1905), калгаснік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 25.8.1937.

ІГНАШАЎ Кузьма Мікітавіч** (1884), працаваў у калгасе «Энергія». Арыштаваны 21.7.1937. Асуджаны 25.8.1937.

РАСОЛЬКА Васіль Каленікавіч** (1876), працаваў у калгасе «Перамога». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

РЫСЬ Мікіта Кузьміч** (1867), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

СВІРЫД Фёдар Кандратавіч** (1872), працаваў у калгасе імя Куйбышава. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

СВІСТУН Сільвестр Міхайлавіч** (1889), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

СУРОВІЧ Аляксей Пятровіч** (1887), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

**5 верасня 1937**

ВАРАПАЙ Баляслаў Адольфавіч (1893), працаваў у калгасе «Чырвоны памежнік». Арыштаваны 29.11.1936. Асуджаны 3.7.1937.

ДЗЯРКАЧ (ЗІМІЁНКА) Анатоль Рыгоравіч* (6(18).4.1887), паэт, сатырык, гумарыст. Арыштаваны 16.10.1936. Асуджаны ў 1937.

**9 верасня 1937**

ГОПЦАР (ГАПЦАР) Уладзімір Несцеравіч (1908), брат У. *Гопцара (Гапцара)* (гл.: 2.11.1937), каваль калгаса «На варце». Арыштаваны 20.7.1937. Асуджаны 30.8.1937.

ГРЫНЕВІЧ Сцяпан Юльянавіч (10.8.1873). Арыштаваны 12.8.1937. Асуджаны 30.8.1937.

ГУЛІНСКІ Вікенцій Гаўрылавіч (1893). Асуджаны 5.11.1937.

**11 верасня 1937**

ПЛЯШКЕВІЧ Іван Мацвеевіч (1894), брат П. *Пляшкевіча* (гл.: 25.10.1937), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 8.9.1937.

**14 верасня 1937**

АКУЛІЧ Станіслаў Баляслававіч (1894), калгаснік. Арыштаваны 19.7.1937. Асуджаны 7.9.1937.

АНОШКА Антон Мацвеевіч (1891), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

АХРАМОВІЧ Ігнат Вінцэсевіч (8.3.1894), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ВАЛАДЗЬКО Іван Станіслававіч (1898), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ВАНЬКЕВІЧ Феафіл Сямёнавіч (1895), працаваў у калгасе «Ленінскі шлях». Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ВАСІЛЕЎСКІ Іван Язэпавіч (1894), працаваў у калгасе імя Фрунзе. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ВІТКОЎСКІ Іван Францавіч (крас. 1894), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ВЯРЫГА Віктар Язэпавіч (1901), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 17.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ГАЛУБЕЦ Аляксей Васілевіч (1916), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 19.7.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ГОМАН Ігнат Мікалаевіч (13.12.1889), грузчык Дулебскага лесмехпункта (Бярэзінскі р-н). Чарговы раз арыштаваны 8.6.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ГРАБЛЮК Міхаіл Мікалаевіч (1872), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ГРЫБКО Іван Іванавіч (1871), працаваў у калгасе «Ударнік». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ГУШЧА Караль Андрэевіч (10.11.1903), калгаснік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ДЗЕНІСЕВІЧ Сафрон-Купрыян Пятровіч (1864), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ Язэп Антонавіч (1905), праваднік вагонаў Мінскага спіртзавода. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ДЫЛЕВІЧ Нічыпар Максімавіч (1869), вартаўнік саўгаса «Красавіна». Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ЖДАНОВІЧ Павел Васілевіч (май 1908), працаваў у калгасе «Ільіч». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ЗАЛАТУН Казімір Язэпавіч (1856). Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

КАСПЯРОВІЧ Язэп Аляксандравіч (1865), пенсіянер. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

КАСЦЕВІЧ Аляксей Цімафеевіч (1906), працаваў у калгасе «Горкі». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 7.9.1937.

КАШКАН Яўстафій Купрыянавіч (1890), даглядчык жывёлы саўгаса «Маладая гвардыя». Арыштаваны 13.7.1937. Асуджаны 7.9.1937.

КІРШТЭЙНЕР Канстанцін Язэпавіч (1877). Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

КРУГЛІК Фядос Яўменавіч (1870), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 14.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

КУДЗІН Яўстафій Ісакавіч (1865), фельчар-прыватнік у Чэрвені. Арыштаваны 10.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ЛІПНІЦКІ Адам Язэпавіч (?), працаваў у калгасе «Чырвоны партызан». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ЛЯЦЕЦКІ Леанард Юльянавіч (1875), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ПАДДУБНЫ Пётр Цімафеевіч (сак. 1901), працаваў у калгасе «Пераможца». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ПАТАПОВІЧ Цімафей Ігнатавіч (1873), працаваў у калгасе «Калгаснік Беларусі». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ПАЎЛОВІЧ Феліцыян Фёдаравіч (1895), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.9.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ПЯТКЕВІЧ Адам Антонавіч (1884), бондар-саматужнік (Бярэзінскі р-н). Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

РАДКЕВІЧ Антон Вікенцевіч (1887). Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

САЙКОЎСКІ Пётр Язэпавіч (1868), калгаснік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

СОКАЛ Фёдар Дзмітрыевіч (1881), пячнік. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

СТРАМОК Барыс Максімавіч (2.5.1879). Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ТУМІЛОВІЧ Іван Антонавіч (1903), працаваў у калгасе імя Войкава. Арыштаваны 3.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ТУМІЛОВІЧ Іван Феліцыянавіч (студз. 1874), працаваў у калгасе імя Войкава. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ТУМІЛОВІЧ Станіслаў Антонавіч (1.7.1885), працаваў у калгасе імя Войкава. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ТУРОМША Дзяніс Феліксавіч (1856), рымар калгаса «Чырвоная змена». Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

УСЦІНОВІЧ Станіслаў Антонавіч (1909), вартаўнік Багушэўскага млына (Бярэзінскі р-н). Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ХАЦКЕВІЧ Аляксандр Язэпавіч (1892), касір канторы «Заготскот» (Мінскі р-н). Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ЦЫБЕНТОВІЧ (10.2.1863). Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ЧАРНЯК Пётр Паўлавіч (1867), пастух. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ШПІЛЕЎСКІ Іпаліт Вікенцевіч (1886), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ЯКУБОЎСКІ Язэп Язэпавіч (8.8.1877), рабочы. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ЯЦЭВІЧ Антон Антонавіч (1876), працаваў у калгасе «Юны камунар». Арыштаваны 5.5.1937. Асуджаны 7.9.1937.

### 17 верасня 1937

АЎДЗЕЙ Мікалай Міхайлавіч (5.8.1914), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 16.6.1937. Асуджаны 9.9.1937.

БАРАН Васіль Андрэевіч (22.3.1919), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 23.4.1937. Асуджаны 9.9.1937.

ВАСЮТА Юрый Язэпавіч (6.1.1905), шавец. Арыштаваны 26.2.1937. Асуджаны 9.9.1937.

КЛЮЧНІК Сцяпан Іванавіч (14.6.1918), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 23.4.1937. Асуджаны 9.9.1937.

ЛАЗАР Аляксандр Ягоравіч (1889), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 31.5.1937. Асуджаны 9.9.1937.

МАСЛОЎСКІ Аляксандр Фадзеевіч (1880), рабочы. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 17.9.1937.

РАКІЦКІ Андрэй Якубавіч (1872), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 17.9.1937.

СПЕЦЫЯН Міхаіл Аляксандравіч (1918), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 23.4.1937. Асуджаны 9.9.1937.

ЮХНОВІЧ Антон Язэпавіч (1899), рабочы. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

### 18 верасня 1937

БАКАЧЭЎСКАЯ Вольга Антонаўна (1918), сялянка-аднаасобніца. Арыштавана 28.4.1937. Асуджана 14.9.1937.

ГЕРАСІМЧУК Міхаіл (12.12.1911), грузчык чыгуначнай ст. Уша. Арыштаваны 28.4.1937. Асуджаны 14.9.1937.

ГРЫШЭЛЬ Канстанцін Вікенцевіч (1.7.1907), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 27.4.1937. Асуджаны 14.9.1937.

ЛОКАЧ Язэп Вікенцевіч (24.3.1914), радавы 5-й батарэі 19-га артылерыйскага палка ў Мінску. Арыштаваны 12.5.1937. Асуджаны 14.9.1937.

ПЕТРУСЕВІЧ Адам Сямёнавіч (1896), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 1.5.1937. Асуджаны 14.9.1937.

СЕМАШКЕВІЧ Антон Піліпавіч (6.6.1908), кравец. Арыштаваны 10.7.1937. Асуджаны 14.9.1937.

СТАХОЎСКІ Аляксандр Васілевіч (1895), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 26.4.1937. Асуджаны 14.9.1937.

### 20 верасня 1937

ГУРЭЦКІ Міхаіл Станіслававіч (чэрв. 1906), плытагон Бярэзінскай сплаўканторы. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 23.9.1937.

ТРАЦЭЎСКІ Браніслаў Іванавіч** (1892), працаваў у калгасе «Світанак». Арыштаваны 7.8.1937. Асуджаны 25.8.1937.

### 22 верасня 1937

КАЗЛОЎСКІ Васіль Язэпавіч (1874), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 22.9.1937. Паводле іншых звестак, расстраляны 28.9.1937.

### 23 верасня 1937

БАНЦАРЭВІЧ Станіслаў Ігнатавіч (1892), рабочы. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

БІВЕЙНІС Ігнат Іванавіч (18.10.1875), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

ВАРЭНІК Вікенцій Станіслававіч (1870). Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

ВАСІЛЕЎСКАЯ Міхаліна Валяр'янаўна (1887), хатняя гаспадыня. Арыштавана 6.8.1937. Асуджана 17.9.1937.

ГІРО (ГІРА) Язэп Карпавіч (20.9.1879), калгаснік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

ЗАГОРСКІ Адам Язэпавіч (лют. 1885), калгаснік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

КАСАБУКА Пётр Паўлавіч (1880), працаваў у калгасе «Чырвоны Кастрычнік». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 17.9.1937.

ЛАЗОЎСКІ Станіслаў Іванавіч (1902), механік лесапільнага завода ў Плешчаніцах. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 17.9.1937.

ЛЯПЛЯНІН Вікенцій Астапавіч (1880), працаваў у калгасе «13-годдзе». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

ПАШКУН Браніслаў Карлавіч (8.7.1888), конюх «Чырвонай арцелі». Арыштаваны 7.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

ПЛЕНКА (ПЛЯНКО) Казімір Юр'евіч (4.3.1886), рахункавод Трасцянецкага сельсавета. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

ПРОХАРЧЫК Рыгор Яўменавіч** (1882). Арыштаваны 17.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

ПЯНКРАЦІК Рыгор Мікалаевіч (1869), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 7.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

САКОВІЧ Мікалай Нічыпаравіч (15.4.1872), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

СІВЕЦ Станіслаў Антонавіч (1890), загадчык млына калгаса «Чырвоны бор». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

СКАРАБАГАТАЯ Марыя Адамаўна (1901), рабочая Заслаўскага леспрамгаса Мінскага р-на. Арыштавана 6.8.1937. Асуджана 7.9.1937.

СУКАЛА Іосіф Пятровіч* (1901), паэт, настаўнік. Чарговы раз арыштаваны ў 1936 або ў 1937.

СЯНЧУК Франц Язэпавіч (25.5.1889), працаваў у калгасе «Усход». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 7.9.1937.

ТРАЕЦКІ Аляксей* (1900), празаік, драматург, паэт. Арыштаваны 6.5.1937.

УРУБЛЕЎСКІ Іван Феафілавіч (1889), дворнік Мінскай швейнай фабрыкі імя Крупскай. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

ЯКУБОЎСКІ Фёдар Міхайлавіч (1868), рабочы. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 17.9.1937.

### 26 верасня 1937

АКУЛІЧ Пётр Язэпавіч (1897), кладаўшчык калгаса «Улада Саветаў». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

АЛЬШЭЎСКІ Дзям'ян Емяльянавіч (5.10.1892), працаваў у калгасе «Журавок». Арыштаваны 18.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

АЛЬШЭЎСКІ Сцяпан Емяльянавіч (25.9.1902), брат Дз. *Альшэўскага*, працаваў у калгасе «Журавок». Арыштаваны 18.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

АФЕНБЕРГ Якаў Вільгельмавіч (30.10.1869). Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

БАРОЎСКІ Кузьма Іванавіч (1861), працаваў у калгасе «Парыжская камуна». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

БЕЛЬСКІ Мікалай Ісакавіч (1880), працаваў у калгасе «Журавок». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

БЯЛЯЙ Васіль Іванавіч (1896), механік слясарнай майстэрні ваенгандлю ў Мінску. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ВАСЮКОВІЧ Мікалай Васілевіч* (28.3.1882), праваслаўны святар, свяшчэннамучанік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ДРАКА (ДРАКО) Іван Васілевіч (1903), старшыня калгаса «Чырвоны бераг». Арыштаваны 25.7.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ДРЫГАНОВІЧ Карл Іванавіч (1866), вартаўнік барысаўскай канторы «Заготлён». Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ЖАРНАСЕК Апанас Кузьміч (1869), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ЗАЛІЎСКІ Роберт Міхайлавіч (25.4.1888), тэхнік-будаўнік базы маслапрама ў Мінску. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ЗАЛУЦКІ Вікенцій Браніслававіч (20.10.1909), рабочы 714-га ўчастка Ушашдара. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

КАЗЛОЎСКІ Іван Вікенцевіч (1865), працаваў у калгасе «Камунар». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

КАРЗЮК Язэп Антонавіч (1861), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

КАШКАН Мітрафан Уладзіміравіч (1906), працаваў у калгасе імя Ільіча. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 16.9.1937.

КАШКАН Язэп Купрыянавіч (1880), працаваў у калгасе імя Ільіча. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

КАШЭЛЬ (КОШАЛЬ) Сцяпан Рыгоравіч (11.1.1883), цясляр 8-й дыстанцыі пуці чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

КЛІМОВІЧ Малання Міхайлаўна (1886), працавала ў калгасе «Перамога». Арыштавана 6.8.1937. Асуджана 16.9.1937.

КРЫВАНОС Канстанцін Іванавіч (1897), працаваў у калгасе імя Будзённага. Арыштаваны 8.9.1937. Асуджаны 16.9.1937.

КРЫВАНОС Мікалай Адамавіч (1901), працаваў у калгасе імя Будзённага. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ЛАВЕЦ Піліп Казіміравіч (1879), старшыня калгаса «Чырвоны пуціловец». Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ЛУКАШЭВІЧ Пётр Рыгоравіч (29.6.1878), брат Паўла *Лукашэвіча* (гл.: 29.10.1938), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 17.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ЛЯХ Васіль Паўлавіч (1862), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ЛЯШОК Дзмітрый Сямёнавіч (ліп. 1893), рабочы торфазавода «Змееўка» (Мінскі р-н). Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 16.9.1937.

МАТУСЕВІЧ Ядвіга Міхайлаўна (3.10.1889), санітарка Бярэзінскай райбальніцы. Арыштавана 6.8.1937. Асуджана 16.9.1937.

МІЦЬКО Максім Максімавіч (1879), касір калгаса «Камунар». Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

МУРЗІЧ Дзмітрый Пятровіч (1887). Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

МУРЗІЧ Уладзімір Адамавіч (1900), рабочы-конюх. Арыштаваны 8.9.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ПАЛЯШЧУК Іван Цітавіч (24.6.1879), працаваў у калгасе «Праца». Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ПАНАСІК Станіслаў Іванавіч (14.5.1899), садоўнік калгаса «Чырвоны сцяг». Арыштаваны 9.8.1937.

ПЛОСКІ Ісідар Ігнатавіч (1877), працаваў у калгасе імя Крупскай. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

РАМАНОВІЧ Аляксей Іванавіч (15.3.1880), працаваў у калгасе «Журавок». Арыштаваны 18.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

РАЎБА Вікенцій Міхайлавіч (1887), бухгалтар. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

РЭМНЕЎ Леанід Трафімавіч (1896), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

САКОВІЧ Уладзімір Язэпавіч (15.4.1893), бухгалтар калгаса «Інтэрнацыянал». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 15.9.1937.

СКУРАТОВІЧ Пётр Антонавіч (1891), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 16.9.1937.

СМОЛЬСКІ Франц Казіміравіч (1900), нам. старшыні калгаса «Орка». Арыштаваны 9.9.1937. Асуджаны 16.9.1937.

СПІРЫДОВІЧ Міхаіл Канстанцінавіч (1897), сталяр. Арыштаваны 13.5.1937. Асуджаны 24.9.1937.

СУШЫЦКІ Франц Ануфрыевіч (1870), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ТРУБСКІ Мікалай Пятровіч (1870), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ТУМІЛОВІЧ Канстанцін Васілевіч (1884), працаваў у калгасе імя Калініна. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ШАЛЕЎ Марк Паўлавіч (1894), ляснік Барысаўскага лясгаса. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 15.9.1937.

ШПІЛЕЎСКІ Франц Язэпавіч (5.2.1889), працаваў у калгасе «Молат». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ШПІЛЕЎСКІ Эдуард Ігнатавіч (1885), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ЭЙСМАНТ Адольф Браніслававіч (1899), працаваў у калгасе «Чырвоная звязда». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

ЭЙСМАНТ Пётр Баляслававіч (1893), цясляр на будаўніцтве Паплаўскай школы. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

**28 верасня 1937**

БІЛЬДЗЮКЕВІЧ Антон Казіміравіч (1890), электраманцёр у Мінску. Арыштаваны 3.11.1936. Асуджаны 22.9.1937.

ВАЙЦЯХОВІЧ Юзэфа Паўлаўна (1903), хатняя гаспадыня. Арыштавана 6.3.1937. Асуджана 22.9.1937.

ВОРС Анастасія Аляксееўна (1907), афіцыянтка сталовай у Мінску. Арыштавана 3.2.1937. Асуджана 22.9.1937.

ВЯНГЛІНСКІ Антон Станіслававіч** (1910), працаваў у калгасе «Чырвоны партызан». Арыштаваны 18.1.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ГАЛУБОК (ГОЛУБ) Уладзіслаў Іосіфавіч* (3(15).5.1882), драматург, празаік, рэжысёр, акцёр, мастак. Арыштаваны 21.6.1936. Асуджаны 22.9.1937.

ГАРАШЭВІЧ Вацлаў Эдуардавіч (1887), рабочы-металіст фабрыкі «Камунарка» ў Мінску. Арыштаваны 3.11.1936. Асуджаны 22.9.1937.

ГАРАШЭВІЧ Ганна Міхайлаўна (4.12.1889), хатняя гаспадыня. Арыштавана 10.3.1937. Асуджана 22.9.1937.

ГАРАШЭВІЧ Станіслаў Вацлававіч (15.1.1912), тэхнік Ушаддара. Асуджаны 22.9.1937.

ГІНТАЎТ Франц Паўлавіч (1880), рахункавод-касір кватэрнай часткі Мінскага гарнізона. Арыштаваны 23.7.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ГЯРАЙЦІС Фелікс Пятровіч (6.2.1914), тэхнік-будаўнік Белторфтрэста. Арыштаваны 29.10.1936. Асуджаны 22.9.1937.

ДАНІЛЬЧЫК Віктар Сцяпанавіч (вер. 1912), тэхнік АТС у Мінску. Арыштаваны 3.11.1936. Асуджаны 22.9.1937.

ЗАВАДСКІ Фёдар Фёдаравіч (1911), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 24.4.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ЗАХАРКЕВІЧ Іван Георгіевіч** (1903), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 21.1.1937. Асуджаны 22.9.1937.

КАМАР (КОМАР) Уладзімір Адольфавіч (10.3.1888), начальнік пажарнай аховы Дзяржынска. Арыштаваны 27.4.1937.

КУЛЬ Язэп Вікенцевіч (1905), рабочы. Арыштаваны 4.6.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ЛЕВАШКЕВІЧ Ганна Язэпаўна (1894), бухгалтар. Арыштавана 28.1.1937. Асуджана 22.9.1937.

ЛЕВАШКЕВІЧ (СЯНЧЫЛА) Ядвіга Язэпаўна (1904), сястра Ганны *Левашкевіч* і Язэпа *Левашкевіча* (гл.: 29.9.1937), сакратар Белхарчгандлю ў Мінску. Арыштавана 16.3.1937. Асуджана 22.9.1937.

ЛІПНІЦКІ Казімір Іванавіч** (1906), рахункавод калгаса «Чырвоны партызан». Арыштаваны 18.1.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ЛІПНІЦКІ Язэп Іванавіч** (1913), брат К. *Ліпніцкага,* працаваў у калгасе «Чырвоны партызан». Арыштаваны 18.1.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ЛОЙКА Міхаіл Фёдаравіч* (1(14).11.1892), эканаміст, географ, матэматык. Арыштаваны 3.12.1936. Асуджаны 22.9.1937.

ЛЯВІЦКІ Эдуард Антонавіч** (1888), працаваў у калгасе «Чырвоны партызан». Арыштаваны 18.1.1937. Асуджаны 22.9.1937.

МАМАЙ Ганна Фамінічна (1912), жонка У. *Мамая* (гл.: 3.10.1937), сялянка-аднаасобніца. Арыштавана 12.2.1937. Асуджана 22.11.1937.

МАТУСЕВІЧ Іван Лукіч (30.3.1902), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 12.2.1937. Асуджаны 22.9.1937.

НАВАСЕЛЬСКІ Дзмітрый Іванавіч (18.12.1896), працаваў у калгасе «Усход». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 16.9.1937.

НАСЕВІЧ Міхаіл Карлавіч (1890), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 11.7.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ПАШКОЎСКІ Аўгуст Антонавіч (1869), пенсіянер. Арыштаваны 28.12.1936. Асуджаны 22.9.1937.

ПАШКОЎСКІ Баляслаў Аўгуставіч (1908), сын А. *Пашкоўскага,* майстар цэнтральных майстэрняў Мінбуда. Арыштаваны 29.11.1936. Асуджаны 22.9.1937.

ПРАКАПОВІЧ Баніфацый (Браніслаў) Гіляравіч (1889). Арыштаваны 12.3.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ПУХЛЯКОЎ Мікалай Адамавіч (1914), тэхнік-будаўнік у Мінску. Арыштаваны 3.11.1936. Асуджаны 22.9.1937.

САБІНА Эмілія (Амелія) Вікенцеўна (1902), сялянка-аднаасобніца. Арыштавана 4.6.1937. Асуджана 22.9.1937.

САРОКА Ігнат Іванавіч (22.1.1900), брат А. *Сарокі* (гл.: 20.2.1938), загадчык пункта нарыхтоўкі «Белпушнина». Арыштаваны 26.4.1937. Асуджаны 22.9.1937.

СЕЛЯЗНЁЎ Аляксей Уладзіміравіч (1909), чарцёжнік Белдзяржпраекта ў Мінску. Арыштаваны 8.11.1936. Асуджаны 22.9.1937.

СТАРАДУБ Канстанцін Адамавіч (1914), шавец. Арыштаваны 29.5.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ФЕДАСЕЕЎ Мікалай Аляксеевіч (1908), слесар завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 5.11.1936. Асуджаны 22.9.1937.

ФЕДАСЕЕЎ Павел Мікалаевіч (16.9.1908), аграном. Арыштаваны 9.11.1936. Асуджаны 22.9.1937.

ЦЯРЭШКА Андрэй Яфімавіч (1901), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 12.2.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ШАРАК Ігнат Адамавіч (1904), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 12.2.1937.

ШПІЛЕЎСКІ Іван Адамавіч (1892), загадчык віннага магазіна Цэнтраспорту ў Мінску. Арыштаваны 27.4.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ШЧАСНАЯ Марыя Андрэеўна (22.12.1910), сястра К. *Шчаснага* (гл.: 28.11.1937), краўчыха. Арыштавана 12.2.1937. Асуджана 22.9.1937.

**29 верасня 1937**

ВАРАНКЕВІЧ Антон Аляксандравіч (21.5.1900), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 17.7.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ЖАБКО (ЖАБКА) Аляксандр Прохаравіч (1873), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 10.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ЖЭЎНА (ЖАЎНО) Адам Андрэевіч (1869), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

КАЛОДНІК Станіслаў Ігнатавіч (1878), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

КАШЭЛЬ (КОШАЛЬ) Адам Пракопавіч (7.11.1895), касір Смалявіцкага дзяржбанка. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 28.9.1937.

КАШЭЛЬ (КОШАЛЬ) Аляксандр Якаўлевіч (7.4.1879), працаваў у калгасе імя Варашылава. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

КУНІЦКІ Язэп Іванавіч (1870), працаваў у калгасе імя Жданава. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ЛЕВАШКЕВІЧ Язэп Язэпавіч (19.3.1909), брат Ганны і Ядвігі *Левашкевіч* (гл.: 28.9.1937), начальнік рамонтнага цэха Мінскай электрастанцыі. Арыштаваны 2.11.1936. Асуджаны 22.9.1937.

МАРФЕЛЬ Сямён Сцяпанавіч (1880), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ТРАЙКОЎСКІ Баляслаў Феліцыянавіч (1890), працаваў у калгасе «Чырвоны сцяг». Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ФІЛІПОВІЧ Тарас Васілевіч (1900), рахункавод калгаса «Новый мир». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ЧАРАПОВІЧ Вікенцій Ігнатавіч (1887), працаваў у калгасе «Камунар». Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

ЯКУБІЦКІ Аляксандр Іванавіч (1.10.1881), рабочы. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

**1 кастрычніка 1937**

АПАЛІНСКІ Аляксандр Язэпавіч (1874), працаваў у калгасе імя Кірава. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

БАГУШЭВІЧ Язэп Людвігавіч (27.11.1879), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

БАРТАШЭВІЧ Ігнат Казіміравіч (1867), сталяр. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

БАРТКЕВІЧ Павел Аляксандравіч (1891), цясляр калгаса «Камуністычная праўда». Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

БРЭЙВА Вітольд Канстанцінавіч (1906), брат К. *Брэйвы* (гл: 26.10.1937), загадчык вытворчасці арцелі «Ударнік». Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 22.9.1937.

БУЛГАК Геранім Станіслававіч (1855), селянін-аднаасобнік. Асуджаны 22.9.1937.

РАСТКОЎСКАЯ Станіслава Карлаўна (1858). Арыштавана ў 1937. Асуджана 5.11.1937.

РЭКШТА Андрэй Фаміч (1893), калгаснік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 5.11.1937.

САЧКЕВІЧ Уладзімір Аляксандравіч (1894), майстар цэха фабрыкі «Чырвоны штампоўшчык» у Дзяржынску. Арыштаваны 28.8.1937. Асуджаны 5.11.1937.

СМАЛЕНСКІ Вацлаў Іванавіч (1888), каваль. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 5.11.1937.

СЫЧ Антон Канстанцінавіч (1890), агент па забеспячэнні люстэркавай фабрыкі ў Мінску. Арыштаваны 13.10.1937. Асуджаны 5.11.1937.

ТАРНАГУРСКІ Віктар Пятровіч (1898), памочнік бухгалтара «Райспажыўсаюза» ў Дзяржынску. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 5.11.1937.

ФРЫДБЕРГ Саламон Абрамавіч (1905), рабочы швейнай фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 9.11.1937.

ЧУГАЕЎСКІ Уладзімір Антонавіч (лют. 1893), працаваў у калгасе імя Леніна. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ШАБУНЯ Антон Станіслававіч (1906), брат Ф. *Шабуні* (гл. 9.1.1938), рабочы саўгаса «Чырвоны сувязіст». Арыштаваны 27.5.1937. Асуджаны 5.11.1937.

### 10 лістапада 1937

БАКІНОЎСКІ Яцэк Дамінікавіч (1869), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 29.10.1937.

БАРАНОЎСКАЯ Ганна Паўлаўна* (17.4.1907), мовазнавец. Арыштавана 27.8.1937. Асуджана 29.10.1937.

ГРЫБ Фёдар Давыдавіч (1889), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ДОЎНАР Іван Паўлавіч (1883), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ЖДАНОВІЧ Іван Вікенцевіч (1886), начны вартаўнік калгаса «Камінтэрн». Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 29.10.1937.

КАННОВІЧ Франц Венядзіктавіч (1872). Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 29.10.1937.

КАРЗЮК Франц Язэпавіч (1875), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 29.10.1937.

КУЛІКОЎСКІ Аляксандр Купрыянавіч (1877), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 29.10.1937.

КУЛІКОЎСКІ Франц Карлавіч (1904), рабочы. Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 29.10.1937.

КУНІЦКІ Антон Іванавіч (1891), працаваў у калгасе «Новае жыццё». Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.11.1937.

МІСЮРА Анэля Язэпаўна (1882), прыбіральшчыца Бел. бюро падарожжаў у Мінску. Арыштавана ў 1937. Асуджана 9.11.1937.

МІЦКЕВІЧ Пётр Язэпавіч (1906), працаваў у калгасе «Світанак». Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 26.10.1937.

ФІЛАНОВІЧ Сігізмунд Іванавіч (1872), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 20.10.1937.

ХАТКОЎ Лук'ян Дзмітрыевіч (1896), упаўнаважаны Мінзага. Арыштаваны 3.9.1937. Асуджаны 20.10.1937.

ШАШКО Іосіф Сільвестравіч* (1902), навуковец, аграном, педагог. Арыштаваны 28.8.1937. Асуджаны 20.10.1937.

ЯНКОЎСКІ Іван Феліцыянавіч (1869). Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 29.10.1937.

### 11 лістапада 1937

АЛІБОВІЧ Фёдар Антонавіч** (1900), пастух калгаса «Новы будаўнік». Арыштаваны 16.10.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ГАЛЕНСКІ Тамаш Іванавіч (15.9.1892), дырэктар хлебапякарні Дзяржынскага райспажыўсаюза. Арыштаваны 2.5.1937. Асуджаны 1.11.1937.

ГУРСКАЯ Браніслава Аляксандраўна (1884). Арыштавана 19.9.1937. Асуджана 31.10.1937.

ДУБОВІК Адольф Дамінікавіч** (1901), каваль на будаўніцтве чыгуначнай ст. Станькаўскага сельсавета. Арыштаваны 16.10.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ДУБОВІК Антон Дамінікавіч** (1906), брат Адольфа *Дубовіка*, жывёлавод калгаса «Новы будаўнік». Арыштаваны 16.10.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ДУБОВІК Баляслаў Антонавіч** (1885), працаваў у калгасе «Новы будаўнік». Арыштаваны 16.10.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ЖАРАЎ Аляксандр Іванавіч** (1898), працаваў у калгасе «Новы будаўнік» Станькаўскага сельсавета. Арыштаваны 16.10.1937. Асуджаны 29.10.1937.

КАБАЛА Станіслаў Уладзіміравіч (1913). Арыштаваны 2.10.1937. Асуджаны 31.10.1937.

КАЛЯДА Несцер Дзям'янавіч** (1897), кладаўшчык калгаса «Шлях сацыялізма». Арыштаваны 24.10.1937. Асуджаны 29.10.1937.

КАМАРОЎСКІ Антон Сцяпанавіч (1865), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 19.9.1937. Асуджаны 31.10.1937.

НАГІБОВІЧ Пётр Купрыянавіч (1900), касір пошты ў Дзяржынску. Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны 29.9.1937.

ПАПЕЛЬСКАЯ Хвядора Андрэеўна (1870), сялянка-аднаасобніца. Арыштавана 6.8.1937. Асуджана 31.10.1937.

ПРОЦЬКА Аляксей Рыгоравіч (1888). Арыштаваны 19.9.1937. Асуджаны 31.10.1937.

РАБЧАНОК Раман Пракопавіч (1871), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 19.9.1937. Асуджаны 31.10.1937.

ХАЛАДЗІНСКІ Яфім Раманавіч (1890), працаваў у калгасе «Чырвоны Кастрычнік». Арыштаваны 27.9.1937. Асуджаны ў ліст. 1937.

ЯРАШЭВІЧ Сцяпан Антонавіч* (1880), псаломшчык Мікалаеўскай або Аляксандра-Неўскай (на могілках) царквы ў Смалявічах. Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 31.10.1937.

**14 лістапада 1937**

МІХІЕВІЧ Цімафей Васілевіч** (1886), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.10.1937.

ШАТЭРНІК Агей Ананевіч** (1899), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 2.9.1937. Асуджаны 19.10.1937.

**16 лістапада 1937**

ВАРЫВОДА Дзмітрый Хведаравіч** (1895), працаваў у калгасе «Чырвоны сцяг». Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 9.11.1937.

ПЯНЬКОЎСКІ Антон Васілевіч (1894), каваль аддзела ачысткі пры Гаркамунгасе ў Мінску. Арыштаваны 1.7.1937. Асуджаны 9.11.1937.

СКАЧКО Іосіф Кліментавіч (1904), камандзір мінаносца «Гневный». Арыштаваны 21.9.1937. Асуджаны 9.11.1937.

**18 лістапада 1937**

АМБРАЗЯК Казімір Лаўрынавіч (1.8.1904), рабочы на будаўніцтве «Саюзкультгандлю» ў Мінску. Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 3.11.1937.

АНДРОСІК-БАБІЙ Уладзімір Васілевіч (1.10.1897), возчык «Галоўхлеба» Мінска. Арыштаваны 1.10.1937. Асуджаны 3.11.1937.

АРЦІШЭЎСКАЯ Вера Казіміраўна (10.2.1902), тэхнічны сакратар вагоннага ўчастка чыгуначнай ст. Мінск. Арыштавана 10.10.1937. Асуджана 3.11.1937.

АСАДОЎСКІ Раймунд (Раймонд) Антонавіч (1898), вартаўнік Асаавіяхіма. Арыштаваны 19.10.1937. Асуджаны 3.11.1937.

БАГДАНОВІЧ Ганна Антонаўна (1896). Арыштавана ў вер. 1937. Асуджана 9.11.1937.

БАНДАК Іван Антонавіч (1892). Арыштаваны ў жн. 1937. Асуджаны 9.11.1937.

БАЦЯНОЎСКІ Язэп Усцінавіч (1903), электраманцёр. Арыштаваны 11.9.1937. Асуджаны 9.11.1937.

ВАШКЕВІЧ Павел Емяльянавіч (10.2.1888), праваднік чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 3.11.1937.

ВІЛЬЧЫНСКІ Іван Аляксандравіч (1892), счэпшчык вагонаў чыгуначнай ст. Мінск-Таварны. Арыштаваны 10.10.1937. Асуджаны 3.11.1937.

ГАРБУЗ Мікалай Ульянавіч (26.11.1898), старшы рахункавод паравознага дэпо чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 25.8.1937. Асуджаны 3.11.1937.

ЖУК Павел Іванавіч (1901), аграном Белсадтрэста Мінска. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.11.1937.

КАХАНОЎСКІ Вячаслаў Феліцыянавіч (1890), рабочы саўгаса «Пралетарый». Асуджаны 9.11.1937.

КРУК Васіль Якаўлевіч (1893), бухгалтар. Арыштаваны 30.8.1937. Асуджаны 22.10.1937.

ЛІТАКУРСКІ Павел Кліментавіч (16.8.1891), сталяр завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 10.10.1937. Асуджаны 3.11.1937.

МАКОЎСКІ Казімір Іванавіч (1905), электразваршчык завода імя Мяснікова. Арыштаваны 5.10.1937. Асуджаны 3.11.1937.

МІКІЦКІ Аляксандр Восіпавіч (1881), санітар клінікі для нервовахворых у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.11.1937.

ПАРАМОНАВА Соф'я Іванаўна (1905). Арыштавана 10.5.1937. Асуджана 20.10.1937.

ПАЎЛОВІЧ Язэп Міхайлавіч (1883), слесар вагона-рамонтнага завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 11.10.1937. Асуджаны 3.11.1937.

ПЕКАРЭВІЧ Адам Ігнатавіч (8.3.1893), майстар завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 5.10.1937. Асуджаны 3.11.1937.

ПЛАТУН Іван Мартынавіч* (1903), брат акадэміка АН БССР А. Платуна, фрэзероўшчык фабрыкі імя Тэльмана ў Мінску. Арыштаваны 27.8.1937. Асуджаны 9.11.1937.

ПЯКАРСКІ Тадэвуш Антонавіч (25.8.1887), слесар завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 10.10.1937. Асуджаны 3.11.1937.

СЛУЦКІ Іван Іванавіч (1914), возчык канторы «Галоўхлеб» у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.11.1937.

СТАШЫС Юрт Людвігавіч (2.4.1891), тэхнік завода імя Мяснікова. Арыштаваны 16.8.1937. Асуджаны 3.11.1937.

ЦЕХАНОВІЧ Сцяпан Мацвеевіч (1887), цырульнік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.11.1937.

ЯМРОС (ЯМРАС) Фелікс Стэфанавіч (1889), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Асуджаны 9.11.1937.

ЯРМАЛКЕВІЧ Язэп Францавіч (1900), загадчык паштовага вагона лініі Мінск-Дзяржынск. Арыштаваны 30.9.1937. Асуджаны 20.10.1937.

**19 лістапада 1937**

АЛЯКСАНДРАЎ Уладзімір Аляксандравіч (1878), вартаўнік Белснаба ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 9.11.1937.

ГАПАНОВІЧ Язэп Язэпавіч (1902), кацельшчык чыгуналіцейнага завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.11.1937.

ЗІНБЕРГ Павел Іванавіч (1887), механік электрастанцыі ў Дзяржынску. Арыштаваны 28.8.1937. Асуджаны 9.11.1937.

КАГАН Абрам Ісакавіч (1913). Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.11.1937.

КРАСОЎСКІ Міхаіл Фёдаравіч (1884), уладальнік слясарнай майстэрні ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 9.11.1937.

КУНІЦКІ Юлій Мартынавіч (1907), працаваў у калгасе «Новае жыццё». Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 9.11.1937.

РАЕЦКІ Антон Цімафеевіч (1892), кандытар фабрыкі-кухні ў Мінску. Арыштаваны 4.8.1937. Асуджаны 9.11.1937.

СУБАЧ Вітольд Францавіч (1909), шафёр Белкамунбудтрэста ў Мінску. Асуджаны 19.11.1937.

ХРЫСТОЎСКІ Язэп Антонавіч (1885), працаваў на Мінскай ГЭС. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.11.1937.

**20 лістапада 1937**

ЛАПЦЭВІЧ Фёдар Сцяпанавіч (1893), ляснічы Упраўлення лесааховы і лесанасаджэнняў у Мінску. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

САДОЎСКІ Феліцыян Францавіч (1908), кравец швейнай майстэрні ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 9.11.1937.

**21 лістапада 1937**

АБАНОСІМАЎ Іван Васілевіч (1907), механік Дзяржынскай МТС. Арыштаваны 7.8.1937. Асуджаны 13.11.1937.

АБРАЖЭВІЧ Канстанцін Іванавіч (31.12.1903), брат І. *Абражэвіча* (гл.: 4.11.1938), інструктар па практычнай яздзе школы шафёраў у Мінску. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

АСТРОЎСКІ Мікалай Цімафеевіч (1893), брат Дз. *Астроўскага* (гл.: 26.11.1937), рабочы торфараспрацоўкі ў Ждановічах. Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

АТАМАНОВІЧ Міхаіл Мікалаевіч** (1873), конюх УВБР-75. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 15.11.1937.

БАЦЯНОЎСКІ Язэп Аляксандравіч (1879). Арыштаваны ў кастр. 1937. Асуджаны 13.11.1937.

ВАЯВОДКА Ганна Сцяпанаўна (1877), рабочая дзіцячых ясляў у Мінску. Арыштавана ў 1937. Асуджана 13.11.1937.

ВЫСОЦКІ Язэп Вікенцевіч* (1903), дэкаратар БДТ-1. Арыштаваны ў жн. 1937. Асуджаны 13.11.1937.

ГАЛУБОВІЧ Язэп Антонавіч (1879), рабочы. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 13.11.1937.

ГРЫНЕЎСКІ Ігнат Фёдаравіч (1907), праваднік Цэнтраспорту ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 13.11.1937.

ЕРМАЛОВІЧ Браніслаў Феліцыянавіч (1888), калгаснік. Арыштаваны 27.5.1937. Асуджаны 13.11.1937.

ЕСІПОВІЧ Іван Адамавіч (1898), тэхнік-будаўнік у Мінску. Арыштаваны 4.8.1937. Асуджаны 13.11.1937.

ЖАРДЗЕЦКІ Уладзімір Язэпавіч (1917), повар. Асуджаны 13.11.1937.

ЖЫГУНОЎ Юльян Іванавіч (1893), слесар чыгуначнага дэпо ст. Мінск. Арыштаваны 15.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

ЗАЛУБА Луцыян Антонавіч (1891), працаваў у ахове на Бел. чыгунцы. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 13.11.1937.

ЗАНЕЎСКАЯ-ТРАФІМЧЫК Марыя Піліпаўна (1914), студэнтка 3 курса рабфака БДУ. Арыштавана 30.6.1937. Асуджана 13.11.1937.

ЗЫЛЬ Васіль Данілавіч (26.2.1910), бухгалтар Мелькрупазавода. Арыштаваны 23.3.1937. Асуджаны 15.11.1937.

ІВАНОЎСКАЯ Стэфаніда Мікалаеўна (1893), хатняя гаспадыня. Арыштавана 31.10.1937. Асуджана 13.11.1937.

КАМОЦКАЯ Кацярына Антонаўна (1873), пенсіянерка. Арыштавана 23.9.1937. Асуджана 13.11.1937.

КАРНІЛАЎ Аляксандр Васілевіч (1894), электраманцёр 1-й Мінскай хлебапякарні. Арыштаваны 13.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

КАХАНОЎСКІ Піліп Вікенцевіч (15.8.1885), цясляр. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 13.11.1937.

КАХНО Аляксей Акімавіч** (1901), каваль. Арыштаваны 10.7.1937. Асуджаны 15.11.1937.

КІСЕЛЬ Стэфанія Карпаўна* (1886), настаўніца школы № 45 у Мінску. Арыштавана ў кастр. 1937. Асуджана 13.11.1937.

ЛІПЕНЬ Браніслаў Вікенцевіч (1869), калгаснік. Арыштаваны ў маі 1937. Асуджаны 13.11.1937.

ЛУШЧЫК Антон Максімавіч (1897), майстар Мінскага шклозавода «Пралетарый». Арыштаваны 15.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

МАЗУРКЕВІЧ Язэп Вікенцевіч (1908), тэхнік-будаўнік Мінскага тарнага завода. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 13.11.1937.

МАКРЖЫЦКІ Багдан Аляксандравіч (21.4.1912), майстар 3-й аўтарамонтнай ст. трэста «Саюзаўтарамонт». Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

МАХНАЧ Міхаіл Фаміч (1878), загадчык склада мінеральных угнаенняў Белсельгасснаба ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 13.11.1937.

МУРАЎСКІ Пётр Язэпавіч (1894), паштальён Путчанскай МТС. Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 13.11.1937.

НАРКО Віктар Дзмітрыевіч (1898), нам. дырэктара Дзяржынскай МТС. Арыштаваны 7.8.1937. Асуджаны 13.11.1937.

НОРМАН Нохім (Георгій) Аронавіч (Міронавіч) (15.5.1905), старшына музычнага ўзвода 37-га кавалерыйскага палка ў Мінску. Арыштаваны 20.5.1937. Асуджаны 13.11.1937.

ПЯТРОЎСКАЯ-МІХАЛЕВІЧ Марыя Казіміраўна (1886). Арыштавана ў 1937. Асуджана 13.11.1937.

САВІЧ Іван Гаўрылавіч (1879), слесар вагоннага дэпо чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 13.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

САВУК Мікалай Іванавіч (1903), электраманцёр друкарні імя Сталіна ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 13.11.1937.

СЕЧКА (СЯЧКО) Сяргей Цімафеевіч (1907), рабочы Мінскай электрастанцыі. Асуджаны 13.11.1937.

СУКАЧ Марк Піліпавіч (1895), дырэктар Заслаўскай МТС. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 13.11.1937.

ФІЯЛКОЎСКІ Фелікс Францавіч (1892), рабочы фабрыкі імя Кагановіча ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 13.11.1937.

ЧАХОВІЧ Алена Адамаўна (1882), хатняя гаспадыня. Арыштавана ў 1937. Асуджана 13.11.1937.

ЧАХОЎСКІ Яраслаў Аляксандравіч (1884), бухгалтар склада БВА ў Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

ШАБЛОЎСКІ Віктар Іванавіч (1899), старшыня Навасадскага сельсавета. Арыштаваны 28.8.1937. Асуджаны 13.11.1937.

ШУНЕЙКА Павел Аляксандравіч (1885), старшы механік абозарамонтных майстэрняў у Мінску. Арыштаваны 27.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

ШЧЫГЛОЎСКІ Язэп Язэпавіч (1880), машыніст турбіны Мінскай электрастанцыі. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 13.11.1937.

ЮРАН Канстанцін Кліментавіч (1893), галоўны бухгалтар Дзяржынскай МТС. Арыштаваны 7.8.1937. Асуджаны 13.11.1937.

ЯНКОЎСКІ Станіслаў Станіслававіч (1883), працаваў у калгасе «Парыжская камуна». Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 13.11.1937.

**22 лістапада 1937**

АБРАМЧЫК Фёдар Іонавіч** (1893), рабочы леспрамгаса. Арыштаваны 28.4.1937. Асуджаны 3.8.1937.

АЛЕШКА Павел Восіпавіч (1883), рабочы завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны ў кастр. 1937. Асуджаны 17.11.1937.

АЛІСЕВІЧ Уладзімір Уладзіміравіч (1908), сталяр. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

АНЦЫЛЕЎСКІ Адольф Міхайлавіч (1901), каваль калгаса «Світанак». Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

АНЦЫЛЕЎСКІ Баляслаў Язэпавіч (1899), калгаснік. Арыштаваны 30.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

АНЦЫЛЕЎСКІ Феліцыян Станіслававіч (1903), калгаснік. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

АРАНДАРЭВІЧ Аляксандр Мікалаевіч (1894), слесар завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

БАНДАК Васіль Мікалаевіч (1903), рахункавод Бароўскага сяльпо. Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

БАРАНОЎСКАЯ Эмілія Казіміраўна (1877). Арыштавана 2.11.1937. Асуджана 17.11.1937.

БАРОЎСКІ Лука Мікалаевіч (11.2.1893), цясляр санаторыя «Чырвоны Кастрычнік» (Дзяржынскі р-н). Арыштаваны 4.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

БАРОЎСКІ Язэп Міхайлавіч (1896), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

БЕЛАНОВІЧ Станіслаў Восіпавіч (1906), каваль. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

БЕНЕДЗІКТОВІЧ Уладзімір Канстанцінавіч (1882), брат Б. *Бенедзіктовіча* (гл.: 25.11.1937), працаваў у калгасе «Чырвоны Кастрычнік». Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 19.11.1937.

БРЖЫЗОЎСКІ (БЖАЗОЎСКІ) Феліцыян Антонавіч (1872), вартаўнік упраўлення «Саюз-Гарфо» ў Мінску. Арыштаваны ў кастр. 1937. Асуджаны 20.11.1937.

БУЛЫГА Сцяпан Міхайлавіч* (1901), супрацоўнік інстытута геалогіі пры АН БССР. Асуджаны 17.11.1937.

БУЦЯГІН Васіль Мікалаевіч (1900), старшыня калгаса «Кастрычнік». Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

ВАЛАДЗЬКО Язэп Аляксандравіч (1885), бухгалтар Мінскага аддзялення Белдзяржснаба. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ВАРАНКОВІЧ Іван Язэпавіч (1898), эканаміст упраўлення жывёлагадоўлі Наркамзема БССР. Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ВАСІЛЕЎСКІ Франц Карлавіч (1877), рабочы. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

ДЗЯТКО Вольга Уладзіміраўна* (1906), настаўніца віцебскай польскай школы. Арыштавана 25.5.1937. Асуджана 17.11.1937.

ДУБІНА Халімон Васілевіч (1892), працаваў у калгасе «Новы Жыцін». Арыштаваны 11.6.1937. Асуджаны 3.8.1937.

ДУБІНА Якаў Максімавіч** (1893), працаваў у калгасе «Новы Жыцін». Арыштаваны 13.3.1937. Асуджаны 3.8.1937.

ЖУКОЎСКІ Іван Піліпавіч (1899), садоўнік калгаса «Новы Жыцін». Арыштаваны 31.5.1937. Асуджаны 7.8.1937.

ЖУКОЎСКІ Сцяпан Іванавіч (24.2.1890), эканаміст. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЖЫДОВІЧ Іван Кліментавіч (1895), працаваў у калгасе імя АДПУ. Арыштаваны 7.10.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЗАХАРАЎ Аляксандр Іванавіч (1900), бухгалтар завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 20.11.1937.

КАЗЛОВА-КРАЧКОЎСКАЯ Леакадзія Станіславаўна (1910), рахункавод завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштавана 20.8.1937. Асуджана 17.11.1937.

КАНОПЕК (КАНАПЁК) Абрам Ісакавіч (1905), дырэктар швейнай фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску. Арыштаваны 10.9.1937. Асуджаны 17.11.1937.

КАТКОЎСКІ Антон Стэфанавіч (1877), рымар. Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 20.11.1937.

КАШЫЦКІ Аляксей Іванавіч (1882), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 24.5.1937. Асуджаны 3.8.1937.

КЕНІГ Альфрэд Юльянавіч* (1887), дырэктар Мінскага торфатэхнікума. Арыштаваны 13.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

КЛЫГАН Цімафей Андрэевіч (1887), працаваў у калгасе «Новы Жыцін». Арыштаваны 22.5.1937. Асуджаны 7.8.1937.

КЛЮЧНІКАЎ Ілья Львовіч (1899), брат А. *Ключнікава* (гл.: 28.12.1937), галоўны бухгалтар фабрыкі «Камунарка» ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

КЛЯНОЎСКІ Сігізмунд Вікенцевіч (1904), цясляр Дзяржынскага гарсавета. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

КЛЯНОЎСКІ Язэп Вікенцевіч (1894), брат С. *Кляноўскага* і В. *Кляноўскага* (гл.: 15.12.1937), працаваў у калгасе «9-га студзеня». Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 20.11.1937.

КУЗЕЙ Сямён Васілевіч** (1895), цясляр калгаса «Новы Жыцін». Арыштаваны 27.4.1937. Асуджаны 3.8.1937.

КУНІН Абрам Вульфавіч (1898), загадчык аддзялення крамы механізмаў і інструментаў у Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.11.1937.

КУНІЦКІ Язэп Сцяпанавіч (1892), працаваў у калгасе «Новае жыццё». Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 17.11.1937.

КУРЫЛЮК Харытон Клімавіч (1886), кацельны майстар Мінскай электрастанцыі № 1. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЛЕАНОВІЧ Ганна Іванаўна (1897), хатняя гаспадыня. Арыштавана ў 1937. Асуджана 20.11.1937.

ЛЕВІН Монес Ізраілевіч* (1898), брат Майсея *Левіна* (гл.: 31.3.1938), загадчык аддзела інфармацыі яўрэйскай газ. «Октобэр» (Кастрычнік). Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЛІПЕНЬ Станіслаў Антонавіч (1909), экспедытар Белводгаса ў Мінску. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЛІПЕНЬ Язэп Антонавіч (1907), брат С. *Ліпеня*, грузчык Мінхарчпрама. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЛУК'ЯНЮК Васіль Паўлавіч (1899), рамізнік гужпарка гарсавета ў Мінску. Арыштаваны ў кастр. 1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЛЮНІНСКІ Самуіл Львовіч (1901), экспедытар Лесбела ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЛЯВІТЭ Адам Ільіч* (1896), дырэктар Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра ў Мінску. Асуджаны 17.11.1937.

МАЗУРКЕВІЧ Эдуард Вікенцевіч (1911), будаўнік Заслаўскага райпрамкамбіната. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

МАЙДЫЛА Вячаслаў Францавіч (1913), загадчык склада Путчынскай МТС (Дзяржынскі р-н). Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

МАЛЫШАЎ Міхаіл Андрэевіч (1887). Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

МУРЗЁНАК Сяргей Ігнатавіч (1.10.1896), народны суддзя 54-га ўчастка Мінска. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 17.11.1937.

НАВІЦКІ Сцяпан Пятровіч (1893), начальнік цэха электрастанцыі № 1 у Мінску. Арыштаваны 13.4.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ПАЛАНЕВІЧ Эдуард Феліксавіч (1879), касір завода малочных кіслот у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

ПАНАСЮК Лаўрын Сцяпанавіч (1894), качагар Белрадыёцэнтра ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

ПАЎЛОВІЧ Язэп Кліментавіч (1897), экспедытар. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ПАЧЭЎСКІ Генрых Іванавіч (1898), слесар завода «Ударнік» у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

ПІСЛЯК Вікенцій Дзянісавіч (1880), вартаўнік рыбгаса «Сляпянка» ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ПРОХАРАЎ Яўціхій Кандратавіч (1892), электраманцёр. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

ПРЫКАЦЕНЬ (ПРАКАЦЕНЬ) Пелагея Казіміраўна (1875). Арыштавана ў 1937. Асуджана 17.11.1937.

РАКАЧЭЎСКАЯ Антаніна Антонаўна (1864). Арыштавана ў 1937. Асуджана 17.11.1937.

РОЙНІК Канстанцін Сцяпанавіч (1903), начальнік пажарнай аховы пры мікрабіялагічным інстытуце ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

РУСЕЦКІ Іван Станіслававіч (6.5.1909), брыгадзір рыбгаса «Сляпянка» ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

САХАРАЎ Павел Дзмітрыевіч (1897), рабочы радыёстанцыі ў Мінску. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

СКІПАР Васіль Фёдаравіч (1893), цырульнік на чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

СЛІЗЕВІЧ Антон Францавіч (1903), калгаснік. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

СОКАЛ Іван Кузьміч (1900), загадчык паравога млына ў калгасе «Новы Жыцін». Арыштаваны 31.5.1937. Асуджаны 3.8.1937.

СУХОЦКІ Ленгін (?) Сцяпанавіч (1904), загадчык конегадоўчай фермы калгаса (Смілавіцкі р-н). Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

СУХОЦКІ Язэп Іванавіч (1897), калгаснік. Асуджаны 17.11.1937.

СЦЕЦКІ Аркадзь Пятровіч (1903), працаваў у Белкаапсаюзе ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

СЯМЁНАЎ-ІГНАТОЎСКІ Сяргей (Аляксандр) Рыгоравіч** (19.6.1899), дырэктар Камунснаба. Арыштаваны 29.9.1937. Асуджаны 20.11.1937.

УЛАШЧЫК Станіслаў Іванавіч (1908), бухгалтар калгаса «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ФІЛІПОВІЧ Адольф Андрэевіч (1898), рабочы завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

ХАРОШКА Мікалай Васілевіч (1894), цясляр Зелянбудтрэста ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ХАРЫТОН Фёдар Якаўлевіч (1888). Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЦІШКЕВІЧ Фелікс Антонавіч (1896), пячнік. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЧАХОЎСКІ-ОКША Уладзімір Аляксандравіч (1879), чарцёжнік. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЧЭРНІК Васіль Сцяпанавіч (1901), старшыня калгаса «Праца». Арыштаваны 30.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ШАБУНЕВІЧ Вікенцій Антонавіч (1897), загадчык гаспадаркі гарадка БДУ. Арыштаваны 24.10.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ШТЭЙН (СЛЕПАК) Саламон (Лейзер) Эшалевіч (1906), сакратар партарганізацыі 1-й клінічнай бальніцы ў Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ШЫМКЕВІЧ Іван Сямёнавіч (1885), працаваў у калгасе «Камунар». Арыштаваны ў жн. 1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЯСЮКЕВІЧ Язэп Вікенцевіч (1904), кладаўшчык калгаса «Чырвоны памежнік». Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.11.1937.

**24 лістапада 1937**

АЎГУСТАЙЦІС Аляксандр Вікенцевіч* (22.7(3.8).1905), партыйны дзеяч. Арыштаваны 14.8.1937. Асуджаны 24.11.1937.

БАГАСЛОЎСКІ Мікалай Іванавіч (17.5.1901), начальнік Бібліятэчнага ўпраўлення Наркамасветы. Арыштаваны 30.4.1937. Асуджаны 24.11.1937.

БУРАЧЭЎСКІ Павел Паўлавіч* (20.9(2.10).1898), наркам аховы здароўя БССР. Арыштаваны 26.7.1937. Асуджаны 24.11.1937.

ГАЛКОЎСКІ Язэп Антонавіч (19.7.1911). Арыштаваны 9.9.1937. Асуджаны 24.11.1937.

ГОЛЬДБЕРГ Шолам (Шалом) Мееравіч* (13.9.1903), гісторык, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі БелАН. Арыштаваны 3.3.1937. Асуджаны 24.11.1937.

ГУРЫНОВІЧ Сяргей Міхайлавіч* (1906), навуковы супрацоўнік БелАН. Арыштаваны 4.9.1937. Асуджаны 24.11.1937.

ЗАДЗЯРНЮК Васіль Іванавіч* (14.1.1903), загадчык культурнапрапагандысцкага аддзела Мінскага гаркама ВКП(б). Арыштаваны 16.7.1937. Асуджаны 24.11.1937.

ЗАЛЕСКІ Аляксандр Ксаверавіч (Савельевіч)* (1891), дзяржаўны дзеяч. Арыштаваны 18.8.1937. Асуджаны 24.11.1937.

КАЛЕНТА Міхаіл Мітрафанавіч (21.11.1901), інструктар Белкустпрамсавета БССР. Арыштаваны 31.5.1937. Асуджаны 24.11.1937.

КОНІК Дзмітрый Юдавіч* (1898), загадчык аддзела прапаганды ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 1.9.1937. Асуджаны 24.11.1937.

КРУТАЛЕВІЧ Аляксандр Прохаравіч* (1894), загадчык кафедры матэматыкі Бухарскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, раней дацэнт кафедры матэматыкі БПІ. Арыштаваны 14.12.1936. Асуджаны 24.11.1937.

КРЭЙНІН Лазер Ісакавіч* (1895), дырэктар Белхарчгандлю. Арыштаваны 18.8.1937. Асуджаны 24.11.1937.

КУЗНЯЦОВА Марыя Іванаўна* (1903), загадчыца Мінскага гарана. Арыштавана 4.9.1937. Асуджана 24.11.1937.

КУЗНЯЦОЎ Лейба Шлёмавіч (студз. 1907), старшыня камітэта па справах фізкультуры і спорту пры СНК БССР. Асуджаны 24.11.1937.

ЛІТВІНЕНКА Яўхім Лукіч* (20.1.1902), выкладчык хіміі Мінскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 30.5.1937. Асуджаны 24.11.1937.

МАЛЬЦЭР (МЕЛЬЦАР) Абрам Навумавіч* (20.8.1904), дацэнт кафедры філасофіі, з 1934 дырэктар Мінскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 2.12.1936. Асуджаны 24.11.1937.

МІНКІН Калман Маркавіч* (1902), загадчык аддзела друку пры ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 27.12.1936. Асуджаны 24.11.1937.

НЯМІРСКІ Сігізмунд Янавіч* (20.4.1887), дырэктар Мінскага хлебазавода № 6. Арыштаваны 18.8.1937. Асуджаны 24.11.1937.

РУБІНШТЭЙН Рыгор Міронавіч (15.9.1897), загадчык аддзела ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 4.9.1937. Асуджаны 24.11.1937.

ТАВАКАЛЬЯН Авеціс Абгаравіч* (1903), дырэктар партыйных курсаў пры ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 24.11.1937.

ХАСКІН Ілья Захаравіч (1902), дырэктар торфазавода «Чырвоны сцяг» у Смалявічах. Арыштаваны 23.7.1937. Асуджаны 24.11.1937.

ХАЎРУНОЎ Міхаіл Ігнатавіч (1914), артылерыст-тэхнік 188-га зенітнага палка (ваентэхнік 2-га рангу) ў Мінску. Арыштаваны 2.10.1937. Асуджаны 24.11.1937.

**25 лістапада 1937**

КАЛТОВІЧ Якім Васілевіч (1870), працаваў у калгасе «Новыя Астровы». Арыштаваны 21.9.1937. Асуджаны 18.11.1937.

МІРОН Аляксандр Піліпавіч (1885), працаваў у калгасе імя Будзённага. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

**26 лістапада 1937**

АДЫНЕЦ Аляксандр Феліцыянавіч (?), конюх калгаса «Адраджэнне». Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

АЛЕКСАНДРОВІЧ Антон Сцяпанавіч (1896), працаваў у вайскова-санітарнай майстэрні ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 19.11.1937.

АСТРОЎСКІ Дзяніс Цімафеевіч (1883), брат М. *Астроўскага* (гл.: 21.11.1937), вартаўнік Дома адпачынку «Ждановічы». Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

БАРАНОЎСКІ Іван Ілыч (1899), нам. дырэктара Лугаўскога трэста Наркамзема БССР. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 19.11.1937.

БАХАНОВІЧ Язэп Антонавіч (1906), цясляр на будоўлях Мінска. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

БЕНЕДЗІКТОВІЧ Баляслаў Канстанцінавіч (1897), брат У. *Бенедзіктовіча* (гл.: 22.11.1937), працаваў у калгасе «Чырвоны Кастрычнік». Арыштаваны 21.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

БЕРСАНАЎ Аляксей Герасімавіч (1887), працаваў у цэнтральных майстэрнях Мінбуда. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 19.11.1937.

ГРУШЭЎСКІ Антон Юліянавіч (1889), працаваў у калгасе «Чырвоны сцяг». Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 19.11.1937.

ГРЫЦЭВІЧ Аляксандр Язэпавіч (1906), працаваў у калгасе імя Горкага. Асуджаны 19.11.1937.

ДАНІЛАЎ Сяргей Васілевіч (1898), камендант Мінбелдзяржбуда. Асуджаны 19.11.1937.

ЖЫВІЦА Баляслаў Сігізмундавіч (1903), качагар. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 19.11.1937.

ЗМАЧЫНСКІ Язэп Вікенцевіч (1904), працаваў у калгасе «Чырвоны Кастрычнік». Арыштаваны ў ліст. 1937. Асуджаны 19.11.1937.

КАБАНОВІЧ Аляксандр Ігнатавіч (1905), працаваў у Дзяржынскім РК КП(б)Б. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.11.1937.

КАВАЛЕЎСКІ Іван Антонавіч (1889), бракоўшчык гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.11.1937.

КАНАНОВІЧ Аляксандр Антонавіч (1886), бракоўшчык гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 19.11.1937.

КЕЛЬЦ Рэйнгольд Францавіч (1877), пенсіянер. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

КІСЯЛЕЎСКІ Станіслаў Рыгоравіч (1916), рабочы Мінскага хлебазавода. Асуджаны 19.11.1937.

КОГАН (КАПЛАН) Файзель Хаймавіч (1901), дырэктар базы Ростгэкстыльгандаль у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.11.1937.

ЛІПАЙ Аляксандр Якаўлевіч (1900), калгаснік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.11.1937.

ЛУКАШЭВІЧ Сямён Сямёнавіч (1916), рахункавод калгасаў «Бальшавіцкая сяўба» і «9-га Студзеня». Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.11.1937.

МАКАРЭВІЧ Адам Мамертавіч (1900), працаваў у калгасе «Чырвоны Кастрычнік». Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 19.11.1937.

МІНКЕВІЧ Уладзімір Вікенцевіч (1904), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.11.1937.

МУРАЎСКІ Антон Раманавіч (1897), касір участка № 1 Мінбуда. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

НАСЕННІКАЎ Уладзімір Антонавіч (1892), майстар гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны 25.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

ПАГОЦКІ Антон Францавіч (1899), шаравальшчык гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

РАЙСКІ Феліцыян Вікенцевіч (1896), рабочы Мінскай дэзінфекцыйнай станцыі. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

РОТЦАР Браніслаў Аўгуставіч (1873), рабочы гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

САРНАЦКІ Эдвард Іванавіч (1906), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.11.1937.

СЛІЗЕВІЧ Язэп Антонавіч (1909), калгаснік. Арыштаваны ў кастр. 1937. Асуджаны 19.11.1937.

СНІПІШСКЕР (ШНІПІСКЕР) Барыс Абрамавіч (1890), цырульнік у Мінску. Арыштаваны 25.8.1937. Асуджаны 19.11.1937.

СЫРАКВАШ Уладзімір Паўлавіч (1901), рабочы завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.11.1937.

ФІЛІПОВІЧ Іван Эдмундавіч (1907), слесар Мінскага трамвайнага парка. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 19.11.1937.

ЧАРТОВІЧ Язэп Іванавіч (1887), працаваў у калгасе «Адраджэнне». Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.11.1937.

ЧАХОЎСКАЯ Франя Міхайлаўна (1885), хатняя гаспадыня. Арыштавана 1.11.1937. Асуджана 19.11.1937.

ШАБУНЕВІЧ Карл Антонавіч (1898), цясляр. Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

ШАРАПА Міхаіл Іванавіч (1892), калгаснік. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 19.11.1937.

ШЫМАНСКІ Аляксандр Вікенцевіч (1905), аб'ездчык Негарэльскай дачы Гарадзішчанскага лясніцтва. Арыштаваны ў сак. 1937. Асуджаны 19.11.1937.

ЯЗЕРСКІ Лейба Шмуйлавіч (1895), літограф друкарні імя Сталіна ў Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

ЯСЮКЕВІЧ Адам Іванавіч (1898), загадчык Паланевіцкага сяльпо. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

**27 лістапада 1937**

АЛЕКСАНДРОВІЧ Аляксандр Мартынавіч, вартаўнік чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 11.9.1937. Асуджаны 15.11.1937.

АНТАНЕВІЧ Леанард Міхайлавіч (1884), працаваў у калгасе «Серп». Арыштаваны 25.7.1937. Асуджаны 2.11.1937.

АПРЫШКА Настасся Язэпаўна (1891), хатняя гаспадыня. Арыштавана ў 1937. Асуджана 22.11.1937.

АСТРОЎСКІ Ксаверый Ксаверавіч** (1888), калгаснік. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 29.10.1937.

АСТРЫНСКІ Шмуіл Майсеевіч (1907), шавец фабрыкі індывідуальнага пашыву ў Мінску. Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

БАЛКОЎСКІ Канстанцін Піліпавіч (16.4.1894), старшыня калгаса «Пралетарская перамога». Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.11.1937.

БАРНАВІЦКІ Віктар Іванавіч (1911), працаваў у калгасе імя Яжова. Арыштаваны 21.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

БЕЛЫ Павел Філімонавіч (1901), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 25.9.1937. Асуджаны 2.11.1937.

БЯЛЯЕЎСКІ (ТАБАРНСКІ) Уладзімір (Вульф) Рафаілавіч* (1908), журналіст, нам. рэдактара газ. «Рабочий». Арыштаваны 21.3.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ВАЙЦЕНКА Віктар Ціханавіч (1889), загадчык завочнага філіяла цэнтрасаюза ў Мінску. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ВАСІЛЕЎСКІ Уладзімір Пятровіч (1884), тэхнік-чарцёжнік Наркамзема БССР. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ВІЦЕБСКІ Вільгельм Казіміравіч (1892), старшыня калгаса «Сяброўства». Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ВЫСОЦКІ Аляксандр Мікалаевіч (1885), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 1.9.1937. Асуджаны 2.11.1937.

ВЫСОЦКІ Іпаліт Мікалаевіч (1897), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 1.9.1937. Асуджаны 2.11.1937.

ГАЛУБОВІЧ Марыя Сцяпанаўна** (1894), хатняя гаспадыня. Арыштавана 31.10.1937. Асуджана 22.11.1937.

ГАРАЎСКІ Браніслаў Вікенцевіч (14.2.1899), працаваў у калгасе «Чырвоная Амяла». Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ГАРДЗЕЙ Канстанцін Андрэевіч (13.5.1898), верагодна, брат У. *Гардзея* (гл.: 28.12.1937), загадчык гаспадаркі Чэрвеньскага лясгаса. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ГАРДЗЕЙЧЫК Мікалай Дзмітрыевіч* (1898), настаўнік школы № 45 у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ГЕРМАНОВІЧ Іван Станіслававіч (21.3.1905), сталяр арцелі «Камунар» у Смілавічах. Арыштаваны 11.9.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ГРАЧОЎ Канстанцін Васілевіч (14.3.1881), ляснічы Смілавіцкага ўчастка Чэрвеньскага лясгаса. Арыштаваны 13.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ГРУША Сцяпан Іванавіч (1904), кладаўшчык склада Гарпо ў Дзяржынску. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ДОЎНАР Уладзімір Феліцыянавіч (25.8.1906), загадчык спецчасткі санітарна-хімічнай лабараторыі Наркамздрава БССР. Арыштаваны 13.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ДУБОЎСКІ Браніслаў Баляслававіч (1898), працаваў у калгасе імя Ланцуцкага. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ЖУКОЎСКАЯ Соф'я Адамаўна (1895), хатняя гаспадыня. Арыштавана 1.11.1937. Асуджана 22.11.1937.

ЗАКАБЛУК Мікалай Восіпавіч (1901), праваднік вагона ст. Мінск. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЗІНОВІЧ Антон Акулавіч (1889), працаваў у калгасе імя 16-га партз'езда. Арыштаваны 12.9.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЗУЕЎСКІ Зянон Баляслававіч (1905), брыгадзір калгаса імя Яжова. Арыштаваны 21.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ІВАНОВІЧ Андрэй Кірылавіч (1897), майстар смалакурнага завода ў Мінску. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ІВАНОЎ Рыгор Міхайлавіч (1896), кацельшчык машынабудаўнічага завода імя Варашылава. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ІВАШКЕВІЧ Язэп Лаўрынавіч (1868), працаваў у калгасе «Новы быт». Арыштаваны 14.9.1937. Асуджаны 1.11.1937.

ІЁСЯЛЕВІЧ Язэп Абелевіч (1884), старшыня калгаса імя Яжова. Арыштаваны 24.7.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ІСАЕВІЧ Язэп Уладзіслававіч (Баляслававіч) (1895), загадчык вытворчасці арцелі «Камунар» у Смілавічах. Арыштаваны 29.10.1937. Асуджаны 15.11.1937.

КАСПЯРОВІЧ Язэп Аляксандравіч (1896), сталяр арцелі «Камунар» у Смілавічах. Арыштаваны 4.11.1937. Асуджаны 15.11.1937.

ЛАЗОЎСКІ Аляксандр Ігнатавіч (18.7.1899), цясляр Бярэзінскага спіртзавода. Арыштаваны 7.2.1937. Асуджаны 5.11.1937.

ЛАЗОЎСКІ Антон Восіпавіч (1895), працаваў у арцелі па вырабе мэблі ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЛАМАКА Нічыпар Сяргеевіч (1894), працаваў у калгасе імя 16-га партз'езда. Арыштаваны 11.9.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЛЕВАНЕЎСКАЯ (БОБРЫК, ШАПІРА) Надзея (Раіса, Хана) Абрамаўна (Рыгораўна)* (1904), дырэктар дзіцячага дома ў Гомелі. Арыштавана 25.8.1937. Асуджана 17.11.1937.

ЛІПЕНЬ Феліцыян Францавіч (1873), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 14.9.1937. Асуджаны 15.11.1937.

МІХНЕВІЧ Ігнат Мечыслававіч (лют. 1890), вартаўнік калгаса «Молат». Арыштаваны 26.9.1937. Асуджаны 5.11.1937.

МОЎЧАН Антон Паўлавіч (1904), агароднік калгаса «Прафінтэрн». Арыштаваны 29.10.1937. Асуджаны 15.11.1937.

МОЎЧАН Станіслаў Баляслававіч (1892), каваль калгаса «Прафінтэрн». Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 15.11.1937.

МОЎЧАН Стэфан Аляксандравіч (1873), каваль. Арыштаваны 29.10.1937. Асуджаны 15.11.1937.

МЫСЛІВЕЦ Купрэй Рыгоравіч (1882), манцёр. Арыштаваны 11.9.1937. Асуджаны 17.11.1937.

МЫСЛІВЕЦ Яфім Рыгоравіч** (1864), брат К. *Мысліўца*, працаваў у калгасе імя 16-га партз'езда. Арыштаваны 12.9.1937. Асуджаны 17.11.1937.

МЯКОТА Франц Мікалаевіч (17.9.1882), каваль калгаса «Іскра». Арыштаваны 11.9.1937. Асуджаны 1.11.1937.

НАВІЦКІ Венядзікт Іванавіч (1869), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 14.9.1937. Асуджаны 1.11.1937.

ПАЎЛОЎСКІ Віктар Антонавіч (1904), старшы кандуктар праектнага аддзела Электрапрама ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 20.11.1937.

ПЯТРОВІЧ Павел Фаміч (1883), працаваў у калгасе «Бязбожнік». Арыштаваны 18.9.1937. Асуджаны 15.11.1937.

РАБЧУН Андрэй Язэпавіч (1895), рамізнік 3-га цагельнага завода ў Мінску. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

РАК Феліцыян Язэпавіч (1904), муляр. Арыштаваны 29.10.1937. Асуджаны 15.11.1937.

РЖАВУЦКІ Браніслаў Станіслававіч (1898), працаваў у калгасе «Серп». Арыштаваны 26.9.1937. Асуджаны 11.2.1937.

РЖАВУЦКІ Павел Антонавіч (1895), аб'ездчык Бярэзінскага лясгаса. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 2.11.1937.

РЖАВУЦКІ Язэп Станіслававіч (1873), працаваў у калгасе «Серп». Арыштаваны 25.9.1937. Асуджаны 11.2.1937.

РОДЗЕВІЧ Мартын Іванавіч (1887), вартаўнік канторы каменнай будоўлі ў Мінску. Асуджаны 22.11.1937.

САБАЛЕЎСКАЯ Разалія Казіміраўна (1899), часальшчыца шэрсці арцелі «Чырвоная звязда» ў Смілавічах. Арыштавана 29.10.1937. Асуджана 15.11.1937.

САБАЛЕЎСКІ Іван Фадзеевіч (май 1873), вартаўнік кінатэатра «Гукавое кіно» ў Смілавічах. Арыштаваны 11.9.1937. Асуджаны 1.11.1937.

САСНОЎСКІ Міхаіл Сцяпанавіч (1899), старшыня праўлення Дзяржынскага райспажыўсаюза. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

СІТНІК Іван Аляксандравіч (1889). Арыштаваны 21.10.1937. Асуджаны ў ліст. 1937.

СКАРАБАГАТЫ Сцяпан Карлавіч (1865), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 29.10.1937.

СМОЛЬСКІ Аляксандр Генрыхавіч (13.8.1894), галоўны бухгалтар Дзяржплана БССР. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

СТАНКЕВІЧ Адам Паўлавіч (1898), урач Смілавіцкай бальніцы. Арыштаваны 1.10.1937. Асуджаны 11.11.1937.

СУХОЦКІ Язэп Віктаравіч** (1899), сталяр аўтабазы Іванаўскага мехпункта. Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ТУМІЛОВІЧ Станіслаў Язэпавіч (1906), шафёр калгаса імя 16-га з'езда партыі». Арыштаваны 24.7.1937. Асуджаны 17.11.1937.

УРУБЛЕЎСКІ Аляксандр Вацлававіч (1894), калгаснік. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

УРУБЛЕЎСКІ Уладзімір Адамавіч (1862), калгаснік. Арыштаваны 15.9.1937. Асуджаны 26.10.1937.

ХУРС Філімон Іванавіч (1901), працаваў у калгасе імя Энгельса. Арыштаваны 29.9.1937. Асуджаны 2.11.1937.

ЦІШКЕВІЧ Міхаіл Эдуардавіч (1895), тэхнік па добраўпарадкаванні гаркамгаса ў Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ШАБУНЕВІЧ Вікенцій Язэпавіч** (1888). Арыштаваны 18.7.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ШАБУНЕВІЧ Язэп Антонавіч (1903), каваль завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 3.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ШАЎЧУК Вера Якаўлеўна (1904), працавала ў калгасе «Бязбожнік». Арыштавана 12.9.1937. Асуджана 15.11.1937.

ШПІЛЕЎСКАЯ Амелія Антонаўна (1890), працавала ў калгасе «Бязбожнік». Арыштавана 13.9.1937. Асуджана 15.11.1937.

ШУГАЛЕЙ Якаў Іванавіч (1910), працаваў у калгасе «Серп». Арыштаваны 25.9.1937. Асуджаны 2.11.1937.

ШЭЛЕСТ Лука Дзмітрыевіч (1900), працаваў у «Белкапсаюзе» ў Мінску. Арыштаваны ў жн. 1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЮШКЕВІЧ Вацлаў Адамавіч** (1884), старшыня калгаса «8-га Сакавіка». Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны 26.10.1937.

ЯНУШКЕВІЧ Аляксандр Рыгоравіч (1893), габлявальшчык Мінскага гарбарнага завода «Бальшавік». Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЯСЮКЕВІЧ Іван Адамавіч (1872), працаваў у калгасе «Чырвоный Кастрычнік». Арыштаваны 27.5.1937. Асуджаны 22.11.1937.

**28 лістапада 1937**

АДАМОВІЧ Іван Вікенцевіч (15.11.1912), начальнік паштовага аддзялення «Чырвонае ўрочышча» ў Мінску. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 15.11.1937.

АНСІЛЕЎСКІ Браніслаў Іванавіч (1899), рымар калгаса імя Дзяржынскага. Арыштаваны 28.5.1937. Асуджаны 22.11.1937.

АНСІЛЕЎСКІ Сцяпан Вікенцевіч (1876), працаваў у калгасе імя Дзяржынскага. Арыштаваны 28.5.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ВАШКЕВІЧ Васіль Язэпавіч** (1892), возчык УВБР-75 у пас. Мар'іна Горка. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 15.11.1937.

ВІТКОЎСКІ Рыгор Іванавіч** (1911), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.2.1937. Асуджаны 10.10.1937.

ВЯРЫГА Іван Аляксандравіч (1903), працаваў у калгасе імя Сталіна. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ГЕЦЭВІЧ Алена Нікадзімаўна (1885), хатняя гаспадыня. Арыштавана 26.10.1937. Асуджана 22.11.1937.

ДАРАШКЕВІЧ Казімір Іванавіч** (1865), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 15.11.1937.

ЗАПРУДСКІ Сяргей Дзмітрыевіч (1905), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 16.11.1937.

КУНІДСКІ Язэп Канстанцінавіч (1895), загадчык склада Райзага ў Мінску. Арыштаваны ў жн. 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЛІПЕНЬ Франц Феліцыянавіч (1898), загадчык фермы калгаса імя Дзяржынскага. Арыштаваны 28.5.1937. Асуджаны 22.11.1937.

МАРШАК Абрам Аронавіч (1900), цясляр саўгаса «Першая Лошыца». Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

МІНЬКО Вікенцій Вікенцевіч (1913), калгаснік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ОРМАН Леў Ісакавіч (14.2.1914), студэнт 3-га курса БПІ. Асуджаны 28.11.1937.

ПАЛОНСКІ Іван Ігнатавіч (15.8.1877), вартаўнік пякарні № 3 у Мінску. Арыштаваны 4.9.1937. Асуджаны 15.11.1937.

ХАРЛАП Павел Якаўлевіч (снеж. 1885), рабочы піўзавода «Беларусь» у Мінску. Арыштаваны 4.9.1937. Асуджаны 15.11.1937.

ЦУПРЫК Тарас Якаўлевіч (1902), рабочы універсітэцкага гарадка ў Мінску. Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ШЧАСНЫ Кірыла Андрэевіч** (1907), брат М. *Шчаснай* (гл.: 28.9.1937), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 17.6.1937. Асуджаны 10.10.1937.

ЯКУБОЎСКІ Адольф Язэпавіч (1898), калгаснік. Арыштаваны 28.5.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЯНУШКЕВІЧ Іван Сцяпанавіч (1905), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

## 29 лістапада 1937

БОХАН Аляксандр Міхайлавіч (1915), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 7.6.1937.

ГАРТМАН Фрыдрых Язэпавіч (1903). Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ЮХНОВІЧ Феліцыян Францавіч (1884), калгаснік. Арыштаваны 2.8.1937. Асуджаны 29.10.1937.

## 3 снежня 1937

АБРОСІМАЎ Міхаіл Іванавіч (1885), механік станкабудаўнічага завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны ў ліст. 1937. Асуджаны 22.11.1937.

АРЦЮШЭЎСКАЯ-СУДНІК Браніслава Казіміраўна (1905), рахункавод канторы «Заготзерно» чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштавана 3.9.1937. Асуджана 20.11.1937.

АСТАШЭВІЧ Магдаліна Сцяпанаўна (1893), хатняя гаспадыня. Арыштавана ў 1937. Асуджана 28.11.1937.

БАБІНЕЦ Мікалай Сцяпанавіч (1899), загадчык тэхнічнага склада радыёстанцыі ў пас. Калодзішчы. Асуджаны 22.11.1937.

БАРАНСКІ Фёдар Аляксеевіч* (1894), брат П. *Баранскага* (гл.: 15.3.1938), дырэктар няпоўнай СШ в. Лісічана Крупскага р-на Мінскай вобл. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

БЕНЕДЗІКТОВІЧ Вікенцій Гіляравіч (1883), бацька Б. і Я. *Бенедзіктовічаў* (гл.: 15.12.1937; 25.12.1937), конюх калгаса «Чырвоны Кастрычнік». Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ВАЙТКЕВІЧ Мікалай Язэпавіч (10.9.1872), пенсіянер. Арыштаваны 3.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ВАЛАХНОВІЧ Аляксандр Фёдаравіч (1911), слесар Дзяржынскай МТС. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

ВАРЭНІК Мікалай Іванавіч (13.3.1906), старшы машыніст чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ВАРЭНІК Уладзіслаў Міхайлавіч (1894), слесар Мінскага хімікафармацэўтычнага завода. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ГАРКАЧ Сцяпан Аляксандравіч (1.7.1886), апальшчык лазні на ст. Негарэлае. Арыштаваны 25.9.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ГРЫЧУК Лука Фёдаравіч (1897), загадчык матэрыяльнай базы 1-й мінскай электрастанцыі. Арыштаваны 3.8.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ГУРЫН Віктар Васілевіч (24.10.1906), машыніст чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 5.10.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ДАМАРАЦКІ Леанід Якаўлевіч (1908), шавец. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ДАМБРОЎСКІ Юльян Язэпавіч** (15.4.1905), шафёр. Арыштаваны 7.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ДАШКЕВІЧ Іван Віктаравіч (1894), працаваў у калгасе «Чырвоны партызан». Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ДЗЯМЧЫЛА Логвін Якаўлевіч** (16.10.1876). Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ДЗЯНІСКЕВІЧ Уладзімір Васілевіч** (1899), рамонтнік 703-га ўчастка Ушашдара. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ДОЎНАР Іван Іванавіч (1904), начальнік кацельнага цэха завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ДУШЭЎСКІ Пётр Язэпавіч (1891), рабочы чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЕНЗА Іван Вікенцевіч (1898), рабочы. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЖЫВІЦА Казімір Адамавіч (1908), старшыня калгаса. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЖЫЛАН Пётр Іванавіч (1899), рабочы. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЗАЛІПАЕВА Вера Аляксандраўна** (1905), конюх. Арыштавана 11.11.1937. Асуджана 20.11.1937.

ЗАЎСЦІНСКІ Валяр'ян Юльянавіч (1904), слесар завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны 27.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЗАХАРАЎ Рыгор Макаравіч (1910), слесар Дзяржынскай МТС. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

ІВАНОЎСКІ Аляксандр Міхайлавіч (22.2.1885), машыніст чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 13.7.1937. Асуджаны 20.11.1937.

КАЛЕЧЫЦ Мікалай Іванавіч (27.7.1896), агент па забеспячэнні буфета-рэстарана чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 27.8.1937. Асуджаны 20.11.1937.

КАСЦЕЦКІ Станіслаў Вікенцевіч (1905), сталяр. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 22.11.1937.

КІМПЕЛЬ Кірыла Антонавіч (1887), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 23.11.1936.

КЛАЧКО Іван Антонавіч (1897), рабочы чыгуначнай ст. Фаніпаль. Арыштаваны 22.8.1937. Асуджаны 20.11.1937.

КЛІМ Іван Іванавіч (1903), супрацоўнік Ушашдара ў Слуцку. Арыштаваны 11.7.1937. Асуджаны 22.11.1937.

КРАСНІК Мікалай Іванавіч (1888), брат К. *Красніка* (гл.: 27.8.1937), начальнік цэха завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны ў ліст. 1937. Асуджаны 22.11.1937.

КРУПІЦА Алена Іванаўна (1864), хатняя гаспадыня. Арыштавана ў 1937. Асуджана 28.11.1937.

КУЗНЯЦОВА Варвара Пятроўна (1880), працавала ў друкарні імя Сталіна ў Мінску. Арыштавана ў 1937. Асуджана 28.11.1937.

КУЛІКОЎСКІ Антон Міхайлавіч (1892), калгаснік. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЛАНОВІЧ Лідзія Цімафееўна (1898). Асуджана 28.11.1937.

ЛЕАНОВІЧ Эдуард Вікенцевіч (1.9.1888), слесар-водаправодчык бальніцы пры чыгуначнай ст. Мінск-Таварны. Арыштаваны 4.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЛЕВАНДОЎСКІ Сцяпан Сцяпанавіч (1907), рабочы майстэрні 7-й кавалерыйскай дывізіі БВА ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЛЕВАНДОЎСКІ Сцяпан Юльянавіч (1860?), верагодна, бацька С. *Левандоўскага*, нікеліроўшчык завода «Ланцугі Галя» ў Мінску. Асуджаны 28.11.1937.

ЛЕВАШКЕВІЧ Соф'я Станіславаўна (1895), верагодна, сястра А.*Левашкевіча* (гл.: 3.11.1937), рабочая арцелі імя Фрунзе ў Мінску. Арыштавана 13.10.1937. Асуджана 28.11.1937.

ЛУКАЎ Борух Хаймавіч (1907), кравец швейнай фабрыкі «КІМ» у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЛУКАШЭВІЧ Аляксей Васілевіч (1893), рабочы шклянога завода ў Мінску. Арыштаваны 12.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЛЯШЧЫНСКІ Пётр Мікалаевіч** (1907), слесар вайсковай службы чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 8.9.1937. Асуджаны 20.11.1937.

МАТУСЕВІЧ-ЯРАШЭВІЧ Серафіма Міхайлаўна (1897), калгасніца. Асуджана 28.11.1937.

МАЦЭВІЧ Канстанцін Антонавіч (1892), брат Г. *Мацэвіча* (гл.: 28.10.1937), муляр завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны ў кастр. 1937. Асуджаны 22.11.1937.

МІСКІН Абрам Самуілавіч (1911), рабочы дыстанцыі пуці ў Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

МІСКІН Самуіл Беркавіч (1883), бацька А. *Міскіна* і Б. *Міскіна* (гл.: 9.1.1938), шавец майстэрні ваеннай школы ў Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

МОЎЧАН Караліна Стэфанаўна (Станіславаўна) (1904), сялянка-аднаасобніца. Арыштавана ў ліст. 1937. Асуджана 28.11.1937.

МЯКОТА Язэп Баляслававіч (1895), качагар 1-й Мінскай ГЭС. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

НАВАКОЎСКАЯ Разалія Карлаўна (1.10.1897), прыбіральшчыца Мінскага радыёвузла. Арыштавана 27.12.1936. Асуджана 16.9.1937.

НАЛІБОЦКІ Нохім Заруxавіч (1894), рамізнік гарпо ў Дзяржынску. Асуджаны 28.11.1937.

НАТОЧЫН Антон Савелевіч (1897), майстар гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

НЕМІРОВІЧ Андрэй Кліментавіч (18.8.1885), вагонны майстар чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 3.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ПАЛЯКОЎ Дзямід Іосіфавіч (15.8.1888), санітарны інспектар аддзела аховы здароўя ў Бабруйску. Арыштаваны 6.12.1936. Асуджаны 16.9.1937.

ПАЛЯШЧУК Антон Пятровіч (1909), конюх. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ПАРАЗІНСКІ (ПАРТАЗІНСКІ) Язэп-Пржэмыслаў Міхайлавіч (1882), землямер Лагойскага райземаддзела. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ПАЎЛОЎСКІ Канстанцін Канстанцінавіч (1911). Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ПАЎЛОЎСКІ Мікалай Канстанцінавіч (1914), брат К. *Паўлоўскага*, старшы касір Ушашдара. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ПАЎЛЮЧЭНКА Марк Андрэевіч (1901), грузчык чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 4.9.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ПАХОМ Язэп Адамавіч (1889), рабочы чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ПАХОМ Язэп Ігнатавіч (19.12.1890), сталяр службы эксплуатацыі чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ПАШКЕВІЧ Мікалай Антонавіч (1894), рабочы будаўнічай канторы Мінскага камунгаса. Асуджаны 22.11.1937.

ПІЛЕЦКІ Франц Іванавіч (1909), слесар завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны 27.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ПУСЬКО Аляксандр Аляксандравіч (1892), бухгалтар завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

САКОВІЧ Фабіян Уладзіміравіч (1909), наглядчык Мінскай унутранай турмы НКВД БССР. Арыштаваны 17.9.1937. Асуджаны 28.11.1937.

САПАЎ Мікалай Антонавіч (1901), пажарны ахоўнік Мінбуда. Арыштаваны 13.2.1937. Асуджаны 16.9.1937.

САЧУК Сяргей Язэпавіч (1895), загадчык склада Мінскага электрапрама. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

СІКОРСКІ Антон Ігнатавіч (1905), шавец. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 22.11.1937.

СКУРАТОВІЧ Язэп Аляксандравіч (ліст. 1893), повар сталовай № 1 Мінваенгандлю. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

СТАНКЕВІЧ Станіслаў Юльянавіч (1875), муляр. Арыштаваны 11.9.1937. Асуджаны 22.11.1937.

СТРЫЖЭЎСКІ Франц Феліцыянавіч (1893), тэлеграфіст Цэнтральнага тэлеграфа ў Мінску. Арыштаваны 1.9.1937. Асуджаны 19.11.1937.

СТЭЛЬМАХ Міхаіл Міхайлавіч (24.8.1897), вагаўшчык ст. Негарэлае. Арыштаваны 22.8.1937. Асуджаны 20.11.1937.

СЯЛІЦКІ Антон Ільіч (1.1.1884), шпалернік Мінскага завода імя Мяснікова. Арыштаваны 4.11.1937. Асуджаны 20.11.1937.

СЯПРОЎСКІ Тамаш Янавіч (Янкелевіч)* (1877), камендант вучэбнага корпуса Мінскага юрыдычнага інстытута. Арыштаваны 13.10.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ТРУХАН Рыгор Карпавіч (1893), машыніст 1-й Мінскай электрастанцыі. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ХАЦКЕВІЧ Аляксандр Ісакавіч* (16.1.1895), дзяржаўны дзеяч. Арыштаваны 25.7.1937. Асуджаны 24.11.1937.

ЦЫРКУН Уладзімір Максімавіч* (11.7.1892), настаўнік Мінскай СШ № 60. Арыштаваны 1.10.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЦЭЛЯК Іван Андрэевіч (1888), працаваў на 1-й электрастанцыі ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЦЭХАНОВІЧ Павел Антонавіч (19.11.1899), вагаўшчык ст. Негарэлае. Арыштаваны 4.9.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЧЫЖЭЎСКІ Леў Сцяпанавіч (1886), пуцявы абходчык чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ШКОЛЬНІК Вульф Самуілавіч* (1910), музыкант. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

ШОХАН Іларыён Яўстаф'евіч (6.6.1890), загадчык міжнароднай экспедыцыі Галоўнай паштовай канторы ў Мінску. Арыштаваны 16.10.1937. Асуджаны 13.11.1937.

ЮЛЬЯНСКІ Баляслаў Ігнатавіч (1886), рабочы завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЮШКЕВІЧ Міхаіл Язэпавіч (1890), працаваў у калгасе «Пралетарый». Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 22.11.1937.

ЯГОРАВА Надзея Ільінічна (1895), рабочая хіміка-фармацэўтычнага завода ў Мінску. Арыштавана ў 1937. Асуджана 22.11.1937.

ЯКУБОЎСКІ Антон Станіслававіч (1891), повар рэстарана пры чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 22.10.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ЯНУШКЕВІЧ Міхаіл Іванавіч (1903), слесар вайсковага склада № 147 чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны ў вер. 1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЯРАШЭВІЧ Анастасія Мікалаеўна (1906), работніца дзіцячых ясляў № 13 у Мінску. Асуджана 28.11.1937.

ЯРАШЭВІЧ Міхаіл Міхайлавіч (1902), кладаўшчык Мінскага трэста кафэ і рэстаранаў. Асуджаны 28.11.1937.

ЯРАШЭВІЧ Фёдар Міхайлавіч (1909), брат М. *Ярашэвіча*, наглядчык унутранай турмы НКВД БССР. Асуджаны 28.11.1937.

### 6 снежня 1937

ВАЛАСЕВІЧ Андрэй Андрэевіч (1915), брат Аркадзя *Валасевіча* (гл: 22.9.1938), рахункавод. Арыштаваны 21.10.1937. Асуджаны 17.11.1937.

ВАРАКСА Вітольд Іванавіч (1908), брыгадзір калгаса «Парыжская камуна». Арыштаваны 3.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

### 9 снежня 1937

БАРАНОЎСКІ Пётр Вікенцевіч** (18.10.1915), дзяжурны чыгуначнай ст. Прыяміна. Арыштаваны 22.8.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ВАЛАХНОВІЧ Адам Сцяпанавіч (26.9.1884), фельчар 5-га санітарнага ўчастка чыгуначнай ст. Мінск. Асуджаны 29.10.1937.

ДУДАРЭНКА Васіль Іванавіч (1901), слесар. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 2.11.1937.

КАВАЛЬЧУК Мікалай Васілевіч* (1887), настаўнік. Арыштаваны 13.10.1937. Асуджаны 29.10.1937.

КАЗАКЕВІЧ Іван Рыгоравіч (3.3.1889), інструктар школы ОРЗУ чыгуначнай ст. Мінск. Асуджаны 29.10.1937.

ПУШКЕЛЬ Казімір Адольфавіч** (1882), водаправодчык дэпо ст. Барысаў. Арыштаваны 20.8.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ТАКАРСКІ Іван Васілевіч (27.12.1898), сталяр завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 10.10.1937. Асуджаны 29.10.1937.

ШУШКЕВІЧ Віктар Барысавіч (22.5.1885), начальнік 5-га санітарнага ўчастка чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 23.9.1937. Асуджаны 29.10.1937.

**10 снежня 1937**

ЖОЛУД Уладзімір Платонавіч (1904), сын П. *Жолуда* (гл.: 23.10.1937), працаваў у калгасе імя Гікалы. Арыштаваны 18.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

**11 снежня 1937**

МАЦЭЛЯ Пётр Раманавіч (1905), працаваў у калгасе «Чырвоны вартаўнік». Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 29.11.1937.

**15 снежня 1937**

АДАМОВІЧ Юльян Палікарпавіч (1894), працаваў у калгасе «Чырвонае Росна». Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 29.11.1937.

АЛЕКСЯЁНАК Аляксандр (Алесь) Фёдаравіч (Тодаравіч) (1911), трактарыст Смалявіцкай МТС. Арыштаваны 27.9.1937. Асуджаны 29.11.1937.

АНДРЫЕЎСКІ Пётр Сцяпанавіч (17.3.1883), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

АПРАНОВІЧ Алена Адамаўна (1894), калгасніца. Арыштавана 20.11.1937. Асуджана 28.11.1937.

АСКЕРКА Баляслаў Казіміравіч (1903), слесар Мінбуда. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

АФАНАСЬЕЎ Мікалай Васілевіч (9.5.1909), заатэхнік саўгаса «Негарэлае». Арыштаваны 17.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

БАРАВІК Вікенцій Фаміч (16.1.1876), кладаўшчык калгаса «Ленінскі шлях». Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

БАРАН Рахмеіл Мордухавіч (1885), рамізнік арцелі «Хімпрам» ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

БЕНЕДЗІКТОВІЧ Браніслаў Вікенцевіч (1911), сын В. *Бенедзіктовіча* (гл.: 3.12.1937), брат Я. *Бенедзіктовіча* (гл.: 28.12.1937), рабочы Уздзенскага лесхімгаса. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 29.11.1937.

БІРУЛЯ Адам Ігнатавіч (1903), рахункавод Паланевіцкага сельсавета. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

БУЙ Сямён Трафімавіч (1901), працаваў у калгасе імя 6-га з'езда Саветаў. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

БУЭЛЬ Зянон Мікалаевіч (1894), ахоўнік тара-скрыневага камбіната ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

БЯЛІНСКІ (БЯРЛІН, БЯЛІК) Сямён (Саламон) Майсеевіч (1883). Арыштаваны 1.8.1937. Асуджаны 30.11.1937.

ВАЗНЯК Яўгенія Ігнацеўна (1898), хатняя гаспадыня. Асуджана 28.11.1937.

ВАЛАХАНОВІЧ Вікенцій Пятровіч (1907), начальнік пажарнай каманды Дзяржынскай МТС. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ВАЛАХАНОВІЧ Язэп Пятровіч (1903), брат В. *Валахановіча,* вартаўнік Дзяржынскай МТС. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 28.11.1937 (?).

ВЕЧАР Іван Якаўлевіч (1906), курсант школы тэхнікаў у Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ВОЙНА Эдуард Валяр'янавіч (1906), працаваў у калгасе «28 жніўня». Арыштаваны 21.9.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ВЯРЫГА Франц Канстанцінавіч (1907), старшыня калгаса ў в. Андрыешчына Дзяржынскага р-на. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ГЕРАСІМОВІЧ Мікалай Дзям'янавіч (8.12.1875), вартаўнік хлебапякарні ў Мінску. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

ГЕРТ Іван Антонавіч (1913), тэлефаніст. Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ГЕРТ Тадэвуш-Фёдар Антонавіч (1910), цясляр. Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ДАВІДОВІЧ Іван Васілевіч (1879), палацёр Дзяржбанка ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 29.11.1937.

ДОЎНАР Вікенцій Іванавіч (1892), брыгадзір кацельшчыкаў завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ДРАЗДОВІЧ Лявон Францавіч (1903), рабочы 1-й Мінскай электрастанцыі. Арыштаваны 16.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ДУШКЕВІЧ Станіслаў Феліцыянавіч (1905), старшыня калгаса «Першы з'езд». Арыштаваны 15.9.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЖАЎКЕВІЧ Іван Іванавіч (1900), служачы ў Дзяржынску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЖЫЎЛЮК Мікалай Язэпавіч (1886), бухгалтар Мінскага гарана. Арыштаваны 5.11.1937. Асуджаны 29.11.1937.

КАЛЕЧЫЦ Раймунд Іванавіч (1888), працаваў у калгасе «Абуджэнне». Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

КАРЖАНЕЎСКІ Антон Савелевіч (1898), эканаміст-фінансіст Наркамзема БССР. Арыштаваны 5.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

КАРЧЫНСКІ Іпаліт Язэпавіч (1877), бацька С. *Карчынскага* (гл.: 20.10.1937), праваднік вагоннага дэпо Мінскага чыгуначнага рэзерва. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

КАСЦЕВІЧ Сцяпан Фёдаравіч (8.9.1895), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 19.9.1937. Асуджаны 30.11.1937.

КАХАНОЎСКІ Адольф Ануфрыевіч (1893), манцёр Мінскай гарадской тэлефоннай станцыі. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

КІРШТЭЙН Якаў Ісаевіч (1900), загадчык аддзела рэдакцыі мінскай польскай газ. «Orka», Белрадыёкамітэта. Арыштаваны 4.8.1937. Асуджаны 28.11.1937.

КЛЯНОЎСКІ Вікенцій Вікенцевіч (1897), брат С. і Я. *Кляноўскіх* (гл.: 22.11.1937), шавец. Асуджаны 28.11.1937.

КОРЗУН Аляксандр Юльянавіч (1911), брыгадзір калгаса «28 жніўня». Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 29.11.1937.

КОРЗУН Юльян Антонавіч (1877), бацька А. *Корзуна*, працаваў у калгасе «28 жніўня». Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 29.11.1937.

КУДЗЕЛІК Юльян Францавіч (12.4.1900), загадчык нафтабазы Смалявіцкай МТС. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 29.11.1937.

КУМЛЯК Піліп Варфаламеевіч* (1882), настаўнік школы в. Яловіца Смалявіцкага р-на. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 29.11.1937.

КУРАКЕВІЧ Антон Станіслававіч (15.7.1910), каваль калгаса «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

ЛАЗОЎСКІ Іван Язэпавіч (1893), брыгадзір калгаса «28 жніўня». Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ЛАЎРОВІЧ Язэп Пракопавіч (1902), інжынер Дзяржынскай МТС. Арыштаваны 25.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЛІПЕНЬ Міхаіл Вікенцевіч** (1877), калгаснік. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

ЛІПМАН Шоя-Энах Шмулевіч (1873), служыцель культу ў Мінску. Арыштаваны 4.9.1937. Асуджаны 30.11.1937.

ЛІПНЕВІЧ Герасім Адамавіч (1890), бухгалтар Мінскага гаржылсаюза. Арыштаваны 16.9.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЛІПНЕВІЧ Пелагея Самуілаўна (1901), рахункавод у Мінску. Арыштавана ў 1937. Асуджана 28.11.1937.

ЛІХАДЗІЕЎСКІ Адольф Германавіч (1897), калгаснік. Арыштаваны ў кастр. 1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЛІХАДЗІЕЎСКІ Іван Германавіч (1903), брат А. *Ліхадзіеўскага*, калгаснік. Арыштаваны 29.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЛУК'ЯНОВІЧ Міхаіл Сямёнавіч (15.10.1907), камандзір роты 5-га стралковага палка ў Мінску. Арыштаваны 4.11.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ЛЯШКЕВІЧ Фёдар Якаўлевіч** (1883), селянін. Арыштаваны 4.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

МАРТУСЕВІЧ Іосіф Іосіфавіч* (1890), загадчык архіва Дзяржаўнага банка БССР. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

МАРЦУЛЬ Уладзімір Васілевіч (1903), шпалернік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

МІЛЕЎСКІ Уладзімір Дзям'янавіч (1897), пчалавод калгаса «Чырвоны пуцілавец». Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

МІНЬКО Валяр'ян Іванавіч (1899), прадавец кааператыўнага магазіна ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

МІХАЛЕВІЧ Клімент Паўлавіч (1890), сталяр арцелі «Парыжская камуна» (Мінскі р-н). Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

МІХАЛЬЧУК Цярэнцій Антонавіч (1885), рабочы Мінскай радыёстанцыі РВ-10. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

НІКАЛАЕЎ Валянцін Ільіч (1.6.1881), бухгалтар. Арыштаваны 3.9.1937. Асуджаны 23.11.1937.

НЯБЕСКІ Арон Моталевіч (Мотылавіч) (1905). Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.11.1937 (?).

ПАЛЯШЧУК Пётр Аляксандравіч (1868), пастух калгаса «Чырвоны Кастрычнік». Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ПАНЬКО Станіслаў Ігнатавіч (1905), бухгалтар. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ПАРАЗІНСКАЯ Хрысціна Сабінаўна (1862). Арыштавана ў 1937. Асуджана 28.11.1937.

ПАРХІМОВІЧ Валяр'ян Карлавіч (1888), рабочы Дзяржынскай МТС. Арыштаваны 25.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ПАЎЛЮЦЬ Станіслаў Людвігавіч (1880), апальшчык БДТ-1. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 29.11.1937.

ПЕТУХОЎСКІ Мечыслаў Нікадзімавіч (2.6.1885), загадчык канторы «Заготзерно» ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ПЕЧАНКО Канстанцін Лявонавіч (11.4.1878), эканаміст «Белкаапплодагароднiны» ў Мінску. Арыштаваны 3.9.1937. Асуджаны 30.11.1937.

ПЯКАРСКІ Юльян Антонавіч (21.7.1898), начальнік пажарнай дружыны калгаса «Абуджэнне». Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ПЯТРОВІЧ Аляксандр Андрэевіч (1871), працаваў у калгасе «28 жніўня». Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ПЯТРОВІЧ Вікенцій Юльянавіч (1903), каваль калгаса «28 жніўня». Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ПЯТРОВІЧ Эдуард Язэпавіч (1904), працаваў у калгасе «28 жніўня». Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны 29.11.1937.

РАВІНСКІ Антон Якаўлевіч* (1877), дырэктар пачатковай школы ў в. Карзюкі Мінскага р-на. Арыштаваны 20.11.1937.

РАКІЦКІ Васіль Мікалаевіч (22.4.1904), рабочы. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 29.11.1937.

РУДАКОЎСКІ Захар Ануфрыевіч (1899), працаваў у калгасе «28 жніўня». Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны 29.11.1937.

РЫБАКОЎ Міна Адамавіч* (1902), загадчык вучэбнай часткі Мінскага тэхнікума ўліку народнай гаспадаркі. Арыштаваны 5.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

СНАРСКІ Язэп Дзям'янавіч (1891), рабочы чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 28.8.1937. Асуджаны 28.11.1937.

СТАЛЯРНІК Мікалай Мартынавіч (1902), працаваў у калгасе імя Яжова. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 29.11.1937.

СУХАДОЛЕЦ Сямён Львовіч* (12.3.1871), настаўнік школы в. Вялікія Лукі Пухавіцкага р-на. Арыштаваны 10.9.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ТУРКІН Іона Паўлавіч (1903), аграном. Асуджаны 28.11.1937.

ФРАЙГАР Віктар (Людвіг) Эдуардавіч (1892), працаваў у калгасе «28 жніўня». Арыштаваны 26.4.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ХАРЫТАНОВІЧ Рыгор Сысоевіч (1883), бухгалтар. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ХМЯЛЕЎСКІ Пётр Майсеевіч (1875), садавод. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЧАРВЯК Аляксандр Андрэевіч** (20.5.1901), пастух рыбгаса «Волма». Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

ШАБУНЕВІЧ Аляксандр Карлавіч (1902), працаваў у калгасе «28 жніўня». Арыштаваны 18.9.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ШАБУНЕВІЧ Казімір Язэпавіч (1899), калгаснік. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

ШАБУНЕВІЧ Станіслаў Карлавіч (1907), брат А. *Шабуневіча*. Працаваў у калгасе «28 жніўня». Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ШАРКО Іван Васілевіч (1898), нарыхтоўшчык гарпо ў Дзяржынску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.11.1937.

ШМУКЛЕР Майсей Восіпавіч (1903), планавік-эканаміст Наркамхарчпрама БССР. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ШНУР Лазар Якаўлевіч (1903), рабочы. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ШПІЛЕЎСКІ Баляслаў Францавіч (1883), рабочы УВБР-67. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ШУНЕЙКА Франц Феліцыянавіч (1900), грузчык Дома друку Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ШЫШКО Сямён Герасімавіч (1893), старшыня калгаса «Абуджэнне». Арыштаваны 17.11.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЮХНОВІЧ Уладзіслаў Адамавіч (2.54.1877), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 30.11.1937.

ЯНІШЭЎСКАЯ Станіслава Казіміраўна (1892). Арыштавана 1.11.1937. Асуджана 28.11.1937.

### 16 снежня 1937

МАЗАНІК Васіль Яўстаф'евіч (Яфімавіч) (1904), рабочы-рамшчык лесазавода імя Молатава ў Мінску. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

ЯВОРСКІ Іван Антонавіч (1885), загадчык спецсектара АН БССР. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 28.11.1937.

**17 снежня 1937**

КІДРАН Аляксандр Міхайлавіч (1899), грузчык. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 9.12.1937.

РУДЗЬКО (РУДЗЬКА) Вера Пятроўна (17.12.1900), хатняя гаспадыня. Арыштавана 18.8.1937. Асуджана 17.12.1937.

**20 снежня 1937**

АДЫНЕЦ Язэп Аляксандравіч (1894), працаваў у калгасе імя Дзяржынскага. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

АЙЗЕНСОН Ізраіль Маркавіч* (снеж. 1896), загадчык планава-эканамічнага аддзела Наркамата мясцовай прамысловасці БССР. Арыштаваны 19.6.1937. Асуджаны 19.12.1937.

АМБРАЖУНАС Пётр Іосіфавіч* (24.1(6.2).1892), нам. наркама камунальнай гаспадаркі БССР, старшыня праўлення Саюза архітэктараў БССР (1934—37). Арыштаваны 3.7.1937. Асуджаны 20.12.1937.

АФАНАСЬЕЎ Якаў Мікітавіч* (21.10.1877), дырэктар Інстытута аграглебазнаўства БелАН. Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 19.12.1937.

БЕРНШТЭЙН Барыс Рыгоравіч* (1894), часова в.а. дырэктара трэста «Галоўхлеб» у Мінску. Асуджаны 19.12.1937.

БУРАЧЭЎСКАЯ Хрысціна Іванаўна (1900), верагодна, жонка А. *Бурачэўскага* (гл: 13.2.1938), працавала ў калгасе «Чырвоны памежнік». Арыштавана 18.11.1937. Асуджана 14.12.1937.

ВАЛАДЗЬКО Іосіф Ігнатавіч* (1887), супрацоўнік наркамата сувязі Казахскай ССР. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ГАРАНІН Фёдар Піліпавіч* (22.4.1898), начальнік аддзела Беларускага ўпраўлення сувязі. Арыштаваны 25.10.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ГІМЕЛЬФАРБ Самуіл Майсеевіч* (1.3.1894), загадчык кафедры БПІ. Асуджаны 19.12.1937.

ГЛЕЗЕРАЎ (ГЛЕЙЗЕРАЎ) Барыс Маркавіч* (жн. 1901), часова в.а. пракурора БССР. Арыштаваны 2.9.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ГНІЛЯКЕВІЧ Аркадзь Васілевіч* (1.10.1891), загадчык фінансава-гаспадарчага сектара (аддзела) ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 14.8.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ГРАБЕР Бярнард Міхайлавіч (ліст. 1908), сакратар Сталінскага райкама камсамола Мінска. Арыштаваны 15.8.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ДРУЖЧЫЦ Васіль Данілавіч* (27.1(8.2).1886), гісторык. Арыштаваны 14.1.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ЖАБІНСКІ Іосіф Вікенцевіч* (студз. 1888), начальнік групы Беларускага ўпраўлення сувязі. Арыштаваны 20.10.1937. Асуджаны 19.12.1937.

КАЛЕНІК Аляксей Фёдаравіч (1904), начальнік будаўнічай пляцоўкі № 2 у Мінску. Арыштаваны 12.11.1937. Асуджаны 19.12.1937.

КАРДАШЭНКА Майсей Самсонавіч* (1884), начальнік аддзела матфондаў Дзяржплана БССР. Арыштаваны 15.7.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ЛІСКОВІЧ Майсей Ізраілевіч* (30.12.1897), сакратар Сталінскага райкама партыі ў Мінску. Арыштаваны 2.8.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ЛЯЙБОВІЧ Ісак Майсеевіч (1.5.1906), інжынер БВА. Арыштаваны 13.11.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ЛЯШЧЫНСКІ Аркадзь Аляксандравіч* (16.7.1899), дзяржаўны дзеяч, нам. наркама асветы БССР. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 19.12.1937.

МАЗАЛЯКА Мікалай Васілевіч* (9.5.1899), начальнік аддзела збыту Наркамлеса БССР. Арыштаваны 15.7.1937. Асуджаны 19.12.1937.

МАТУСЕВІЧ Марк Майсеевіч* (снеж. 1895), нам. наркама фінансаў БССР. Арыштаваны 4.10.1937. Асуджаны 19.12.1937.

НЕКРАШЭВІЧ Сцяпан Міхайлавіч* (8.5.1883), мовазнаўца, грамадскі дзеяч, дырэктар Інстытута мовазнаўства, старшыня камісіі па ўкладанні слоўніка жывой бел. мовы, старшыня правапіснай і аспіранцкай камісій. Чарговы раз арыштаваны ў ліст. 1937. Асуджаны 19.12.1937.

ОКУР Іосіф Вульфавіч* (12.12.1901), настаўнік гісторыі Астрашыцкай СШ. Арыштаваны 4.3.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ПІЯТУХОВІЧ Міхаіл Мікалаевіч* (23.2.1891), літаратуразнаўца, крытык, педагог. Арыштаваны 9.1.1937. Асуджаны 19.12.1937.

ПУПКО Уладзімір Іванавіч (1898), возчык лазнетрэста ў Мінску. Арыштаваны 15.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

РАБЕЦ Рыгор Фаміч (19.11.1893), пуцявы абходчык участка Мінск–Радашковічы. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

РАЧЫЦКІ Піліп Мікалаевіч (студз. 1893), нам. кіраўніка трэста «Лесбел» у Мінску. Арыштаваны 29.6.1937. Асуджаны 19.12.1937.

РОЗІН Ісак Абрамавіч (1910), студэнт 2-га курса гістарычнага ф-та Мінскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 17.12.1937.

РУШЫНГ Артур Аскаравіч* (18.9.1900), вайсковец, удзельнік грамадзянскай вайны. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 19.12.1937.

СУЛКОЎСКІ Фёдар Васілевіч* (28.12.1888), нам. кіраўніка спраў СНК БССР. Арыштаваны 5.8.1937. Асуджаны 19.12.1937.

СУРТА Іван Захаравіч* (10(22).11.1893), прэзідэнт АН БССР. Асуджаны 19.12.1937.

ТУРБОВІЧ Дора Рыгораўна* (1899), выкладчыца Інстытута аспірантуры АН БССР. Арыштавана 2.3.1937. Асуджана 19.12.1937.

ЯРАШЭВІЧ Рыгор Барысавіч (14.5.1898), стрэлачнік 504-га км чыгуначнага ўчастка Мінск–Радашковічы. Арыштаваны 16.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

**21 снежня 1937**

АНІШЧАНКА Васіль Самуілавіч (1907), начальнік аб'екта № 104 УВБР-91 у Мінску. Арыштаваны 14.11.1937. Асуджаны 20.12.1937.

ГОДЗЕР Майсей Натанавіч (6.3.1891), выкладчык Мінскага педагагічнага яўрэйскага вучылішча. Арыштаваны 15.8.1937. Асуджаны 20.12.1937.

ГРОС Эдуард Баляслававіч (1899), начальнік штаба 3-га кавалерыйскага корпуса ў Мінску. Арыштаваны 1.8.1937. Асуджаны 20.12.1937.

ЖОГАЎ Аляксандр Малахавіч* (10.4.1890), нам. наркама ўнутранага гандлю БССР. Арыштаваны 4.10.1937. Асуджаны 20.12.1937.

КАРАБКО Барыс Сцяпанавіч (23.12.1905), начальнік тэхнічнай часткі УВБР-91 у Мінску. Арыштаваны 14.11.1937. Асуджаны 20.12.1937.

КРАСНІЦКІ Іван Уладзіміравіч (1901), слесар-механік УВБР-91 у Мінску. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 20.12.1937.

ТАЛКАЧОЎ Філімон Антонавіч* (1898), камандзір 5-й стралковай дывізіі ў Полацку. Арыштаваны 20.6.1937. Асуджаны 20.12.1937.

ФІШАР Залман Сямёнавіч (сак. 1881), галоўны бухгалтар люстэркавай фабрыкі ў Мінску. Арыштаваны 20.8.1937. Асуджаны 20.12.1937.

ХАДАСЕВІЧ Пётр Іванавіч (24.6.1898), 2-гі сакратар Мінскага гаркама КП(б)Б. Арыштаваны 3.6.1937. Асуджаны 20.12.1937.

ШУШКЕВІЧ Браніслаў Іванавіч* (1890), дырэктар Інстытута балотнай гаспадаркі. Арыштаваны 26.9.1937. Асуджаны 20.12.1937.

**22 снежня 1937**

ДОЎНАР Раймунд (Раман) Антонавіч (1912), шафёр СНК БССР. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 20.11.1937.

ТАЎСЦЯНКОЎ Ціхан Фадзеевіч (1888), млынар лесапільнага завода ў Дзяржынску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 20.11.1937.

**24 снежня 1937**

ЖУКОВІЧ Емяльян Піліпавіч* (1897), наркам фінансаў БССР. Арыштаваны 4.10.1937. Асуджаны 19.12.1937.

КУЗНЯЦОЎ Іван Мікалаевіч (29.1.1896), дырэктар трэста «Белторф» у Мінску. Арыштаваны 5.9.1937. Асуджаны 24.11.1937.

**25 снежня 1937**

ЛЯДОЎСКІ Антон Міхайлавіч (1897), абрубшчык завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 21.1.1937. Асуджаны 14.12.1937.

МЕЛЯШКЕВІЧ Антон Сцяпанавіч (1894), нам. пастаяннага прадстаўніка БССР пры ўрадзе СССР. Арыштаваны 10.9.1937. Асуджаны 22.12.1937.

ПАСКРОБКА Ананій Ананевіч (1907). Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны 13.10.1937.

САКАЛОЎСКІ Георгій Мітрафанавіч (15.11.1899), старшы бухгалтар саўгаса імя Сталіна. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

**26 снежня 1937**

АНЕЙЧЫК Васіль Антонавіч (9.7.1904), рабочы. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

АСАНОВІЧ-МАНЬКОЎСКАЯ Юлія Аляксандраўна (16.2.1895), хатняя гаспадыня. Арыштавана 24.7.1937. Асуджана 17.12.1937.

АСТРОЎСКАЯ Паўліна Язэпаўна (1894), хатняя гаспадыня. Арыштавана 28.11.1937. Асуджана 14.12.1937.

АТРОШ Станіслаў Мікалаевіч** (1907), старшыня Станькаўскага сельсавета. Арыштаваны 28.7.1937. Асуджаны 17.12.1937.

БАЙРАШЭЎСКІ Аляксандр Мустафавіч (26.5.1890), старшы бухгалтар Белпрамсавета ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

БАРАВІК Канстанцін Канстанцінавіч (1908), грабар Белсельгасснаба ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 11.12.1937.

БЕЗАНСОН Антон Восіпавіч (10.6.1886), загадчык шавецкай майстэрні БВА ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

БОЙКА Станіслаў Іванавіч (1883), возчык склада «Белдрэў» у Мінску. Арыштаваны 17.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

БЯРЭНТ (БЕРАНТ) Цэцель (Цацэль) Гіршавіч (Геранавіч) (11.6.1908), вартаўнік пякарні. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ВЖОС Язэп Іванавіч (сак. 1904), загадчык млына калгаса «Сяброўства». Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ВІШНЕЎСКІ Язэп Ігнатавіч (11.2.1891), член Слуцкага акруговага суда. Арыштаваны 26.7.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ВЯРЖБІЦКАЯ Адальфіна Антонаўна (17.6.1892), краўчыха фабрыкі імя Крупскай у Мінску. Арыштавана 25.8.1937. Асуджана 17.12.1937.

ВЯРЖЫНСКАЯ Соф'я Антонаўна (вер. 1870), пенсіянерка. Арыштавана 24.8.1937. Асуджана 17.12.1937.

ГЛЕЗЕР Ісай Гіліч (1899), прараб Белкамунэнергабуда ў Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ГОГМАЕР-БЛЯДА Баляслаў Іванавіч (23.10.1896), загадчык аддзела забеспячэння Беллесаховы ў Мінску. Арыштаваны 16.9.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ГРЫНБЕРГ-БУЛЬКАЎШТЭЙН Клара Рыгораўна* (май 1896), настаўніца Мінскай СШ № 19. Арыштавана 23.8.1937. Асуджана 14.12.1937.

ДЗЯЛІДЧЫК-СТУДЭНТ Лізавета Ігнатаўна (1901), краўчыха фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску. Арыштавана 23.8.1937. Асуджана 17.2.1937.

ДОЎНАР Браніслаў Феліцыянавіч (1903), загадчык майстэрні радыёстанцыі РВ-10 у Мінску. Арыштаваны 3.11.1937. Асуджаны 11.12.1937.

ЕРМАЛОВІЧ Павел Віктаравіч (1904), пажарнік 4-га аддзялення Мінскай пажарнай аховы. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 26.12.1937.

ЖАБІЦКІ Пётр Іванавіч (29.7.1894), загадчык крамы № 78 Мінгархарчгандлю. Арыштаваны 16.11.1937. Асуджаны 26.12.1937.

ЖАЛЕВІЧ Іпаліт Фёдаравіч (1.1.1885), касір нафтабазы № 1 у Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ЖДАНОВІЧ Антон Паўлавіч* (18.4.1898), брат акцёра Ф. *Ждановіча* (гл.: 22.10.1937), акцёр. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 11.12.1937.

КАЛЕНТА Яўген Мітрафанавіч (15.2.1907), шавец Белкааптрэста ў Мінску. Арыштаваны 22.7.1937. Асуджаны 14.12.1937.

КАРТАЖЫНСКІ Хаім Абрамавіч (1.5.1907), механік-швейнік вытворчага камбіната Белваенгандлю ў Мінску. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 17.12.1937.

КАСЦЮК Мікалай Аляксандравіч (9.5.1884), настаўнік-загадчык Азярышча-Сляпянскай школы. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

КВЯТКОЎСКАЯ Браніслава Міхайлаўна (жн. 1894), хатняя гаспадыня. Арыштавана 24.8.1937. Асуджана 17.12.1937.

КОВЕЛЬ Іван Якаўлевіч (1912), бухгалтар Бел. ўпраўлення сувязі ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 12.11.1937.

КРАСУЦКІ Іван Казіміравіч (18.5.1918), манцёр АТС ў Мінску. Арыштаваны 5.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

КРАСУЦКІ Міхаіл Казіміравіч (2.9.1915), брат І. *Красуцкага,* студэнт Мінскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

КУЛІКОЎСКАЯ Марыя Іпалітаўна (1899), краўчыха фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску. Арыштавана 1.11.1937. Асуджана 17.12.1937.

КУЛІКОЎСКАЯ-ЯВОРСКАЯ Феліцыя Іпалітаўна (1903), сястра М. *Кулікоўскай,* рабочая Мінскай фабрыкі імя Куйбышава. Арыштавана 1.11.1937. Асуджана 17.12.1937.

КУРЛОВІЧ Берта Майсееўна (1904), краўчыха фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску. Арыштавана 24.8.1937. Асуджана 17.12.1937.

ЛЮЦЬКО Ніна Нічыпараўна (1901), сястра М. *Люцькі* (гл.: 27.12.1937), медсястра клінічнай бальніцы ў Мінску. Арыштавана ў 1937. Асуджана 11.12.1937.

ЛЯЎКО Язэп Дамінікавіч (23.1.1892), працаваў у калгасе «Усход». Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ЛЯЎКОВІЧ Валяр'ян Фаміч (Тамашавіч) (1903), працаваў у калгасе «Чырвоны памежнік». Арыштаваны 28.8.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ЛЯЎКОВІЧ Самсон Якаўлевіч* (10.1.1911), загадчык аддзела мінскай польскай газ. «Orka». Арыштаваны 4.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

МАГІЛЬНІЦКАЯ Яўгенія Хведараўна (8.11.1883), кандуктар трамвайнага парка ў Мінску. Арыштавана 24.8.1937. Асуджана 17.12.1937.

МАЛІШЭЎСКІ Феліцыян Ігнатавіч (1902), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 11.12.1937.

ПАЛАНЕВІЧ Казімір Уладзіміравіч (Уладзіслававіч) (4.3.1884), вартаўнік саўгаса «Чырвоны сувязіст». Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ПАЛАНЕВІЧ Феліцыян Уладзіміравіч (1898), ляснік Мінскага райлясгаса. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ПАЎЛОЎСКІ Казімір Сільвестравіч (1886), пенсіянер. Арыштаваны 21.8.1937. Асуджаны 11.12.1937.

ПАШКЕВІЧ Сцяпан Восіпавіч (9.10.1887), сталяр. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ПЕРАВАЛОЦКІ Васіль Лаўрэнавіч (1916), студэнт БПІ. Арыштаваны 16.9.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ПЕТРАШКЕВІЧ Феліцыян Феліксавіч (16.2.1891), старшы майстар хлебазавода № 6 у Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ПІТКЕВІЧ Феліцыян Францавіч (1883), пекар булачнай № 4 у Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

РАЗЕНБАЎМ-ДРЖАВЕЦКАЯ Ада Уладзіславаўна* (1905), настаўніца. Арыштавана 30.8.1937. Асуджана 14.12.1937.

РАЗЕНТАЛЬ Фаіна Рыгораўна (1892), касір Міндарбуда. Арыштавана 23.8.1937. Асуджана 14.12.1937.

СЕМЯНЧУК Язэп Акімавіч* (1902), выкладаў ваенную справу ў Інстытуце нацыянальных меншасцяў і школе № 25 у Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

СТАНКЕВІЧ Эдуард Дзям'янавіч (4.10.1893), дырэктар Мінскага водаканалбуда. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

СТРЫГА Васіль Трафімавіч (крас. 1897), пажарнік завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

СТРЫГА Іван Трафімавіч (7.5.1901), брат В. *Стрыгі,* пажарнік завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

УМЕЦКІ Іван Іванавіч (1874), бацька Ф. і У. *Умецкіх,* рамізнік Мінводаканалізацыі. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

УМЕЦКІ Уладзімір Іванавіч (1909), слесар-водаправодчык БДТ-1. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

УМЕЦКІ Франц Іванавіч (1905), загадчык аддзела Мінводаканала. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

УРОНСКАЯ Кацярына Генрыхаўна (5.8.1880), хатняя гаспадыня. Арыштавана 19.11.1937. Асуджана 14.12.1937.

УРУБЛЕЎСКАЯ Ніна Францаўна (1900), хатняя гаспадыня. Арыштавана 21.8.1937. Асуджана 14.12.1937.

УСНІЧ Аляксандр Андрэевіч (вер. 1905), інжынер-тэхнолаг Мінскага гідролізнага завода. Арыштаваны 26.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ФЕДАРОВІЧ Браніслаў Фаміч (1890), бухгалтар крамы № 17 гаспадарчых і будаўнічых матэрыялаў у Мінску. Арыштаваны 23.9.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ФІЛІПОВІЧ Андрэй Францавіч (1895), калгаснік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 11.12.1937.

ФІЯЛА Альгерт Уладзіміравіч (май 1904), рабочы саўгаса «Акерман». Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ХМЕЛЬ Якаў Восіпавіч (2.11.1899), дырэктар Белдзяржтранса ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ЦЕРЛЮКЕВІЧ Стэфан Францавіч (1892), брыгадзір калгаса (Мінскі р-н). Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 11.12.1937.

ШУКЕВІЧ Таццяна Іванаўна (1880), прыбіральшчыца рабфака ў Мінску. Арыштавана 3.9.1937. Асуджана 17.12.1937.

ШЭВАХОВІЧ (РЫНДЗІН) Віктар (Мендзель) Рыгоравіч* (1909), службовец, навуковец, загадчык аддзела Інстытута гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі пры ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 11.12.1937.

ЯНКЕВІЧ Піліп Сільвестравіч (1896), інжынер Белпрампраекта ў Мінску. Асуджаны 9.12.1937.

ЯНКОЎСКІ Іларыён Антонавіч (1886), слесар. Арыштаваны 5.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ЯСЮКЕВІЧ Язэп Пятровіч (1909), ляснік. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

**27 снежня 1937**

АГЕЙЧЫК Мікалай Рыгоравіч* (1887), настаўнік школы-камуны на ст. Забалоцінка Віцебскага р-на. Арыштаваны 5.5.1937. Асуджаны 17.12.1937.

АЛЬШАКОЎ Вячаслаў Піліпавіч (3.6.1910), вучань электраманцёра Мінскага электрарамонтнага завода. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 17.12.1937.

АРАНОВІЧ (ХОДАШ) Якаў (Абрам) Борухавіч (Давыдавіч)* (1904), выкладчык рабфака Бабруйскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

АСАНОВІЧ Ігнат Аляксандравіч (1909), студэнт БПІ. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 9.12.1937.

БАУХ Геня Ківаўна (крас. 1904), сястра С. *Бауха* (гл.: 27.11.1938), рабочая. Арыштавана 24.8.1937. Асуджана 17.12.1937.

БУЙНОЎСКІ Іван Пятровіч (жн. 1879), вартаўнік гасцініцы ў Мінску. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ВАСІЛЕЎСКІ Іван Францавіч (1898), водаправодчык фабрыкі «Камунарка» ў Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ВАСІЛЕЎСКІ Ігнат Францавіч (1905), шафёр Саюза пісьменнікаў БССР. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 9.12.1937.

ВІЛЬЧЫНСКАЯ Марыя Эдуардаўна (20.3.1891), бухгалтар Мінскай базы Дзяржсортфонда. Арыштавана 1.6.1937. Асуджана 2.12.1937.

ВІТКОЎСКІ Іван Антонавіч* (20.4(2.5).1888), гісторык. Чарговы раз арыштаваны 22.2.1937.

ВОЛЬСКІ Пётр Іванавіч (1905), майстар шклозавода «Пралетарый» у Мінску. Арыштаваны 16.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ВЫШЫНСКАЯ Ганна Мікалаеўна (1904), прадавец крамы № 219 у Мінску. Арыштавана ў 1937. Асуджана 9.12.1937.

ГАЙДУК Аляксандр Іванавіч (1889), рабочы завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ГАЛАБУРДА Аляксандр Ніканоравіч* (1891), працаваў у сістэме прафсаюзаў, наркамаце сувязі. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 27.12.1937.

ГЕЛЬНЕР Анатоль Іванавіч (1896), загадчык аддзела Наркамзема БССР. Арыштаваны 23.5.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ГРАЗДОЎ Іван Паўлавіч (1898), працаваў на заводзе «Ланцугі Галя» ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

ГРАХОЎСКІ Уладзіслаў (Уладзімір) Мацвеевіч (1888), цыркулярщчык арцелі «Фота» ў Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 9.12.1937.

ГРУДЗІНСКІ Леапольд Міхайлавіч (1907), шафёр Мінскага мікрабіялагічнага інстытута. Арыштаваны 22.9.1937. Асуджаны 9.12.1937.

ГРУДНІЦКІ Яўген Рыгоравіч (Георгіевіч)* (1907), загадчык склада зброі ваеннай кафедры Мінскага юрыдычнага інстытута. Арыштаваны 5.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ГРЫНКЕВІЧ Кузьма Адамавіч (1910), шафёр СНК БССР. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ГРЫЦУК Антаніна Канстанцінаўна (1878), пенсіянерка. Арыштавана 19.11.1937. Асуджана 17.12.1937.

ДЗЕНДЗЯВІЦКІ Антон Сігізмундавіч (4.2.1903), слесар. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ДЗЕРАЖЫЦКІ Мікалай Ігнатавіч (1898), акумулятаршчык 5-га вагоннага ўчастку чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ДЗЯМБОВІЧ Майсей Мееравіч (1907), нам. загадчыка гаспадарчай часткі Дзяржсанінспекцыі Мінска. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ДУБОЎСКАЯ Стэфанія Казіміраўна (1896), хатняя гаспадыня. Арыштавана ў 1937. Асуджана 9.12.1937.

ЖАШКЕВІЧ Станіслаў Антонавіч (1907), цыркулярщчык Мінскага лесазавода. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ЗІНКЕВІЧ Міхаіл Андрэевіч (1878), рабочы дрывянога склада гарпаліва ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

ЗУЮКОЎ Фёдар Фёдаравіч (1904), старшы бухгалтар мясакамбіната ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

ІНБЕРГ Макс Восіпавіч (1899), інспектар Белкамунэнергатранса ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

ІОСЕМ Леў Барысавіч* (ліст. 1900), дацэнт БПІ. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

КАГАНОВІЧ Любоў (Ліба) Львоўна (Лейбаўна) (сак. 1898), краўчыха кравецкай майстэрні НКВД БССР. Арыштавана 1.11.1937. Асуджана 17.12.1937.

КАЖУРА Аляксандр Фёдаравіч (1.1.1910), наглядчык унутранай турмы НКВД БССР. Арыштаваны 23.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

КАПЕЦ (КОПЕЦ) Яўсей Лявонавіч (ліст. 1880), галоўны механік галантарэйнай фабрыкі ў Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

КАРЗЮК Юры Антонавіч (1888), слесар завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

КАТЛОЎСКІ Саламон Анатолевіч (1907), рабочы завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

КАШЭЎСКІ (АГРАДЗІНСКІ) Андрэй Станіслававіч* (1894), загадчык аддзела мінскай польскай газ. «Orka». Арыштаваны 4.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

КВАЧ-КВАРЫН Іван Васілевіч (24.6.1893), электрамеханік. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

КВАЧ-КВАРЫНА Клімянціна Іванаўна, верагодна, жонка І. *Квач-Кварына*. Арыштавана 24.8.1937. Асуджана 17.12.1937.

КЕЛЕР Іван Язэпавіч (1895), загадчык транспарту віна-гарэлачнага завода ў Мінску. Асуджаны 9.12.1937.

КІВОВІЧ Лея Мордухаўна (1886), тэхнічка школы № 3 у Мінску. Арыштавана 19.11.1937. Асуджана 17.12.1937.

КІЙКО Мікалай Сцяпанавіч (5.12.1886), загадчык аддзела «Лесдрэўхімсаюза» ў Мінску. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

КОРН Вальдэмар Адольфавіч (3.10.1889), тэхнік-праекціроўшчык Бел. ўпраўлення сувязі. Арыштаваны 31.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

КУМПЕЛЬ Міхаіл Кандратавіч (1896), праваднік чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ЛЕВІН Хаім Шмуйлавіч (20.12.1901), нам. дырэктара санаторыя ЦК КПБ(б). Арыштаваны 4.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ЛІПАЙ Мартын Лявонавіч (1888), механік цагельнага завода № 2 у Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 9.12.1937.

ЛІХТАРОВІЧ Дзмітрый Іванавіч (6.4.1903), інструктар «Белкаапсыравіны». Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ЛУКАШУК Іван Васілевіч (25.11.1904), студэнт БПІ. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ЛЮЦЬКО Мікалай Нічыпаравіч (1900), брат Ніны *Люцько* (гл.: 26.12.1937), экспедытар чыгуначнай аўтабазы Белгалоўснаба. Асуджаны 9.12.1937.

МАЕЎСКІ Канстанцін Сцяпанавіч* (1.3.1892), выкладчык мінскай СШ № 18. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

МАРЦІНКЕВІЧ Аляксей Якаўлевіч (1898), пенсіянер. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

МАТУСЕВІЧ Язэп Людвігавіч (сак. 1897), шавец абутковай фабрыкі індывідуальнага пашыву ў Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

МЕЛЬЯЧЭНКА Іван Мікалаевіч (11.7.1909), повар сапёрнага батальёна 2-й стралковай дывізіі ў Мінску. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

МУДРОЎСКІ Баляслаў Войцехавіч (1885), слесар 3-й арцелі «Чырвоны інвалід» ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

МЯКІННІКАЎ Фёдар Іванавіч (1885), сакратар Дзяржплана БССР. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

НАРСІЯНС-ЦІШКЕВІЧ Антаніна Піліпаўна (1891), повар кафэ «Лета» ў Мінску. Арыштавана 24.8.1937. Асуджана 17.12.1937.

НАФРАНОВІЧ Міхаіл Іванавіч (1885), сталяр арцелі «Новы шлях» ў Мінску. Арыштаваны 24.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

НОЦЕС Барыс Мееравіч (1901), пазаштатны адміністратар тэатральных кас у Мінску. Асуджаны 9.12.1937.

ПАЛУБІНСКІ Браніслаў Казіміравіч (29.5.1891), аграном, ваеннаслужачы аддзела забеспячэння НКВД БССР. Арыштаваны 26.1.1937 (?). Асуджаны 17.12.1937.

РОЛІЧ Кацярына (1909), рабочая фабрыкі «Камунарка» ў Мінску. Арыштавана ў 1937. Асуджана 9.12.1937.

РУСЕЦКІ Карл Казіміравіч (1860), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.8.1937. Асуджаны 2.12.1937.

САБАЛЕЎСКАЯ Ева Антонаўна** (1902), інструктар-метадыст Бабруйскага рана. Арыштавана 23.4.1937. Асуджана 27.12.1937.

СЕРГІЕВІЧ Праскоўя Раманаўна (1912), укатчыца лямцавай фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік» у Мінску. Арыштавана 19.11.1937. Асуджана 17.12.1937.

СТАНКЕВІЧ Парамон Міхайлавіч (1891), сталяр Белшвейтрэста ў Мінску. Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны 17.12.1937.

СТАРЖЫНСКІ Яўген Мікалаевіч (15.8.1903), інжынер Бабруйскага райпрафсавета. Арыштаваны 23.5.1937. Асуджаны 6.12.1937.

СУДЗІЛОЎСКАЯ Алена Аляксееўна* (1893), жонка Л. *Судзілоўскага* (гл.: 3.11.1937), машыністка «Белкаапсаюза» ў Мінску. Арыштавана 10.9.1937. Асуджана 17.12.1937.

СУДНІК Антон Казіміравіч (1907), конюх калгаса «Сяброўства». Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ТАЛЕЙКА Іван Язэпавіч (1910), экспедытар «Белкаапснабзбыта» ў Мінску. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ТОКЕР-ЗОЛЬБЕРГ Лейба Мордухавіч (1901), студэнт 3-га курса БДУ. Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ТРАЦЭЎСКІ Баляслаў Іванавіч (1893), вартаўнік саўгаса «Атоліна». Арыштаваны 30.4.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ТЭРАЎСКІ Герман Мітрафанавіч* (29.12.1871), настаўнік Мінскай няпоўнай СШ № 22. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ФРАНЧКОЎСКІ Станіслаў Паўлавіч (1886), бракёр Мінпрамгандлю. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ХОРАК (ХАРОК) Андрэй Міхайлавіч (10.3.1903), абпальшчык 1-га цагельнага завода ў Мінску. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ЦАБА-КАЛАСІНСКІ Аляксандр Васілевіч (6.8.1899), кіраўнік дамамі камбіната «Чырвоны Кастрычнік» у Мінску. Арыштаваны 25.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ЦЭХАНОВІЧ (ЦАХАНОВІЧ) Уладзімір Юсцінавіч (1899), механік Мінводканалізацыі. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

ЧАРНАГУРСКІ Антон Аўгусцінавіч (1892), загадчык гаспадаркі цэнтральнай малочнай кухні наркамата аховы здароўя БССР. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ЧАРНУШЭВІЧ Міхаіл Антонавіч (1913), студэнт Мінскага педагагічнага інстытута. Асуджаны 9.12.1937.

ЧЭКАН Пётр Людвігавіч (1883), начальнік «Свіслачбуда» ў Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ШАЎЧУК Канстанцін Нічыпаравіч (21.5.1886), вартаўнік арцелі «Пралетарый» у Барысаве. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ШОРНІК Сафія Якаўлеўна (1911), клейшчыца фабрыкі імя Кагановіча ў Мінску. Арыштавана ў 1937. Асуджана 9.12.1937.

ШЧАГРЫКОВІЧ Фёдар Іванавіч (14.11.1912), электраманцёр лямцавай фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік» ў Мінску. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ЯГОРАЎ Міхаіл Андрэевіч (1891), кандуктар Зах. чыгункі. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

ЯРХУН Макс Якаўлевіч (1905), загадчык цэха арцелі «Працоўнае люстра» ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

### 28 снежня 1937

АБРАМОВІЧ Іван Нікадзімавіч (1900), калгаснік. Арыштаваны 28.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

АВЕРБУХ Восіп Саламонавіч (1893), кравец фабрыкі «КІМ» у Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

АРЦЮХ Казімір Дамінікавіч (1901), працаваў у калгасе «Чырвоны Усход». Арыштаваны 27.5.1937. Асуджаны 14.12.1937.

АРЦЮШЭЎСКІ Канстанцін Фаміч** (8.9.1876), санітар Слуцкага ветэрынарнага ўчастка ст. Слуцк. Арыштаваны 21.11.1937. Асуджаны 20.12.1937.

АЎЛАСЕВІЧ Браніслаў Ігнатавіч (1882), каваль завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 6.12.1937.

БАГДАНОВІЧ Ігнат Мікалаевіч (1883), кандуктар чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 11.12.1937.

БАЛЬЧУНАС Барыс Вікенцевіч (1896), інжынер Ушашдара. Арыштаваны 15.11.1937. Асуджаны 9.12.1937.

БАРАНОЎСКІ Стэфан Пятровіч (1898), бухгалтар Мінскай бісквітнай фабрыкі. Арыштаваны ў вер. 1937. Асуджаны 14.12.1937.

БАЧЫЛА Іван Рыгоравіч (7.1.1888), тэхнік Мінскага цэнтральнага тэлеграфа. Арыштаваны 15.10.1937. Асуджаны 14.12.1937.

БЕНЕДЗІКТОВІЧ Язэп Вікенцевіч (1913), сын В. *Бенедзіктовіча* (гл.: 3.12.1937), брат Б. *Бенедзіктовіча* (гл.: 15.12.1937), загадчык пошты Паланевіцкага сельсавета. Асуджаны 9.12.1937.

БУЙВАН Фелікс Уладзіслававіч (1884), кампрэсаршчык завода імя Варашылава ў Мінску. Асуджаны 6.12.1937.

БУРЫБА Юльян Цімафеевіч (1892), пекар. Асуджаны 11.12.1937.

ВАРАКСА Вікенцій Іванавіч (1903), грузчык чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 21.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ВАШКЕВІЧ Уладзімір Васілевіч (8.3.1887), цясляр калгаса «Перамога». Арыштаваны 4.6.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ГАЙЛЕВІЧ Франц Францавіч (1879), старшы бухгалтар аддзела забеспячэння Ушашдара. Арыштаваны 17.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ГАЛІЕЎСКІ Міхаіл Іванавіч (1904), рабочы фабрыкі імя Тэльмана ў Мінску. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ГАРАНОВІЧ Фёдар Васілевіч** (7.6.1901), старшы кандуктар рэзерву чыгуначнай ст. Мінск-Таварны. Арыштаваны 29.10.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ГАРДЗЕЙ Уладзімір Андрэевіч (27.7.1890), верагодна, брат К. *Гардзея* (гл.: 27.11.1937), начальнік даведачнай службы Мінскага цэнтральнага тэлеграфа. Арыштаваны 4.10.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ГАЎРАС Міхаіл Язэпавіч (1900), сталяр швейнай фабрыкі імя Крупскай у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

ГЕЛЕР Абрам Бяйнесавіч (1884), сакратар партарганізацыі завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 14.12.1937.

ГЕРАСІМОВІЧ Гаўрыла Хведаравіч (1891), машыніст вадакачкі чыгуначнай ст. Фаніпаль. Арыштаваны 27.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ГІТЛІЦ Монес Моўшавіч (снеж. 1877), кур'ер «Белкаапсаюза» ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 12.12.1937.

ГЛАДКІ Уладзімір Лявонавіч (1889), сын Л. *Гладкага* (гл.: 3.2.1938), майстар па рамонце вагонаў завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ГУЛЯКЕВІЧ Міхаіл Купрыянавіч (12.10.1898), начальнік паштовага вагона ст. Мінск. Арыштаваны 4.11.1937. Асуджаны 29.11.1937.

ГУРНОВІЧ Зянон Восіпавіч (1906), слесар Мінскай абутковай фабрыкі імя Тэльмана ў Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ГУРНОВІЧ Тофіль Восіпавіч (1910), брат З. *Гурновіча,* цясляр на будаўніцтве будынка АН БССР. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ДАШЫНЕВІЧ Іван Ціханавіч (28.9.1904), дырэктар райпрамкамбіната ў Заслаўі. Арыштаваны 14.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

ДЗІЧКОЎСКІ Аляксандр Іванавіч (1891), дырэктар завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 16.8.1937. Асуджаны 20.11.1937.

ДЗЯТКО Цімафей Цімафеевіч* (1901), настаўнік мінскай СШ № 21. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ДРОБ Васіль Сямёнавіч (30.1.1898), начальнік кантрольна-даведачнай службы Мінскага цэнтральнага тэлеграфа. Арыштаваны 16.10.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ДУБАТОЎКА Іван Якаўлевіч (1899), старшыня калгаса «Новы Жыцін». Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 11.12.1937.

ДУКОР Сымон Евелевіч (1899), брыгадзір фабрыкі «КІМ» у Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

ЖАЎНЯРОВІЧ Рыгор Дзмітрыевіч (5.11.1880), слесар-водаправодчык чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 17.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ЖДАНОВІЧ Стэфаніда Адольфаўна (1909), працавала ў калгасе «Парыжская Камуна». Арыштавана ў 1937. Асуджана 9.12.1937.

ЖУРЫК Іван Сямёнавіч (1899), майстар Мінскага вагоннага дэпо. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 6.12.1937.

ЗАБАРОЎСКІ Ксаверый Ігнатавіч (1878), маляр упраўлення міліцыі Мінска. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 11.12.1937.

ЗАБОРСКІ Уладзімір Уладзіміравіч (1900), галоўны бухгалтар завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 28.9.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ЗАВІСТОЎСКАЯ Ядвіга Канстанцінаўна (1899), хатняя гаспадыня. Арыштавана 24.8.1937. Асуджана 14.12.1937.

ЗАГОРСКІ Іван Казіміравіч (1904), шафёр Ваенгандлю Мінска. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ЗАГОРСКІ Станіслаў Казіміравіч (1901), брат І. *Загорскага*, шафёр АН БССР. Асуджаны 14.12.1937.

ЗАЛУЦКІ Уладзімір Іванавіч (1889), памочнік начальніка колавага цэха завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 3.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ЗАНЕЎСКІ Канстанцін Цэзаравіч (1893), загадчык справаводства чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 17.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ЗАСЛАЎСКІ Майсей Янкелевіч (Якаўлевіч) (25.12.1886), начальнік цэха 4-й арцелі інвалідаў імя 2-й пяцігодкі ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ЗУБОВІЧ Міхаіл Антонавіч (крас. 1900), шавец арцелі «Чырвоны абутнік» у Мінску. Арыштаваны 2.8.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ІВАНОЎ Валянцін Канстанцінавіч (1912), начальнік колавага цэха завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 29.4.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ІВАНОЎСКІ Пётр Антонавіч (30.11.1889), тэхнік па тэхніцы бяспекі фабрыкі «Камунарка» ў Мінску. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

КАВАЛЕНЯ Фама Васілевіч (1899), загадчык купэ вагона-рэстарана ў Мінску. Арыштаваны 12.7.1937. Асуджаны 7.12.1937.

КАВАЛЬСКІ Уладзімір Антонавіч* (21.12 (ці 10).1912), польскі паэт, драматург. Арыштаваны ў ліст. 1937. Асуджаны 28.11.1937.

КАЗЛОЎСКІ Павел Станіслававіч (1892), працаваў на заводзе імя Варашылава ў Мінску. Асуджаны 6.12.1937.

КАМОЦКІ Карл Казіміравіч (1891), рабочы чыгуначнай ст. Ратамка. Арыштаваны 27.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

КАНДРАТОВІЧ Міхаіл Францавіч (1895), каваль завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

КАНКАЛОВІЧ Аляксандр Аляксандравіч (30.8.1888), камандзір 1-га дывізіёна ведамственнай міліцыі Мінска. Арыштаваны 14.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

КАПЛАН Невух Шэвелевіч (1900), шавец майстэрні Ваенгандлю. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 14.12.1937.

КАПЛАНОВІЧ Эдвіг Юдзелевіч (1887), загадчык парткабінета фабрыкі «8 сакавіка» ў Мінску. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 11.12.1937.

КАРЧАН Самуіл Абрамавіч (1895), канструктар фабрыкі «КІМ» у Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 9.12.1937.

КАШЫНСКІ Франц Зянонавіч (1887), калгаснік. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 11.12.1937.

КЛЮЧНІКАЎ Антон Львовіч (ліп. 1883), брат І. *Ключнікава* (гл.: 22.11.1937), начальнік забеспячэння Мінскай мэблевай фабрыкі. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 6.12.1937.

КОГУТ Вацлаў Алойзавіч (28.8.1887), слесар паравознага дэпо чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 5.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

КУДЗІНОВІЧ Ягор Адамавіч (1878), машыніст дэпо чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 17.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ЛАЗАРЭВІЧ Мікалай Мікалаевіч (23.4.1901), грузчык фабрыкі «Камунарка» ў Мінску. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ЛЕАНОВІЧ Міхаіл Антонавіч (6.11.1888), бухгалтар чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 14.11.1937. Асуджаны 7.12.1937.

ЛЕВАШКЕВІЧ Аляксандр Казіміравіч (1879), пячнік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 6.12.1937.

ЛІБМАН Янкель Цодзікавіч (1893), дырэктар хіміка-фармацэўтычнага завода ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 6.12.1937.

ЛІПЕНЬ Антон Казіміравіч (1904), бондар завода «Чырвоная зара» ў Мінску. Арыштаваны 26.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

ЛІПЕНЬ Віктар Казіміравіч (1906), брат А.*Ліпеня*, слесар завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 6.12.1937.

ЛІПЕНЬ Ігнат Казіміравіч (1909), брат А. і В. *Ліпеняў*, бондар Мінскай нафтабазы. Арыштаваны 8.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

ЛОПАН Даніла Мікалаевіч** (1885), ветфельчар. Арыштаваны 23.11.1937. Асуджаны 20.12.1937.

МАКСІМОВІЧ Эдуард Францавіч (1912), канторшчык чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 14.12.1937.

МАРКОВІЧ Раман Іларыёнавіч** (1903), бухгалтар Мінскага універмага. Арыштаваны 2.10.1937. Асуджаны 6.12.1937.

МАТУСЕВІЧ Антон Мархіёравіч (25.5.1906), рабочы саўгаса «Зялёны луг». Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

МАТУСЕВІЧ Сяргей Фёдаравіч (1892), працаваў у калгасе «13-я гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі». Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

МАЦЯЙЧУК Антон Аляксандравіч (1901), інспектар упраўлення КП(б)Б. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

МІЛЕР Ян Юльевіч (1887), інспектар упаўнаважанага камітэта па нарыхтоўках СНК СССР па БССР. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 14.12.1937.

МІНКЕВІЧ Язэп Генрыхавіч (28.2.1898), тэхнік цагельнага завода № 1 у Мінску. Арыштаваны ў маі 1937. Асуджаны 6.12.1937.

МІРУЦЬКА Язэп Сяргеевіч (1907), укладчык склада гарпаліва ў Мінску. Асуджаны 14.12.1937.

МІХАЛІШЫН Фёдар Аляксеевіч (12.5.1902), стругальшчык завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

МІЦКЕВІЧ Антон Якаўлевіч (1881), кравец лабараторыі Белшвейтрэста ў Мінску. Арыштаваны ў кастр. 1937. Асуджаны 11.12.1937.

МУХЛЯ Канстанцін Мустафавіч (11.12.1895), брыгадзір-тэлеграфіст Мінскага цэнтральнага тэлеграфа. Арыштаваны 16.10.1937. Асуджаны 14.12.1937.

МЯЛЬХОВІЧ Адам (сак. 1880), конюх саўгаса імя Сталіна. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 6.12.1937.

НАПЯРКОЎСКІ Іван Фаміч (1884), будаўнік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

НЕЎГІНА Пелагея Андрэеўна (1888), хатняя гаспадыня. Арыштавана 20.11.1937. Асуджана 14.11.1937.

НІКАЛАЕВІЧ Ігнат Язэпавіч (1899), працаваў у калгасе «Барацьбіт». Арыштаваны 30.10.1937. Асуджаны 6.12.1937.

НІСЕНБАУМ Зэлік Беркавіч (1897), працаваў на Мінскім хлебакамбінаце. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 14.12.1937.

ПАНКЕВІЧ Віктар Пятровіч (1887), працаваў у калгасе «Чырвоны дазор». Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 6.12.1937.

ПАСТАЎСКІ Абрам Ісакавіч (Іцкавіч) (18.7.1895), кравец Белваенгандлю. Арыштаваны 3.10.1937. Асуджаны 9.12.1937.

КУДЗЕЛЬКА Іван Фадзеевіч* (30.11.1891), брат Іосіфа *Кудзелькі* і, верагодна, Міхаіла *Кудзелькі* (гл.: першую частку кнігі), наркам фінансаў БССР. Арыштаваны 13.7.1937. Асуджаны 28.7.1937.

КУКСЕВІЧ Георгій Купрыянавіч (1908), сакратар Мінскага гаркама ЛКСМБ. Арыштаваны 11.9.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ЛІЦВІН Навум Ісакавіч (10.12.1893), рабочы абутковай фабрыкі імя Кагановіча, 2-гі сакратар Мінскага гаркама партыі. Арыштаваны 11.12.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ЛЮБОВІЧ Арцём Майсеевіч* (27.10.1880), нам. старшыні СНК БССР, старшыня Дзяржплана БССР, нам. наркама сувязі СССР. Арыштаваны 5.7.1937.

МЕЛЬНІК Сцяпан Паўлавіч* (13.8.1883), дырэктар Батанічнага сада АН БССР. Арыштаваны 28.2.1938. Асуджаны ў чэрв. 1938.

ПАЛЯКОЎ Міхаіл Кірылавіч (1906), сакратар ЦК ЛКСМБ. Арыштаваны 14.12.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ПАНКЕВІЧ Павел Якаўлевіч* (16.2(1.3).1895), загадчык кафедры педагогікі БДУ, дырэктар НДІ педагогікі. Арыштаваны 11.12.1937. Асуджаны ў чэрв. 1938.

ПАРЭЧЫН Рыгор Яўхімавіч* (8.3.1894), правазнавец, публіцыст. Арыштаваны 24.1.1937. Асуджаны ў чэрв. 1938.

ПЛЕШАКОЎ Пётр Фёдаравіч* (23.9.1900), дырэктар трэста «Белдрэў» наркамата лясной гаспадаркі. Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ПУГАЧОЎ Сцяпан Фёдаравіч* (30.12.1904), навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 6.12.1937. Асуджаны 28.6.1938.

РОЗІН Сяргей Пятровіч* (кастр. 1896), навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 6.12.1937. Асуджаны 28.6.1938.

РЫЖОЎ Іван Паўлавіч (24.4.1890), старшыня Савета прафсаюзаў Усход.-Сібірскага краю. Арыштаваны 10.8.1937. Асуджаны 28.6.1938.

СУХАРУЧКІН Іван Аляксандравіч (1894), старшыня Віцебскага гарсавета. Арыштаваны 25.12.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ТКАЧЭВІЧ Іван Міхайлавіч* (1897), начальнік упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ХАМЯКОЎ Лука Казіміравіч (1887), пракурор Гомеля. Арыштаваны 1.12.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ХАСКІН Самуіл Беркавіч (22.12.1893), сакратар Заслаўскага райкама КП(б)Б. Арыштаваны 21.12.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ЧАРНУШЭВІЧ Дзмітрый Сілыч* (13.11.1882), мовазнаўца, дзяржаўны дзеяч. Арыштаваны 25.1.1938. Асуджаны ў чэрв. 1938.

ШАБОЛАС (ШАБОЛТАС) Сцяпан Андрэевіч (1895), дырэктар базы «Белкаапмясаптушка». Арыштаваны 13.12.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ШАЕВІЧ Мендэль Абрамавіч (1884), кіраўнік канторы «Цукарзбыту». Арыштаваны 29.12.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ШЭРМАН Арон Рыгоравіч* (1888), педагог. Арыштаваны 15.11.1937. Асуджаны 28.6.1938.

**29 чэрвеня 1938**

АЙН Ісак Юдалевіч* (ліст. 1894), кравец. Арыштаваны 30.5.1937. Асуджаны 29.6.1938.

АФАНАСЬЕЎ Сямён Іванавіч* (15.4.1902), навуковец. Арыштаваны 6.12.1937. Асуджаны 29.6.1938.

БАГУШЭВІЧ Канстанцін Міхайлавіч* (1891.5.21), рэвізор упаўнаважанага камітэта па нарыхтоўках пры Саўнаркаме БССР. Арыштаваны 16.10.1937. Асуджаны 29.6.1938.

БЛОХМАН Макс Рыгоравіч (1897), інжынер трэста «Будматэрыялаў». Арыштаваны 2.7.1937. Асуджаны 29.6.1938.

ВАСЕРМАН Саул Ісакавіч* (1893), наркам камунальнай гаспадаркі БССР. Арыштаваны 3.8.1937. Асуджаны 29.6.1938.

ГАРАШЧЭНЯ Іван Якаўлевіч (22.12.1890), начальнік фінансаў АН БССР. Арыштаваны 11.12.1937. Асуджаны 29.6.1938.

ГЕАРГАДЗЕ Пімен Паўлавіч (1897), інжынер-тэхнолаг наркамата лёгкай прамысловасці БССР. Арыштаваны 4.12.1937. Асуджаны 29.6.1938.

ДАГОВІЧ Міхаіл Сямёнавіч (1907), загадчык аддзела ЦК ЛКСМБ. Арыштаваны 10.8.1937. Асуджаны 29.6.1938.

КУЛЬКІН Давыд Ісакавіч (15.5.1897), інжынер Дзяржбанка. Арыштаваны 10.12.1937. Асуджаны 29.6.1938.

ЛЮБАЎЦАЎ Леанід Сяргеевіч (22.7.1903), першы сакратар Капыльскага райкама КП(б)Б. Арыштаваны 3.8.1937. Асуджаны 29.6.1938.

ОКУНЬ Берка Шлёмавіч* (1888), дырэктар Мінскага яўрэйскага педагагічнага тэхнікума. Арыштаваны 28.2.1938. Асуджаны 29.6.1938.

ПАЙКІН Залман Герцавіч* (22.4.1884), інструктар Мінскага часопісна-газетнага аб'яднання. Арыштаваны 9.4.1937. Асуджаны 29.6.1938.

ПАНІМАТКА Павел Рыгоравіч (28.5.1894), аграном саўгаса «Доктаравічы». Арыштаваны 30.7.1937. Асуджаны 28.6.1938.

ПАСЮКЕВІЧ Пётр Восіпавіч* (1898), старшы інспектар ЦК Чырвонага Крыжа. Арыштаваны 11.12.1937. Асуджаны 29.6.1938.

РАВІНСКІ Платон Хведаравіч (22.11.1892), начальнік Упраўлення наркама мясцовай прамысловасці БССР. Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 29.6.1938.

САНДЛЕР Вульф Мордухавіч (19.12.1893), кравец фабрыкі «КІМ». Арыштаваны 10.12.1937. Асуджаны 29.6.1938.

СОСКІН Раман Ісакавіч (чэрв. 1900), сакратар Аршанскага райкама КП(б)Б. Арыштаваны 9.8.1937. Асуджаны 29.6.1938.

СЯНКЕВІЧ Аляксандр Антонавіч* (20.1.1884), дзяржаўны і паліт. дзеяч, медык, пісьменнік, публіцыст. Арыштаваны 10.1.1938. Асуджаны ў чэрв. 1938.

ШАПІРА Самуіл Аронавіч (1897), бухгалтар прамсаюза цырульнікаў. Арыштаваны 26.2.1938. Асуджаны 29.6.1938.

ШЧАРБАКОЎ Васіль Карпавіч (Паўлавіч)* (27.2.1898), дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР. Арыштаваны 21.6.1937. Асуджаны 29.6.1938.

**30 чэрвеня 1938**

БІРУЛЯ Антон Антонавіч* (1901), палкоўнік, камандзір артылерыйскага палка 2-й стралковай дывізіі. Арыштаваны 19.12.1937. Асуджаны 30.6.1938.

ЗЕДЫНЬ Жан Андрэевіч* (5.4.1896), упраўляючы Мінскай гарадской камунальнай гаспадаркай. Арыштаваны 31.12.1937. Асуджаны 30.6.1938.

ЛЕАНЁНАК Ілья Лявонавіч (1888), нам. начальніка вучэбнага аддзела Мінскага ваеннага вучылішча. Арыштаваны 14.3.1938. Асуджаны 30.6.1938.

ПЯХОЎСКІ Пётр Іванавіч (1895), маёр, камандзір 188-га зенітнага артылерыйскага палка. Арыштаваны 16.12.1937. Асуджаны 30.6.1938.

ЦЯГІН Канстанцін Аляксандравіч (2.1.1908), начальнік санітарнай службы 52-га артылерыйскага палка. Арыштаваны 5.2.1938. Асуджаны 30.6.1938.

**1 ліпеня 1938**

БЕКАРЭВІЧ Георгій Апанасавіч (1894), галоўны інжынер Ушашдара. Арыштаваны 16.1.1938. Асуджаны 1.7.1938.

БЛІНОЎ Пётр Фёдаравіч* (1893), мітрапаліт. Арыштаваны 4.2.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ГАЛОДНЫ Іван Мікітавіч (1899), начальнік 3-га аддзялення Упраўлення памежнай і ўнутранай аховы НКВД БССР. Арыштаваны 23.6.1937. Асуджаны 30.6.1938.

ПАЎЛАЎ Рыгор Іванавіч (1895), упаўнаважаны ўпраўлення сувязі БССР. Арыштаваны 6.12.1937. Асуджаны 1.7.1938.

УСАЎ Уладзімір Паўлавіч (ліст. 1899), начальнік 91-га ўчастка Ушашдара. Арыштаваны 15.12.1937. Асуджаны 1.7.1938.

**2 ліпеня 1938**

КАНТАРОВІЧ Рыгор Паўлавіч (1900), старшы інспектар Прамбанка ў Мінску. Арыштаваны 20.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

РАГОТНЕР (РАГАТНЁР) Максім Рыгоравіч (1894), урач Ухта-Пячорскага канцлагера НКВД Комі АССР. Арыштаваны 10.4.1937. Этапаваны ў Мінск. Асуджаны 2.7.1938.

РАГОЎСКІ Абрам Калманавіч (1888), пенсіянер. Арыштаваны 11.1.1938. Асуджаны 2.7.1938.

СТУМБУР Вальдэмар Давыдавіч* (30.7.1899), старшы выкладчык ваеннай вучэбнай часткі БПІ. Арыштаваны 16.12.1937. Асуджаны 2.7.1938.

**3 ліпеня 1938**

МАКАРЧУК Аляксандр Трафімавіч (1899), слесар завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ЯФРОЙКА Якаў Лейбавіч (1893), экспедытар саўгаса «Чырвоны транспарт». Арыштаваны 5.1.1938. Асуджаны 28.5.1938.

**4 ліпеня 1938**

АБРАМЧЫК Васіль Рыгоравіч (1894). Арыштаваны 20.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

АНДРЫЯНЧЫК Сцяпан Язэпавіч (1898), працаваў у калгасе імя Фрунзе. Арыштаваны 24.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ВАРАКСА Язэп Браніслававіч (30.9.1895), гадзіннікавы майстар. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ГЛАДКІ Антон Язэпавіч (1897), калгаснік. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ДАРУЛІС Канстанцін Канстанцінавіч (1907), механік-трактарыст МТС (Мінскі р-н). Асуджаны 25.5.1938.

ДРАЗДОВІЧ Аляксандр Паўлавіч (1902), бухгалтар дзіцячага дома (Мінскі р-н). Арыштаваны 12.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ДРОЗД Мікалай Рыгоравіч (1902), санітар 2-й Савецкай бальніцы ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЖУРОМСКІ Антон Карлавіч (1904), начальнік Кавалерыскай школы Асаавіяхіма. Асуджаны 25.5.1938.

ЖЫДОВІЧ Дамінік Карлавіч (1882), конюх калгаса імя Варашылава. Арыштаваны 24.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЗАПОЛЬСКІ-ДОЎНАР Браніслаў Іванавіч (30.12.1911), слесар завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 15.3.1938.

КАРЧЭЎСКІ Макар (Марк) Піліпавіч (1896), бухгалтар-фінансіст Мінскага райспажыўсаюза. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

КРАЧКОЎСКІ Іван Станіслававіч* (1886), дырэктар Мінскага тэхнікума фізкультуры. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

КРАЧКОЎСКІ Сцяпан Робертавіч (1897), каваль калгаса «Чырвонаармеец». Арыштаваны 13.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

КУПРЭЙЧЫК Іван Аляксандравіч (1891), верагодна, брат Л. *Купрэйчыка* (гл.: 14.10.1937), працаваў у калгасе «1 Мая». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

КУРАКЕВІЧ Васіль Ігнатавіч (1897), брат У. *Куракевіча* (гл.: 9.4.1938), калгаснік. Арыштаваны 12.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЛОГІН Язэп Іванавіч (1894), аб'ездчык лясоў. Арыштаваны ў снеж. 1937. Асуджаны 25.5.1938.

МАРОЗ Пётр Міхайлавіч (1901), бухгалтар Мінскага трамвайнага трэста. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

МІНКЕВІЧ Язэп Ігнатавіч (1900), майстар Мінскага гарбарнага завода «Бальшавік». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

МІРОНЧЫК Аляксей Мацвеевіч (1894), качагар Слуцкай электрастанцыі. Арыштаваны 27.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

МІХЕЕЎ (АЎСЕНТНЕЎ) Іван Аўксенцевіч (1904), слесар «Мінводаканалізацыі». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

МІЦКЕВІЧ Уладзімір Юр'евіч (Георгіевіч) (1898), кладаўшчык калгаса «6 з'езд Саветаў». Арыштаваны 21.2.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ОРМУТ Якаў Натанавіч (1894), маляр завода «Ударнік» у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

ПАВІДАЙКА Адам Іванавіч (1886), брыгадзір калгаса «Чырвоная мяжа». Арыштаваны 25.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ПЯКАРСКІ Іпаліт Адамавіч (1897), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

РАНКАЧЫНСКІ Абрам Язэпавіч (1906), зменны хімік завода малочных кіслот у Мінску. Асуджаны 23.5.1938.

САЛАЎЁЎ Фёдар Яфімавіч* (1.1.1880), настаўнік няпоўнай СШ ў в. Гарадзішча Мінскага р-на. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

СЕЛІВАНОВІЧ (СІЛЬВАНОВІЧ) Пётр Іванавіч (1898), бухгалтар фінансава-эканамічнага тэхнікума ў Мінску. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ШАГУН Аляксей Макаравіч (1898), ліцейшчык завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ШЧАЦІНСКІ Браніслаў Станіслававіч (1892), слесар завода «Ударнік» у Мінску. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЯНУШКЕВІЧ Казімір Антонавіч (1883), токар завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

**5 ліпеня 1938**

БАГДАНОВІЧ Антон (Анатоль) Антонавіч (1908), дзяжурны Мінскай воданапорнай станцыі. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

БАРЫСЕВІЧ Аляксей Рыгоравіч (Георгіевіч) (1911), радыёмеханік упраўлення сувязі ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

ГАРДОН (ГОРДАН) Саламон Давыдавіч (1902), рабочы Мінскай швейнай фабрыкі. Арыштаваны 15.2.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ГІНТАЎТ Казімір Антонавіч (1902), пажарнік Мінскай электрастанцыі № 1. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ГНЯЦЕЦКІ Іван Давыдавіч (1899). Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

ГРАДШТЭЙН Хаім (Яфім) Шмулевіч (Самуілавіч) (1901), дырэктар курсаў гандлёвых работнікаў Наркамгандлю. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

ГРЫНБЕРГ Арон Барысавіч (1910), шавец фабрыкі індывідуальных заказаў у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

ГРЫШЧУК Юльян Іванавіч (1898), слесар Мінскага завода «Ударнік». Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ДРАЗДОЎСКІ Кайтан (Кастан) Францавіч (1908), дзяжурны машыніст Мінскай воданапорнай станцыі. Асуджаны 26.5.1938.

ЗУЙ Андрэй Іванавіч (1882), загадчык склада «Белсельгасснаба». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

ІЛЬКЕВІЧ Уладзімір Іванавіч (1900), студэнт Мінскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

КАЛЕЧЫЦ Віктар Язэпавіч (Восіпавіч) (1896), шафёр шпалернай фабрыкі імя Вароўскага ў Мінску. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

КАЛОШЫН (КАЛОША) Піліп Мацвеевіч (1887?), вартаўнік аховы гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

КАМАРОЎСКІ Франц Дзмітрыевіч (1913), слесар вадакачкі ў Мінску. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

КАЎРУС (КОЎРУС) Міленцій Аляксеевіч (1906), майстар завода імя Молатава ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

КЛЮПС Пётр Лаўрынавіч (1882), бракёр завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

КУСІН Язэп Данатавіч (1884), цясляр. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

МАЦКЕВІЧ Віталь (1901), калгаснік. Арыштаваны 8.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

МЯЦ Дзмітрый Васілевіч (1897?), рабочы чарапічнага завода № 1 у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 26.5.1938.

ОСТВІНД Язэп Вульфавіч (1900), нам. загадчыка швейнага аддзела ГУМа. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

РЫДЗЕЎСКІ Уладзімір Міхайлавіч (1903), сталяр мэблевай арцелі ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

СЯДЛОЎСКІ Ісак Абрамавіч (1905), электраманцёр завода «Ланцугі Галя» ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

ТАМІЛЬЧЫК Мітрафан Лукіч* (1896), выкладчык БПІ. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ТАРАШКЕВІЧ Міхаіл Антонавіч (1907), закройшчык цэха фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

ТУМАС Мікалай Канстанцінавіч (1909), кравец швейнай арцелі «Новы шлях» у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

УЛАСІК Вікенцій Фёдаравіч (1891), сталяр Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

ШАМРУК Міхаіл Іванавіч (1898), токар завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ШТАРКМАН Арон Манышавіч* (1903), дырэктар Інстытута народнай гаспадаркі. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

**7 ліпеня 1938**

АНТОНЧЫК Гаўрыла Васілевіч (1875), тынкоўшчык 37-га кавалерыйскага палка. Арыштаваны 17.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

БАБЧОНАК (БАБЧАНОК) Іван Мітрафанавіч* (1887), выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 6.2.1938. Асуджаны 25.5.1938.

БАНДЗЕВІЧ Сцяпан Восіпавіч (15.8.1886), складчык дроў гарпаліва ў Мінску. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

БРАЎСЕВІЧ Кірыла Іванавіч* (1883), праваслаўны святар. Арыштаваны ў лют. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ГАЛАЎНЯ Фёдар Эдуардавіч (1901), тэхнічны нарміроўшчык завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ГАЛЬПЕРЫН Гірш Лейзеравіч (1889), кравец швейнай фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску. Асуджаны 25.5.1938.

ГУЧОК Язэп Іванавіч (1888), візнік Мінхарчгандлю. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ДЭЙЧ Веніямін Ізраілевіч (1902), бухгалтар Цэнтральнага Савета таварыства вынаходнікаў. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЕРАХАВЕЦ Ціт Іванавіч (1876), калгаснік. Арыштаваны 23.2.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ІЁСІЛЕЎСКІ Ізраіль Нохімавіч (1894), кравец фабрыкі «КІМ» у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

КАМАРОЎСКІ Адам Францавіч (1889), ахоўнік Мінскай воданапорнай станцыі. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

КЕЦКА (КЯЦКО) Канстанцін Дзмітрыевіч (1893), галоўны бухгалтар «Белсадагародтрэста». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.4.1938.

МУКАВОЗЧЫК (МУКАВОЗЧЫКАЎ) Сяргей Андрэевіч (1896), памочнік машыніста дэпо чыгуначнай ст. Мінск-Таварны. Арыштаваны ў лют. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ПАЛХОЎСКІ Павел Венядзіктавіч (1908), слесар Мінскага завода імя Варашылава. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ПАРШУТА Рыгор Рыгоравіч (1886), пенсіянер. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ПАТАПАЎ Пётр Рыгоравіч (Георгіевіч) (1884), вартаўнік «Белкаапсаюза». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ПЕРХАРОВІЧ Іван (Іаан) Акімавіч* (н.1.7.1884), праваслаўны святар. Чарговы раз арыштаваны ў лют. (альбо ў сак.) 1938. Асуджаны 25.5.1938.

РАЧКОЎСКІ Язэп Язэпавіч (1901), брат Ф. *Рачкоўскага* (гл.: 9.1.1938), рамізнік кватэрнай часткі Мінскага гарнізона. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

РУБІНШТЭЙН Вульф Нотавіч (1885), старшы бухгалтар Белкамунбанка. Арыштаваны 13.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

САКАЛОЎСКІ Аляксандр Іванавіч (1895), эканаміст-планавік Наркамата мясцовай прамысловасці. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 25.5.1938.

СКАБЛОЎ Фёдар Аляксеевіч* (1897 ці 1905), старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

СТАНКЕВІЧ Язэп Канстанцінавіч (1885), шафёр Цэнтральнай пошты ў Мінску. Асуджаны 25.5.1938.

УПАРТ (УПОРТ) Барыс Аронавіч (1880), эканаміст «Саюзбумзбыту». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ХМЯЛЕЎСКІ Аркадзь Язэпавіч (Восіпавіч) (1895), ахоўнік-вартаўнік Мінскай электрастанцыі. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЦЕРАХ (ЦЕРАХАЎ) Адам Адамавіч* (8.9.1882), кіраўнік драмгуртка швейнай фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску. Асуджаны 25.5.1938.

ЦЫПУНОВІЧ Іван Іванавіч (1894), возчык лазнева-пральнага камбіната ў Мінску. Асуджаны 25.5.1938.

**9 ліпеня 1938**

АКСЕЛЬ Зуся Фолевіч (Фулевіч) (1871), рабочы бальніцы ў Мінску. Асуджаны 25.5.1938.

АСТАХНОВІЧ Сцяпан Сцяпанавіч (1889), водаправодчык. Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

БЕРАЗОЎСКІ (БРЖАЗОЎСКІ) Марк Паўлавіч (1888), рымар. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

БУДЗІН Шэвах (Шэвель) Аронавіч* (1896), нам. дырэктара Мінскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 6.12.1937. Асуджаны 28.5.1938.

БЕПІРШЧ (БЯПІРШЧ) Іван Казіміравіч (1903), возчык Мінскага станкабудаўнічага завода. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ВАЎЧОК (ВОЎЧАК) Аляксандр Іванавіч (1899). Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ВЯРКОВІЧ Іван Аляксандравіч (1893), грузчык шклозавода «Пралетарый» у Мінску. Арыштаваны 28.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ГАЛУБЧЫК Язэп Беркавіч (1903), бухгалтар Мікрабіялагічнага інстытута. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ГАСПЯРОВІЧ Іван Францавіч (1886), шароўшчык гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 28.5.1938.

ГІРЫС Уладзімір Мікалаевіч (1896), загадчык Жодзінскага паштовага аддзялення. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 28.5.1938.

ГОРН Якаў Піліпавіч (1902), загадчык парткабінета ГЭС № 1 у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ГРЫШКЕВІЧ Расціслаў Казіміравіч (1895), рэвізор Бел. дзяржаўнага банка. Арыштаваны 28.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ДАБРЭНКА Антон Сцяпанавіч (1890), бухгалтар Цэнтральнага ўпраўлення саюза работнікаў шашэйных дарог. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 28.5.1938.

ДАРАШЭВІЧ Іван Рыгоравіч (1881), садоўнік Слуцкага гарсавета. Арыштаваны 1.2.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ДАРДАК Юдаль Самуілавіч* (1896), супрацоўнік Навукова-даследчага інстытута педагогікі ў Мінску. Асуджаны 25.5.1938.

ДЗБАНАК Юлій Ізраілевіч (1903), начальнік цэха абутковай фабрыкі імя Кагановіча ў Мінску. Арыштаваны 25.1.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ДРАЗДОЎСКІ Фадзей (Хведар) Францавіч (1910), дзяжурны Мінскай воданапорнай станцыі. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ДУБІНСКІ Эдуард Міхайлавіч (1909), калгаснік. Арыштаваны 4.4.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ДЫСЦЕЛЕР (ДЫСТЛЕР) Арон Веніямінавіч (1900), кравец арцелі «Новы шлях» у Мінску. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЕЎТУХОЎСКІ Фама (Тамаш) Андрэевіч (1873), вартаўнік Белхарчгандлю. Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 28.5.1938.

ЖУК Максім Міхайлавіч (1875), вартаўнік Мінскай электрастанцыі. Асуджаны 22.5.1938.

ЖУКОВІЧ Васіль Васілевіч (1914), сталяр завода імя Молатава ў Мінску. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЗАБАЎСКІ Аляксей Мікалаевіч (1884), эканаміст упраўлення сувязі ў Мінску. Арыштаваны 6.12.1937. Асуджаны 28.5.1938.

ЗВАРЫГІН Іван Васілевіч (1879), бухгалтар арцелі «Чырвоны абутнік». Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 28.5.1938.

ЗІНЕЎСКІ (ЗАНЕЎСКІ) Казімір Язэпавіч (1879), дворнік жылтрэста ў Мінску. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ІГНАТОВІЧ Рыгор Міронавіч (1893). Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

КАЗЛОЎСКІ Стэфан Іванавіч (1887), ахоўнік Мінскай воданапорнай станцыі. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

КАСМОВІЧ Анатоль Аляксандравіч* (1905), эканаміст Інстытута прамысловасці БССР. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

КАСЬКЕВІЧ Мікалай Іванавіч (1889), рабочы Водаканалтрэста (Мінскі р-н). Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

КАЦ Меер Мендзелевіч (1895), бібліятэкар дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У.Леніна. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

КІРЫЛЮК Рыгор Апанасавіч (1895), дырэктар завода імя Варашылава ў Мінску. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

КІСЕЛЬ Паўліна Антонаўна (1903), краўчыха саматужнай арцелі ў Дзяржынску. Арыштавана ў ліст. 1937. Асуджана 28.5.1938.

КІСЬ Іван Фёдаравіч (1883), грузчык Мінскай нафтавай базы. Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 28.5.1938.

КЛЮПС Іван Лаўрэнавіч (1881), бракер гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 28.5.1938.

КУРАКЕВІЧ Уладзімір Ігнатавіч (1894), брат В. *Куракевіча* (гл.: 4.7.1938), загадчык буфета ў Мінску. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

КУРЛЯНД Хаім Давыдавіч (1898), рабочы абутковай фабрыкі імя Кагановіча ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 28.5.1938.

КУХАНЕВІЧ Фёдар Лявонавіч (1894), пажарнік завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 28.5.1938.

КУЧКО Васіль Іванавіч (1882), майстар шклозавода «Пралетарый» у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЛЕАНЮК Даніла Сцяпанавіч (1892), ахоўнік хлебазавода № 1 у Мінску. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ЛЕВІН Шая Ільыч* (1905), нам. дырэктара Мінскага хіміка-тэхналагічнага тэхнікума. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ЛЕЙКІН Касрыель Хананавіч (1884), загадчык сталовай фабрыкі «КІМ» у Мінску. Асуджаны 25.5.1938.

ЛІБЕРМАН Майсей Якаўлевіч (1894), загадчык таварнага двара «Беларусь». Асуджаны 25.5.1938.

ЛІПАЙ Мікалай Аляксеевіч (1903), грузчык «Белкаапснабгандлю». Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЛІСОЦКІ Язэп Ануфрыевіч (1900), рабочы 1-й Мінскай электрастанцыі. Арыштаваны 6.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

МАЛЕЦ Іван Іванавіч (1893), стругальшчык завода імя Молатава ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

МЕНДЭЛЬСОН Якаў Хаймавіч* (1902), загадчык прамыслова-кааператыўнага аддзела мінскай яўрэйскай газ. «Октобэр». Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.5.1938.

МІКУЛІЧ Сяргей Дзмітрыевіч (1892), рабочы Мінскага хлебазавода. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

МІЦЕЛЬМАН (МІТЭЛЬМАН) Ілья Зіноўевіч* (10.4.1897), настаўнік фізкультуры СШ пры СНК БССР. Арыштаваны 9.2.1938. Асуджаны 28.5.1938.

МНУХІН Яўген Міхайлавіч* (1911), настаўнік няпоўнай СШ в. Маўчаны Рэчыцкага р-на. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 28.5.1938.

НЯХАЙЧЫК Антон Сямёнавіч (1899), арматуршчык на будаўніцтве АН БССР. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ПАГАНЬКО Баляслаў Пятровіч (1899), старшы бухгалтар цагельнага завода ў Мінску. Арыштаваны ў лют. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ПЕРАВОЗСКІ Якаў Хаймавіч (1906), кравец швейнай фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 28.5.1938.

ПІЛЕЦКІ Вікенцій Францавіч (1889), цясляр швейнай фабрыкі «КІМ». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ПЛЫГАЎКА Аляксандр Мікалаевіч (1896), грузчык завода імя Молатава ў Мінску. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ПРОХАРАЎ Аркадзь Аляксеевіч* (17.4.1900), прафесар НДІ харчовай прамысловасці БССР. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

РАМАНОЎСКІ Вацлаў Антонавіч* (1908), журналіст рэдакцыі газ. «Ударник Дзержинщины». Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

РОЗЕНБЕРГ Давыд Яфрэмавіч (1898), загадчык транспарту лазнева-пральнага камбіната ў Мінску. Арыштаваны 28.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

РОЙНІК Вікенцій Ільіч (1900), брыгадзір калгаса (Мінскі р-н). Арыштаваны 8.2.1938. Асуджаны 25.5.1938.

РУМАНАЎ Фішэль Хаймавіч (1900), кравец швейнай фабрыкі ў Мінску. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

САЛАВЕЙЧЫК Бэр Ісакавіч (15.7.1898), нам. галоўнага бухгалтара «Мінсаюзунівермага». Арыштаваны 5.1.1938. Асуджаны 28.5.1938.

САЛАВЕЙЧЫК Сямён Ісакавіч (21.4.1904), брат Б. *Салавейчыка*, бухгалтар бел. аддзялення «Саюзпрадмага». Арыштаваны 5.1.1938. Асуджаны 28.5.1938.

САФРОНАЎ (ФРЭЙДКІС) Алтэр Мордухавіч (1898), рабочы арцелі «Беларусь» у Мінску. Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

СІНДЗАР Ігнат Іванавіч (1901), загадчык сектара Белкаапрамсавета. Арыштаваны 6.12.1937. Асуджаны 28.5.1938.

СТАНКЕВІЧ Фама Васілевіч (1896), сталяр Мінскага Палаца піянераў. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

СТРЫЖЭЎСКІ Іван Адамавіч (1911), інструктар аддзела кадраў трэста «Галоўхлеб». Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ФРЫД Рыгор Міхайлавіч* (лют. 1902), упаўнаважаны па размеркаванні літаратуры АН БССР. Арыштаваны 9.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ФРЫДМАН Ліла Шаламонавіч (1899), прыёмшчык друкарні імя Сталіна ў Мінску. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЧАРНЯЎСКІ Станіслаў Францавіч* (1902), настаўнік няпоўнай СШ ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на. Арыштаваны ў студз. 1938. Асуджаны 28.5.1938.

ШАСТАВІЦКІ Павел Аляксеевіч (1902), кіраўнік упраўлення дамамі 122-га ўчастка ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 28.5.1938.

ШЫМАНСКІ-ЖАМОЙЦІК Станіслаў Андрэевіч (2.1.1884), рахункавод саўгаса імя Варашылава. Арыштаваны 2.4.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЭПШТЭЙН Майсей Матусавіч (1874), бухгалтар. Арыштаваны ў студз. 1938. Асуджаны 28.5.1938.

ЯСІНОВІЧ Аляксандр Канстанцінавіч (1892), маляр завода «Ударнік» у Мінску. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЯСКЕВІЧ Аляксандр Мікалаевіч (1903), інжынер-лесавод Белводгаса. Арыштаваны 1.2.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ЯХНЕС Давыд Шэбшалевіч (16.8.1899), нам. загадчыка склада базы «Саюзоптгалантарэі». Арыштаваны 5.1.1938. Асуджаны 28.5.1938.

**14 ліпеня 1938**

БУДНІК Мацвей Іванавіч (1895), рабочы Мінскага мясакамбіната. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ВЕКР Валянцін Францавіч (1885), слесар-водаправодчык Мінскага хлебазавода. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ІЁШПЭ Абрам Рувімавіч (1896), рабочы завода «Бальшавік» у Мінску. Асуджаны 25.5.1938.

КАРОЛЬ Уладзімір Антонавіч (1892), электратэхнік Мінгаркамгаса. Асуджаны 25.5.1938.

КРУПІЧ Вікенцій Цімафеевіч (1902), дыспетчар конна-эксплуатацыйнай базы «Белдзяржтранс». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЛАШУК Ігнат Фаміч (1890), старшы конюх аддзела ачысткі Мінскага гарсавета. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

МАНДЖАК Якаў Абрамавіч (1891), кладаўшчык друкарні імя Сталіна ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

МАЦКО Іван Іванавіч (1909), слесар завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

МЫШКА (МЫШКО) Сцяпан Сцяпанавіч* (1897), рэжысёр кінафабрыкі «Савецкая Беларусь». Асуджаны 25.5.1938.

МЯЛЕШКА Міхаіл Антонавіч (1893), начальнік паштовага аддзялення № 16 у Мінску. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ПЕРСАН Арон Хаймавіч (1901), загадчык базы Упраўлення наркамата мясцовай прамысловасці БССР. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

РАКУЦЬ Максім Севасцянавіч* (1892), настаўнік пачатковай школы ў в. Тарасава Мінскага р-на. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

РЫБЧАК Андрэй Яўгенавіч (1903), рабочы Мінскага шклозавода. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

СКОЧЫЛАС Іван Іванавіч (1879), майстар-закройшчык швейнай фабрыкі імя Крупскай у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

СТАРАЎЛЯНСКІ Абрам Аронавіч (1904), кравец майстэрні Мінваенгандлю. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

УГРЫНОВІЧ Язэп Аляксандравіч (1905), вартаўнік аэрадрома (Чэрвеньскі р-н). Арыштаваны 25.11.1937. Асуджаны 26.5.1938.

ХМЯЛЬНІЦКІ Лявон Сямёнавіч (1885), ахоўнік Мінскага малочнага завода. Арыштаваны ў сак. 1937 (?). Асуджаны 25.5.1938.

ЧАРВАНКА Язэп Іванавіч (1886), пенсіянер. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ШАМШАНОВІЧ Ісак Ільіч (1897), бракёр Мінскага ГУМа. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЯБЛОНСКІ Макар Дзмітрыевіч (1888), калгаснік. Арыштаваны 13.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

**15 ліпеня 1938**

КАЧАН Франц Ільіч (1895), пуцявы абходчык 12-га акалодка 8-й дыстанцыі пуці ў Заслаўі. Арыштаваны 30.3.1938. Асуджаны 20.5.1938.

ЛАЎРЫНОВІЧ Фёдар Адамавіч (1894), пуцявы абходчык 7-й дыстанцыі пуці. Арыштаваны 21.2.1938. Асуджаны 15.5.1938.

МІЦКЕВІЧ Язэп Аляксандравіч (21.12.1892), майстар чыгункі 7-й дыстанцыі пуці ст. Бобр. Арыштаваны 25.2.1938. Асуджаны 15.5.1938.

НАВІЦКІ Язэп Антонавіч (1.12.1875), вартаўнік плодаагароднінннай базы ў Мінску. Арыштаваны 17.3.1938. Асуджаны 15.5.1938.

ПІГУЛЕЎСКІ Аркадзь Андрэевіч (7.3.1874), вартаўнік пакгаўза на 747-м км Бел. чыгункі. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 20.5.1938.

ШЧЭРБА Міхаіл Фёдаравіч (1892), начальнік блок-паста 722-га км чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 20.5.1938.

**21 ліпеня 1938**

АС Меер Абрамавіч (1890), рахункавод Слуцкай торфаарцелі. Арыштаваны 9.2.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ВІКТАРОВІЧ Уладзімір Сцяпанавіч (1892), калгаснік. Арыштаваны 27.2.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ДАРОЖКА Васіль Сямёнавіч (1905), адказны выканаўца аддзела кадраў Мінскага мясакамбіната. Арыштаваны 12.1.1938. Асуджаны 26.5.1938.

МАРТУСЕВІЧ (МАТУСЕВІЧ) Казімір Ігнацевіч (1903), цясляр Мінскай МТС. Арыштаваны ў жн. 1937. Асуджаны 9.12.1937.

НЕВЯРОЎСКІ Станіслаў Феліцыянавіч (Фердынандавіч) (1900), сакратар Вяляціцкага сельсавета. Арыштаваны 13.4.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ПЕТРУКЕВІЧ Лука Маркавіч (1899), працаваў у калгасе «Ударнік». Арыштаваны 8.2.1938. Асуджаны 26.5.1938.

РУСАК Іван Мартынавіч (1899), калгаснік. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ТАМАРОВІЧ Іван Станіслававіч (1894), пажарнік Барысаўскай пажарнай каманды. Арыштаваны 9.2.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ТУРЫН Кірыла Пятровіч (2.2.1904), возчык арцелі «Чырвоны транспартнік» у Барысаве. Арыштаваны 4.12.1937. Асуджаны 26.5.1938.

ЦВІКЛІНСКІ Казімір Рамуальдавіч (1909), студэнт Мінскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 17.12.1937. Асуджаны 21.1.1938.

ЦІШКЕВІЧ Іван Іванавіч (15.9.1909), тэхнік на будаўніцтве мінскага Дома Чырвонай арміі. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

**22 ліпеня 1938**

АНАНІЧ Пётр Іванавіч (1889), калгаснік. Арыштаваны 14.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ВАНЬКОВІЧ Язэп Якаўлевіч (1884), калгаснік. Арыштаваны 14.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ГЕЛЬМАН Леў-Рафаіл Эмануілавіч (Маркавіч) (1898), памочнік урача Пухавіцкай бальніцы. Арыштаваны 19.2.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ГРЫЦКЕВІЧ Язэп (Іван) Адамавіч (1895), загадчык ларка арцелі інвалідаў. Арыштаваны 12.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ДОЎНАР Севасцян Антонавіч (1894), працаваў у калгасе імя Дзяржынскага. Арыштаваны 14.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ЖУРАЎЛЕВІЧ Андрэй Сцяпанавіч (1894), калгаснік. Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЗЯНЕВІЧ (ЗІНЕВІЧ) Антон Іванавіч (1899), трактарыст МТС Старобінскага р-на. Арыштаваны 14.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

КАЗЛОЎСКІ Уладзімір Дзям'янавіч (1911), калгаснік. Арыштаваны 14.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

КАРАСІК Моўша-Міхель Іцкавіч (чэрв. 1901), бухгалтар Слуцкай торфаарцелі «Энергія». Арыштаваны 8.2.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ЛОСІК Васіль Сільвестравіч (1898), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 15.3.1938. Асуджаны 28.5.1938.

ЛУКАШЭВІЧ Леанард Сцяпанавіч (1892), конюх райвыканкама ў Грэску. Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЛУКАШЭВІЧ Мікалай Сцяпанавіч (1878), брат Л. *Лукашэвіча* і А. *Лукашэвіча* (гл.: 7.10.1938), касір цырульні ў Грэску. Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

МАЛАТОК Пётр Сцяпанавіч (1898), працаваў у калгасе «Світанак». Арыштаваны 11.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ТАМІЛА Пётр Іванавіч (1909), возчык Старобінскай хлебапякарні. Арыштаваны 23.2.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ШАБЛЮК Павел Мікалаевіч (1890), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 14.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ШПІЛЕЎСКІ (АЛЕСЕЎ) Люцыян Аляксандравіч (1888), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 14.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ШЧАРБІЦКІ Антон Фёдаравіч (1875), калгаснік. Арыштаваны 13.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

**27 ліпеня 1938**

БЯГУН Герасім Васілевіч (1.3.1890), загадчык гаспадаркі паштовага аддзялення чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 15.1.1938. Асуджаны 20.5.1938.

ВАСІЛЕНКА Сямён Макаравіч (12.12.1888), вагаўшчык чыгуначнай ст. Мінск-Пасажырскі. Арыштаваны 15.1.1938. Асуджаны 20.5.1938.

ЖЫЛІНСКІ Эдуард Іванавіч (26.8.1890), вагонны майстар чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 18.1.1938. Асуджаны 20.5.1938.

КАНАВАЛАЎ Андрэй Сідаравіч (1892), праваднік чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 16.1.1938. Асуджаны 20.5.1938.

КАРПОВІЧ Іван Вікенцевіч (1888), стрэлачнік чыгуначнай ст. Мінск-Таварны. Арыштаваны 10.4.1938. Асуджаны 20.5.1938.

ЛАЗАРЧЫК Яфім Захаравіч (1908), стрэлачнік чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 10.4.1938. Асуджаны 20.5.1938.

ЛІШАЙ Андрэй Іванавіч (30.11.1880), слесар кавальскага цэха завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 13.4.1938. Асуджаны 20.5.1938.

ЛЯХОВІЧ Аляксандр Сцяпанавіч (27.8.1898), майстар «Белскурабутакснабзбыту» ў Мінску. Арыштаваны 29.3.1938. Асуджаны 20.5.1938.

ЛЯШКЕВІЧ Юльян Сцяпанавіч (14.8.1899), кандуктар чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 21.10.1937. Асуджаны 20.5.1938.

МІХАЛЬЧУК Васіль Андрэевіч (1904), начальнік гандлёвай базы Бел. чыгункі. Арыштаваны 9.2.1938. Асуджаны 20.5.1938.

ТОЎСЦІК Сяргей Аляксандравіч (1903), рабочы цагельнага завода ў Мінску. Арыштаваны 10.4.1938. Асуджаны 20.5.1938.

ЧУРЫЛА Міхаіл Лявонавіч (27.9.1899), пуцявы рабочы 9-га акалодка чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 28.3.1938. Асуджаны 20.5.1938.

**29 ліпеня 1938**

САГАЙДАКЕВІЧ Антон Францавіч** (30.5.1890), сігналіст блокпаста 636-га км Бел. чыгункі. Арыштаваны 31.3.1938. Асуджаны 20.5.1938.

**31 ліпеня 1938**

ШАГОЙКА Іван Мацвеевіч** (1907), калгаснік. Арыштаваны 13.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

**1 жніўня 1938**

РУНЦЭВІЧ Пелагея Міхайлаўна (1878), хатняя гаспадыня. Арыштавана 1.11.1937. Асуджана 9.12.1937.

**4 жніўня 1938**

ХРЫСТОЎСКІ Франц Міхайлавіч (1913), электраманцёр 1-й Мінскай электрастанцыі. Арыштаваны 16.12.1937. Асуджаны 15.2.1938.

**5 жніўня 1938**

ФІЛІПОВІЧ Іван Венядзіктавіч (1908), калгаснік. Арыштаваны 17.12.1937. Асуджаны 20.1.1938.

**8 жніўня 1938**

ГОЛЬДБЕРГ Бен Бенавіч (1894), прыёмшчык завода імя Молатава ў Мінску. Арыштаваны 28.12.1937. Асуджаны 28.5.1938.

ЭЙДЭЛЬБЕРГ Барыс Самойлавіч (жн. 1896), дырэктар «Малярбуда» ў Мінску. Арыштаваны 29.12.1937. Асуджаны 28.5.1938.

**9 жніўня 1938**

ЛАМАКА Яфім Ігнатавіч* (1899), дыякан. Асуджаны 25.5.1938.

СТАНІЛЕВІЧ Язэп Пятровіч** (13.4.1888), ахоўнік канторы «Заготзерно» (Слуцкі р-н). Арыштаваны 30.3.1938. Асуджаны 31.5.1938.

**20 жніўня 1938**

ГАМЗА Мікалай Вікенцевіч (1896), прадавец сяльпо (Капыльскі р-н). Арыштаваны 24.11.1937. Асуджаны 21.1.1938.

ТРАФІМЧЫК Фама Трафімавіч (10.7.1895), брыгадзір калгаса «Камунар». Арыштаваны 15.12.1937. Асуджаны 21.1.1938.

**22 жніўня 1938**

ГРУНШПОН Мацвей Давыдавіч (1871), бацька С. *Грушпона* (гл.: 3.1.1938), муж Я. *Грушпон-Макрыцкай* (гл.: 5.5.1938), садоўнік Барысаўскага гарадскога сада. Арыштаваны 8.1.1938. Асуджаны 12.4.1938.

ЗАХАРЫЧ Апанас Пятровіч (15.12.1904), качагар макароннай фабрыкі ў Барысаве. Арыштаваны 10.2.1938. Асуджаны 9.4.1938.

СВІНТУХОЎСКІ Вікенцій Язэпавіч (1888), рабочы саўгаса. Арыштаваны 13.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

## 1 верасня 1938

АНТАНОВІЧ Уладзімір Язэпавіч (Восіпавіч) (1906), бухгалтар 2-й механічнай пякарні ў Мінску. Асуджаны 25.5.1938.

БАРАН Мордух Абрамавіч (1885), дырэктар крамы № 1 Мінваенгандлю. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 18.5.1938.

БАРАНОЎСКІ Андрэй Юльянавіч* (1895), працаваў у геадэзічнай майстэрні Белдзяржтрансу Наркамата земляробства БССР. Арыштаваны 26.1.1938.

БАРУШКА Павел Максімавіч** (1902), рахункавод калгаса «Бальшавік». Асуджаны 25.5.1938.

БАРЫСЕВІЧ Чэслаў Язэпавіч (1906), начальнік Адміністрацыйна-гаспадарчага сектара Мінхарчгандлю БССР. Арыштаваны 26.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ВАЙНШТЭЙН Арон Мордухавіч (11.7.1895), памочнік загадчыка крамы № 8 гархарчгандлю ў Мінску. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ВАНСОЎСКІ Браніслаў Антонавіч* (1898), дырэктар «Белсельэлектра». Арыштаваны 26.3.1937. Асуджаны 17.12.1937.

ДЛУГАКЕНСКІ Язэп Міхайлавіч (1890), кладаўшчык Мінскага гаргандлю. Арыштаваны 13.10.1937. Асуджаны 9.11.1937.

ДУБОВІК Язэп Ігнатавіч (1894), ляснік Чэрвеньскага лясніцтва. Арыштаваны 8.2.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ЖДАНОВІЧ Эмілія Вікенцеўна (1908). Арыштавана 24.1.1938. Асуджана 29.3.1938.

ЗАНКОВІЧ Павел Міхайлавіч* (1896), настаўнік СШ ў в. Прылукі Мінскага р-на (цяпер у межах Мінска). Арыштаваны 23.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

КАЗАК Аляксей Захаравіч* (11.2.1886), краязнавец, публіцыст. Арыштаваны 11.12.1937. Асуджаны 28.5.1938.

КАНАШ Сцяпан Адамавіч (1888), пуцявы абходчык чыгуначнай веткі Каралішчавічы–Міханавічы. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

КІРЭЕЎ Міхаіл Антонавіч (1899). Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 23.5.1938.

КАРАБКОВА (ЯКАЎЛЕВА) Ксенія Андрэеўна (1901), загадчыца 2-га аддзялення крамы «Дынама» ў Мінску. Арыштавана ў 1938. Асуджана 20.1.1938.

КРАЎЧАНКА Андрэй Іванавіч (1883), майстар шклозавода «Пралетарый» у Мінску. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

КРЫМСКАЯ Яўгенія Маркаўна (май 1905), студэнткааднагадовых курсаў пры Мінскім педагагічным інстытуце. Арыштавана 29.12.1937. Асуджана 29.3.1938.

МАЙСКІ Міхаіл Сямёнавіч* (1906), прадстаўнік польскай секцыі (аддзела) «КІМа» ў Мінску. Арыштаваны 17.12.1937. Асуджаны 26.5.1938.

МАРОЗ Уладзімір Міхайлавіч (25.10.1895), землямер аддзела землеўпарадкавання Наркамзема БССР. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

МАРОЗ (ПАЛОЗ) Яфім Георгіевіч (Юр'евіч) (1895), нам. дырэктара саўгаса «Новый мир». Арыштаваны 28.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

МІЛЬЧАК Лазар Эльевіч (1900), брат Г. *Мільчака* (гл.: 4.6.1938), кравец фабрыкі «1 Мая» ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ПЕНЯРДЖЫ Сяргей Васілевіч (1886), юрысконсульт шпалернай фабрыкі ў Мінску. Арыштаваны 17.12.1937. Асуджаны 12.4.1938.

ПЯТРОВА Людміла Восіпаўна* (18.11.1888), настаўніца няпоўнай СШ ў в. Хутар Чэрвеньскага р-на. Арыштавана 16.8.1937. Асуджана 17.12.1937.

РАБІНОВІЧ Давыд Лейбавіч (1897), нарыхтоўшчык абутковай фабрыкі «Індпашыў» у Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 28.5.1938.

РАШТА (РУШТА?) Іван Язэпавіч (1894), калгаснік. Арыштаваны 13.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

РОСА Павел Язэпавіч (Восіпавіч) (1877), манцёр водазабеспячэння курсаў партыйнага актыва ў Мінску. Арыштаваны 15.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

РУБІН Ісак Абрамавіч (1887), начальнік фінансавага аддзела трэста «Белдрэў» у Мінску. Арыштаваны 8.2.1938. Асуджаны 25.5.1938.

РУБІНШТЭЙН Навум Аронавіч (1899), працаваў у бібліятэцы АН БССР. Асуджаны 26.5.1938.

РЫБАКОЎ Ілья Іларыёнавіч (1893), ляснік Барысаўскага леспрамгаса. Арыштаваны 10.1.1938. Асуджаны 15.2.1938.

СЕРПЕНЬ Адам Канстанцінавіч (14.12.1883), інспектар ЦК прафсаюзаў БССР па ахове працы. Арыштаваны 30.5.1937. Асуджаны 22.11.1937.

СУХАЛІЦКІ Хоня Іцкавіч (1908), кравец фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 19.11.1937.

УРУБЛЕЎСКІ Іван Восіпавіч (Язэпавіч) (1895), прыёмшчык лесаматэрыялу Лепельскага леспрамгаса. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 10.1.1938.

ФАБРЫКАНТ Абрам Мендзелевіч (1911), студэнт БДУ. Арыштаваны ў кастр. 1937. Асуджаны 25.5.1938.

ХАНЯЎКА Казімір Адамавіч (1901), бухгалтар. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 28.5.1938.

ШАЦІЛА Іван Язэпавіч (1902), дзяжурны вакзала чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ШАШУРА Якаў Лаўрэнавіч (1898), экспедытар «Белметалпрамсаюза». Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 26.5.1938.

ШЧАРБАЦЭВІЧ Іван Дзянісавіч (1902), закройшчык абутковай фабрыкі імя Тэльмана ў Мінску. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЭПЕЛЬБАУМ Леанід Маркавіч* (1900), кінааператар Белдзяржкіно. Арыштаваны 26.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЮРКЕВІЧ Самуіл Саламонавіч* (1895), навуковы супрацоўнік АН БССР. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ЮШКЕВІЧ Андрэй Вікенцевіч (1897), фельчар Азёрскага медпункта. Арыштаваны 14.4.1937. Асуджаны 25.5.1938.

**7 верасня 1938**

БАРАНОЎСКІ Язэп Усцінавіч (1899), брыгадзір калгаса «Сцяг перамогі». Арыштаваны 17.12.1937. Асуджаны 26.1.1938.

ВІНІЦКІ Іван Харытонавіч* (1900), выкладчык Лепельскага педагагічнага вучылішча. Арыштаваны 12.1.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ЖАЛЬПЭ (ЖОЛЬПЭ) Франц Вікенцевіч (1887), інструктар Наркамасветы БССР. Арыштаваны 11.12.1937. Асуджаны 28.5.1938.

ЛЬВОВІЧ Саламон Рувімавіч (1892), нам. старшыні «Белкаапінсаюза». Арыштаваны 13.11.1937. Асуджаны 28.5.1938.

НАТАНСОН Вульф Саламонавіч (20.11.1887), інжынер наркамата мясцовай прамысловасці БССР. Арыштаваны 1.8.1937. Асуджаны 29.3.1938.

ПЫШКА (ПЫШКО) Ісак Рыгоравіч (1883), сталяр завода стандартных дамоў у Мінску. Арыштаваны 6.1.1938. Асуджаны 28.5.1938.

РАДЗІН Саламон Абрамавіч (1892), загадчык вучэбнай часткі Інстытута павышэння кваліфікацыі кадраў народнай адукацыі ў Мінску. Арыштаваны 29.12.1937. Асуджаны 28.5.1938.

ХУДЗІКАЎ Антон Сямёнавіч (жн. 1898), токар завода імя Кірава. Арыштаваны 3.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ШРЫРА Саламон Майсеевіч (1900), шафёр фабрыкі імя Кагановіча ў Мінску. Арыштаваны ў сак. 1938. Асуджаны 25.5.1938.

**9 верасня 1938**

БРАМАНД Адольф Фердынандавіч (1889), вартаўнік будоўлі фабрыкі-кухні ў Мінску. Арыштаваны 22.12.1937. Асуджаны 25.6.1938.

ВАЛКАВЕЦ Мікалай Васілевіч* (1895), старшыня калгаса (Барысаўскі р-н). Арыштаваны 13.2.1938. Асуджаны 9.4.1938.

**10 верасня 1938**

ВАЛТ Лейба Ефраімавіч (Афраімавіч) (1890), бухгалтар Белхарчпрама. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 28.5.1938.

**12 верасня 1938**

РОТМАН Язэп Маркавіч (1901), шафёр торфазавода імя Арджанікідзе ў Смалявічах. Арыштаваны 22.12.1937. Асуджаны 21.1.1938.

**14 верасня 1938**

МЯРКІЦЕ (МЕРКІС) Аляксандра Антонаўна * (16.12.1901), паэтэса, празаік, публіцыст. Арыштавана 21.7.1937. Асуджана 3.7.1938.

САЎЧЫК Ціхан Ціханавіч** (16.1.1911), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 24.1.1938. Асуджаны 3.7.1938.

ЦЕРАХОВІЧ Людвіг Уладзіміравіч** (1894), працаваў у калгасе «Прагрэс». Арыштаваны 12.4.1938. Асуджаны 3.7.1938.

ШЫРКО Язэп Мікалаевіч** (1901), рабочы. Арыштаваны 18.2.1938. Асуджаны 3.7.1938.

ЯЛОЎКА Аляксандр Іванавіч** (14.3.1914), курсант 57-га пяхотнага палка Польскай арміі. Арыштаваны 4.1.1938. Асуджаны 8.4.1938.

**16 верасня 1938**

АЎХІМЕНЬ Лаўрэн Лазаравіч* (9.8.1886), педагог. Арыштаваны 12.4.1938. Асуджаны 2.7.1938.

БОГДАХ Мечыслаў Адамавіч (29.6.1906), сакратар працоўнага аддзела НКВД БССР. Арыштаваны 31.8.1937. Асуджаны 1.7.1938.

ДАЛМАТАЎ Ігнат Захаравіч (28.3.1900), шафёр саўгаса імя Варашылава. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 1.7.1938.

ДУБОЎСКІ Фёдар Пятровіч (8.2.1898), оперупаўнаважаны Слуцкага акруговага аддзялення НКВД. Арыштаваны 22.8.1937. Асуджаны 1.7.1938.

КАВАЛЕВІЧ Васіль Навумавіч (2.7.1889), архіварыус УДБ НКВД БССР. Арыштаваны 29.6.1937. Асуджаны 1.7.1938.

КАНЕП Роберт Фрыцавіч (27.4.1903), палітрук палкавой школы 11-га конартпалка 11-й кавалерыйскай дывізіі ў Пухавічах. Арыштаваны 20.12.1937. Асуджаны 2.7.1938.

КУНЦЭВІЧ Аляксандр Канстанцінавіч (1.11.1892), бухгалтар саўгаса «Сцяпянка». Арыштаваны 28.6.1937. Асуджаны 1.7.1938.

МАЁР Рыгор Іванавіч (сак. 1899), камандзір дывізіёна ваеннай часці № 5889 у г. п. Ждановічы Мінскага р-на. Арыштаваны 28.4.1938. Асуджаны 2.7.1938.

МАЦЮКЕВІЧ Іосіф Ігнатавіч* (1890), нам. дырэктара Інстытута мовазнаўства АН БССР. Арыштаваны 8.1.1937. Асуджаны 2.7.1938.

НУСКУЛЬЦЕР Саламон Барысавіч (1902), пракурор судовага аддзела пракуратуры БССР. Арыштаваны 26.11.1937. Асуджаны 2.7.1938.

ПУРВІН Генрых (Іван) Аляксандравіч (Іванавіч) (14.1.1894), начальнік 1-га аддзялення НКВД БССР. Арыштаваны 10.12.1937. Асуджаны 1.7.1938.

ПУТРЫКЕВІЧ Фёдар Іванавіч (1892), фельд'егер аддзела сувязі НКВД БССР. Арыштаваны 25.7.1937. Асуджаны 1.7.1938.

РУЛІС Вільгельм Іванавіч (1891), сакратар тэкстыльнага ўпраўлення БССР. Арыштаваны 9.2.1938. Асуджаны 2.7.1938.

СЛІЖЭВІЧ Пётр Лукіч (Лук'янавіч)* (7.6.1887), дырэктар Мінскай СШ № 29. Арыштаваны 5.2.1938. Асуджаны 2.7.1938.

СЛІЎКІН Аляксей Якаўлевіч (1895), начальнік Белводгаса. Арыштаваны 13.1.1938. Асуджаны 2.7.1938.

ЦЕРАХАЎ Пётр Аляксеевіч (1903), ваенурач 3-га ранга санчасткі 226-га канвойнага палка НКВД БССР. Арыштаваны 17.5.1938. Асуджаны 2.8.1938.

ЦІМАФЕЕЎ Валянцін Якаўлевіч (21.4.1901), начальнік аддзела НКВД БССР. Арыштаваны 23.7.1937. Асуджаны 1.7.1938.

**19 верасня 1938**

БАРДЗІНСКІ Акім Іванавіч* (4.9.1883), загадчык вучэбнай часткі дзіцячага дома інвалідаў у Чэрвені. Арыштаваны 12.10.1937. Асуджаны 19.11.1937.

**20 верасня 1938**

РЭДЗЬКА (РЭЦЬКА) Міхаіл Карлавіч (?), калгаснік. Арыштаваны 16.12.1937. Асуджаны 21.1.1938.

**21 верасня 1938**

АЛЕКСАНДРОВІЧ Пётр Міхайлавіч (1901), рамізнік Белдзяржбуда. Арыштаваны 13.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ГАБЕЦ Іван Міхайлавіч (Малахавіч) (1885), сталяр Бярэзінскай МТС. Арыштаваны 26.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

РЫКОЎСКІ Мар'ян Антонавіч (7.12.1899), загадчык аддзела кадраў Дзяржбанка БССР. Арыштаваны 1.9.1937. Асуджаны 21.9.1938.

СВІРЫНОЎСКІ Леў Зэлікавіч (ліст. 1882), інструктар па нарыхтоўках «Саюзутылю». Арыштаваны 27.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

**22 верасня 1938**

АНЦЫПАРОВІЧ Піліп Антонавіч (1880), ляснік Заслаўскага лясніцтва. Арыштаваны 17.4.1938. Асуджаны 20.9.1938.

БОЛЦІК (БОЛЦІКАЎ) Уладзімір Антонавіч (1891), працаваў у калгасе «За ўладу Саветаў». Арыштаваны ў крас. 1937. Асуджаны 20.9.1938.

ВАЛАСЕВІЧ Аркадзь Андрэевіч (1916), брат Андрэя *Валасевіча* (гл: 6.12.1937), галоўны бухгалтар Мінскага ветэрынарнага склада. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 20.9.1938.

ВАРАНКЕВІЧ Язэп Адамавіч (?), каваль завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 20.9.1938.

ГАРКУН Валянцін Вікенцевіч (16.1.1895), працаваў у калгасе «Чырвоны Захад». Арыштаваны 15.12.1937. Асуджаны 18.5.1938.

ГОЛАК Мікалай Пятровіч (1900), загадчык упраўлення адміністрацыйнага сектара Дзяржпрацашчадкас. Арыштаваны 1.4.1938. Асуджаны 20.9.1938.

ДОСЬКА Дзмітрый Іванавіч (1880), рабочы чыгуначнай бальніцы ў Мінску. Арыштаваны 14.4.1938. Асуджаны 20.9.1938.

ЗЫСЬКА (ЗЫСЬКО) Давыд Лейзеравіч (1899), адказны выканаўца Мінскага мясакамбіната. Асуджаны 20.9.1938.

ЗМУДЗІНСКІ Генадзь Яўгенавіч* (17(29).1.1898), адзін з заснавальнікаў школы бел. кніжнай графікі. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 20.9.1938.

КНЫШ Георгій Карлавіч (1892), памочнік загадчыка фабрыкі імя Крупскай у Мінску. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 20.9.1938.

КУЧМЕЛЬ Васіль Міхайлавіч (1900), начальнік пажарнай аховы дрэваапрацоўчай арцелі (Мінскі р-н). Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 20.9.1938.

ЛЕНГІНОВІЧ Вікенцій Іванавіч (1889), працаваў у калгасе «Чырвоны памежнік». Арыштаваны 7.4.1938. Асуджаны 20.9.1938.

МУРАШКА Дамінік Мікалаевіч (1872), вартаўнік дзіцячага санаторыя «Навінка». Асуджаны 20.9.1938.

НЕЙМАН Евель Мордухавіч (1896), дырэктар швейнай фабрыкі «КІМ» у Мінску. Асуджаны 20.9.1938.

ПАМАЎ Лазар (Лейзер) Ісакавіч (1901), загадчык аддзела мінскай яўрэйскай газ. «Октобэр». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 20.9.1938.

ПАСКРЭБКА Уладзімір Дзмітрыевіч* (1903), настаўнік. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 20.9.1938.

САКУЛЕВІЧ Сцяпан Віктаравіч (Вікенцевіч) (1882), калгаснік. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 20.9.1938.

САРОКА Кліменцій Ігнатавіч (1883), рабочы кравецкай арцелі (Мінскі р-н). Арыштаваны 7.4.1938. Асуджаны 20.9.1938.

СТРЭШНЕЎ Мікалай Фёдаравіч (1909), кінааператар Белдзяржкіно. Арыштаваны 26.1.1938. Асуджаны 20.9.1938.

ТАРАСЕВІЧ Аляксандр Адамавіч (1894), калгаснік. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 20.9.1938.

ТАРАСІК Вікенцій Лукіч* (1891), навуковы супрацоўнік Інстытута крыміналістыкі і судовай экспертызы. Арыштаваны 11.1.1938. Асуджаны 20.9.1938.

**25 верасня 1938**

АЛЕКСАНДРОВІЧ Васіль Міхайлавіч (1896), возчык УВБР-91 у Мінску. Арыштаваны 12.7.1938. Асуджаны 21.9.1938.

АРАНШТЭЙН Артур Саламонавіч* (1898), метадыст Мінскага Дома народнай творчасці. Арыштаваны 23.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

БАГДАНАЎ Дзмітрый Уладзіміравіч (24.10.1876), пенсіянер. Арыштаваны 22.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

БРАЗАНСКІ Антон Аляксандравіч (1898), брыгадзір калгаса «Новый мир». Арыштаваны 18.6.1938. Асуджаны 21.9.1938.

БРУДНЕР Саламон Ісакавіч (1902), камендант Дома Саветаў. Асуджаны 21.9.1938.

БУЛЫГІН Лука Мікалаевіч (2.2.1890), фельчар 4-га ўчастка Ушашдара. Арыштаваны 26.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ВАРЭНІК Антон Сцяпанавіч* (1888), музыкант кінатэатра «Чырвоная зорка» ў Мінску. Арыштаваны 23.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ВЯРЫГА Карл Адамавіч (1890), дзясятнік Белдзяржбуда. Арыштаваны 16.6.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ГАЛЬПЕРЫН Захар Абрамавіч (1913), загадчык садова-паркавай гаспадаркі ў Мінску. Арыштаваны 16.5.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ГРЫНВАЛЬД Абрам Ісакавіч (1896), майстар-пекар Упраўлення булачных і кандытарскіх у Мінску. Арыштаваны 27.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ГУБІЧ Якім Лаўрэнавіч (1902), працаваў у калгасе імя Энгельса. Арыштаваны 14.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ГУТКІНД Ізраіль Беркавіч (1897), грузчык завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ДЗЯМІДЧЫК Мікалай Сямёнавіч (1900), трактарыст саўгаса «Зарэчча». Асуджаны 21.9.1938.

ДЗЯДЗЮЛЯ Канстанцін Лаўрэнавіч (1900), конюх калгаса імя Молатава. Арыштаваны 5.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ЗАГОРЧЫК Абрам Майсеевіч (1890), загадчык сектара «Белскурпрамсаюза». Арыштаваны 27.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ЗАЛУЦКІ Фёдар Ігнатавіч (18.9.1901), працаваў у калгасе «2-я пяцігодка». Арыштаваны 24.3.1938. Асуджаны 21.9.1938.

БАГУЦКІ Антон Антонавіч** (1888), брыгадзір калгаса «Чырвоны маяк». Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

БАРАВІК Вікенцій Валяр'янавіч (18.4.1899), трактарыст 1-й Мінскай МТС. Арыштаваны 13.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

БАРАНОЎСКІ Фёдар Іванавіч (1897), конюх універсітэцкага гарадка. Арыштаваны 14.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

БАСАРЭЎСКІ Андрэй Язэпавіч** (1895), працаваў у калгасе «За ўладу Саветаў». Арыштаваны 24.6.1938. Асуджаны 3.11.1938.

БАСАРЭЎСКІ Фама (Тамаш) Сямёнавіч (1896), трактарыст калгаса імя Сталіна. Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

БАТУРА Язэп Фадзеевіч (Тадэвушавіч) (1895), працаваў у калгасе імя Крупскай. Арыштаваны 28.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

БАЧЫЛА Лук'ян Спірыдонавіч** (1890), працаваў у калгасе імя Фрунзе. Арыштаваны 15.6.1938. Асуджаны 3.11.1938.

БЕЛЫ Язэп Венядзіктавіч (1894), працаваў у калгасе «Новы прамень». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 31.10.1938.

ВАСІЛЕЎСКІ Трафім Мацвеевіч (1892), працаваў у калгасе «Перамога». Арыштаваны 18.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ВАСКАБОВІЧ Іван Аляксеевіч (24.6.1894), працаваў у калгасе імя Асаавіяхіма. Арыштаваны 19.6.1938. Асуджаны 3.11.1938.

ВІЛЬЗДОРФ Фёдар Аўгуставіч (1898), начальнік спецыяльнай часткі лесакамбіната «Камінтэрн» у Барысаве. Арыштаваны 29.6.1938. Асуджаны 1.11.1938.

ВЫСОЦКІ Іван Язэпавіч** (1894), працаваў у калгасе «Пралетарская перамога». Арыштаваны 10.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

ГАНІЧ Іван Міхайлавіч (1901), шавец арцелі інвалідаў № 6 Мінска. Арыштаваны 6.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

ГУРЭЦКІ Адольф Валяр'янавіч** (1885), працаваў у калгасе «Чырвоны араты». Арыштаваны 14.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ГУШЦІН Майсей Майсеевіч (1898), шавец арцелі «Праца» (Дзяржынскі р-н). Арыштаваны 22.6.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ Станіслаў Антонавіч** (1904). Арыштаваны 5.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ЖАМЕЙКА Казімір Адамавіч (1876), працаваў у калгасе «Усход». Арыштаваны 13.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

ЗАЯНКОЎСКІ Адам Язэпавіч** (1889), працаваў у калгасе «Улада Саветаў». Арыштаваны 3.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

КАЖУРА Мікалай Юльянавіч (1897), працаваў у калгасе «Новы прамень». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 31.10.1938.

КАЛЕНІК Рыгор Васілевіч** (ліст. 1888), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 29.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

КАПТУР Вікенцій Вікенцевіч (1882), каваль калгаса «Камунар». Арыштаваны 23.6.1938. Асуджаны 2.11.1938.

КЕМПЕЛЬ Аляксандр Якаўлевіч (26.12.1908), сталяр арцелі «Метраінструмент». Арыштаваны 16.8.1938. Асуджаны 1.11.1938.

ЛЕАНОВІЧ Казімір Юльянавіч (Лявонавіч) (1900), сакратар Амнішэўскага сельсавета. Арыштаваны 7.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ЛЯЎДАНСКІ Віктар Адамавіч (1900), працаваў у калгасе «Чырвоная Слабада». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 31.10.1938.

МАКАРЭВІЧ Ігнат Захаравіч (1870), працаваў у калгасе «Авангард». Арыштаваны 7.3.1938. Асуджаны 31.10.1938.

МАКСІМОВІЧ Рыгор (Георгій) Данілавіч (1903), працаваў у калгасе «Авангард». Арыштаваны 7.3.1938. Асуджаны 31.10.1938.

МАТУСЕВІЧ Эдмунд Карлавіч (1890), цясляр. Арыштаваны 29.3.1938. Асуджаны 2.11.1938.

МАЦЯЙКОВІЧ Іван Давыдавіч (1899), старшыня калгаса «Чырвоны Гаравец». Арыштаваны 27.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

МІЛЕЦ Іван Альбертавіч (1896), рабочы Смалявіцкай МТС. Арыштаваны 5.8.1938. Асуджаны 3.11.1938.

МЯДЗВЕДСКІ Антон (1890), працаваў у калгасе «Новае жыццё». Арыштаваны 27.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

НІЦІЕЎСКІ Браніслаў Францавіч* (1905), настаўнік у в. Старая Князеўка Бярэзінскага р-на. Арыштаваны 10.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

НЯВЕРКА (НЕВЯРКО) Іван Маркавіч** (1898), конюх калгаса «Чырвоны касец». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

НЯВЕРКА (НЕВЯРКО) Язэп Язэпавіч** (15.2.1897), працаваў у калгасе «Чырвоны касец». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ПАГАНЬКО Павел Аляксеевіч (1895), працаваў у калгасе імя Молатава. Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 31.10.1938.

ПАРТАСЁНАК Пётр Казіміравіч (1903), працаваў у калгасе «Чырвоная Слабада». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 31.10.1938.

САЗАНОВІЧ Аляксандр Казіміравіч** (1892), працаваў у калгасе «Чырвоны араты». Арыштаваны 24.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

СКУРЛАТОВІЧ Гекцій (Гекта) Ігнатавіч** (1892), кладаўшчык калгаса «Бярэзіна». Арыштаваны 10.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

СКУРЛАТОВІЧ Станіслаў Іпалітавіч** (1902), селянін калгаса «Бярэзіна». Арыштаваны 9.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

СМОЛЬНІК Антаніна Фамінічна (1888), працавала ў калгасе імя ЛКСМБ. Арыштавана 10.5.1938. Асуджана 31.10.1938.

СМОЛЬНІК Фадзей Лаўрынавіч (1888), працаваў у калгасе імя ЛКСМБ. Арыштаваны 10.5.1938. Асуджаны 31.10.1938.

ТРАЦЯК (ТРАЦЦЯК) Васіль Сцяпанавіч (25.12.1896), дарожны майстар 8-й дыстанцыі пуці чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 16.4.1938.

ХУДЗЯКОЎ Іван Андрэевіч (19.10.1877), юрыст «Белкаапснабзбыта». Арыштаваны 30.7.1938. Асуджаны 11.10.1938.

ШЫЛА Пётр Ільіч** (23.10.1899), каваль калгаса «Чырвоны касец». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ШАЙБАК Міхаіл Вікенцевіч (1896), працаваў у калгасе «Новы прамень». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 31.10.1938.

ШЭЎЧЫК Пётр Карлавіч (1889), працаваў у калгасе імя Будзённага. Арыштаваны 23.7.1938. Асуджаны 31.10.1938.

ЮНЕВІЧ Серафім (Сарафін) Антонавіч (1904), працаваў у калгасе «Зара рэвалюцыі». Арыштаваны 24.6.1938. Асуджаны 31.10.1938.

**20 лістапада 1938**

ВЕРНІКОЎСКІ Мікалай Герардавіч (24.6.1884), старшы бухгалтар Мінскай базы «Галоўрыба». Арыштаваны 4.7.1938. Асуджаны 1.11.1938.

**21 лістапада 1938**

САЛАДУХА Васіль Васілевіч (1915), студэнт 1-га курса Мінскага педагагічнага інстытута. Асуджаны 25.3.1938.

**22 лістапада 1938**

АТЛІВАНЧЫК Андрэй Якаўлевіч** (1894), працаваў у калгасе імя Леніна. Арыштаваны 15.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

БРАНАВІЦКІ Васіль Іванавіч** (1894), працаваў у калгасе «Чырвоны пуцілавец». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 3.11.1938.

БУСЕЛ Сцяпан Іванавіч (18.2.1898), старшыня калгаса «Воля». Арыштаваны 11.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

ВАСІЛЕНКА Вікенцій Ігнатавіч (1883), працаваў у калгасе імя Будзённага. Арыштаваны 14.3.1938. Асуджаны 3.11.1938.

ЖУКОЎСКІ Аляксандр Іванавіч (1903), рабочы Цімкавіцкага спіртзавода. Арыштаваны 31.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

КУШЫН Альфонс Язэпавіч (1893), працаваў у калгасе «Чырвоная горка». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 3.11.1938.

ЛЕВІН-СЕЙФЕР Лейба Гіршавіч (1893), загадчык млына калгаса «Кастрычнік». Арыштаваны 14.8.1938. Асуджаны 3.11.1938.

ЛІХАДЗІЕЎСКІ Казімір Вікенцевіч (1908), аб'ездчык Урэчскага ўчастка Слуцкага лясгаса. Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ЛЫЧ Іван Аляксандравіч (1895), працаваў у калгасе «Чырвоны араты». Арыштаваны 23.8.1938. Асуджаны 3.11.1938.

МАЙЖАК Іван Якаўлевіч (1885), працаваў у калгасе «Вольны пралетарый». Арыштаваны 23.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

МАЛЬКЕВІЧ Ігнат Язэпавіч (8.5.1882), працаваў у калгасе імя Варашылава. Арыштаваны 19.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

НЕКРАШЭВІЧ Уладзімір Іванавіч (3.4.1892), працаваў у калгасе «Новы шлях». Арыштаваны 12.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

НОВІК Адам Адамавіч (13.6.1898), працаваў у калгасе «Авангард». Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ПАДЛЕСКІ Мікалай Казіміравіч** (1893), ахоўнік дарогі Старобінскага райфінаддзела. Арыштаваны 20.6.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ПАЗНЯК Іван Сцяпанавіч (Стафанавіч) (1897), працаваў у калгасе «Ленінскі змагар». Арыштаваны 20.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

СІВЕЦ Мікалай Максімавіч (ліст. 1894), загадчык крамы Палікарпаўскага сяльпо. Арыштаваны 10.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

СІКОРСКІ Пётр Войцехавіч** (1906), механік. Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

СТРУЧКОЎ Нічыпар Феакціставіч (1887), загадчык мукамольнага млына ў мяст. Цімкавічы. Арыштаваны 13.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

СЫЧ Міхаіл Сцяпанавіч (Стафанавіч)** (1886), працаваў у калгасе імя Яжова. Арыштаваны 20.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

ТАЎРАГІНСКІ Пётр Эдуардавіч (1889), рабочы. Арыштаваны 7.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ФЕДАРОВІЧ Іван Аляксандравіч** (15.1.1894), шавец. Арыштаваны 26.8.1938. Асуджаны 31.10.1938.

ЯЦУК Даніла Міхайлавіч (1894), працаваў у калгасе імя Дзяржынскага. Арыштаваны 30.7.1938. Асуджаны 1.11.1938.

**24 лістапада 1938**

КУЛЬГАВЫ Васіль Макаравіч (1898), пуцявы рабочы 7-й дыстанцыі Зах. чыгункі. Арыштаваны 10.3.1938. Асуджаны 11.11.1938.

**25 лістапада 1938**

АЛЯХНОВІЧ Уладзімір (Уладзіслаў) Ісідаравіч (12.11.1906), бухгалтар Мінскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 5.5.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ВАСЮКЕВІЧ Барыс Васілевіч (20.7.1884), член калегіі Бел. аб'яднання абаронцаў. Арыштаваны 9.12.1937. Асуджаны 25.3.1938.

**26 лістапада 1938**

АНДРЫЕЎСКІ Іван Мікалаевіч (1894), працаваў у калгасе «Чырвоны Кастрычнік». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 11.11.1938.

АЎСЕЙКА Іван Мікалаевіч (10.9.1894), брат П. *Аўсейкі* (гл.: 19.11.1938), брыгадзір калгаса «Чырвоная Лонва». Арыштаваны 26.6.1938. Асуджаны 13.11.1938.

БЕЛЫ Сідар Аляксеевіч (1896), працаваў у калгасе імя Мікаяна. Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 11.11.1938.

БЕРГМАН Якаў Абрамавіч (1908), гарбар фабрыкі імя Куйбышава ў Мінску. Арыштаваны 24.9.1938. Асуджаны 19.11.1938.

ВОЎЧЫК Сяргей Ігнатавіч** (22.4.1904), упакоўшчык «Электразбыту». Арыштаваны 25.6.1938. Асуджаны 5.10.1938.

ГАЙДУК Васіль Антонавіч (1890), працаваў у калгасе «Ударнік». Арыштаваны 14.6.1938. Асуджаны 13.11.1938.

ГАЛКУС Эдуард Вікенцевіч (18.3.1890), бухгалтар. Арыштаваны 30.7.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ГЕРАСІМОВІЧ Канстанцін Дзям'янавіч** (1899), загадчык малочнай фермы калгаса імя Сталіна. Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 14.11.1938.

ГРЫДЗЮШКА Язэп Іванавіч** (4.4.1895), працаваў у калгасе «Ударнік». Арыштаваны 12.6.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ГРЫНКЕВІЧ Міхаіл Мацвеевіч** (7.9.1895), працаваў у калгасе імя К. Маркса. Арыштаваны 10.6.1938. Асуджаны 14.11.1938.

ЕСМАНОВІЧ Пётр Іванавіч (1920). Арыштаваны 25.7.1938. Асуджаны 5.10.1938.

ЖОЎНА Павел Прохаравіч** (1895), працаваў у калгасе «Новае жыццё». Арыштаваны 14.7.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ЖУКОЎСКІ Аляксандр Аляксандравіч (1900), цясляр. Арыштаваны 23.8.1938. Асуджаны 11.11.1938.

КАЛЕЧЫЦ Сцяпан Трафімавіч (1.8.1898), калгаснік. Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 11.11.1938.

КАНДРОЎСКІ Чэслаў Язэпавіч (Восіпавіч) (1901), загадчык фермы калгаса «Авангард». Арыштаваны 24.6.1938. Асуджаны 11.11.1938.

КАРП Лейб Самуілавіч (12.7.1905), загадчык базы «Райсаюза». Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 15.11.1938.

ЛУКАШЭВІЧ Стафан (Сцяпан) Фадзеевіч (17.5.1899), працаваў у калгасе «Бальшавіцкі». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ЛЮБІЧ Рувім Абрамавіч (1897), бухгалтар. Арыштаваны 11.6.1938. Асуджаны 13.11.1938.

ЛЯЎДАНСКІ Міхаіл Іванавіч (1890), працаваў у калгасе «Новы прамень». Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 11.11.1938.

МАЛАШКА Язэп Паўлавіч** (1891), працаваў у калгасе імя Дзяржынскага. Арыштаваны 8.7.1938. Асуджаны 14.11.1938.

МАТУСЕВІЧ (МАРТУСЕВІЧ) Язэп Пятровіч (1884), працаваў у калгасе імя Сталіна. Арыштаваны 10.6.1938. Асуджаны 12.11.1938.

НЕСЦЯРОНАК Павел Пятровіч** (5.1.1897), рахункавод калгаса «Чырвоная Слабада». Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 14.11.1938.

ПУСТАХОД Нічыпар Цімафеевіч (1894), цясляр калгаса імя Кірава. Арыштаваны 28.7.1938. Асуджаны 11.11.1938.

РАБЧУН Язэп Сцяпанавіч** (1892), брат А. *Рабчуна* (гл.: 5.2.1938), М.*Рабчуна* (гл.: 20.2.1938), рабочы торфазавода «Чырвоны сцяг». Арыштаваны 25.6.1938. Асуджаны 13.11.1938.

РЫМША Міхаіл Андрэевіч (14.2.1894), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 23.7.1938. Асуджаны 15.11.1938.

СУРАВЕЦ Іван Язэпавіч (1887), стрэлачнік чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 14.6.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ТАМКОВІЧ Казімір Язэпавіч (1898), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 16.7.1938. Асуджаны 11.11.1938.

УРУБЛЕЎСКІ Міхаіл Адамавіч** (1894), працаваў у калгасе «Чырвоны касец». Арыштаваны 23.8.1938. Асуджаны 14.11.1938.

ФАМІЧ (ФОМІЧ) Ганна Ігнатаўна** (26.12.1885), санітарка райбальніцы. Арыштавана 26.7.1938. Асуджана 11.11.1938.

ФІЛІПОВІЧ Павел Антонавіч** (1895), загадчык фермы калгаса імя СНК БССР. Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 14.11.1938.

ЦІХАНОВІЧ Павел Фаміч (7.10.1899), цясляр калгаса «Бальшавіцкая сяўба». Арыштаваны 23.8.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ШУТ Мікалай Антонавіч** (1889), працаваў у калгасе імя Будзённага. Арыштаваны 20.8.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ЯНОЎСКІ Сцяпан Язэпавіч (1904), працаваў у калгасе «Чырвоны араты». Арыштаваны 10.6.1938. Асуджаны 11.11.1938.

**27 лістапада 1938**

АСТРОЎСКІ Якаў Лук'янавіч (20.10.1889), рахункавод-бухгалтар калгаса імя Чапаева, раённай бальніцы (па сумяшчальніцтве). Арыштаваны 9.7.1938. Асуджаны 12.11.1938.

БАРАНОЎСКІ Міхаіл Пятровіч* (6.11.1903), загадчык клуба Мінскага ваеннага вучылішча. Арыштаваны 22.11.1937.

БАУХ СаламонКівавіч (17.3.1908), брат Г. *Баух* (гл.: 27.12.1937), дыспетчар транспарту Мінхарчгандлю. Арыштаваны 8.1.1938. Асуджаны 25.3.1938.

БЕРДНІКАЎ Канстанцін Андрэевіч (6.3.1909), слесар завода імя Кірава ў Мінску. Арыштаваны 5.6.1938. Асуджаны 12.11.1938.

БРУЯКІН Генадзь Мацвеевіч (9.2.1898), галоўны бухгалтар Мінскага абл. ўпраўлення сувязі. Арыштаваны 26.4.1938. Асуджаны 14.11.1938.

БУШМАН Юры Юр'евіч (1888), раённы пракурор Смілавічаў. Арыштаваны 4.10.1937. Асуджаны 12.4.1938.

ВАЛЫНЕЦ Іван Спірыдонавіч (25.5.1897), тэхнік аўтабазы Бел. ўпраўлення сувязі. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 25.5.1938.

ВІЛЬКОТ Вікенцій Рыгоравіч (1897), рабочы саўгаса «Вялікая Сляпянка». Арыштаваны 28.8.1938. Асуджаны 14.11.1938.

ГАРАНСКІ Канстанцін Піліпавіч* (10.5.1881), вайсковец, педагог. Арыштаваны 28.4.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ГАРБАТОЎСКІ Фядосій Данілавіч (1887), старшы інспектар Мінскага гарпо. Арыштаваны ў маі 1938. Асуджаны 25.5.1938.

ДАНІЛАЎ Пётр Янавіч (1884), тэхнічны дырэктар саўгаса «Жалы». Арыштаваны 27.8.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ДУМЛЕР Уладзімір Іванавіч (1895), загадчык Мінскага аддзялення агенцтва «Інтурыст». Арыштаваны 3.1.1938. Асуджаны 25.3.1938.

КАРМАЛІТАЎ Уладзімір Канстанцінавіч (1893), планавік-эканаміст Мінскай базы хлебазбыту. Арыштаваны 26.8.1938. Асуджаны 12.11.1938.

КАСПЯРАЙЦІС Іван Язэпавіч (1903). Арыштаваны 14.8.1938. Асуджаны 12.11.1938.

КІРЫКОВІЧ Харытон Фёдаравіч (14.4.1899), рабочы лесправгаса Пухавіцкага р-на. Арыштаваны 17.6.1938. Асуджаны 14.11.1938.

КОНТУШ Даніла Васілевіч (1902), слесар фабрыкі імя Куйбышава. Арыштаваны 3.7.1938. Асуджаны 14.11.1938.

КОПКА Вікенцій Юльянавіч* (крас. 1892), журналіст, супрацоўнік мінскай літоўскай газ. «Раудонасіс артояс» («Чырвоны араты»). Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 12.11.1938.

КОРШУН Аляксей Фадзеевіч (1900), загадчык разліковай часткі завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны 20.6.1938. Асуджаны 14.11.1938.

ЛАШУК Аляксандр Вікенцевіч (1898), майстар шклозавода «Пралетарый» у Мінску. Арыштаваны 11.7.1938. Асуджаны 14.11.1938.

ЛІЦКЕВІЧ Восіп (Язэп) Сцяпанавіч (8.11.1874), каменеапрацоўшчык. Арыштаваны 23.9.1937. Асуджаны 27.12.1937.

МАЖЭЙКА Рычард Міхайлавіч (15.3.1898), бракёр завода «Бальшавік». Арыштаваны 2.8.1938. Асуджаны 14.11.1938.

МАСЛОЎСКІ Мікалай Паўлавіч* (5.9.1905), дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, публіцыст. Арыштаваны 29.12.1937. Асуджаны 12.4.1938.

МІКЛАШЭВІЧ Сцяпан Піліпавіч (27.12.1900), брыгадзір калгаса «Усход». Арыштаваны 4.7.1938. Асуджаны 14.11.1938.

МІЛЕЎСКІ Іван Язэпавіч (15.3.1896), дырэктар Дома адпачынку пісьменнікаў у пас. Пухавічы. Арыштаваны 17.1.1938. Асуджаны 29.3.1938.

МІЛЬГУЙ Міхаіл Пятровіч (1885), загадчык аддзела «Галоўхлеба» ў Мінску. Арыштаваны 4.4.1938. Асуджаны 25.5.1938.

МІЛЯЕЎ Іван Нікандравіч (1897), нам. дырэктара Хімфармзавода. Арыштаваны 20.6.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ПАПОЎ (ПАЎЛАЎ, СТАНЧАЎ) Багдан (Павел) Мартынавіч (Станчавіч)* (8.11.1903), фатограф. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ПАРТНОЙ Майсей Вульфавіч (1900), інструктар культбазы Белкаапсаюза. Арыштаваны 3.12.1937. Асуджаны 21.1.1938.

РАК-МІХАЙЛОЎСКІ Сымон Аляксандравіч* (2(14).4.1885), грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст, перакладчык, паэт, педагог. Чарговы раз арыштаваны 23.4.1938. Асуджаны 14.11.1938.

РУБІНЧЫК Ісак Борухавіч (Сімхавіч)* (1897), спявак. Асуджаны 12.11.1938.

РУБІНШТЭЙН (ВАЙХМАН) Давыд (Якаў) Навумавіч* (29.5.1902), навуковец, журналіст. Арыштаваны 4.8.1937. Асуджаны 28.11.1937.

САВІЦКІ Антон Паўлавіч (1881), машыніст воданапорнай станцыі ў авіягарадку Мінска. Арыштаваны 27.6.1938. Асуджаны 19.11.1938.

САЙКОЎСКІ Іван Сямёнавіч (1875), працаваў у калгасе «9 Студзеня». Арыштаваны 6.6.1938. Асуджаны 14.11.1938.

САНЬКО Іван Раманавіч (1900), калгаснік. Арыштаваны 13.8.1938. Асуджаны 31.10.1938.

САЎЛІТ-СПРЫНГІС Валія Мартынаўна** (5.9.1896). Арыштавана 4.12.1937. Асуджана 10.1.1938.

СКАБАЛАН (СКАЛАБАН) Аляксандр Ільіч (1889), юрыст-кансультант Мінскага аддзялення «Галоўцукру». Асуджаны 25.5.1938.

СКРОБАЧ Стэфан Іванавіч (1895), культработнік. Арыштаваны 9.1.1938. Асуджаны 12.11.1938.

СТАНІЛЕВІЧ Ігнат Антонавіч (1896), працаваў у калгасе «Ленінскі шлях». Арыштаваны 5.11.1937. Асуджаны 13.11.1938.

ТОЦЦЕЎ (ЛЮБЧА) Ілко Ганковіч (3.9.1906), загадчык фоталабараторыі Музея рэвалюцыі ў Мінску. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ФРЫД Меер Рафаілавіч (1900), эканаміст-планавік Белторфпрамсаюза ў Мінску. Арыштаваны 27.4.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ЦЫМБЕРКНОПФ Давыд Генрыхавіч (5.5.1899), рабочы завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ЧАМІРСКІ Зусь(Аляксандр) Якаўлевіч (1903), начальнік партыі Ушаўдара. Арыштаваны 5.9.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ШАБАНАЎ Іван Фёдаравіч (1896), дзясятнік чыгуначнага будаўніцтва Мінска. Арыштаваны 5.8.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ШАЎЦОВІЧ Майсей Абрамавіч (1908), друкар «Белсаюзфота». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 12.11.1938.

ШНЕЙДАР Якаў Абрамавіч* (1907), нам. дырэктара сектара завочнага навучання Мінскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 29.12.1937. Асуджаны 12.4.1938.

ШПІГЕЛЬМАН Ісак Аронавіч (чэрв. 1906), начальнік цэха абутковай фабрыкі індывідуальных заказаў у Мінску. Арыштаваны 21.8.1937. Асуджаны 29.3.1938.

ШЫВІС Мікалай Гаўрылавіч (1894), бухгалтар Мінгархарчгандлю. Арыштаваны 18.6.1938. Асуджаны 12.11.1938.

**28 лістапада 1938**

АЛЕКСАНДРОВІЧ Міхаіл Ісакавіч* (1905), журналіст, рэдактар, загадчык аддзела газ. «Рабочий». Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 1.11.1937.

БАРАЗНА Міхаіл Дзмітрыевіч (1896), працаваў у калгасе «Чырвоны партызан». Арыштаваны 13.6.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ГНЯДОЎСКІ Яфім Фёдаравіч* (1891), настаўнік няпоўнай СШ в. Добрамысль Лёзненскага р-на. Арыштаваны 19.6.1938. Асуджаны 13.11.1938.

ДЗЕМ'ЯНОВІЧ Мечыслаў Антонавіч (1894), працаваў у калгасе «Чырвоны барацьбіт». Арыштаваны 5.7.1938. Асуджаны 15.10.1938.

ІВАШЧАНКА Міхаіл Андрэевіч* (1896), педагог-арганізатар Белкаапсаюза ў Мінску. Арыштаваны 10.1.1938. Асуджаны 15.2.1938.

КВІТКЕВІЧ (МАМЧЫЦ) Марыя Рыгораўна (Іванаўна), сялянка-аднаасобніца. Арыштавана 24.8.1937. Асуджана 20.1.1938.

ЛІПНІЦКІ Іван Антонавіч** (1891), працаваў у калгасе імя Молатава. Арыштаваны 23.8.1938. Асуджаны 15.10.1938.

ЛОБАЧ Аляксей-Баляслаў Язэпавіч** (1900), вартаўнік стрэльбішча 16-га памежнага атрада. Арыштаваны 23.8.1938. Асуджаны 25.10.1938.

ЛОСЬ Дзмітрый Казіміравіч** (1897), працаваў у калгасе «Чырвоная змена». Арыштаваны 8.8.1938. Асуджаны 15.10.1938.

ПАПОЎ (ДАЛІНСКІ) Андрэй Андрэевіч* (1891), акцёр, працаваў у Віцебскім гарадскім тэатры. Арыштаваны 28.4.1938. Асуджаны 12.11.1938.

СЦЕПАНОВІЧ (СЦЯПАНАЎ) Пётр Максімавіч* (1904), настаўнік Пылькінскай (?) няпоўнай СШ Гарадоцкага р-на. Арыштаваны 4.6.1938. Асуджаны 12.11.1938.

**29 лістапада 1938**

АГЛАЗІНСКІ Віктар Станіслававіч (31.12.1893), нарміроўшчык фабрыкі імя Кагановіча ў Мінску. Арыштаваны 23.4.1938. Асуджаны 30.9.1938.

АЛЕЙНІКАЎ Вікенцій Сцяпанавіч* (1898), педагог. Арыштаваны 30.7.1938. Асуджаны 14.11.1938.

АНТОНАЎ Валерыян Уладзіміравіч** (1895), верагодна, брат А. *Антонава* (гл.: 31.10.1938), працаваў у калгасе «Чырвоная Уль-

янаўка» Слуцкага р-на. Арыштаваны 13.8.1938. Асуджаны 15.11.1938.

АРАНОВІЧ Соф'я Ісаеўна (Ісакаўна) (1906), краўчыха швейнай майстэрні дзіцячага камітэта пры ЦВК БССР. Арыштавана 8.1.1938. Асуджана 12.4.1938.

АРАЦКЕР Вульф Герцавіч (1892), дырэктар Уздзенскага леспрамгаса. Арыштаваны 1.7.1937. Асуджаны 1.11.1938.

АРУЦЮНЯН (КАРЫБЯНЦ) Пётр (Павел) Пагусавіч (Паўлавіч) (15.7.1913). Арыштаваны 3.7.1937. Асуджаны 29.3.1938.

АФАНАСЬЕЎ Сцяпан Уладзіміравіч* (12.1.1898), настаўнік Мінскай СШ № 10. Арыштаваны 31.3.1938. Асуджаны 20.9.1938.

АШАРОВІЧ Ілья Перцавіч* (1879), рэдактар, гісторык, паліт. дзеяч. Арыштаваны 24.12.1937. Асуджаны 22.9.1938.

БАДУНОВА Палута (Пелагея) Аляксандраўна* (1885), паліт. дзеячка, публіцыст. Апошні раз асуджана 25.5.1938.

БАНЬ Антон Сямёнавіч (1886), ляснік. Арыштаваны 20.2.1938. Асуджаны 1.11.1938.

БАРОЎСКІ Міхаіл Сідаравіч** (1902), рахункавод калгаса «Прагрэс». Арыштаваны 20.7.1938. Асуджаны 12.11.1938.

БАРШЧЭЎСКІ Аляксандр Аляксандравіч** (1889), працаваў у калгасе імя Яжова. Арыштаваны 20.7.1938. Асуджаны 15.10.1938.

БАХАНОВІЧ Адам Аляксандравіч (4.2.1889), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 15.9.1938.

БЕКАРЭВІЧ Міхаіл Іосіфавіч* (1892), настаўнік няпоўнай СШ в. Воўкавічы Дзяржынскага р-на. Арыштаваны 11.7.1938. Асуджаны 15.11.1938.

БЕРНШТЭЙН Лазар Сіманавіч (13.10.1888), дырэктар Янушкоўскага лесазавода. Арыштаваны 9.2.1938. Асуджаны 21.9.1938.

БРАНКЕВІЧ Канстанцін Фёдаравіч (10.2.1898), старшыня калгаса «7 з'езд Саветаў». Арыштаваны 28.7.1938. Асуджаны 15.11.1938.

БРЖАЗОЎСКІ Рамуальд Францавіч* (1915), журналіст, карэспандэнт польскай мінскай газ. «Огка». Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 3.1.1938.

БРЫШ Ілья Міхайлавіч (1896), інжынер дарожнага будаўнічага ўчастка № 1 Ушашдара. Арыштаваны 14.11.1937. Асуджаны 20.9.1938.

ГАРКАВЫ Аляксандр Трафімавіч (1899), працаваў у калгасе «Воля». Арыштаваны 11.7.1938. Асуджаны 15.10.1938.

ГЛУШАКОЎ Сямён Апанасавіч* (1894), настаўнік школы на ст. Тошчыца Быхаўскага р-на. Чарговы раз арыштаваны 16.8.1938. Асуджаны 15.11.1938.

ГОФМАН Браніслаў Карлавіч (14.11.1888), механік камбіната «Акрмельтрэст» (Капыльскі р-н). Арыштаваны 6.5.1938. Асуджаны 15.11.1938.

ГРЫБОЎСКІ Яўген Антонавіч (9.1.1917), загадчык радыёвузла вайсковай часці 260. Арыштаваны 1.4.1938. Асуджаны 20.9.1938.

ГУРАЛІС (РОЗЕНШТЭЙН) Сямён (Гірш) Язэпавіч (1905), загадчык базы «Саюзкультгандлю» Мінска. Асуджаны 3.1.1938.

ДАРОЖКА Язэп Язэпавіч (кастр. 1896), цясляр. Арыштаваны 25.7.1938. Асуджаны 1.11.1938.

ДАШКЕВІЧ Аляксей Міхайлавіч (1886), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 30.7.1938. Асуджаны 15.10.1938.

ДЗЕМІДОВІЧ Іван Іванавіч (1896), ганчар. Арыштаваны 30.12.1937. Асуджаны 15.2.1938.

ДУБОЎСКІ Міхаіл Антонавіч (1898), працаваў у калгасе «Польскі камунар». Арыштаваны 17.6.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ДУБРОЎСКІ Уладзімір Лявонавіч* (1.1.1889), настаўнік школы ў в. Сяліба Бярэзінскага р-на. Арыштаваны 21.6.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ЖЫЛІНСКІ Фама Фаміч (1893), адвакат канторы адвакатаў Мінска. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны 9.12.1937.

ЖЫТКО Аляксандр Андрэевіч (1893), працаваў у калгасе «Шлях ленінізму». Арыштаваны 27.8.1938. Асуджаны 11.11.1938.

ЗАЙКО Аляксандр Паўлавіч (1893), начальнік будаўніцтва хлебазаводаў у БССР. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 20.9.1938.

ЗЯЛЕНСКІ Баляслаў Антонавіч (1891), працаваў у калгасе «Піянер». Арыштаваны 15.3.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ІВАНОЎСКІ Леанід Данілавіч (1896), кіраўнік спраў «Белзаготскота». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 22.9.1938.

КАПЧЫЦ Нісан Хаймавіч** (1896), гандлёвы агент Старобінскага сяльпо. Арыштаваны 23.8.1938. Асуджаны 15.10.1938.

КАРАБАН Мікалай Ільіч (1885), начальнік дэпо Нёманскай галіны Уздзенскага леспрама. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 2.11.1938 (?).

КАРУСЁЎ Цімафей Сямёнавіч* (18.1.1884), настаўнік вячэрняй школы ў Мсціславе. Арыштаваны 31.7.1938. Асуджаны 15.11.1938.

КАЦНЕЛЬСОН Якаў Яўсеевіч** (1891), сталяр. Арыштаваны 9.1.1938. Асуджаны 29.3.1938.

КОРАХ Рыгор Лейбавіч (1895), дырэктар зубапратэзнай майстэрні ў Мінску. Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 26.5.1938.

КРАСНІЦКІ Аляксандр Апанасавіч* (1890), настаўнік нямецкай мовы ў Магілёўскай школе № 1. Арыштаваны 31.8.1938. Асуджаны 11.11.1938.

КРУТКОВІЧ Меер (Бэр, Барыс) Зарохавіч (Захаравіч) (ліп. 1900). Арыштаваны 27.3.1938. Асуджаны 12.11.1938.

КРЫВАДУБСКІ Ігнат Ігнатавіч* (1894), псаломшчык Успенскага сабора ў Слуцку Мінскай вобл. Асуджаны 13.11.1938.

КЯРУБІН Пётр Язэпавіч** (1891), пенсіянер. Арыштаваны 9.1.1938. Асуджаны 12.4.1938.

ЛЕШЧАНКА Аляксандр Сцяпанавіч (1876), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 15.6.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ЛІПСКІ Фадзей Язэпавіч (1902), майстар цэха абутковай фабрыкі імя Тэльмана ў Мінску. Арыштаваны 25.8.1937. Асуджаны 8.1.1938.

ЛОСІК Сямён Міхайлавіч (10.9.1898), працаваў у калгасе «Гігант». Арыштаваны 10.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ЛЬВОВІЧ Давыд Абрамавіч* (3.1.1898), педагог. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны 9.4.1938.

ЛЮТАРЭВІЧ Антон Язэпавіч (1896), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 7.8.1938. Асуджаны 15.10.1938.

ЛЯЎКЕВІЧ Мацвей Міхайлавіч (14.2.1898), аграном Крупскай МТС. Арыштаваны 9.1.1938. Асуджаны 29.3.1938.

МАЛІНОЎСКІ Ігнат Адамавіч (снеж. 1898), працаваў у калгасе «Памяць Леніна». Арыштаваны 10.7.1938. Асуджаны 12.11.1938.

МАМЧЫЦ Пётр Язэпавіч** (1900), брат Р. *Мамчыца* (гл.: 6.11.1938), працаваў у калгасе «Шлях праўды». Арыштаваны 8.7.1937. Асуджаны 2.11.1938.

МАРГОЛІН Мордух Давыдавіч (3.12.1893), загадчык хімічнай лабараторыі «Цэнтраспірт». Арыштаваны 9.1.1938. Асуджаны 12.4.1938.

МАРОЗ Адам Іванавіч (1902), касір пошты чыгуначнай ст. Мінск. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 8.1.1938.

МАСКАЛЕНКА Георгій Рыгоравіч (4.2.1883), старшыня калгаса «Перамога». Арыштаваны 15.8.1938. Асуджаны 15.10.1938.

МАТУЛАЙЦІС Кацярына Станіславаўна* (5.1.1900), гісторык. Арыштавана 9.8.1937. Асуджана 12.4.1938.

МАШУКЕВІЧ Іван Мацвеевіч (1896), працаваў у калгасе «Новае жыццё». Асуджаны 11.11.1938.

МАШЭЎСКІ Пётр Рыгоравіч (1895), працаваў у калгасе «Чырвоны партызан». Арыштаваны ў кастр. 1937. Асуджаны 8.1.1938.

МОРДУС (МОРДАС) Язэп Ігнатавіч (1898), рабочы шчотачнай фабрыкі (Мінскі р-н). Арыштаваны 26.1.1938. Асуджаны 26.2.1938.

МЫТНІК Лаўрэн Язэпавіч (24.5.1891), бондар нафтабазы ў Барысаве. Арыштаваны 17.7.1938. Асуджаны 11.11.1938.

МЯЛЬГУЙ Станіслаў Пятровіч (1888), наборшчык друкарні газ. «Звязда». Арыштаваны ў 1938. Асуджаны 20.9.1938.

НЕЙЛАНД Кацярына Якаўлеўна (1899), медсястра 3-й Савецкай бальніцы ў Мінску. Арыштавана 9.1.1938. Асуджана 29.3.1938.

ПАНКОЎ Аляксей Аляксеевіч (30.9.1898), начальнік аддзела Дзяржплана БССР. Арыштаваны 1.4.1938. Асуджаны 21.9.1938.

ПАТРУБЕЙКА Антон Гаўрылавіч (1895), пажарны цагельнага завода № 5 (Мінскі р-н). Арыштаваны 8.1.1938. Асуджаны 25.3.1938.

ПАЎЛОВІЧ Міхаіл Францавіч (1902), працаваў у калгасе «Новы быт». Арыштаваны 7.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ПАЎЛОВІЧ Франц Францавіч (1890), працаваў у калгасе «Чырвоны сцяг». Арыштаваны 27.7.1938. Асуджаны 2.11.1938.

ПАЎЛЮКЯВІЧУС Банавентура Казіміравіч* (16.10.1896), празаік, публіцыст. Арыштаваны 4.8.1938.

ПЕНЯЗЬ Ануфрый Трафімавіч (1898), працаваў у калгасе імя К. Лібкнехта. Арыштаваны 14.8.1938. Асуджаны 15.11.1938.

ПІЛІПЧЫК Антон Аляксандравіч (1900), працаваў у калгасе «Пуцілавец». Арыштаваны 16.7.1938. Асуджаны 15.11.1938.

ПЯНЧАНСКІ Гірш Бенцыянавіч (1893), урач-венеролаг Мінскай скурна-венералагічнай клінікі. Арыштаваны 31.1.1938. Асуджаны 29.3.1938.

ПЯТРОВІЧ Васіль Міронавіч* (кастр. 1905), службовец, педагог. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны 26.2.1938.

РАГОВІН Абрам Ісакавіч (1882), буфетчык арцелі інвалідаў у Мінску. Асуджаны 25.5.1938.

РАМЕЙКА Франц Казіміравіч (10.10.1891), шавец абутковай фабрыкі індывідуальнага пашыву ў Мінску. Арыштаваны 16.12.1937. Асуджаны 21.1.1938.

РОЎКАЧ Раман Аляксандравіч (14.10.1898), эканаміст фанерназапалкавага трэста ў Мінску. Арыштаваны 24.8.1937. Асуджаны 20.10.1937.

РУСЕЦКІ Іван Ануфрыевіч (8.9.1873), вартаўнік леспрамгаса. Арыштаваны 12.6.1938. Асуджаны 15.11.1938.

РЫБІНСКІ Казімір Фабіянавіч (4.3.1894), працаваў у калгасе «Прамень сацыялізму». Арыштаваны 8.3.1938. Асуджаны 15.11.1938.

САКАЛОЎ Фёдар Эраставіч (20.4.1903), загадчык гаспадаркі Каўгарскага спіртзавода. Арыштаваны 22.8.1938. Асуджаны 12.11.1938.

САНЬКО Мітрафан Іванавіч (1898), возчык Грэскага сяльпо. Арыштаваны 4.8.1938. Асуджаны 12.11.1938.

СЕРГІЕЎСКІ Барыс Аляксандравіч (1887), выкладчык Мінскага дарожна-механічнага тэхнікума. Арыштаваны 4.1.1938. Асуджаны 9.4.1938.

СІДАРОВІЧ Нічыпар Іванавіч (1888), працаваў у калгасе «Вольны шлях». Арыштаваны 13.7.1938. Асуджаны 11.11.1938.

СЛЯПЯН Іосіф Веньямінавіч* (1907), настаўнік матэматыкі Мінскай СШ № 6. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 26.5.1938.

СМОЛЬСКІ Осман Бякіравіч (1883), касір прыходнай кассы Белкамунбанка. Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 1.11.1938.

СОЙКА Трафім Пятровіч (1892), працаваў у калгасе «Чырвоны камунар». Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 12.11.1938.

СПАРЫХІН Барыс Вячаслававіч (1.5.1897), старшы эканамістфінансіст трэста Белкамунбуда. Арыштаваны 25.12.1937. Асуджаны 15.2.1938.

СТАНКЕВІЧ Міхаіл Пятровіч (1892), радыётэхнік Дома Урада. Арыштаваны ў студз. 1938. Асуджаны 26.2.1938.

СЯРГЕЕЎ Ігнат Рыгоравіч** (1894), пекар у пас. Мар'іна Горка. Арыштаваны 26.3.1938. Асуджаны 11.11.1938.

СЯЎКО Мікалай Васілевіч (1897), цясляр «Белкамунзабеспячэння» ў Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 26.5.1938.

СЯЎРУК Сцяпан Фёдаравіч (май 1885), нам. кіраўніка Старобінскай канторы «Заготскот». Арыштаваны 24.2.1938. Асуджаны 14.11.1938.

СЯЦКО (СЕЦКА) Сяргей Лукашавіч (1888), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 6.4.1938. Асуджаны 22.9.1938.

ТАРАШКЕВІЧ Браніслаў Адамавіч* (8(20).1.1892), грамадскі і паліт. дзеяч, мовазнавец, перакладчык, публіцыст. Арыштаваны 5.5.1937. Асуджаны 5.1.1938.

ТУРНІЦКАЯ Міра Абрамаўна* (1904), інспектар Наркамата аховы здароўя БССР. Арыштавана 13.8.1937. Асуджана 21.1.1938.

ХІНЕВІЧ Канстанцін Фадзеевіч (1901), майстар бровара ў мяст. Мір. Арыштаваны 30.12.1937. Асуджаны 15.2.1938.

ХРАПІН Язэп Ульянавіч** (1900), працаваў у калгасе «Памежнік». Арыштаваны 31.7.1938. Асуджаны 19.11.1938.

ЧАЙКА Канстанцін Васілевіч** (1895), працаваў у калгасе «Прамень». Арыштаваны 26.8.1938. Асуджаны 15.10.1938.

ЧАРАПОВІЧ Антон Аляксандравіч** (11.9.1889). Арыштаваны 4.2.1938. Асуджаны 26.2.1938.

ЧАПУРКА Уладзімір Міхайлавіч** (1891), працаваў у калгасе «Хваля рэвалюцыі». Арыштаваны 30.7.1938. Асуджаны 15.11.1938.

ШАГУН Альфонс Севасцянавіч (Аляксандравіч) (3.8.1898), працаваў у калгасе імя К. Маркса. Арыштаваны 31.7.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ШЫГАЛА Міхаіл Канстанцінавіч (1894), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 9.8.1938. Асуджаны 11.10.1938.

ЭНЦІН Міхаіл Гіляравіч (1899), эканаміст-планавік фабрыкі імя Куйбышава ў Мінску. Арыштаваны 3.2.1938. Асуджаны 26.5.1938.

ЮРКЕВІЧ Канстанцін Язэпавіч** (1897), працаваў у калгасе «Чырвоны Захад». Арыштаваны 20.7.1938. Асуджаны 12.11.1938.

ЯНОВІЧ Канстанцін Ксенафонтавіч (26.2.1898), працаваў у калгасе «Нараджэнне сацыялізму». Арыштаваны 7.8.1938. Асуджаны 15.11.1938.

ЮР'ЕЎ Раман Іосіфавіч* (1891), настаўнік. Арыштаваны 10.8.1938. Асуджаны 11.11.1938.

**1938 (месяц і дзень невядомы)**

АПІН Пётр Ільзавіч (22.3.1886), грузчык чыгуначнай транспартнай экспедыцыйнай канторы. Арыштаваны 4.12.1937. Асуджаны 10.1.1938.

БУРКЕВІЧ Уладзімір Канстанцінавіч** (1919), селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 17.5.1938. Асуджаны 1.9.1938.

ГАРДЗЕЙ Мікалай Юр'евіч (снеж. 1905), брат С. *Гардзея* (гл.: 25.4.1938), землямер Чэрвеньскага райземаддзела. Арыштаваны 8.1.1938. Асуджаны 29.3.1938.

ГУТГАРЦ Ізраіль (Сруль) Беркавіч (1901), токар завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Мінску. Арыштаваны ў снеж. 1937. Асуджаны 5.1.1938.

ЖДАНОВІЧ Станіслаў Аляксандравіч** (1895), працаваў у калгасе «Камінтэрн». Арыштаваны 5.1.1938. Асуджаны 9.1.1938.

ЖУК Емяльян Мікалаевіч (25.8.1895), закройшчык Мінскай швейнай фабрыкі «КІМ». Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 14.12.1937.

КАЗІМІРЧЫК Уладзімір Лук'янавіч** (1907), дзяжурны чыгуначнай ст. Крупкі. Арыштаваны 9.7.1938. Асуджаны 16.10.1938.

КАСЦЯН Іван Іванавіч (1899), водаправодчык гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску. Арыштаваны ў 1937. Асуджаны 9.12.1937.

КУЗЬМІЦКІ Франц Язэпавіч (1910), грузчык чыгуначнай ст. Негарэлае. Арыштаваны 5.7.1938. Асуджаны 7.10.1938.

КУНІЦКІ Адольф Антонавіч** (1900), працаваў у калгасе «Новае жыццё». Арыштаваны 13.8.1938. Асуджаны 2.11.1938.

КУШАЛЬ Аляксандр Лукіч (1885), настаўнік Курганскай СШ. Арыштаваны 9.1.1938. Асуджаны 20.9.1938.

ЛОБАЧ Міхаіл Раманавіч (1896), конюх калгаса «Ленінскі шлях». Арыштаваны 11.3.1938. Асуджаны 14.3.1938.

ЛЯЎКО Браніслаў Іванавіч (1898), працаваў у калгасе «Усход». Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ЛЯШКО Франц Адамавіч (1900), шавец арцелі «Каапрамонт» у Каралішчавічах. Арыштаваны 20.11.1937. Асуджаны 14.12.1937.

МАЛАШ Лаўрэн Фёдаравіч (1895), калгаснік. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны 8.1.1938.

МЫСЛІЦКІ Язэп Серафімавіч** (1892), шавец арцелі інвалідаў «Чырвоная зараніца». Арыштаваны 30.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

НОВІК Несцер Васілевіч** (13.3.1876), працаваў у калгасе «Новы шлях». Арыштаваны 6.1.1938. Асуджаны 8.1.1938.

НЯМКОВІЧ Аляксей Рыгоравіч** (1900), працаваў у калгасе «Перамога». Арыштаваны 13.8.1938. Асуджаны 8.10.1938.

ПАНАМАРЭНКА Мікалай Іванавіч (1903), начальнік склада № 96 у Мінску. Арыштаваны 5.8.1938. Асуджаны 11.10.1938.

ПАНКРАШОЎ (ПАНКРАШАЎ) Іван Міхайлавіч (1903), майстар шклозавода ў Барысаве. Арыштаваны 4.12.1937. Асуджаны 21.1.1938.

ПАХАМОВІЧ Васіль Мікалаевіч (1898), грабар. Арыштаваны 9.2.1938. Асуджаны 16.4.1938.

РУСЕЦКІ Васіль Якаўлевіч (28.2.1885), дырэктар завода імя Мяснікова ў Мінску. Арыштаваны 26.7.1938. Асуджаны 7.10.1938.

РЫМАШЭЎСКІ Зянон Адамавіч* (9.7.1905), дацэнт Мінскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 20.1.1937. Асуджаны 14.12.1937.

ТАРАСІК Вікенцій Іванавіч (1897), дзясятнік «Свіслачбуда». Арыштаваны 14.1.1938. Асуджаны 26.2.1938.

САДОЎСКІ Антон Станіслававіч** (1900), сакратар партбюро 39-га кавалерыйскага палка. Арыштаваны 20.3.1938. Асуджаны 2.7.1938.

СКУРЛАТОВІЧ Васіль Міхайлавіч (1879), калгаснік. Арыштаваны 17.7.1938. Асуджаны 3.11.1938.

СТАВЕР Аляксандр Міхайлавіч (1916), тынкоўшчык АТС ў Мінску. Арыштаваны 5.9.1937. Асуджаны 3.11.1938.

СТАСЮЛЕВІЧ Марк Фаміч (Цімафеевіч)** (1902), працаваў у калгасе «Улада Саветаў». Арыштаваны 18.1.1938 (?).

ЦЭБЕРГ Аляксандр Карлавіч (1874), тэлеграфіст чыгуначнай ст. Радашковічы. Арыштаваны 5.12.1937. Асуджаны 8.1.1938.

## ХТО НАСТУПНЫ?

З успамінаў Міхася Кавыля «Казённы дом і далёкая дарога» (падзеі, якія ў іх апісваюцца, адбываліся ў канцы лют. 1933 года):

«...із камеры дыхнула такім смуродам, што ледзь утрымаўся на нагах. Як п'яны апусьціўся тут жа каля дзьвярэй на нары, паміж нечых худых, як у рахітыка, ног. Паглядзеў на вялікую камеру. На нарах, на цэмэнтовай падлозе адзін каля аднаго ляжалі, хто на баку, хто на сьпіне, нейкія стварэньні із Дантавага «аду».

*...Неўзабаве пасля гэтай страшнай ночы мяне, каб не ганяць «чорны воран» па Мінску, перакінулі із вастрогу ў «страшны дом» на Савецкай вуліцы, бліжэй да следчых. У камеры ляжалі голыя на цэмэньце Зьмітрок Паваротны*[1] *і Чарняўскі, імя не памятаю...*

*... Два гэпэвушнікі палезьлі [пад нары] да Макарэнкаў і сталі цягнуць іх за ногі... Тыя небаракі-сьмяротнікі паднялі такі крык і лямант, што ўсю камеру кінула ў дрыжыкі... Не памаглі ні крык, ні хапаньне рукамі за цэмэнт, за нары. Павалаклі...»*[2].

З успамінаў Міколы Хведаровіча, адноўленых Янкам Брылём (падзеі, якія ў іх апісваюцца, адбываліся ў пачатку жн. 1938 года):

«Камера на дзесяць чалавек, а нас там каля сотні. Мокрыя ад поту, у адных трусах, ляжым проста адзін на адным.

*А параша саракавядзёрная, ажно брадзіць пачынае ад гарачыні. Уранні наглядчык адчыніць дзверы, а сам набок, каб духам з ног не збіла!»*[3]

З ліста журналіста Мікалая Сцерніна (Багдановіча) сакратару ЦК КП(б)Б П.Панамарэнка (дат. 29.7.1939):

«Днем и ночью из кабинетов следователей, находящихся в тюрьме, неслись дикие крики, вопли и стоны избиваемых и пытаемых людей. С допросов [людей возвращали] в камеры с разбитыми головами, иссеченными, в кровоподтека и синяках, спиной и грудью, распухшими лицами, вырванными волосами, выкрученными руками, ободранными ногтями...»

*«И кулаками и сапогами били меня, — расказаў мне брыгадзір калгаса «Сталінец» Сцяпан Шэлег, — все терпел. А как садану-*

---

[1] Беларускі журналіст. Арыштаваны органамі НКВД 2 красавіка 1933 года. Этапаваны ў адзін са сталінскіх канцлагераў. Далейшы лёс невядомы.

[2] Запісы. 1992. № 20.

[3] *Брыль Я.* Сцежкі, дарогі, прастор. Мн., 2001. С. 213.

*ли сапогом в живот — выбили грыжу. Вижу — смерть моя приходит. Махнул рукой: «Пишите, что хотите. Все подпишу...»*[1]

Урывак з дзённіка К. Чорнага (запіс ад 3 кастр. 1944 года):

*«У яжоўскай турме [у камеры-адзіночцы] увосень 1938 мяне саджалі на кол, білі вялікім жалезным ключом па галаве і палівалі збітае месца халоднай вадой, паднімалі і кідалі на рэйку, білі паленам па голым жываце, устаўлялі ў вушы папяровыя трубы і раўлі ў іх на ўсё горла...»*[2]

У падвалах ГПУ-НКВД чамусьці заўсёды было нясцерпна горача і моташна смуродна, але рэдка ціха і «сумна». Асабліва ноччу. То закрычыць ад болю яшчэ не страціўшы свядомасць ад катаванняў падследны, то пранясецца па турме роспачны лямант звар'яцелага за хвіліну да смерці бедалагі, прыгаворанага да расстрэлу, якога выцягваюць, вырываюць з камеры, а ён чапляецца з апошніх сіл за нары і жыццё. То рэха пісталетнага стрэлу адразу сотням пакутнікаў прымусіць задаць сабе адно і тое самае пытанне: «Хто наступны?»

У падвалах ГПУ-НКВД чамусьці заўсёды было нясцерпна горача і моташна смуродна, але рэдка ціха і «сумна».

Хто наступны?

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 16.

[2] *Чорны Кузьма.* Выбраныя творы. Мн., 2000. С. 589.




Прыкладная схема комплексу будынкаў КДБ Беларусі

1. Галоўны ўваход у цэнтральны корпус.
2. Цэнтральны корпус.
3. Сьледчая турма КДБ — „амерыканка".
4. Вежа правага крыла.
5. Прагулачны дворык для арыштантаў.
6. Уваход у бюро пропускаў.
7. Уваход у "Дом культуры" імя Ф. Дзяржынскага.
8. Вароты для аўтатранспарту.
9. „Парадны" ўваход у будынак Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.
10. Тэхнічныя службы.

Аўтар схемы — Славамір Адамовіч
1996 – 2002 г.г.

## НАРОДНЫЯ КАМІСАРЫ (НАРКАМЫ) І ПАМОЧНІКІ (НАМЕСНІКІ) НАРКАМАЎ УНУТРАНЫХ СПРАЎ (УС) БССР ПЕРЫЯДУ ТАК ЗВАНАГА КРЫВАВАГА ТУНЭЛЯ СМЕРЦІ

(са жніўня 1937 да лістапада 1938)

*З 4.3.1937 да 22.5.1938 [за 444 дні] рэпрэсавана каля 100 тысяч чалавек; у сярэднім за ноч арыштоўвалі 230 (дзвесце трыццаць!) чалавек.*



**БЕРМАН Борис Давыдович**[1]

Н. ў 1901 у в. Андрыянаўка Чыцінскага пав. Забайкальскай вобл. (Расія) у яўрэйскай сям'і, бацька — уласнік цагельнага завода. Скончыў 4-класнае гарадское вучылішча (1918).

У ЧК з 1921. У 1934–37 — нам. начальніка замежнага аддзела ГУДБ НКВД СССР. З 25.12.1936 — нам. наркама УС БССР, з 4.3.1937 — наркам УС БССР (да 22.5.1938), камісар дзяржбяспекі 3-га рангу. Асабіста ўдзельнічаў у катаваннях падследных[2]. У снеж. 1937 узнагароджаны ордэнам Леніна. Арыштаваны 24.9.1938. Асуджаны 22.2.1939 да ВМП. Расстраляны. Неўзабаве да ВМП былі прыгавораны і многія супрацоўнікі НКВД. Знішчаючы выканаўцаў сваіх загадаў, бальшавікі знішчалі сляды сваіх злачынстваў.

Брат Б., Мацвей Берман, кіраваў канцлагерамі «Беламорбуда». Расстраляны ў 1938.

З кнігі Дзмітрыя Быстралетава[3] «Пир бессмертных» (М.,1993):

---

[1] З мэтай пазбегнуць памылак пры перакладзе прозвішчы, імёны і імёны па бацьку ўсіх карнікаў пададзены па-руску.

[2] У кнізе Р. Платонава «Лёсы» (Мн., 1998) прыводзіцца выступленне Б. Бермана 27.11.1937 г. перад выбаршчыкамі Расонскага раёна: *«Таварыш Сталін даў указанне граміць ворагаў, і мы пачалі іх граміць»* (Советская Белоруссия. 1937. 3 снеж.).

[3] Быстралетаў (Талстой) Дзмітрый Аляксандравіч [4.1.1901, мяст. Ачкора, Крым, цяпер Украіна — 3.5.1975, Масква], савецкі разведчык, літаратар, журналіст, кінасцэнарыст, мастак, фатограф, мемуарыст, вязень сталінскіх канцлагераў. Скончыў каледж для еўрапейцаў-хрыс-

*«Однажды ночью дверь* (камеры ў маскоўскай турме НКВД Ляфортава. — **Л. М**.) *со скрипом растворилась, и в комнату еле шагнул через порог тощий мужчина неопределённого возраста с измученным худым лицом.*

*— Алексей Алексеевич Наседкин, — представился он мёртвым голосом и бессильно повалился на койку.— Из ГУГБ.*

*Я назвал себя и вкратце рассказал свою историю. Новый напарник чуть оживился и, с трудом переводя дыхание, заговорил:*

*— В последнее время я был наркомом внутренних дел Белоруссии... Сменил там Бориса Бермана... В Минске это был уже не тот Берман, которого вы когда-то встречали в Берлине, и даже не тот, у которого частенько сидели в кабинете на Лубянке…*

*В Минске это был сущий дьявол, вырвавшийся из преисподней… У меня дядя умер от рака печени, так вот тогда Берман так же ежедневно менялся к худшему, как раковый больной. Но у дяди болезнь была незаразной, а здесь же чахнул и таял на глазах сам Борис и при этом распространял вокруг себя смерть. Он сам был раковой опухолью на теле Белоруссии... Дмитрий Александрович! Слушайте: Берман расстрелял*[1] *в Минске за неполный год работы*[2] *больше восьмидесяти тысяч человек. Слышите? Он убил всех лучших коммунистов республики. Обезглавил советский аппарат. Истребил цвет национальной белорусской интеллигенции. Тщательно выискивал, находил, выдергивал и уничтожал всех мало-мальски выделявшихся умом… Писателей, ученых, художников… Восемьдесят тысяч невинных жертв... Гора залитых кровью трупов до небес...»*

З кнігі А. Лукашука «За кіпучай чэкісцкай работай»: З жыцьця катаў» (Мн., 1997):

*«Празьмерная стомленасьць, болі ў раёне сэрца, — запісвалі лекары паказаньні чарговага пацыента. Той расказваў, што апошнія пяць гадоў рэгулярна прымае душ Шарко, а таксама цыркулятарны, вэерны, дажджавы, сасновыя ванны, але ўсё роўна адчувае перастому. — Трэба берагчы сябе, таварыш наркам, Вы па-*

---

ціян у Канстанцінопале (1921), Пражскі (1928) і Цюрыхскі (1935) ун-ты, вучыўся ў Берлінскай і Парыжскай мастацкіх акадэміях. Жыў у Праге, Берліне, Лондане, Нью-Йорку, Цюрыхе… Выдатна валодаў дзвюма тузінамі моў ад ангельскай да японскай. Менавіта Б. завербаваў Кіма Філбі. Арыштаваны 18.11.1938. Асуджаны да 20 гадоў ППК. Вызвалены ў 1954 напалову паралізаваным. Рэабілітаваны. Працаваў перакладчыкам. Адмовіўся ад пенсіі КДБ СССР.

[1] Памылка. Не расстраляў, а арыштаваў. Расстраляна больш за 10 тысяч чалавек (у Мінску). Арыштавана каля 100 тысяч.

[2] За год і тры месяцы.

*трэбныя партыі. Вось выпішам рэцэпт, адпачніце, а потым зноў, калі ласка, да нас на абсьледаваньне».*

*Барыс Давыдавіч Берман, а такое было імя пацыента, які наведаў паліклініку санітарнага аддзелу НКВД 13 сьнежня 1937 году, больш да лекараў не прыйшоў: праз тыдзень, да 20-й гадавіны ЧК, наркам атрымаў ордэн Леніна за ўдарнае выкрыцьцё ворагаў народу ў Беларусі, а потым быў адкліканы ў Маскву, дзе ад перастомы і боляў у сэрцы лячылі куляй у патыліцу...»*



**ХОРХОРИН Григорий Сергеевич** (нам. Бермана)

Н. 20.1.1900 у Пецярбургу ў сям'і сталяра. Скончыў пачатковае гарадское вучылішча (1912). У 1917 працаваў тэлеграфістам у Петраградзе. У ЧК з 1920. З 5.12.1935 маёр дзяржбяспекі[1]. Са снеж. 1936 — начальнік 3-га аддзела УДБ НКВД БССР, з 15.8.1937 — нам. наркама УС БССР (да 1.10.1937). Асабіста ўдзельнічаў у катаваннях падследных. Арыштаваны 5.12.1938. Забіты падчас следства (1939).

**ЖАБРЕВ Иван Андреевич** (нам. Бермана)

Н. ў 1898 ва Усцюжыне Валагодскай губ. у сям'і рускага рабочага. Скончыў пачатковае вучылішча (1916). У ЧК з 1920. З 7.7.1937 — начальнік Гомельскага гарадскога аддзела НКВД, потым — начальнік 3-га аддзела УДБ НКВД БССР, нам. наркама УС БССР (да 26.2.1938). Асабіста ўдзельнічаў у катаваннях падследных, дапытваў Міхайлу Піятуховіча і інш. Арыштаваны 17.11.1938. Асуджаны 22.2.1939 да ВМП. Расстраляны.

З ліста асуджанага Г. А. Кашыцына сакратару ЦК ВКП(б) Г. Малянкову:

[1] Маёр дзяржбяспекі — камбрыг (генерал) РСЧА;
іншыя вайсковыя званні:
сяржант дзяржбяспекі — лейтэнант РСЧА;
малодшы лейтэнант дзяржбяспекі — старшы лейтэнант;
лейтэнант дзяржбяспекі — капітан;
старшы лейтэнант дзяржбяспекі — маёр;
капітан дзяржбяспекі — палкоўнік.



*«Кошкин[1] избивал арестованную Бобровскую шомполом. На суде признал, что избивал арестованных по указанию Жабрева...»[2]*

З абвінаваўчага заключэння па крымінальнай справе № 48805 (ад 2.10.1939):

*«5.2.1938 Серышев вместе с Жабревым дал санкцию на арест по необоснованным материалам на 30 человек ассерийцев. Впоследствии... 5 человек из них умерло в тюрьме...»[3]*

*З 22.5.1938 да 16.12.1938 [менш чым за 7 месяцаў] рэпрэсавана ад 20 000 да 30 000 чалавек; у сярэднім за ноч арыштоўвалі каля 120 (ста дваццаці) чалавек.*



**НАСЕДКИН Алексей Алексеевич**

Н. 6.2.1897 у в. Маўрына Растоўскага пав. Яраслаўскай губ., Расія (паводле іншых звестак — у Маскве) у сям'і рабочага. Скончыў 4-класнае гарадское вучылішча ў Маскве (1910), курсы чырвоных камандзіраў (1919), Маскоўскі электратэхнікум (да 1927). Удзельнік падаўлення сялянскіх выступленняў на Тамбоўшчыне (так званага Антонаўскага мяцяжу). З 1927 — супрацоўнік АДПУ. З 1934 — нам. начальніка, начальнік эканамічнага аддзела УДБ НКВД па Куйбышаве і Маскоўскай вобл., начальнік УДБ НКВД па Смаленскай вобл. Маёр дзяржбяспекі. З мая 1938 наркам УС БССР. Арыштаваны 16.12.1938. Асуджаны да ВМП 25.1.1940. Расстраляны. Татальнае знішчэнне бальшавікамі слядоў арганізаванага імі генацыду супраць беларускага народа прадугледжвала забойства і тых, хто выконваў іх злачынствы.

З ліста А. Наседкіна да Л. Берыі:

---

[1] Супрацоўнік УНКВД па Гомельскай вобл.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1706, л. 21–35.

[3] Тамсама, с. 1703, л. 29.

*«По вопросу расследования фактов нарушения революционной законности со стороны аппарата НКВД БССР тов. Пономаренко первоначально занял позицию отстранения всех работников, которые принимали участие в избиениях арестованных... Я ему объяснил, что если пойти по этому пути, то надо 80 процентов всего аппарата НКВД БССР снять с работы и отдать под суд».*

**СТОЯНОВСКИЙ** — нам. наркама.

З выступу Стаяноўскага на адным з аператыўных паседжанняў (1938 г.):

*«На сегодняшний день... 1200 арестованных... сидят от 9 месяцев до 2 лет. Этот груз, 1200 человек, будет представлять исключительную трудность по целому ряду моментов. Потому что документировать дела на лиц, которые арестованы 2 года тому назад, которые обвиняются во вредительстве, шпионаже и терроре, конечно, сейчас будет труднее. Вторая трудность — это следующее: мы оформим этих 1200 человек, а они все 1200 битые, да битые до потери сознания, с отливкой водой да в «парилку». Это даст большую трещину в авторитете наших органов. Ибо ни один арестованный, ни один обвиняемый, который прошел эту школу наших оперативных групп, в свое время молчавший об этом, теперь молчать не будет».*

З ліста невядомага сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку (ад 11.12.1938):

*«С приездом в БССР Наседкина и Стояновского... репрессии были усилены... Арестованных сажали в «парилки», на «кол», избивали и т. п.»*[1]

**Старшыні спецыяльнай калегіі Вярхоўнага суда СССР** (у народзе — «тройкі»):

на розных судзілішчах — **В. С. КАРПИК**[2], **И. О. МАТУЛЕВИЧ**.

**Сакратары спецыяльнай калегіі Вярхоўнага суда СССР:**

на розных судзілішчах — **ВИНОГРАДОВА, М. КУДРЯВЦЕВ, КУЗНЕЦОВ**.

**Члены спецыяльнай калегіі Вярхоўнага суда СССР:**

на розных судзілішчах — **ЗАРЯНОВ, ЗУБЧЕНКО, М. МИЛЯКОВСКИЙ, ФЕДОСЕЕНКО**.

Член Вярхоўнага суда БССР:

**АБРАМОВ**.

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1408, л. 2–3.

[2] Кажуць, што гэты «чэмпіён» па судзілішчах памёр ужо падчас перабудовы.

З ліста В. Кундовіча[1] сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Случайно мне стало известно, что бывший зам. начальника УНКВД по Могилевской обл. Абрамов, член КП(б)Б, ныне работает на руководящей работе в Верховном суде БССР. Я, как подлинный большевик-коммунист… считаю своим долгом довести до сведения ЦК КП(б)Б о том преступлении, которое проводил Абрамов совместно с бывшим начальником УНКВД Ягодкиным. 25.5.1938 я был подвергнут аресту… брошен в подвал. Я увидел, что в подвале ежедневно умирают заключенные, что смерть происходит исключительно от побоев… Попросту говоря — людей забивали… В июле 1938 года я был вызван на «допрос» в комнату 11а и оказалось, что я попал в кабинет Абрамова… Абрамов требовал от меня признаний, что я контрреволюционер, наносил мне оскорбления… Когда я заявил, что при допросе следователь Юрков применял ко мне пытки и всевозможные издевательства, Адрамов сказал, что поскольку я преступник и контрреволюционер, то других методов ко мне и быть не может… 10 с половиной месяцев я подвергался невыносимо тяжелым пыткам и мучениям, будучи совершенно невиновным. Об этом знал и Абрамов… Он должен нести ответ… Как он может работать в Верховном Суде?»*[2]

## СЛЕДЧЫЯ УДБ НКВД БССР, ЯКІЯ ПРАВОДЗІЛІ ДОПЫТЫ ВА ЎНУТРАНАЙ ТУРМЕ НКВД[3] (ТАК ЗВАНАЙ «АМЕРЫКАНЦЫ»)

**Кіраўнікі аддзяленняў і аддзелаў УДБ НКВД БССР і іх наместнікі:**

**КАРЕЛИН Владимир Петрович** (н. ў 1897 у Адэсе ў сям'і рускага настаўніка; з 1917 член партыі эсэраў, з 1931 у ВКП(б); у ЧК з 1921; працаваў у АДПУ-НКВД Украіны; з 1935 у БССР, маёр дзяржбяспекі (1935); са студз. 1937 нам. начальніка 5-га (асобага) аддзела УДБ НКВД БССР[4]; зацвердзіў пастановы на арышт і вобыск у

[1] Кундовіч Віталь Вікенцевіч. Член ВКП(б) з 1924. Да арышту жыў у Магілёве па адрасе: вул. Ленінская, д. 53. Арыштаваны 26.5.1938. Вызвалены ў крас. 1939. Далейшы лёс невядомы.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1805, л. 213–214.

[3] У другой палове 1930-х г. камендантам турмы, верагодна, быў *Ермолаев Александр Константинович*. Акрамя іншых сваіх абавязкаў, адследжваў, як абшукваюць арыштаваных пры паступленні ў турму. Арыштаваны і асуджаны да ВМП (заменена на 10 гадоў ППК).

[4] Тут і далей указаны даты, калі дакладна вядома, хто ў гэты час кіраваў аддзелам або аддзяленнем.

кватэрах Анатоля Вольнага, Алеся Дудара, Міхася Зарэцкага, Сымона Баранавых, Валерыя Маракова, Барыса Мікуліча і інш.; узнагароджаны ордэнамі «Красной Звезды» (1936), «Знак Почета» (1937); арыштаваны 29.7.1937; асуджаны да ВМП і ў верас. 1938 расстраляны).

Сын чэкіста Фелікс Карэлін (н. 24.7.1925) падчас 2-й сусветнай вайны — у СМЕРШЫ, пасля — супрацоўнік МДБ, засланы ў групу «богашукальнай» моладзі, але настолькі зацікавіўся рэлігійнымі пытаннямі, што пакаяўся і раскрыў сябе як агента; арыштаваны з групай і асуджаны да ППК; у лагеры, каб даказаць, што ён не «стукач», забіў правакатара; атрымаў новы тэрмін; пасля вызвалення рэабілітаваны не быў; «прадказаў» хуткі канец свету; на правакацыю паддаліся тры маскоўскія святары і дваццаць прыхаджан, яны распрадалі ўласную маёмасць і выехалі ў Новы Афон; памёр 30.11.1992.

**КРЫЛОВ** (начальнік асобага аддзела УДБ НКВД БССР (1938)).

З ліста Х. Дымана[1] сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Я подвергся неслыханным и невыносимым физическим пыткам со стороны начальника особого отдела Крылова и его помощников следователей. Описать эти пытки очень тяжело... В течение полутора месяца при почти ежедневных пытках, продолжающихся иногда круглыми сутками, длился этот мучительный процесс...»*[2]

**УШАКОВ** (сапр.: УШАМИРСКИЙ) **Зиновий Маркович** (н. ў 1895, капітан дзяржбяспекі, нам. начальніка асобага аддзела УДБ НКВД

[1] Дыман Ханон Зелікавіч [1899, Беласток, Польшча — ?]. З яўрэйскай рабочай сям'і. Атрымаў пачатковую адукацыю. З 1920 працаваў на Віцебскай фабрыцы «Профінтэрн». Уступіў у ВКП(б) (1923). З 1929 на гаспадарчай працы ў сістэме Віцебскага міжраённага аддзялення культпрамкааперацыі. З 1931 дырэктар Віцебскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі «КІМ». З 1933 старшыня прафсаюзнага камітэта Віцебскай швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», потым нам. старшыні Віцебскага прафсаюзнага камітэта. З 1935 дырэктар дома адпачынку «11-га ліпеня» ў в. Ждановічы Мінскага р-на. Быў жанаты, меў двое дзяцей. Арыштаваны 8.6 (ці 7.7).1938 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 26, кв. 3. Выключаны з партыі ў 1938 у сувязі з арыштам. Асуджаны 1.11.1938 асобай нарадай НКВД як «агент польскай разведкі» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай чыгункі (ст. Сухабязводная). Вызвалены 14.10.1944. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 10.7.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Д. № 7325-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1807, л. 159–166.

БССР (ліст. 1936); разам з С. Шліфенсонам і інш. следчымі суткамі катаваў на допытах і давёў да вар'яцтва Цішку Гартнага; арыштаваны ў 1939 (?); на допытах прызнаў, што збіваў падследных яшчэ ў Ляфортаўскай турме, але, калі пачалі катаваць яго, сцвярджаў, што «не бил так по-зверски» і ўвогуле не меў «представления об испытываемых избиваемым муках и чувствах»; асуджаны да ВМП 21.1.1940 як «германскі шпіён, завербаваны ў 1932 годзе» і «член антысавецкай арганізацыі з 1933»; расстраляны).

**ДЕЙКОВ** (афіцэр дзяржбяспекі, начальнік 4-га СПА (май 1935)).

**ГОЗИН** (афіцэр дзяржбяспекі, нам. начальніка 4-га СПА (май 1935); на допытах катаваў падследных).

**КЛЕЙНБЕРГ** (капітан дзяржбяспекі; начальнік 4-га СПА (кастр. — ліст. 1936); дапытваў Яна Скрыгана, Васіля Сташэўскага, Уладзіміра Хадыку і інш.; арыштаваны, верагодна, у 1938).

**ВРАЧЕВ Георгий Яковлевич** (н. ў 1900; капітан дзяржбяспекі, начальнік 4-га СПА (снеж. 1936 — жн. 1937); дапытваў шэраг бел. пісьменнікаў; арыштаваны ў 1939 (?)).

З ліста В. Ермалаева сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

«*Клейнберг... аказаўся ворагам народу — прайдзісветам, пасля яго* [начальнікам 4-га СПА стаў] *Урачоў, пра якога старыя работнікі кажуць, што ён прапіў 4-ты аддзел, зачыняўся ў кабінеце штодзень з пахмелля і нікога не прымаў. Пасля яго* [4-м СПА кіраваў] *Волчак, які быў арыштаваны за сувязь з трацкістамі...*»[1]

**ВОЛЧОК** (старшы лейтэнант дзяржбяспекі, нам. начальніка, начальнік 4-га СПА (студз. 1937 — студз. 1938); падпісаў пастанову аб арышце Васіля Хомчанкі, Платона Галавача і, верагодна, Янкі Нёманскага, Браніслава Тарашкевіча, Аляксея Траецкага, Зэліка Аксельрода, Ізі Харыка, Якава Бранштэйна, Аркадзя Смоліча, Васіля Шчарбакова, Пятра Ільючонка, Фларыяна Ждановіча, Дзмітрыя Курдзіна, Сямёна Клінцэвіча, Арона Юдэльсона, Сямёна Якубчыка, Іосіфа Воўк-Левановіча і інш.; дапытваў Міхайлу Піятуховіча, Міхася Чарота і інш., падпісваў абвінаваўчыя заключэнні; асуджаны ў 1939 (?)).

**ЕРМОЛАЕВ Василий Андреевич** (н. ў 1900 у в. Печарнікі Разанскай губ. ў сям'і рускага селяніна; член ВКП(б) з 1919; у АДПУ з

[1] *Лукашук А.* «За кіпучай чэкісцкай работай»: З жыцьця катаў. Мн., 1997.

1924; у 1935 накіраваны ў БССР; праз некалькі месяцаў прызначаны начальнікам Асобага аддзялення кавалерыйскай дывізіі; з кастр. 1936 — начальнік Лепельскага раённага аддзела НКВД; старшы лейтэнант дзяржбяспекі; у пачатку 1938 пераведзены ў Мінск, прызначаны начальнікам 4-га СПА УДБ (у студз. або лют. 1938 змяніў Ваўчка); арыштаваны ў студз. 1939; асуджаны 29–30.5.1939 ваенным трыбуналам войскаў НКВД СССР Беларускай акругі ў Мінску да ВМП[1]; на судзе вінаватым сябе не прызнаў і адмовіўся ад паказанняў, якія даў падчас следства; 5.9.1939 расстрэл заменены на 10 гадоў ППК).

З ліста В. Ермалаева сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«На пачатак лютага 1938 году за* [сакрэтна-палітычным] *аддзелам, дзе працавалі 54 чалавекі, налічвалася больш за 450 арыштаваных, многія зь якіх чакалі свайго лёсу год і болей. Каля 600 сьледчых справаў з пэрыфэрыі ляжалі доўгія месяцы без адказу... Я знайшоў у аддзеле поўны развал дысцыпліны, наяўнасьць групаўшчыны на глебе маральна-бытавога разбэшчаньня... Сувязь зь невядомымі жанчынамі, няведаньне іх групай, выкарыстаньне для нізкіх мэтаў канспіратыўных кватэраў. У гэтую групу ўваходзілі Слукін, Кунцэвіч, Быхоўскі, Шэйнкман, Якімаў, Перавозчыкаў ды інш.»*

З ліста М. Сцерніна[2] сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку (дат. 29.7.1939):

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1702, л. 2–4.

[2] Сцернін (Багдановіч) Мікалай Клеафасавіч. Н. ў 1900 у сям'і чыгуначніка. Скончыў Магілёўскую гімназію. З 1913 працаваў карэктарам мясцовай земскай друкарні. З верас. 1917 уваходзіў у склад Магілёўскай арганізацыі РСДРП (левыя інтэрнацыяналісты). У розныя гады рэдагаваў ці быў супрацоўнікам газ.: «Соха и молот», «Известия Оршанского Совета», «Оренбургский рабочий», «Тамбовская правда», «Красное Знамя» (Цюмень), «Красный шахтёр» (Шахты), «Донская правда» (Таганрог), «Кооперативная жизнь» (Масква) і інш. Узначальваў Саюз журналістаў у Магілёве. У 1932 скончыў вышэйшыя рэдактарскія курсы ў Маскве. Потым працаваў нам. загадчыка сектара друку ВЦСПС. Нечакана С. перавялі ў Чашніцкі р-н Віцебскай вобл. на пасаду начальніка палітаддзела саўгаса «Пачаевічы». Пазней быў рэдактарам газ. «Звязда». Звольнены ў жн. 1936 «за потерю революционной бдительности и допущение засоренности аппарата редакции... чуждыми людьми». Працаваў пасля гэтага ў Інстытуце мовы і літаратуры АН БССР рэдактарам руска-бел. слоўніка і сакратаром рэдакцыйнага аддзела акадэміі. Арыштаваны 11.6.1938. Пад следствам знаходзіўся ва ўнутранай турме НКВД у Мінску. Вытрымаў больш за сорак допытаў, якія суправаджаліся страшнымі катаваннямі. Вызвалены 11.7.1939. Пры вызваленні прымушаны напісаць наступную пад-

*«Впервые с фальсификацией «очных ставок» я ознакомился 13 июля 1938 в кабинете начальника 4-го отделения Ермолаева»*[1].

*«Ермолаев говорил мне: «На тебя будет 100 показаний и 30 очных ставок...»*[2]

*«Ермолаев неоднократно приходил ко мне на «допросы», видел меня избитого, с кровавыми нарывами на лице и шее, с кровоподтеками, разбитыми, распухшими ногами. Когда я заявил, что меня бьют, Ермолаев... ответил: «Мерзавец! Ты клевещешь на НКВД». После его ухода меня... избивали еще сильнее...»*[3]

*«7-го июля* [1938] *начались «допросы» под руководством начальника 4-го отдела Ермолаева, который в первый же день неоднократно заходил, угрожал расстрелом и обещал лично за меня взяться»*[4].

З прысуду № 80 па крымінальнай справе № 106 (ад 29–30.5.1939):

*«...в результате указаний* [Ермолаева]*, подчиненный ему следственный аппарат начал применять методы физического воздействия к арестованным, последствием чего на допросах были убиты арестованные Лемеш, Шевелев и Тихонец*[5]*; вместо того, чтобы виновников убийства привлечь к уголовной ответственности, он, Ермолаев, вызывает врача Каца, которого заставляет составить акт о том, что арестованные умерли естественной смертью.*

*В 1938 году 4-м отделом было проведено следствие по делу Корженевича*[6] *и Ароцкера*[7] *— по обвинению их в участии в право-*

---

піску: *«Я, Стернин Н. К., обязуюсь никому и нигде не говорить о том, что мне стало известно за время с 11 июня 1938 г. по 11 июля 1939 г. о работе органов НКВД. Мне известно, что за нарушение этого я буду отвечать по всем строгостям революционных законов, как за разглашение государственных тайн».*

Кр.: *Селяменеў В., Бараноўскі Я.* Пачыналі па-рознаму — завяршалі аднолькава (Драматычныя лёсы рэдактараў газеты) // *Звязда.* 1997. 10 крас.; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска. У 4 кн. Кн. 3. Мн., 2004. С. 525–526.

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 31.

[2] Тамсама, л. 15.

[3] Тамсама, л. 24.

[4] Тамсама, л. 12.

[5] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[6] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[7] Ароцкер Вульф Герцавіч [1892, мяст. Смаргонь Віленскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 29.11.1938, Мінск, турма НКВД],

*троцкистской организации и во вредительстве; не имея достаточных материалов по делу Корженевича, Ермолаев утвердил обвинительное заключение, а дело Ароцкера было возвращено Минским облсудом на доследование, без допроса обвиняемого, приобщил к делу один протокол, в котором Остроух изобличал Ароцкера в шпионской деятельности, составили обвинительное заключение, которое утвердил без достаточных к тому оснований обвиняемый Кунцевич. Оба эти дела Ермолаевым были доложены на тройке, и Корженевич и Ароцкер были приговорены к высшей мере наказания и приговоры приведены в исполнение.*

*Кроме того, Ермолаевым в бытность его начальником 4-го отдела УГБ НКВД БССР производились массовые необоснованные аресты, среди которых были научные работники... Ивашкевич, Камлюк[1], Лебенский, Шиманский и др.»[2]*



**СЕРГЕЕВ Алексей Андреевич** (н. ў 1905 у в. Радыёнаўка Серпухаўскага пав. Маскоўскай губ. у сям'і рускага рабочага. У ЧК з 1932. Са жн. 1936 — старшы оперупаўнаважаны НКВД БССР, начальнік аддзялення 4-га СПА УДБ НКВД БССР. Катаваў на допытах падследных, за што з сяржантаў узведзены ў капітаны (1939), а яшчэ праз некалькі гадоў — у палкоўнікі. З 1954 на пенсіі. Старшыня Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў. З палявання на людзей пераключыўся на паляванне на жывёлаў.

З ліста С. Гваздзецкага[3] сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

---

службовец. З яўрэйскай рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. У 1930-я г. дырэктар Уздзенскага леспрамгаса. Быў жанаты, меў трое дзяцей. Арыштаваны 1.7.1937. Асуджаны тройкай НКВД 1.11.1938 за «шпіянаж» і «шкодніцтва» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 14.1.1958 трыбуналам БВА. Асабовая справа А. № 11361-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[1] Верагодна, маецца на ўвазе Камлюк Васіль Радзівонавіч. Падрабязней гл.: *Рэпрэсаваныя...*

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1702, л. 2–4.

[3] Гваздзецкі Сцяпан Паўлавіч. З украінскай сялянскай сям'і. Падчас 1-й сусветнай вайны салдат царскай арміі. У 1917 кулямётчык 2-га стралковага палка ў Петраградзе. У чэрв. 1917 уступіў у ВКП(б). Удзельнік Кастрычніцкага перавароту 1917. Адзін з арганізатараў са-

*«Я являюсь жертвой произвола, творимого следователем Перским и его бригадой, а позже и его последователями Сергеевым и др. От истощения я слепну, с трудом передвигаюсь...»*[1]

**АЗАРОВ** (старшы лейтэнант дзяржбяспекі, нам. начальніка 4-га СПА (ліст. 1936 — ліп. 1937); дапытваў Міхася Багуна, Уладзіміра Хадыку і інш.).

**СУСМАН** (нам. начальніка 4-га аддзела УДБ НКВД БССР, старшы лейтэнант дзяржбяспекі).

**КУНЦЕВИЧ Иван Игнатович** (н. ў 1904 у в. Востраў Мінскай губ. ў бел. сялянскай сям'і; член ВКП(б) з 1929; у АДПУ з 1932; сяржант дзяржбяспекі; начальнік аддзялення па справах царкоўнікаў і сектантаў 4 СПА (май 1935–1937); нам. начальніка 4-га СПА В. *Ермалаева* (1938); дапытваў Платона Галавача, Міхася Зарэцкага, Алеся Звонака, Васіля Каваля, Тодара Кляшторнага, Валерыя Маракова, Барыса Мікуліча, Міхайлу Піятуховіча, Аляксандра Чарнушэвіча і інш.; катаваў на допытах падследных, прымушаў іх збіваць адзін аднаго; арыштаваны і асуджаны 29–30.5.1939 ваенным трыбуналам войскаў НКВД СССР Беларускай акругі ў Мінску да ВМП[2] (верагодна, заменена на 10 гадоў ППК).

З ліста В. Ермалаева сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«У аддзеле кадраў ёсць заява, што Кунцэвіч... у 1930 годзе заганяў адміністрацыйна сялян у калгасы, абагульняў інвентар аж да курэй. У гэтай заяве гаворыцца, што Кунцэвіч меў сувязь з жонкай арыштаванага і што ёй расказваў пра мужа...*

*Кунцэвіч — разбэшчаны ў бытавым плане чалавек, меў шырокія сувязі на глебе палавой распусты з невядомымі жанчынамі. Са слоў Быхоўскага мне вядома, што Кунцэвіч знаходзіўся ў сужыцці з 15 жанчынамі толькі супрацоўніцамі наркамата. Для гэтай мэты выкарыстоўваў кватэру Слукіна, дзе прымалася агентура...»*

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Кунцевич говорил: «Вы умный человек, были редактором «Звязды». Поймите, в стенах НКВД сталь плавится... Никто из арестованных на свободу не выйдет. Вы находитесь в «ежовых*

---

вецкай улады на Палтаўшчыне, пазней старшыня ваенна-рэвалюцыйных камітэтаў у Прылупах, Ромені (Украіна). З 1926 сакратар парткома завода «Серп-Молот» у Харкаве, загадчык арганізацыйнага аддзела Харкаўскага абл. камітэта ВКП(б). З 1936 у Беларусі. Арыштаваны ў жн. 1937. У крас. 1939 яшчэ знаходзіўся ў мінскай унутранай турме НКВД. Далейшы лёс невядомы.

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1805, л. 95–96.

[2] Тамсама, с. 1702, л. 2–4.

*рукавицах». У нас были люди покрепче вас, подпольщики, а писали все, что нам надо. Напишите — останетесь живы. Нет — сгноим в подвале, поломаем кости, покалечим. Все равно — хоть перед смертью — напишете все, что нам надо… <…> не выдержите…»*[1].

З ліста С. Кудмана[2]:

*«20 сентября 1937 года я был арестован без предъявления обвинения… В течение двух месяцев меня мучили, применяя абсолютно нечеловеческие методы следствия… Я не выдержал мучений и вынужден был под диктовку следователя дать о себе ложные показания. На допросах я просил, умолял и доказывал следователю, что я невиновный… Я заявлял об этом начальнику отделения Кунцевичу и пом. начальника следственного отдела Быховскому, но никто меня не слышал…»*[3]

З прысуду № 80 па крымінальнай справе № 106 (ад 29–30.5.1939):

*«Кунцевич и Кулешов*[4] *настолько избили арестованного* (Якава Шэлега[5]. — **Л. М.**), *что последний… на месте умер»*[6].

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 12–13.

[2] Кудман Самуіл [1898, Барысаў Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?]. З сям'і каваля Давыда Кудмана (памёр у 1910). Атрымаў пачатковую адукацыю. Працаваў рабочым на заводах Днепрапятроўска (Украіна), на Барысаўскай электрастанцыі, у Саюзе металістаў у Мінску. У 1924 уступіў у ВКП(б). З 1925 на кіруючых пасадах у розных раёнах БССР. З 1932 сакратар Смалявіцкага раённага камітэта ВКП(б). Быў жанаты, меў двое дзяцей. Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны 10.10.1938 асобай нарадай НКВД за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Какорынскі лагерны пункт Усольскага канцлагера НКВД Пермскай вобл. (Салікамск). У сак. 1939 яшчэ знаходзіўся ў канцлагеры. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 30.9.1966 судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа К. № 19560-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[3] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1702, л. 2–4.

[4] Куляшоў Кузьма Дзям'янавіч. Малодшы лейтэнант дзяржбяспекі, начальнік Рудзенскага раённага аддзялення УНКВД. Н. ў 1901 у в. Лабанаўка, цяпер Чэрыкаўскі р-н Магілёўскай вобл., у бел. сялянскай сям'і. Уступіў у ВКП(б) у 1926. У АДПУ з 1930. У 1939 асуджаны да ВМП.

[5] Шэлег Якаў Уладзіміравіч [1897, в. Русаковічы, цяпер Рудзенскі р-н Мінскай вобл. — 31.3.1938, Мінск, турма НКВД], селянін-аднаасобнік. З бел. сялянскай сям'і. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны ў сак. 1938. Абвінавачваўся як «член антысавецкай арганізацыі». Рэабілітаваны пракуратурай БССР 19.8.1961. Асабовая справа Ш. № 19027-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[6] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1808, л. 36–42.

**БЫХОВСКИЙ Виктор Эммануилович** (лейтэнант дзяржбяспекі, начальнік аддзялення па справах нацыянал-фашыстаў 4-га СПА (1936–1937); катаваў на допытах падследных; дакладна вядома пра выпадкі з Антонам Баліцкім, Ананіем Дзякавым, Браніславам Тарашкевічам, Рыгорам Хацкевічам і інш.; калі тыя трацілі прытомнасць, утыкаў ім у шыю іголкі; дапытваў Анатоля Вольнага, Сяргея Гесэна, Алеся Дудара, Міхася Зарэцкага, Яна Скрыгана, Уладзіміра Хадыку, Міхася Чарота і інш.; ад даследчыкаў гісторыі беларускай літаратуры атрымаў мянушку «садыст»; арыштаваны 10.12.1938, асуджаны 20.4.1939 да 10 гадоў ППК).

З ліста В. Ермалаева сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

«*Быхоўскі — садыст, маральна разбэшчаны, фанабэрысты, ганарлівы, падхалім, кар'ерыст, распусны нізкі чалавек, які інтымна жыў з многімі невядомымі жанчынамі, у тым ліку з машыністкай 4-га аддзела...*»

З заявы Я. Скрыгана Генеральнаму пракурору СССР (дат. 8.4.1954):

«*Следователь Быховский (1937) с первого же допроса начал требовать... лжи, клеветы, извращения фактов... и откровенно заявил, что правды он и не требует. Со злобой он выкрикнул: «Ишь, сволочь, Иисус Христос нашелся, правда ему нужна! Нам нужна правда, которой от тебя требуют!.. Если ты советский человек, то должен подписать всё, что требует от тебя следствие. Это нужно в интересах государства...» После такой усердной работы Быховского вся — как моя, так и чужая — жизнь превращалась в сплошной жуткий комок грязи и преступлений*».

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

«*Следователь Быховский «разъяснил» мне, что я был врагом партии с 1917 г., был всю жизнь двурушником-троцкистом, что меня завербовал Сурта[1] еще в 1917 г., что я был руководите-*

[1] Сурта Іван Захаравіч [10(22).11.1893, в. Бяседавічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Хоцімскі р-н Магілёўскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч, навуковец. З сялянскай сям'і. У 1918 уступіў у ВКП(б). Скончыў медыцынскі ф-т 2-га Маскоўскага ун-та (1918), Інстытут чырвонай прафесуры (1932). У 1933 нам. наркама асветы Беларусі, з 1933 наркам аховы здароўя Беларусі. У 1936–37 прэзідэнт АН Беларусі. Аўтар навуковых работ па пытаннях метадалогіі і гісторыі прыродазнаўства. Кандыдат у члены ЦК ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 27.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камунальная, 3-ці Дом Саветаў, кв. 35. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 19.12.1937 як «член антысавецкай арганізацыі правых» і за «шкодніцтва ў галіне аховы здароўя» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны.

*лем нацфашистской организации в Академии наук БССР. Сказал, что мне надо дать показания на Гикало, Сурту... Якуба Коласа...*

*Учитель Каменский*[1] *рассказывал, что его путем избиений вынуждали дать показания против поэта Якуба Коласа»*[2].

З агляднай даведкі (з архіўна-следчай справы № 8825) па абвінавачанні В. Быхоўскага (арт. 180 «а» КК БССР):

*«Стенографистка Жуковская показала, что... многие следователи, являясь инструкторами по бою, ходили по кабинетам и избивали несознавшихся арестованных... Когда арестованные теряли сознание после избиения,* [Быховский] *кололи их иголкой в шею... А. Балицкому дал прессом в лицо... арестованного* [литератора] *З. ставил ногами вверх к окну и избивал...»*

З ліста А. Балціна[3] сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«27 месяцев я сижу в тюрьме совершенно без всякой вины... Меня не допрашивают, не предъявляют «улик» или конкретных обвинений, а просто бьют, истязают, плюют в лицо и нагло требуют писать то, что от меня требуется. Версия напрашивается сама собой исходя из моего офиц. положения: я был наркомом, следовательно, вербовал меня Голодед, информировал о задачах и методах их работы к-р орг. Моя практическая роль — вредительство в местной промышленности. В декабре 1937 г. следователь-бандит Быховский предъявил новые требования.*

---

Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.4.1956. Асабовая справа С. № 6631-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

*«По рассказу находившегося в одной камере с Суртой бывшего директора Речицкого дубильно-экстрактного завода Лаптева, Сурта в камере плакал, говорил, что он написал свыше 100 страниц ложных показаний. У Сурты по* [свидетельству] *Лаптева был разбит задний проход...»*

Кр.: НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 43; *БЭ*. Т. 15; *ЭГБ*. Т. 6/1.

[1] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 14–15.

[3] Балцін Аўгуст Янавіч [сапр. Блюм Тэадор Янавіч, 5(17).1.1894, Газенпот Курляндскай губ., цяпер Айзпутэ, Латвія — 23.6.1953], дзяржаўны дзеяч. З верас. 1934 наркам мясцовай прамысловасці БССР. Член ЦВК СССР (1935–37) і ЦВК БССР (1929–37), старшыня Таварыства старых бальшавікоў (1933–37). Узнагароджаны ордэнам Леніна. 2.8.1937 вызвалены ад пасады наркама. Арыштаваны 4.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 2, кв. 21. Асуджаны 9.6.1940 як «удзельнік антысавецкай трацкісцкай арганізацыі, якая існавала на тэрыторыі БССР з 1933 г.» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Вызвалены ў канцы 1940-х г.

*Вспомнили, что я — латыш, а по словам следов. Быховского, «все латыши — шпионы», а значит, версия опять ясна: активная роль в латышск. антисов. орг., шпионаж, связь с Кнориным в Москве и латышским консулом в Витебске. То, что я с Кнориным никогда в жизни не встречался и его не знаю лично, то, что я никогда не был у Витебского или какого-либо другого латв. консула — это не играет роли. Герману, Волчку и Быховскому нужно, чтобы так было, и они имеют в своём распоряжении средства добиться того, что им нужно.*

*Когда применение жестоких пыток не заставило меня писать всю эту смердящую ложь, ночью во время моего избиения приводили мою жену, показали мне её, говорили, что она всё слышала, упала в обморок и её унесли на носилках. И мне предлагали прямую сделку: «Пиши, если хочешь спасти жену. Будешь писать — её сейчас же выпустим, если не будешь, то я буду драть эту бл… так же, как и тебя». Это было прямое вымогательство, но у меня не оставалось никакого выхода. Я стал писать требовавшуюся от меня ложь. У моей жены обманом брали записки на моё имя, что она освобождена, живет на той же квартире и т. д., а в действительности она продолжала сидеть в тюрьме»*[1].

З ліста Э. Трыфсік сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Все обвинения против моего мужа*[2] *необоснованны и были подписаны им после жесточайшего физического воздействия, без сомнения, в невменяемом состоянии…*

*Как теперь выяснилось, быв. следователь Быховский, произведя допросы, сопровождаемые не поддающимися описанию физическими воздействиями, добился немало самооговоров… К числу таких жертв попал и мой муж»*[3].

З заявы В. Быхоўскага на імя наркама УС БССР А. Наседкіна ад 27.11.1938 г. (заява напісана за некалькі тыдняў да арышту таго, каму яна была адрасавана, і арышту самога заяўніка):

*«Я хочу Вам рассказать о тех безобразиях, антипартийных, по существу фашистских методах следствия, которые здесь, в Белоруссии, процветали на протяжении последних лет 1937–1938 гг. в бытность здесь наркомом Бермана и до вашего приезда сюда…*

*Берман и нач. следственного отдела Волчек стали на официальных совещаниях работников существовавшего здесь след-*

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1808, л. 12–19.

[2] Трыфсік Барыс Ісакавіч. Н. ў 1900. У 1919 уступіў у ВКП(б). У першай палове 1930-х г. сакратар Талачынскага райкама ВКП(б).

[3] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1807, л. 29–30.

*ственного отдела давать установки совершенно открыто, что если враг не сдается, надо на него воздействовать физически и сломить его...*

*И я в числе других стал это делать. Я стал применять при допросах к арестованным самые разнообразные методы издевательств...*

*Я бил и применял всякого рода издевательства... бил их руками... ложил их на пол, сгибал вдвое и ставил сверху стул, садился на него и сидел до тех пор, пока эти лица не начинали давать показания...*

*Я видел, что в окружении меня поголовно все, от мала до велика, — все бьют... били и оперативные работники и не оперативные...*

*Особенно много натворили беззаконий и безобразий, избивали арестованных, истязали их, сотрудники НКВД БССР — Авербух, Вихорев, Волков, Завадский, Кауфман, Кунцевич, Лукашонок, Массарский, Перевозчиков, Перский, Половинскин, Серышев, Слукин, Сотиков, Цейтлин, Шейнкман, Широков истязали нагайками и поясами, заставляли арестованных избивать друг друга, раздевали арестованных догола и били их поясами до полусмерти. Это делали следователи: Барсуков, Бурмистров, Годин, Климкович, Козлюк, Короткевич, Крупенков, Кузнецов, Паремский, Сергеев, Фиш, Черняк».*

Быхоўскі, расказаўшы новаму кіраўніку МУС, што тварылася да яго прыходу ў засценках унутранай турмы НКВД, спадзяваўся, што выратуе сабе жыццё. І не памыліўся. Замест шмат разоў заслужанага расстрэлу атрымаў 10 гадоў пазбаўлення волі.

**ФЕДОРОВ***[1] (начальнік аддзялення (змяніў Быхоўскага, потым Гарбачэўскага (1938) па справах нацыянал-фашыстаў 4-га СПА).

**ГОРБАЧЕВСКИЙ Макар Давыдович*** (н. ў 1906 у в. Багданава Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Сенненскі р-н Віцебскай вобл. Да 1927 працаваў на сельскай гаспадарцы ў бацькоў. З 1927 — тэхнічны сакратар Лёзненскага райкама ВКП(б). З 1928 — курсант школы аднагадзічнікаў 3-га сапёрнага батальёна ва Уладзіміры. З 1929 — загадчык улікова-статыстычнага пададдзела акруговага камітэта партыі (Віцебск). Член ВКП(б) з кастр. 1929. У 1930–35 — супрацоўнік АДПУ НКВД БССР (Мінск). У 1935–36 — слухач Цэнтральнай школы НКВД (Масква). З 1937— начальнік

[1] Інфармацыя пра персаналіі, адзначаныя зорачкай, часткова або цалкам узята з кнігі: *Лукашук А.* «За кіпучай чэкісцкай работай»: З жыцьця катаў. Мн., 1997.

Старобінскага, потым — Шклоўскага раённага аддзела НКВД. З 1938 — начальнік аддзялення (змяніў на нядоўгі час Фёдарава) па справах нацыянал-фашыстаў 4-га СПА), потым — кіраўнік УНКВД па Пінскай вобл. Падчас 2-й сусветнай вайны — у войсках НКВД. Арганізоўваў дыверсійныя партызанскія групы для работы ў нямецкім тыле. З восені 1944 — нам. наркама ўнутраных спраў БССР па кадрах. У 1945–47 удзельнічаў у разгроме антысавецкага падполля ў Гродзенскай вобл. У першай палове 1950-х г. — начальнік улікова-архіўнага ўпраўлення КДБ Брэсцкай вобл. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны 1 ступені, Працоўнага Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, мноствам медалёў. 27.12.1955 звольнены з-за службовай неадпаведнасці. 30.3.1961 Брэсцкім абл. камітэтам КПСС выключаны з партыі).

**ШЕЙНКМАН*** (начальнік аддзялення па справах трацкістаў і правых 4-га СПА (1936–1937); катаваў на допытах Платона Галавача і інш.).

З ліста В. Ермалаева сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

«У [4-га СПА] *было 8 аддзяленьняў. Аддзяленьне ў справах трацкістаў і правых узначальваў Шэйнкман, разбэшчаны чалавек, стары халасьцяк, заляцаўся да кожнай спадніцы...*»

**АШИШКЕВИЧ*** (начальнік аддзялення (змяніў Шэйнкмана) па справах трацкістаў і правых 4-га СПА (1937)).

**АРТОМОНОВ*** (начальнік аддзялення па справах эсэраў і меншавікоў 4-га СПА).

З ліста В. Ермалаева сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

«*Артамонаў — п'яніца, гультай, прагульшчык...*»

**АРХАНГЕЛЬСКИЙ*** (начальнік аддзялення (змяніў Ашышкевіча) па справах трацкістаў і правых 4-га СПА, начальнік аддзялення (змяніў Артамонава) па справах эсэраў і меншавікоў 4-га СПА).

**ПОЛИТЫКА** (начальнік аддзялення (змяніў Архангельскага) па справах эсэраў і меншавікоў 4-га СПА, дапытваў Міхася Зарэцкага, Васіля Сташэўскага і інш.).

**ТАРАКАНОВ Сергей Иванович** (начальнік Слуцкага раённага аддзела НКВД, з ліст. 1938 у Мінску, начальнік аддзялення (змяніў Архангельскага) па справах трацкістаў і правых 4-га СПА, начальнік аддзялення (змяніў Палітыку) па справах эсэраў і меншавікоў 4-га СПА; арыштаваны 20.5.1939; асуджаны да 10 гадоў ППК).

З прызнанняў следчага Слуцкага НКВД А. Машэнца*:

*«На аператыўных нарадах Тараканаў прызначаў на кожнага супрацоўніка цвёрдыя нормы выкрыцця трох-чатырох арыштаваных у суткі. Пасадка на вугал крэсла, допыт стоячы і фізічнае збіванне ўжываліся масава ўсімі намі, следчымі, іначай і быць не магло, бо прызначаную норму — тры-чатыры выкрыцці ў суткі — немагчыма выканаць пры звычайным допыце. Следчыя, дапытваючы такімі метадамі, давалі ад аднаго да трох выкрыццяў, і былі асобныя выпадкі, калі дабіваліся па тры-чатыры выкрыцці ў суткі, напрыклад, Шэвелеў, Лучко, Сталяроў, я і Каралёў...»*

З ліста С. Тараканава сакратару ЦК ВКП(б) Г. Малянкову:

*«...осуждают меня к лишению свободы на 10 лет – за что? Только за то, что я всем следователям передавал установки быв. наркомов – Бермана и Наседкина, чтобы каждый следователь в сутки разоблачал от 1 до 2 арестованных, а также за то, что я лично к арестованному... Хаткевичу применил меры физического воздействия, нанес два удара кулаком по голове...»*[1]

**ГОРБАТЫЙ*** (начальнік аддзялення па справах савецкага апарату і рабочага класа 4-га СПА).

**ЛЕГАЕВ*** (начальнік аддзялення (змяніў Гарбатага) па справах савецкага апарату і рабочага класа 4-га СПА).

**СЛУКИН** (лейтэнант дзяржбяспекі; начальнік аддзялення па справах моладзі 4-га СПА (крас. 1937); катаваў на допытах Васіля Хомчанку і інш.).

З ліста В. Ермалаева сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Слукін — распуснік, разбэшчаны ў полавых адносінах, маральна нізкі. Выкарыстоўваў у нізкіх мэтах канспіратыўную кватэру — вадзіў туды жанчын...»*

**ГУБСКАЯ М. А.*** (афіцэр дзяржбяспекі, начальнік 4-га аддзялення 4-га СПА (1937), потым сакратар у апараце НКВД (?); падпісала пастанову аб арышце Васіля Хомчанкі і інш.).

**КАГАН** (начальнік 3-га аддзялення 4-га СПА (ліп. 1935), паводле некаторых звестак сваяк паэткі Эдзі Агняцвет; катаваў на допытах падследных[2]).

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1706, л. 11.

[2] Тамсама, л. 5.

*«...Власов Григорий... при допросах на следствии жестоко избивался следователями Каганом, Малахановым, Киселевым, Евтушенко, которые требовали от него показаний...»*[1]



**ШЛИФЕНСОН Самуил Иосифович** (н. ў 1903 у Вяліжы Віцебскай губ., цяпер Смаленская вобл., у сям'і яўрэйскага служачага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У ЧК і ВКП(б) з 1921[2]. З ліст. 1925 — нам. упаўнаважанага па інфармацыі, упаўнаважаны 16-га Койданаўскага памежнага атрада АДПУ БССР. З мая 1933 — начальнік аддзялення Віцебскага аператыўнага сектара ДПУ-НКВД БССР. Са снеж. 1936 — начальнік 3-га аддзялення 4-га СПА (ліст. — снеж. 1936). 19.12.1937 узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. З 11.4.1938 — начальнік УНКВД Гомельскай вобл. Падпісаў пастановы на арышты Сымона Баранавых, Анатоля Вольнага, Міхася Зарэцкага, Валерыя Маракова, Барыса Мікуліча і вобыскі ў іх кватэрах; арыштоўваў і дапытваў Змітрака Астапенку і інш., разам з Ушаковым і інш. следчымі суткамі катаваў і давёў да вар'яцтва Цішку Гартнага; у камеры, разлічаныя па кубатуры на 3 (тры) чалавекі, заганяў 40 (сорак) чалавек; аддаваў загады збіваць падследных, якія не прызнавалі сябе вінаватымі. Арыштаваны 2.12.1938. Падчас следства вінаватым сябе прызнаў. Асуджаны ваенным трыбуналам войскаў НКВД Беларускай акругі ў перыяд 15–18.5.1939 да ВМП. Расстраляны ў 1939).

З успамінаў Івана Аляксеевіча Карцеля:

*«Днём тут* (ва ўнутранай турме НКВД. — **Л. М.**) *цішыня, самая «малацьба» пачынаецца глыбокай ноччу...*

*Мяне ўжо чакалі двое следчых: Цэйтлін і Шліфенсон. Пасадзілі на высокае крэсла, ногі не даставалі да падлогі, каб чалавек быў у пастаянным напружанні, трымаўся на нервах — як бы не хіснуцца і не зваліцца.*

*Не паспеў я спытаць, на якой падставе арыштаваны, як у адно вуха закрычаў Шліфенсон: «Дзе і калі вы завербаваны ў контррэвалюцыйную нацыяналістычную арганізацыю?», а ў дру-*

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1706, л. 5–6.

[2] Тамсама, с. 1702, л. 5–7.

*гое вуха — тое ж самае Цэйтлін. Не паспее выкрыкнуць сваё пытанне Шліфенсон, як тым жа пытаннем аглушае Цэйтлін. Я адчуваў сябе як на кавадле, па якім лупяць два малаткі. Дзяўбуць дзень, потым ноч, потым зноў дзень. Зморыцца ад дзяўбання Цэйтлін — ідзе на адпачынак, дзяўбанне пачынае Шліфенсон. А калі і ён стоміцца, яго замяняе хто-небудзь іншы са следчых...*

*Канвеерныя допыты на працягу некалькіх сутак — гэта былі яшчэ толькі кветачкі. Упартых, якіх нічым нельга было прымусіць падпісаць пратакол, ставілі ў так званую стаячую труну, дзе чалавек траціў прытомнасць ужо праз некалькі гадзін. Яшчэ заганялі ў карцэр з халоднай вадой на цэментнай падлозе...*

*З другой паловы 1937 г. ...з допытаў не прыводзілі, а прыносілі, дакладней, прыцягвалі. Збітага, беспрытомнага чалавека проста перакідвалі за парог камеры, як мех з зернем. Чалавек дзён дзесяць прыходзіў у прытомнасць, нічога не еў, прасіў толькі піць...*

*Амаль год я быў пад следствам і прайшоў праз рукі і кулакі многіх следчых-фальсіфікатараў. Устаноўка ў іх была такая: катаваць да таго часу, пакуль чалавек не падпішацца пад злачынствам, якое яму прыпісвалася. Самым жорсткім для мяне быў следчы Шліфенсон, начальнік аднаго з аддзелаў НКВД рэспублікі. Ён не ведаў беларускай мовы, наўрад ці меў сярэднюю адукацыю, але спецыялізаваўся на стварэнні спраў вучоных і пісьменнікаў. За кар'еру, за ўзнагароды ён, здавалася, гатоў быў стварыць ілжывую справу нават на роднага бацьку. «А-а, на маё месца цэліш, Польшчы хацеў аддаць Беларусь, — перарываў ён часам допыт, пераходзячы на «лірыку». — А вось табе, вось!» — і тыцкаў у нос кулаком з фігай. На руках гэтага маленькага чалавека з завітушкамі на патыліцы засталася кроў многіх беларускіх інтэлігентаў...»* [1]

З прысуду № 72 па крымінальнай справе № 53 (ад 15–18.5.1939):

*«Шлифенсон в ноябре 1937 года, работая начальником Могилевского городского отделения управления НКВД, во внутренней тюрьме создал режимные камеры, в которых при нормальном положении могло содержаться 3 человека, в эти камеры сажали до 40 человек; арестованные этих режимных камер вынуждены были сутками стоять на ногах, и когда приводили новых арестованных, то их приходилось в камеры не впускать, а вдавливать при помощи камерной двери. В камере не хватало воздуха, в результате этого арестованные падали в обморочное состояние и их в бессознательном состоянии вытаскивали в ко-*

---

[1] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска. У 4 кн. Кн. 3. Мн., 2004. С. 307–310.

*ридор и отливали водой, а после приведения в чувство вновь помещали в камеры. Обвиняемым Шлифенсоном в этих режимных камерах была создана специальная агентура из числа явных врагов Советской власти — Лонского, Головенчика, Амбармчука и Хомицкевича, приговоренных к высшей мере уголовного наказания. Эта преступная четверка по заданию Шлифенсона и обвиняемого Давиденко проводила провокационную работу и всевозможными морально-физическими воздействиями над арестованными вынуждала их к даче на себя вымышленных показаний, учила арестованных, какие надо давать показания, а арестованных неграмотных учили расписываться своей фамилией.*

*В результате такой преступной деятельности Шлифенсона... арестованные давали на себя вымышленные показания, на основании которых приговаривались к ВМН.*

*В январе 1938 года Шлифенсон был переведен на должность начальника райотделения города Гомеля и впоследствии начальника областного управления Гомеля. Шлифенсон по примеру Могилева и здесь создал режимные камеры, так называемые «парилки», в эти камеры кубатурой на 3 человека — 6 метров куб. — содержалось до 22 человек. Несмотря на то, что в камерах и без того было душно от большого скопления арестованных, их заставляли подтапливать печку, отверстия в окнах и двери забивались одеждой арестованных, были также случаи обмороков, точно так же была создана камерная агентура, которая занималась провокационной деятельностью, вынуждала арестованных давать на себя вымышленные показания, на арестованных несознающихся — одевали шубы, били, и арестованные, давшие на себя показания, приговаривались к ВМН»*[1].



**ГЛАДКОВ Петр Андреевич** (н. ў 1902 у в. Трубчаўск Арлоўскай губ. (Расія) у сям'і рускага рабочага. Скончыў вясковую школу ў мяст. Свіслач Бабруйскага пав. Мінскай губ. (1915), Самарскі геолага-разведвальны інстытут (1933). У ЧК з 1934. З сак. 1937 — оперупаўнаважаны 3-га аддзела УДБ НКВД БССР. З 9.12.1937 — нам. начальніка 2-га аддзялення 3-га аддзе-

[1] НАРБ, ф.4п, в. 21, с. 1702, л. 5–7, 16–18.

ла УДБ НКВД БССР. З 1938 — начальнік аддзялення 3-га аддзела УДБ НКВД БССР. Узнагароджаны трыма ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнамі Леніна, Нахімава і інш. У 1946 паніжаны ў пасадзе і выключаны з партыі за прысваенне грошай, выдадзеных для апаратыўных мэтаў. 26.11.1954 звольнены з органаў за «дыскрэдытацыю звання кіраўнічы работнік МУС»).

**ГЕПШТЕЙН Александр Михайлович** (н. ў 1908 ў Адэсе ў сям'і адваката (да 1920 г. члена партыі кадэтаў); атрымаў сярэднюю адукацыю; у 1932 уступіў у ВКП(б); у АДПУ з 1925; жыў у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 32, кв. 5; да арышту начальнік 3-га аддзела УДБ НКВД БССР, лейтэнант дзяржбяспекі (1936–38); дапытваў С. Гесена і інш.; арыштаваны 27.12.1938; асуджаны да ВМП).

З абвінаваўчага заключэння па крымінальнай справе № 48805:

*«По указанию Гепштейна производились аресты по национальному признаку: арестовывали поляков, латышей, немцев… без наличия на них компрометирующих материалов. Аресты производились в массовом порядке… Достаточно было, чтобы в агентурном донесении указано, что поляк или уроженец Польши, как Гепштейн накладывал резолюцию — арестовать…*

*По непосредственному указанию Гепштейна и лично Гепштейном к арестованным применялись незаконные методы следствия, в ряде случаев садистские [пытки], вследствие чего имели место показания арестованных с оговором самих себя…*

*Массовое избиение арестованных в 3-м отделе продолжались до мая 1938… Арестованных избивали резиновыми нагайками, сажали на ножку опрокинутой табуретки и другие острые вещи… Наряду с тем, Гепштейн сам применял садистские методы допроса… Применение методов физического действия и садизма к арестованным доходило до того, что арестованных форменным образом уродовали… 21 августа 1938 года арестованный Скибо П. М. поступил в тюремную больницу города Минска с разрывом мочевого пузыря и травматическими контузиями. Арестованный Польто П. И. 31 августа 1938 года поступил в тюремную больницу города Минска с травмами у правой паховой области. Арестованный Сикерич К. В. 25 июля 1938 года поступил в тюремную больницу города Минска с явлениями обильных кровоподтеков в области паховых складок мошонки и члена, а также обилием кровоподтеков плечевого пояса…*

*Также на следствии убивали — били насмерть. На следствии были убиты арестованные Шабан И. С., Овечко М. С. и другие… Трупы убитых по указанию Генштейна не вскрывались в целях скрыть действительные причины смерти…*

*Допросы осужденных производились путем зверских, жесточайших избиений... В кабинетах стоял сплошной рев и крики... Людей на носилках выносили в тюремную больницу... С лета 1938 избиение из кабинетов было перенесено в камеры... Арестованных ставили лицом к стене и заставляли стоять всю ночь... Открывали парашу, наклоняли к ней лицом... Если арестованный поднимал голову, то его били по голове...*

*Вследствие вышеизложенных физических и садистских мер воздействия на арестованных... уже приговоренных к ВМН и оставленных Гепштейном, видно, что Гепштейн этим преследовал цель, чтобы от каждого арестованного получить показаний как можно больше, на большее количество людей, что и делалось. Из проверенных арестованных 38 человек (которые дали показания уже после приговора к ВМН) дали показания на 3489 человек; из них: Юзефович С. И. дал показания на 183 человека, Шнейдер Я. А.*[1] *— также на 183, Тарашкевич Б. А.*[2] *— на 249 человек, Спорин — на 241 человека, Жилинский — на 244 человека и т. д.*

---

[1] Шнэйдар Якаў Абрамавіч [1907, Цеханаў, Польшча — 27.11.1938, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. дырэктара сектара завочнага навучання МВПІ. Арыштаваны 29.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 20, кв. 1. Падчас следства падвяргаўся нечалавечым катаванням. Асуджаны «тройкай» НКВД 12.4.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Ш. № 24515-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. 8.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 20, кв. 1 арыштавана настаўніца Мінскай вячэрняй школы № 12 Фромберг Бэла Рыгораўна (н. ў 1906 у Беластоку, цяпер Польшча; атрымала вышэйшую адукацыю), жонка Якава *Шнэйдара*. 11.9.1939 асобай нарадай НКВД асуджана за «сувязь з агентам польскай разведкі» да 5 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы яе лёс невядомы. Рэабілітавана 31.5.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа Ф. № 25842-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[2] Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч [псеўданімы: Адам Навука; «Тарас на Парнасе»; Я.Тарас; Тарас Язычнік; Тарас Навіна (?); Białorusin; 8(20).1.1892, засценак Мацюлішкі Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер Вільнюскі р-н, Літва — 29.11.1938, Мінск, НКВД], грамадскі і паліт. дзеяч, мовазнавец, перакладчык, публіцыст. У 1911 скончыў 2-ю Віленскую гімназію, у 1916 — гісторыка-філалагічны ф-т Петраградскага ун-та. У бел. друку выступаў з 1913. У 1916–18 — на кафедры рускай мовы і славеснасці Петраградскага ун-та. З 1917 адзін з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады, з 1918 — Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1918 Т. выдаў «Беларускую граматыку для школ»,

*Гепштейн даже тех людей не освобождал, которые явно ошибочно были арестованы, т. е.* [когда] *вместо одного арестовывали другого – однофамильца»*[1].

**КОРОТКЕВИЧ** (афіцэр дзяржбяспекі, нам. начальніка 3-га аддзялення 4-га СПА (ліст. 1936); падпісваў пастановы аб арыштах; катаваў на допытах Міхася Багуна, Платона Галавача і інш.).

**СЕРЫШЕВ Василий Михайлович** (н. ў 1902 у Іркуцку ў рабочай сям'і; атрымаў пачатковую адукацыю; у 1923 уступіў у ВКП(б); у ЧК-АДПУ-НКВД з 1921; жыў у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 32, кв. 12; да арышту нам. начальніка 3-га аддзела НКВД Гепштэйна (1936–1938), лейтэнант дзяржбяспекі; катаваў на допытах Сымона Баранавых, Сяргея Грахоўскага і інш.; асуджаны да 5 гадоў ППК без пазбаўлення правоў).

З абвінаваўчага заключэння па крымінальнай справе № 48805 (ад 2.10.1939):

*«При допросе арестованных Серышев подвергал последних всевозможным пыткам и садистским издевательствам. К примеру: арестованного Гринштейна*[2].

---

якая адыграла значную ролю ў нацыянальнай асвеце. У 1919 выкладчык бел. і грэчаскай моў у МПІ. У тым жа годзе Т. быў арыштаваны бальшавікамі. У 1920 старшы рэферэнт дэпартамента асветы Сярэдняй Літвы. У 1921–22 дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў ТБШ. У 1922 абраны дэпутатам польскага сейма, узначаліў у ім Беларускі пасольскі клуб. Актыўна выступаў з трыбуны сейма ў абарону інтарэсаў бел. народа. У 1925 старшыня Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Арыштаваны 14.12.1927. У маі 1928 на «Працэсе 56-і» асуджаны да 12 гадоў турмы. У 1928 абраны акадэмікам АН Беларусі. У 1930 вызвалены паводле распараджэння прэзідэнта Польшчы. Зноў арыштаваны 5.2.1931. У ліст. 1932 асуджаны да 8 гадоў катаржнай турмы. Падчас знаходжання ў турме пераклаў на бел. мову паэму А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». З верас. 1933 па абмене палітвязнямі жыў у СССР. «Бронюсь, куды ты ідзеш?» — словы, кінутыя драматургам Францішкам Аляхновічам Б. Тарашкевічу падчас іх абмену на савецка-польскай мяжы 5.9.1933. Працаваў у Міжнародным аграрным інстытуце ў Маскве. Арыштаваны НКВД 5.5.1937. Падчас следства падвяргаўся нечалавечым катаванням. Асуджаны 5.1.1938 «двойкай» НКВД і Пракуратуры СССР да ВМП. Рэабілітаваны 26.1.1957. Імем Т. названы вуліцы ў Маладзечне і Радашковічах, ліцэй у Бельску (Польшча).

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1703, л. 1–33.

[2] Грынштэйн Хема Барысавіч [1907, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], журналіст. З сям'і рабочага. Меў нясконча-

*Серышев ходил по кабинетам следователей и избивал арестованных до потери сознания: Шидловского, Рассказова, Красильникова и других. Допрошенный по делу Шидловский показал:*

*«В середине сентября 1937 года я находился под следствием; мое дело вел следователь Кауфман. К нему для избиения меня заходил Серышев. Серышев меня лично избивал два раза. Первый раз он меня бил под ложечку кулаками (пока я не упал и не потерял сознание). Будучи приведенным Кауфманам в чувство, я начал кричать. Серышев стал мне, лежащему на полу, ногой на горло, а затем всунул в рот носок ботинка. После этого высыпал из плевательницы мне на лицо мусор.*

*Второй раз Серышев меня бил плечами об стенку и, взяв за рукава гимнастерки, давил коленом в живот. Серышеву я заявил, что зря избиваете честного коммуниста. Он ответил: Мы тебя совсем убьем и отвечать не будем...»*

*В декабре 1937 года Серышев вместе с Цейтлиным при допросе арестованного Гринштейна к последнему применяли садистские методы воздействия: били кулаками по лицу, били ногами в живот, сажали на ножку перевернутой табуретки. В результате такого допроса Гринштейн дал вымышленные показания...*

*Серышев незаконно письменными распоряжениями оставлял осужденных к ВМН для дальнейшего допроса и допрашивал их исключительно садистскими методами...»* [1]



**КАУФМАН Залман Исаакович** (н. ў 1900 у Магілёўскай губ. у сям'і яўрэйскага рабочага. Скончыў прыватную яўрэйскую гімназію (1918). У ЧК з 1920. Памочнік упаўнаважанага Гомельскага аддзялення АДПУ БССР, упаўнаважаны Магілёўскай, потым Бабруйскай акругі, Жлобінскага, Парычскага, Рагачоўскага, Рэчыцкага р-наў. Са студз. 1935 — начальнік СПА УДБ Віцебскага гарадскога аддзялен-

ную сярэдне-спецыяльную адукацыю. У 1930-я г. рэдактар шматтыражкі Бабруйскага лесакамбіната. Арыштаваны 2.9.1937. Абвінавачваўся ў «контррэвалюцыйнай дзейнасці». Вызвалены да суда. Рэабілітаваны Бабруйскім НКВД 15.12.1938. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Г. № 5781 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1703, л. 24–33.

ня НКВД. Са снеж. 1936 нам. начальніка 3-га аддзялення УДБ НКВД БССР. Катаваў на допытах падследных. З 9.12.1937 начальнік УНКВД Палескай вобл. Арыштаваны ў 1939).

**ВАСИЛЬЕВ Александр Алексеевич*** (н. ў 1897; у НКВД з 1921, лейтэнант дзяржбяспекі, начальнік 8-га аддзялення 3-га аддзела НКВД (1936–1937); дапытваў Сяргея Ракіту і інш.).

**МОРОШЕК Зорух Мейерович*** (лейтэнант дзяржбяспекі, начальнік упраўлення НКВД на Беларускай чыгунцы; начальнік аддзялення 4-га аддзела УДБ НКВД БССР; дапытваў шэраг беларускіх пісьменнікаў і гаспадарчых дзеячаў (Г. У. Стрэле і інш.)).

**МІРКІН*** (начальнік Мінскай турмы).

**ПЕРСКИЙ Михаил Абрамович** (н. ў 1904; лейтэнант дзяржбяспекі (1936–1938); верагодна, начальнік аднаго з аддзяленняў 4-га СПА; катаваў на допытах Змітрака Астапенку, Сымона Баранавых, Анатоля Вольнага, Міхася Зарэцкага, Васіля Каваля, Яна Скрыгана, Юлія Таўбіна, Уладзіміра Хадыку і інш.).

З ліста С. Гваздзецкага сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

«*Двадцать месяцев сижу в Минской тюрьме под следствием… В ноябре 1937 г. меня вызвали на так званый допрос, где пытками заставили написать под диктовку следователя Берского* (Перского. — **Л. М.**), *что я враг народа, вредитель… Об этом насилии и издевательствах я написал наркому Берману, но очевидно, мои заявления дальше следователя не пошли. Я писал наркому Берману, что большая надстройка над воротами тюрьмы превратилась в застенок, где кровью людей политы стены, от криков их движутся окна…*»[1]



**СОКОЛОВ Алексей Иванович** (н. 1.10.1897 у Яраслаўскай губ. (Расія) у сям'і шаўца. Скончыў гарадское вучылішча ў Яраслаўлі. У ЧК з 1922. З 1936 — начальнік аддзялення 4-га СПА УДБ НКВД БССР. З 16.5.1937 — нам. начальніка 4-га СПА, нам. начальніка Мінскай турмы; разам з энкаведыстамі

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1805, л. 95–96.

Абрамчыкам і Гарбацэвічам спаліў некалькі дзесяткаў тысяч рукапісаў беларускіх літаратараў. З 1939 — нам. начальніка УНКВД Віцебскай вобл. Загінуў падчас 2-й сусветнай вайны.

## СЛЕДЧЫЯ

**АБРАМОВ*** (афіцэр дзяржбяспекі, нам. начальніка Магілёўскага гарадскога аддзела НКВД[1], потым у Мінску; арыштоўваў Міхася Зарэцкага і інш.).

**АВЕРБУХ** (следчы, арыштоўваў і дапытваў Валерыя Маракова і інш., катаваў на допытах падследных).

**АЛЕКСЕЕВ** (следчы).

З ліста У. Луканскага[2] пракурору па асобых справах БССР:

*«Не предъявляя обвинения, меня направили в Минск, в тюрьму НКВД; там приблизительно через месяц вызвали на допрос.*

*Следователь, который допрашивал первым (на мою просьбу назвать свою фамилию ответил грубой бранью), на мой вопрос: «За что я арестован?» — стал мне доказывать, что если арестован, то значит, преступник… и если я хочу остаться в живых, если не хочу превратиться в отбивную котлету и калеку, то должен признаться…*

---

[1] З ліста П. Панамарэнкі Г. Малянкову (ад 13.12.1938) «О недостатках и извращениях в работе органов НКВД Белоруссии, вскрытых в связи с проверкой кадров»:

*«Подозрение о том, что в Могилевском областном управлении НКВД существовала мародерская группа... подтвердилось. Разоблачены шесть сотрудников во главе с комендантом управления. У членов группы на сберкнижке обнаружены десятки тысяч рублей, десятки пар дамских туфель, мужской обуви, шубы, 40 отрезов сукна и т. д. Думаю, что за счет только присвоения вещей расстрелянных такие суммы появиться не могли. Подозреваю... фиктивные расстрелы и освобождение врагов в результате подкупа этой группы».*

[2] Луканскі Уладзімір Сяргеевіч [1898, мяст. Ляхавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Брэсцкай вобл. — ?]. З пачатку 1-й сусветнай вайны з сям'ёй знаходзіўся ў бежанстве ў Расіі. У 1930-я г. працаваў настаўнікам СШ ў г. Сураж Віцебскай вобл. Быў жанаты, меў двое дзяцей. Арыштаваны 12.1.1938 падчас заняткаў у школе. Асуджаны за «шпіянаж на карысць Польшчы» да 10 (?) гадоў ППК. Этапаваны ў Горна-Шорскі канцлагер НКВД Томскай чыгункі. Далейшы лёс невядомы.

*Когда я начал доказывать свою правоту, то следователь позвонил по телефону и в кабинет явилось два лица, начавшие меня избивать до тех пор, пока я не согласился давать такие показания, какие требовал следователь…*

*Через некоторое время меня вызвал следователь Алексеев, который, применяя методы пыток и побоев, заставил меня подписать протокол, в котором вся моя педагогическая деятельность представлена как вредительская в духе троцкизма…»*[1]

**БАКУНИН** (следчы, «працаваў» у адным кабінеце з *Нячаевым*).

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«В декабре 1938 г. следователь Бакунин… на мое требование дать возможность написать заявление товарищу Сталину издевательски ответил: «Заявление Сталину — это…* (далей грубая лаянка. — **Л. М.**)»[2].

**БАРСУКОВ** (следчы, катаваў на допытах падследных).

**БАСИНКЕВИЧ** (следчы, лейтэнант дзяржбяспекі (ліст. 1936); дапытваў Сяргея Дарожнага, Васіля Каваля, Яна Скрыгана, Васіля Сташэўскага, Уладзіміра Хадыку і інш.).

**БИКСОН.**

**БОНДАРЕНКО** (следчы).

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«С 7 по 11 июля — 4 суток — я стоял на «конвейере» у следователя Бондаренко. На конвейере подследственный стоит в солдатской стойке, со сжатыми ногами, сдвинутыми носками и опущенными вдоль корпуса руками. Ему не дают в это время двигаться с места, не дают ни пищи, ни воды. День сменяет ночь, сутки сменяют сутки, а подследственный все стоит в таком положении без движения и без сна. Следователь в это время уговаривает писать. У меня на конвейере сменялись три следователя…*

*На конвейере опухают руки, ноги. Человек после конвейера не может идти, падает. От отсутствия сна и невероятного физического и нервного переутомления наступают дикие зрительские и слуховые галлюцинации»*[3].

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1806, л. 136–139.

[2] Тамсама, с. 2547, л. 7.

[3] Тамсама, л. 17–18.

**БУРМИСТРОВ** (следчы, катаваў на допытах падследных).

**БЫСТРОВ Николай Михайлович*** (н. ў 1908 у сям'і тульскага рабочага. У ліст. 1917 уступіў у чырвонагвардзейскі латышскі атрад спецпрызначэння ў Смольным у Петраградзе. Браў удзел у ліквідацыі белагвардзейскіх бандаў і ў разгоне Устаноўчага сходу. У сак. 1918 атрад пераехаў з урадам у Маскву-Крэмль, дзе Б., паводле яго слоў, «неаднаразова даводзілася ахоўваць кабінет У. І. Леніна». Браў удзел у падаўленні мяцяжу анархістаў і паўстанні левых эсэраў. Асабіста ўдзельнічаў у вызваленні з палону левых эсэраў у Пакроўскіх казармах Ф. Э. Дзяржынскага. У маі 1919 паступіў на работу ў органы ЧК, у якіх на розных аператыўных пасадах працаваў да дня арышту. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР ад Старадарожскай выбарчай акругі. Арыштаваны, верагодна, у 1938. Абвінавачваўся як «член нацыянал-фашыстоўскай латышскай шпіёнскай арганізацыі».

**ВИЛЬДФЛУШ** (ВИЛЬФЛУШ) (следчы, лейтэнант дзяржбяспекі; дапытваў Сяргея Дарожнага і інш.).

**ВИЛЬКО.**

**ВИНЬКОВЕЦКИЙ** (следчы, катаваў на допытах падследных).

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Неоднократно, примерно с 4 до 6 утра меня избивала «бригада». Собирались следователи Морев, Виньковецкий, Годин, Крупеньков и еще два, фамилии которых не знаю. ...Лебедев, блондин с вьющимися волосами, тонкими чертами лица, выделялся в бригаде своей жестокостью. «Бригада» била, одновременно применяя различные приемы: один рвал волосы, другой давил на горло, третий оплевывал лицо, остальные били кулаками и сапогами по голове, груди, животу, ногам. Это «бригада» играла в «футбол», помещая меня в центре, били по очереди сапогами — кто куда попадет»*[1].

**ВИХОРЕВ Фома Антонович** (сяржант дзяржбяспекі; н. ў 1908 у Маскве ў сям'і рускага рабочага; атрымаў пачатковую адукацыю; уступіў у ВКП(б) (1931); у АДПУ з 1932; удзельнічаў у арыштах Міхася Зарэцкага і інш.; абшукваў арыштаваных пры паступленні ва ўнутраную турму НКВД; катаваў на допытах падследных; асуджаны да 10 гадоў ППК).

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 22.

З прысуду № 78 па крымінальнай справе № 99 (ад 25.5.1939):

*«Вихорев, работая следователем УГБ НКВД СССР, в период сентябрь-декабрь 1937 г., пользуясь своим служебным положением, при допросах арестованных Потовича и Чикилевского применял методы физического воздействия, избивал их, сажал на кончик стула и на ножку перевернутого стула, таким путем заставлял их давать на себя вымышленные показания... Вихорев применял методы физического воздействия к тем арестованным, которые к нему никакого отношения не имели, ходил по кабинетам других следователей и избивал арестованных Шидловского, Басинкевича и Рассказова.*

*В июне 1938 г. обвиняемый Вихорев был переведен на должность начальника 4-го отделения Витебского УНКВД. Зная о том, что сотрудники его отделения занимаются избиением арестованных, не принимал мер к искоренению незаконных действий, а наоборот, сам принимал участие в избиении арестованных Каца, Миклушова[1], Лобача и Эстрина[2]. Кроме того, обвиняемый Вихорев занимался производством незаконных арестов, в результате его преступной деятельности невинные люди попадали в тюрьму: Онескович, Богорад (?), Дульченок, Страш, Зильберг...»*[3]

---

[1] Міклушоў Герасім Анісімавіч [1894, в. Багданава, цяпер Сенненскі р-н Віцебскай вобл. — ?], калгаснік. З бел. сялянскай сям'і. Працаваў у калгасе «Ударнік». Быў жанаты, гадаваў чацвёра дзяцей. Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны 25.9.1937 тройкай НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Каргапольскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 3.9.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 16.4.1960 Віцебскім абл. судом. Асабовая справа М. № 9449-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

[2] Эстрын Веньямін Айзікавіч [1905, Магілёў — ?], вайсковец. З яўрэйскай рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1925). На момант арышту нам. камандзіра палкавой школы 188-га зянітна-артылерыйскага палка, старшы лейтэнант. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 18.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 128а. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 28.5.1938 за «контррэвалюцыйную трацкісцкую агітацыю» да 6 гадоў ППК. Пазбаўлены воінскага звання. Этапаваны ў Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 19.8.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 17.4.1958 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Э. № 12040-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[3] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1702, л. 13.

**ВЛАСОВ** (следчы, лейтэнант дзяржбяспекі; дапытваў Алеся Звонака і інш.).

З ліста П. Раднова[1] сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Ни Левину, ни Вихореву, ни Власову я не давал указания создавать режимные камеры с агентурой якобы для избиения арестованных, вынуждая их на оговор себя и других...*

*Не знал о допускаемых ими извращениях в работе...*

*Честно веря директивам и указаниям оказавшегося вражеского руководства Наседкина и без всякого умысла слепо выполняя их... допустил ряд ошибок и нарушений в силу своей малоопытности и политической близорукости»*[2].

**ВОЛКОВ** (следчы, лейтэнант дзяржбяспекі; верагодна, да службы ў Мінску працаваў у Оршы; катаваў на допытах Саламона Левіна, Валерыя Маракова, Барыса Мікуліча і інш.).

**ВОЛОЦОРУБ** (следчы).

З ліста М. Несцяровіча сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«После ареста меня в тот же день и последующие дни и ночи допрашивали. При допросах применялись физические... меры воздействия. Говорили со мной начальник 4-го отдела Ермолаев и его зам. Кунцевич. После всего в одну ночь мне дано было 5 очных ставок. На них присутствовали Ермолаев, Быховский, Кунцевич и 2 следователя. Протоколы ставок диктовались по очереди Кунцевичем, Быховским, Волоцорубом... Я вынужден был дать письменно показания, что я контрреволюционер, шпион, фашист, террорист, вредитель и пр. мерзость. Я оклеветал себя...»*[3]

**ВОЛЬФСОН** (арыштоўваў і дапытваў Барыса Мікуліча і інш.).

---

[1] Радноў Пётр Якаўлевіч, чэкіст. Н. ў 1902. З рускай сялянскай сям'і. Атрымаў пачатковую адукацыю. У ЧК з 1920. У ВКП(б) з 1924. Служыў у Маскве (да жн. 1937), Іванаве (да крас. 1938). З мая 1938 начальнік УНКВД па Віцебскай вобл. Дэпутат Вярхоўнага савета БССР. Узнагароджаны́мі ордэнамі і медалямі. Арыштаваны. Асуджаны 27.9.1939 да ВМП.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1807, л. 57–70.

[3] Тамсама, с. 1805, л. 124–125.

**ВОЛЬФТРУБ Мейер Абрамович** (следчы, дапытваў М. Дарожкіна[1] і інш.; звольнены з органаў НКВД БССР у лют. 1939; падчас 2-й сусветнай вайны зноў у НКВД; канчаткова звольнены ў ліст. 1946 «па стане здароўя»; жыў у Мінску).

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Заместитель начальника 4-го отдела Кунцевич и следователь Вольфтруб доказывали мне почти в одних и тех же выражениях, что «НКВД под руководством Ежова ошибок не делает. Раз ты арестован, будешь неизбежно осужден»*[2].

*«27 июня 1938 г. следователь Вольфтруб предъявил мне обвинения по ст. 69 (вредительство), 70 (террор), 76 (контрреволюционная агитация), указав, что я «изобличаюсь как активный участник нацфашистской организации, вредительстве в области народного образования». Когда я… сказал, что в области народного образования никогда в жизни не работал… Вольфтруб* [ответил]: *«Могу записать тебе правотроцкистскую организацию — тебе же будет хуже… Все равно кем-нибудь будешь…»*[3]

З ліста М. Вольфтруба (ад 11.12.1938) сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

---

[1] Дарожкін Мікалай Апанасавіч [14.12.1905, в. Гарохаўка, цяпер Бранская вобл., Расія — 27.4.1993, Мінск], міколаг і фітапатолаг. Акадэмік АН БССР (1962). Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1929). З 1931 працаваў вучоным спецыялістам, загадчыкам лабараторыі, дырэктарам Інстытута біялогіі АН БССР. Арыштаваны 26.6.1938. Абвінавачваўся ў «шпіянажы і арганізаванай антысавецкай дзейнасці». Пракуратурай БВА справа спынена. Вызвалены. Рэабілітаваны 9.2.1940. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. З 1948 дырэктар Інстытута біялогіі АН БССР, з 1959 дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства, у 1976–87 загадчык лабараторыі Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР.

*«Непонятна роль профессора Дорожкина, который очень невнятно и туманно говорил о том, что следователь Вольфтруб предлагал ему какое-то сотрудничество, что его, Дорожкина, скоро освободят потому, что он многое знает, что он дал 7 очных ставок и т. д. Член партии Антоненко рассказывал, как Дорожкин уговаривал его на очной ставке: «Иван Михайлович, признайся. Ведь мы состояли с тобой в контрреволюционной организации»* (НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 30).

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 6.

[3] Тамсама, л. 12.

*«*[Почему] *руководители нац. фашистской организации по сей день находятся на свободе (Купала, Колас, Вольфсон*[1] *...) — для меня совершенно непонятно»*[2].

**ВЫСОЦКИЙ*** (следчы, катаваў на допытах падследных).

З ліста ў ЦК КП(б)Б былога камандзіра 1-га кавалерыйскага эскадрона Райхліновіча Яфіма Мацвеевіча[3]:

*«У лістападзе 1937 года мяне прывялі а 1-й гадзіне ночы на допыт і пачалася расправа. Я быў звязаны ва ўтаймавальнай кашулі і збіты да страты прытомнасці. У снежні нада мной зрабілі інсцэніроўку абразання. А 2-й гадзіне ночы пры допыце мне прапанавалі спусціць нагавіцы... Я не пагадзіўся, але пасля жорсткага збівання спусціў нагавіцы і адзін са следчых выняў нож і прымусіў, каб я палавы орган паклаў на табурэтку, але я гэтага не зрабіў, і тады яны схапілі мяне за палавы орган і пачалалі цягаць па пакоі да страты прытомнасці...*

*На наступны допыт, на Новы год, г. зн. 1 студзеня 1938 года, мяне выклікалі... таксама роўна а 2-й ночы, прымусілі стаяць на зважай і адзін* [са следчых] *стаў на зэдлік і пачаў мачыцца мне ў вуха. У гэтым жа месяцы таксама а 1-й гадзіне ночы* (у 30-градусны мароз. — **Л. М.**) *пры знарок адчыненых вокнах і дзвярах мяне распранулі да адной кашулі, налілі за каўнер 2 графіны вады і прымусілі сядзець да 2 гадзінаў раніцы. На мне абсалютна ўся вопратка змерзла, я змерз да страты прытомнасці. Дадам, што следчы Высоцкі, які мяне збіваў і здзекаваўся з мяне, прымушаў*

---

[1] Вальфсон Сямён Якаўлевіч [27.5(8.6).1894, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 1941, Мінск], дзяржаўны дзеяч, філосаф, літаратуразнавец, педагог. У 1919 скончыў Кіеўскі ун-т. З 1921 прафесар БДУ. У 1931—38 дырэктар Інстытута філасофіі і права. Як літаратурны крытык выступаў з пазіцый вульгарнага сацыялагізму, абвінавачваў бел. пісьменнікаў у нацыяналізме. Калі ў 1938 у НКВД дайшла чарга і да выкрывальніка нацдэмаў, знаёмыя лекары схавалі В. у бальніцы для псіхічна хворых, дзе ён і адседзеўся. У пачатку 2-й сусветнай вайны схоплены і забіты фашыстамі.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1398, л. 57.

[3] Н. ў 1900 у в. Пранчэйкава Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. Да арышту камандзір 1-га кавалерыйскага эскадрона. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны ў Мінску 15.9.1937. Асуджаны 1.9.1938 асобай нарадай пры НКВД за «сувязь з польскай разведкай» да 3 гадоў ППК. Дадому вярнуўся інвалідам. Рэабілітаваны 24.4.1990 пракуратурай БВА. Асабовая справа Р. № 30959-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

*мяне стаяць на зважай, трымаць тоўстую кнігу Евангелля, хрысціцца і маліцца. Гэта працягвалася 6 месяцаў...»*

**ГЕРАСИМОВИЧ**.

**ГОДИН** (следчы, катаваў на допытах падследных).

**ГОРЕМЫКИН** (оперупаўнаважаны).

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Уполномоченный Горемыкин издевательски улыбался, рассматривая взятый у меня при обыске и аресте мой партийный билет № 0855202»*[1].

**ДОВГАЛЕНКО Василий Ал**. (следчы, лейтэнант дзяржбяспекі; да службы ў НКВД працаваў настаўнікам; дапытваў Анатоля Вольнага, Цішку Гартнага, Сяргея Грахоўскага і шэраг іншых беларускіх пісьменнікаў).

З успамінаў С. Грахоўскага:

*«Мяне дапытваў следчы Даўгаленка. Пазней яму «даверылі гутарыць» з самім Цішкам Гартным...*

*У чарговы раз прывялі да Даўгаленкі ў кабінет, рукі назад, табурэтка стаіць. Ён бярэ нейкія дакументы са стала і тыкае мне ў твар:*

*— Ведаеш яго?*

*— І Цішка Гартны, камуніст з 1912 года, арыштаваны? — не змог стрымаць я здзіўлення.*

*— А што? Ён жа адзін з кіраўнікоў контррэвалюцыйнай арганізацыі, і ты павінен быць нам вельмі ўдзячны, што своечасова цябе перахапілі і ворагі народа не паспелі ўцягнуць пачынаючага паэта ў антысавецкую дзейнасць, а яны ж на гэткіх, як ты, і разлічвалі...*

*У мяне дома засталася маладая жонка, таксама як і я, студэнтка. Яна была на апошнім месяцы цяжарнасці, а яе пасля майго арышту выкінулі з кватэры. Я ўмаляю, прашу сказаць, нарадзіла яна ці не, хвалююся, таму што пры родах тады шмат жанчын памірала.*

*— От прызнаецеся, падпішаце ўсе паперы, што трэба, тады і даведаецеся...»*

**ДРОЗДОВ Александр Евсеевич*** (н. ў 1905; у НКВД з 1926, оперупаўнаважаны, арыштоўваў і дапытваў Барыса Мікуліча і інш.).

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 4.

**ЕВТУШЕНКО** (следчы, катаваў на допытах падследных[1]).

З ліста І. Смірнова[2] Чорнаму[3] (ад 24.12.1939):

*«У моего теперешнего соседа по квартире* (у ссылцы ў Паўладары Казахскай ССР. — **Л. М.**) *следователем Евтушенко выбита в ухе барабанная перепонка...*

*Следователи-«молотобойцы» в своих кабинетах, превращенных в кровавые застенки, добивались от арестованных огульного сочинения вымышленного, несуществующего преступления, главным образом по части шпионажа, диверсии, террора и т. д.»*[4].

**ЕРМАКОВ** (следчы 3-га аддзела УДБ НКВД БССР; арыштаваны і асуджаны ў 1939).

З ліста асуджанага К. С. Румянцава сакратару ЦК ВКП(б) Г. Малянкову:

*«Следователи Малаханов и Ермаков для того, чтобы из меня... сделать шпиона, применяли следующее:*

*Все допросы систематические сопровождались запугиванием расстрелом, побоями и оскорблениями.*

*В период следствия, т. е. со дня ареста 14.5.1939 и по день суда 29.7.1939 содержался в сырой камере-одиночке. Со дня ареста по 8.6.1939 содержался в камере одиночке № 32 Минской тюрьмы, а с 8.6.1939 по 29.7.1939 — в камере-одиночке № 8 внутренней тюрьмы НКВД БССР (американка).*

*С 12.6.1939 по 17.6.1939 включительно содержался без всякого основания в сыром и темном карцере на одной воде с 400 гр. хлеба.*

*В период следствия мне не разрешали спать, систематически на всю ночь вызывали на допросы, а днем по установке следователей спать запрещалось...*

*Издевались над моей семьей, проживающей в Смоленске. До сегодняшнего дня задержали у себя написанную мною доверенность на получение расчета по месту моей работы ДТО НКВД*

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1706, л. 5–6.

[2] Смірноў Іван Сямёнавіч [8.1.1906, с. Машына, Расія — ?]. З рускай сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Ленінградзе. З 1933 інжынер-электрык Дзяржплана БССР. Арыштаваны 13.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Старажоўская, д. 37, кв. 6. Асуджаны 5.8.1939 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Паўладар Казахскай ССР. Працаваў энергетыкам на хлебакамбінаце. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 31.5.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа С. № 25574-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[3] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[4] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2184, л. 227, 238.

*Западной ж.д. г. Смоленска. 8.7.1939 в период допроса на мою просьбу об отправлении доверенности моей жене следователь Малаханов и Ермаков, разговаривая со мною, нецензурно отзывались о моей жене, говоря, чтобы я о семье не беспокоился, т. к. жена поторгует собой и денег для семьи заработает. Кроме этого, Ермаков в период этого же допроса, обращаясь ко мне и к Малаханову, говорил: «Румянцев, ты напрасно беспокоишься о жене, ты ее больше не увидишь. Вот Малаханов едет в Смоленск, поручи ему, и он твою жену отдерет…*

*За короткий период я заболел почками и сердцем…»*[1]

**ЕФИМОВ** (следчы 3-га аддзела НКВД, катаваў на допытах падследных[2]).

**ЗАВАДСКИЙ Владимир Николаевич** (лейтэнант дзяржбяспекі; катаваў на допытах Сяргея Знаёмага, Валерыя Маракова і інш.).

З архіва КДБ Беларусі:

*«Обзорная справка*

*По архивному следственному делу № 71068 по обвинению бывшего зам. начальника Особого отдела Белорусского военного округа Завадского Владимира Николаевича, 1906 года рождения, уроженца гор. Смоленска, и других, всего 4 человека.*

*Завадский В. Н. Военным трибуналом Белорусского Особого военного округа 3–7.11.1940 года* (5 дзён судзілі ката, — не 15 хвілін, як нявінна забітых А. Вольнага, П. Галавача, А. Дудара, Ю. Лявоннага, В. Маракова, М. Чарота і інш. — **Л. М.**) *осужден по ст. 69 УК БССР с санкции ст. 64 УК БССР к ВМН — расстрелу (т.1 л.д.651).*

*Судом Завадский признан виновным в том, что, находясь с ноября 1937 года по сентябрь 1938 года в должности начальника 5-го отдела НКВД БССР, извращал революционную законность и методы ведения следствия путем подлогов и фальсификации протоколов допросов, культивирования и огульного применения к следственно-заключенным мер физического воздействия, ориентировал подведомственные ему особые органы на поголовные аресты и избиения лиц комначсостава, уволенных из РККА, и допускал другие извращения в следственной работе (т.1 л.д.648–651).*

*Обзорную справку составил:*

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1706, л. 72–81.

[2] Тамсама, с. 1703, л. 24.

*Начальник 6 сектора Особого отдела комитета Госбезопасности при СМ СССР по Белорусскому военному округу полковник —*

*Голубь, 31 июля 1956 года*».

**ЗАРУБИН**.

**ЗИНОВЬЕВ** (начальнік аддзялення Мінскай турмы[1]).

**ИЗМАЙЛОВ** (следчы).

З ліста О. Ціманнена[2] сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

«*Следователь Измайлов уже с начала следствия, когда я был в его физической разработке, сказал мне, что сделает из меня шпиона искусственно…*»[3]

**КАЛЯМИН** (следчы).

**КАЦ Марк Исаевич** (н. ў 1899), лейтэнант дзяржбяспекі; у НКВД з 1930-х г. да 1954; праводзіў масавыя незаконныя арышты, дапытваў Георгія Бондара (загадчык сельскагаспадарчай секцыі (аддзела) Дзяржплана БССР), Анатоля Вольнага, Міхася Зарэцкага, Васіля Каваля, Янку Нёманскага, Васіля Сташэўскага, Міхася Чарота і інш.).

**КАЦЕВ** (следчы).

З ліста асуджанага К. С. Румянцава сакратару ЦК ВКП(б) Г. Малянкову:

«*На судебном заседании свидетель по моему делу Понкратьева от «своих» показаний отказывалась. Она показала, что у нее эти показания выбили на следствии следователи Кацев и другие, путем запугивания расстрелом, побоями и карцерами. Когда она не дала ложных показаний, то ее посадили на 10 суток в темный и сырой карцер. На допросах издевались. На одном из допросов Кацев поставил перед Понкратьевой условие, что если*

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1706, л. 74–75.

[2] Ціманнен Отта Андрэевіч, фін. У Расіі з 1918. Удзельнік грамадзянскай вайны 1918–1920, удушэння антыбальшавіцкіх Кранштацкага (1921) і Карэльскага (1922) паўстанняў. Скончыў ваеннае вучылішча ў Ленінградзе (1924). Служыў у Чырвонай арміі. Арыштаваны 20.6.1938. У чэрв. 1939 яшчэ знаходзіўся пад следствам у Мінскай турме НКВД. Далейшы лёс невядомы.

[3] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1806, л. 52.

*она даст против меня требуемые показания (причем, Кацев сообщил ей, что я являюсь шпионом и уже арестован. Это он ей сообщил в тот период, когда я был на свободе), то ей сохранят жизнь, а в противном случае расстреляют. Запуганная расстрелом, карцерами, побоями, Понкратьева заявила, что она была вынуждена дать на меня клеветнические показания и оклеветать также других честных лиц. Она показала, что эти показания составлялись при помощи Кацева, т. е. фабриковались»*[1].

**КИСЕЛЕВ** (следчы, кіраўнік апарата асобаўпаўнаважанага НКВД БССР, катаваў на допытах падследных[2]).

**КЛИМКОВИЧ** (катаваў на допытах падследных).

**КОВАЛЕВ** (лейтэнант дзяржбяспекі; дапытваў Сымона Баранавых, Сяргея Дарожнага і інш.).

**КОЗЛОВСКИЙ Анатолий Сергеевич** (н. ў 1897; старшы лейтэнант; праводзіў масавыя незаконныя арышты, дапытваў Міхася Зарэцкага і інш.).

**КОЗЛЮК** (катаваў на допытах падследных).

**КОЛОНУТОВ**.

**КОРШИКОВ** (следчы).

З ліста У. Луканскага пракурору па асобых справах БССР:

*«Следователь Коршиков изменил редакцию протокола и предложил его подписать, угрожая в противном случае заставить сделать это. Не желая подвергнуть себя новым пыткам, я вынужден был выполнить это...»*[3]

**КРАСИКОВ** (следчы).

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Когда 13 июля 1938 меня уводил Морев, зам. нач. 4-го отдела Кунцевич сказал: «Взять его по всем правилам». Следователь Вольфтруб добавил: «Хорошенько, хорошенько его». Впоследствии Вольфтруб неоднократно спрашивал меня: «Я тебя не бил? Помнишь, я тебя никогда пальцем не тронул». Несомненно, что Вольфтруб приказывал избивать подследственных. Член*

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1706, л. 79.

[2] Тамсама, л. 5–6.

[3] Тамсама, с. 1806, л. 138.

*партии с 1918 г. Антоненко*[1]*, недавно освобожденный, рассказывал мне, что Вольфтруб при нем дал распоряжение следователю Красикову бить его, Антоненко, пока не признается»*[2].

**КРУПЕНЬКОВ** (следчы, катаваў на допытах падследных).

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Работник Академии наук БССР Матусевич*[3] *в феврале 1939 г. рассказал мне, что у него следователь Крупеньков вынуждал дать показания на меня»*[4].

**КУЗНЕЦОВ** (верагодна, сваяк «суддзі» Кузняцова; катаваў на допытах падследных).

**КУЛАК** (лейтэнант (?) дзяржбяспекі; дапытваў Змітрака Астапенку, Міхася Багуна, Алеся Звонака, Васіля Каваля, Барыса Мікуліча, Сяргея Ракіту, Юлія Таўбіна і інш.).

**КУНИЦКИЙ В**. (?).

**ЛАЙМАН-САПИЕТ Карл Иванович** (лейтэнант дзяржбяспекі; нам. начальніка аддзела месцаў зняволення НКВД; дапытваў Іларыёна Дуброўскага і інш.; арыштаваны ў 1938. Таксама гл.: інф. пра следчага Цэйтліна на с. 429).

---

[1] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 24.

[3] Матусевіч Мітрафан Рыгоравіч [4(16).12.1900, в. Чарневічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 30.9.1975, Мінск], эканаміст, гісторык. У 1918–22 служыў у Чырвонай арміі (17-я стралковая дывізія ў Віцебску). Уступіў у ВКП(б). Скончыў БДУ (1930). З 1932 працаваў у Інстытуце эканомікі БелАН. У 1934–38 нам. дырэктара Аддзела падрыхтоўкі кадраў БелАН, вучоны сакратар Інстытута эканомікі. Кандыдат гістарычных навук (1936). Арыштаваны ў Мінску 30.7.1938 па адрасе: вул. Маладзечанская, д. 17, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 23.7.1940 за «ўдзел у антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ва Усць-Вымскі канцлагер НКВД Комі АССР (пас. Важаель). Вызвалены (хутчэй за ўсё, з Манчагорскага канцлагера) у 1946. З 1949 у ссылцы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.5.1955. У 1955–71 загадчык сектара Інстытута эканомікі. Даследаваў эканамічную гісторыю Беларусі. Асабовая справа М. № 5973-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ЭГБ*. Т. 5; *Рэпрэсаваныя…*

[4] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 15.

**ЛЕБЕДЕВ** (следчы, катаваў на допытах падследных[1]).

**ЛИТВИНОВ Даниил Иванович** (Исаевич) (н. ў 1903, лейтэнант дзяржбяспекі, у НКВД з 1932 да 1939, праводзіў масавыя незаконныя арышты; дапытваў Міхася Зарэцкага, Сяргея Знаёмага і інш.).

**ЛИХАЧЕВ.**

**ЛИХТАРНИКОВ** (катаваў на допытах падследных).

**ЛУКАШОНОК** (катаваў на допытах падследных).

**МАЛАХАНОВ** (следчы 3-га аддзела УДБ НКВД БССР, катаваў на допытах падследных[2]).

З ліста асуджанага К. С. Румянцава сакратару ЦК ВКП(б) Г. Малянкову:

*«На допросах следователь Малаханов, кроме запугивания расстрелом и побоями, заставлял меня стоять, лишая питьевой воды»*[3].

З ліста асуджанага Г. А. Кашыцына сакратару ЦК ВКП(б) Г. Малянкову:

*«…С 16 февраля 1939 я находился в невменяемом состоянии и болел в течение месяца, однако в таком виде меня вызывали на допросы… а 4-го марта 1939 следователь Малаханов предложил мне, нервно-психическому больному, подписать протокол об окончании следствия»*[4].

**МАНЫЧЕВ** (следчы)[5].

**МАССАРСКИЙ** (следчы, малодшы лейтэнант дзяржбяспекі; катаваў на допытах падследных).

З прысуду № 60 па крымінальнай справе № 43 (ад 26.4.1939):

*«Массарский, занимая должность начальника отделения 3-го отдела УГБ НКВД БССР, в конце 1937 года был командирован в Лепельский горотдел НКВД для практической помощи и руководства следствием по делам проходившей в то время операции… На оперативном совершении… устанавливал нормы для*

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1706, л. 5–6.

[2] Тамсама.

[3] Тамсама, л. 72–81.

[4] Тамсама, л. 21–35.

[5] Тамсама, с. 1805, л. 96.

*каждого следователя, что он должен дать 2 разоблачения в день, вести следствие упрощенным способом. После этих установок Массарский ходил по кабинетам под видом помощи в допросах, на самом деле, когда при допросе арестованные избивались, он не только не прекращал издевательства, а наоборот, сам принимал в этом участие, таскал арестованных за бороду, одевал противогаз, бил галошей, руками и заставлял лаять арестованного и рекомендовал эти методы применять следователям.*

*Работая по агентурной работе, Массарский проводил вербовку лиц неработоспособных, стариков от 60 и выше лет, по этой же агентурной работе занимался фальсификацией, т. е. производил в донесениях дописку «занимался контрабандной деятельностью, ходил в Польшу»*[1].

**МИХЕЙЧИК** (следчы).

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«У меня на «конвейере» сменялись 3 следователя: Бондаренко, Михейчик и третий — фамилию не знаю»*[2].

**МОЛЧАН Григорий Иванович*** (н. ў 1912, у НКВД з 1937, оперупаўнаважаны).

**МОРЕВ Иван Михайлович** (следчы, катаваў на допытах падследных; у 1939 асуджаны ваенным трыбуналам войскаў НКВД БВА да 6 гадоў ППК).

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Раз ты к нам попал* (сказаў Мораў. — **Л. М.**), *тебе сам Сталин не поможет»*[3].

*«Мне пришлось стоять на 45 допросах с 7 июля по 13 августа* [1938] *включительно ежедневно, днем с 11 часов и до 6 часов вечера и ночью с 9 часов вечера до 6 часов утра, кроме пяти суток карцера и выходных дней. Меня подвергали все это время избиениям, пыткам и невероятным издевательствам с целью или добиться от меня ложных показаний по определенной Ермолаевым, Кунцевичем, Быховским и Вольфтрубом программе, или добиться моего физического уничтожения и отправки в сумасшедший дом.*

*...Когда я заявлял, что у меня двухсторонняя грыжа, которая может дать ущемление и смерть, следователь Морев заставлял делать приседания или бил сапогом в живот или пах и*

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1702, л. 11–12.

[2] Тамсама, с. 2547, л. 18.

[3] Тамсама, л. 7.

*обычно отвечал: «Чем скорее у тебя кишки из живота полезут, тем лучше. Меньше хлопот… Подохнешь, напишем акт: «Дело за смертью прекращено»…*

*Обливая меня водой и ставя специально на сквозняк, Морев после нескольких раз такого приема говорил: «Какой ты живучий! Другой недавно от воспаления легких подох…»*[1]

*«С 13 июля по 13 августа включительно я подвергался избиениям, пыткам и издевательствам на допросах следователя Морева. Начались* [они] *ночью 13 июля с того, что Морев свалил меня на пол ударами кулаков по голове, поднял ударами сапог в живот и под бедра, заплевал мне все лицо и глаза, снова свалил на пол кулаком по голове. Так продолжалось несколько раз. Избиение сопровождалось дикой руганью… похабщиной, которую невозможно передать…*

*После этого Морев стал применять ко мне, как он выражался, «секретный прием — мозги в потолок». Он заключается в том, что на шею набрасывается ремень и сильным ударом производится сотрясение головного мозга и мозжечка. После первого удара наступает сильнейшая головная боль. Вся голова буквально горит. После второго-третьего удара падаешь на пол в почти бессознательном состоянии. Поднимал меня с пола Морев ударами сапог в живот и ребра и обливанием водой.*

*Прием «мозги в потолок» может довести до сумасшествия. Я неоднократно чувствовал, что действительно начинаю терять рассудок. Несомненно, что не один подследственный, обладающий более слабой психикой, выдержкой и силой воли, мог быть таким приемом доведен до сумасшествия.*

*Мне известен факт, как в августе 1938 г. член партии Крутелев с допроса у Морева после этого приема был унесен в бессознательном состоянии в камеру, отправлен оттуда в больницу и приведен в сознание лишь на следующий день, примерно через 20 часов…*

*С 13 июля по 13 августа и днем, и ночью на допросах у Морева я был вынужден стоять с согнутыми в коленях ногами и вытянутыми или вперед перед собой, или вверх над собой руками. Неоднократно я был вынужден делать по несколько сот раз подряд приседания. Когда я отказывался от приседаний и от стояния в таком положении, Морев избивал меня кулаками и сапогами до тех пор, пока я не становился в требуемое положение.*

*Меня били по спине, груди под ложечку и в живот, били сапогами всюду, куда могли ударить. Синяки и кровоподтеки на гру-*

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 17.

*ди, спине, ногах у меня видели все подследственные — 30 человек, находящиеся со мной в камере № 54 и № 2.*

*Систематически меня били головой об кирпичную стену, спиной (крестцом) об косяк с такой силой, что неоднократно вываливалась из стены штукатурка. Иногда после таких ударов от невыносимой боли в позвоночнике я не мог встать с пола даже после ударов сапогами и обливания водой.*

*Морев и другие систематически выкручивали у меня одну или обе руки сразу за спиной в плечевых суставах и в кисти и, выкручивая, спрашивали, буду ли я писать. От невыносимой боли я кричал, не мог даже ответить и только отрицательно качал головой. От этого приема примерно 2 недели руки висели, как плети, вдоль туловища, каждое движение причиняло боль. Еще и теперь — прошло больше года — я не могу часто без боли в плечевых суставах поднять и повернуть руки.*

*На каждом допросе следователь Морев каблуками сапог разбивал мне ноги. От этого ноги распухли, не влезали в ботинки, на последние допросы я ходил уже в одних больших носках. Ноги распухли, стали черными, большой палец на левой ноге не двигался свыше 2 месяцев. Приемом «вальса» ногти на обеих ногах были поломаны и содраны. На этих избитых, с содранными ногтями, распухших ногах я едва мог передвигаться и даже стоять. Несмотря на это Морев продолжал все время бить каблуками сапог по ногам.*

*При помощи неизвестного мне следователя (блондин, волосы зачесаны на бок, с лысиной) Морев применял следующие приемы: бросал меня на пол, загибал ноги к голове и так держал, а в это время этот следователь бил меня кожаным портфелем с металлическими застежками и ремнем с пряжкой.*

*Потом Морев и этот следователь брали меня каждый за ногу, поднимали с пола вниз головой и так били об пол.*

*Неоднократно Морев, когда этот следователь держал меня в таком положении (ноги загнуты к голове), вливал мне через нос воду из стакана. Это — невыносимое мучение. Кажется, что вода проникает в самый мозг. Задыхаешься, захлебываешься — кажется, что умираешь.*

*Кроме того, в таком положении мне неоднократно вливали в нос нашатырный спирт, который обжигал слизистую оболочку носа, рта и горла. От этого нос у меня распух, часто шла кровь, выделялись кровавые сгустки.*

*Не буду останавливаться на других приемах, как лежание часами ногами и спиной на остром ребре табуреток со свешенными к полу головой и ногами, удушение, когда руками давят до потери сознания горло, крики в уши через рупоры из бумаги и т. д.*

*Хуже всего было, когда Морев стал буквально часами подряд рвать у меня волосы на голове и бороде и потом колоть эти места булавками. От этого на лице, голове и шее образовались кровяные нарывы, из которых постоянно сочился гной с кровью. На голове и бороде образовались плешины, голые места. Каждое прикосновение стало невыносимо болезненным. Заметив это, следователь Морев перешел, главным образом, на этот прием. Подряд часами он рвал волосы из этих кровяных нарывов и колол булавками. Я и теперь не понимаю, как от этих невыносимых пыток я не сошел с ума.*

*Нач. 4-го отдела Ермолаев, следователь Быховский, зам. нач. Кунцевич заходили на допрос, когда Морев проделывал это, и видели кровавые нарывы на лице и шее. Я заявил Ермолаеву об этих избиениях и пытках, но Ермолаев быстро повернулся и вышел…*

*Для характеристики возмутительных издевательств приведу следующий факт: следователь Морев обхватывает меня сзади, прижимая руки к телу, другой следователь (Лебедев?) зажимает нос и, когда я вынужден, чтобы глотнуть воздух, открыть рот, харкает и плюет в рот.*

*Однажды следователь Морев до того остервенел, что, бросив меня на пол, стал бить и топтать меня ногами, пока я не потерял сознание.*

*На одном из «допросов» следователь Морев спросил адрес моей жены, записал его и на следующую ночь сказал: «Твоя жена арестована». Когда в это время из другого кабинета стали слышаться отчаянные вопли и крики избиваемой женщины, Морев говорит: «Послушай, как твою жену обрабатывают. Узнаешь голос жены?». Я начинаю прислушиваться и мне действительно кажется, что это кричит моя жена. Тогда Морев заявляет: «Пиши, что тебя завербовал Сурта. Напишешь — освободим жену. Не будешь писать, я при тебе буду ее бить, а потом при тебе ее… (циничное ругательство)…*

*Крики и стоны избиваемых женщин во время допросов в тюрьме в июне – августе 1938 г. я слышал неоднократно.*

*Однажды я слышал дикий крик женщины: «Подлец. Вы не смеете. Я жена моего мужа. Я не позволю…» — и потом глухие стоны (по-видимому, рот был заткнут тряпкой; это неоднократно делали со мной, чтобы во время избиений я не кричал).*

*Член партии Дункан[1], недавно освобожденная из Минской тюрьмы, говорила, что жену военного Розанову[2] били по половым органам, что были и другие случаи подобных, даже худших*

[1] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[2] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

*издевательств. Однако об этих возмутительных действиях... менее известно, так как, по словам т. Дункан, женщины даже в женских камерах с женщинами стеснялись говорить о безобразных действиях отдельных мерзавцев, оскорбляющих и унижающих их достоинство и честь женщины.*

*Из подследственных, находившихся со мной в одной камере, у бывшего секретаря комсомольской ячейки Белгоскино Николая Стрешнева*[1] *были разбиты половые органы, у инженера-железнодорожника Азбукина*[2] *и колхозника Степана Шелега выбиты грыжи.*

*В начале 1938 г. находившийся в камере № 93 работник «Водоканала» Осипович*[3] *покончил жизнь самоубийством, бросившись в бане в котел с кипятком»*[4].

*«Следователь Морев является садистом. С каким наслаждением он часами подряд занимался именно пытками и... при этом у него неоднократно выступала пена на губах»*[5].

**НАЙДЕНОВ** (сяржант дзяржбяспекі; дапытваў Анатоля Вольнага, Сяргея Дарожнага, Алеся Дудара, Алеся Звонака, Цішку Гартнага і інш.).

**НЕЧАЕВ** (следчы, катаваў на допытах падследных).

З ліста М. Сцерніна сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Следователь Нечаев в декабре 1938 г., когда я сказал о решениях январского пленума ЦК ВКП(б) 1938 г. и указаниях това-*

---

[1] Стрэшнеў Мікалай Фёдаравіч [1909, с. Тарычава Маскоўскай губ. — 22.9.1938, Мінск, турма НКВД]. З рускай сялянскай сям'і. У 1930-я г. кінааператар «Белдзяржкіно». Арыштаваны 26.1.1938 у Мінску. Праходзіў па адной справе з другім кінааператарам «Белдзяржкіно» Леанідам Эпельбаўмам і інш. (гл.: *Рэпрэсаваныя...*). Асуджаны 20.9.1938 тройкай НКВД як «агент польскай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 28.8.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа С. № 10098-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[2] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[3] Асіповіч Іван Феафілавіч [1892, в. Крэмец Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 14.3.1938, Мінск, турма НКВД]. З бел. рабочай сям'і. Да арышту дзяжурны Водаканалтрэста. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 3.3.1938 у Мінску па адрасе: Старавіленскі тракт, д. 70, кв. 1. Абвінавачваўся ў «шпіянажы на карысць Польшчы». Рэабілітаваны 29.8.1997 пракуратурай Мінскай вобл. Асабовая справа А. № 20886-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[4] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 18–24.

[5] Тамсама, л. 50.

*рища Сталина, ответил дословно: «Плевать мне на решения пленума ЦК партии. Понял?»*[1]

**НИКИТИН** (следчы).

З ліста асуджанага да 10 гадоў ППК С. П. Партнова жонцы П. С. Драпінай і дачцэ Маі (ад 11.5.1939):

*«Мое дело вел Никитин — палач, который избивал меня до полусмерти, издевался, мучил на рожке стула по 8 суток подряд, держал в париловке, где я задыхался без воздуха и гнил от пота...*

*Третью очную ставку мне дали с Якубовичем, которого в полумертвом состоянии, избитого, в изорванной нижней рубахе привели в кабинет Никитина. Якубович ничего не говорил, даже не узнавал меня... Зачитали показания, которые из него выбили Никитин, Добросердов и Лапин... После Якубовича увели, а меня оставили и издевались 8 суток беспрерывно день и ночь... Сидел на рожке стула... Кроме того... Никитин еженощно наносил побои, бил по голове, шее... Мне ломали ноги, руки, заявляя, что или здесь угробим, или отправим в Витебск в сумасшедшую больницу, но живого не выпустим. Никитин не гнушался приходить даже в пьяном виде. Это много раз было по ночам, когда я терпел от него, как от палача, побои. Следователь Будилов, который вел мой допрос, неоднократно заявлял, что мы тебя выпустить не можем, потому что долго сидишь...»*[2]

**ОРЕХ** (следчы).

З ліста У. Луканскага пракурору па асобых справах БССР:

*«Следователь Орех пыткой заставил меня подписать сочиненный им протокол допроса»*[3].

**ПАВЛОВ** (лейтэнант дзяржбяспекі; дапытваў Станіслава Шушкевіча).

**ПАРЕМСКИЙ** (катаваў на допытах падследных).

**ПЕРЕВОЗЧИКОВ** (следчы 3-га аддзела, катаваў на допытах падследных).

З ліста М. Штэйнберга[4] сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«3-й год нахожусь под следствием…*

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2547, л. 7.

[2] Тамсама, с. 1892, л. 24–25.

[3] Тамсама, с. 1806, л. 138.

[4] Штэйнберг Майсей Піліпавіч. Да 1937 член КП(б)Б, сяржант дзяржбяспекі.

*Особо уполномоченный Перевозчиков применял ко мне пытки, — сажал на кол — острый конец ножки перевернутого стула, специально приспособленного, и бил меня...»*[1]

**ПИМЕНОВ И. С.** (оперупаўнаважаны).

З ліста І. Піменава сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку (ад 17.3.1939):

*«Тов. Пономаренко, я из семьи рабочего, мне 34 года, из них 12 я отдал партии всего себя полностью для борьбы с врагами народа. За эти 12 лет я раньше 4-5 часов утра с работы домой не уходил... За последние 4 года я не имел совершенно отпуска, мне некогда было отдыхать, ибо я делал самую черновую работу и знал, что это нужно для партии...»*[2]

**ПОЗНЯКОВ Андрей Митрофанович*** (оперупаўнаважаны, Слуцк, потым старшы інспектар Мінскай абл. управы).

З прызнанняў следчага Слуцкага НКВД А. Машэнца:

*«Былі выпадкі, калі следчы Пазнякоў і яшчэ адзін следчы з Мінска, прозвішча не памятаю, давалі па пяць выпадкаў выкрыцця арыштаваных у суткі...»*

**ПОЛОВИНСКИН** (катаваў на допытах падследных).

**РОМАНЮК** (следчы, катаваў на допытах падследных; гл. успаміны Я. Гаварушкі на с. 429).

**РУЛЕВ Алексей Иванович** (н. ў 1897; вёў справу М. Галадзеда і давёў яго да самазабойства; арыштаваны 27.6.1937 у Мінску па месцы жыхарства; абвінавачваўся ў «самавольным пакіданні аховы арыштаванага кіраўніка антысавецкага падполля Галадзеда, які выкінуўся з акна»; з 4 да 28 жн. 1938 пастановай асобай нарады пры НКВД вызвалены і рэабілітаваны).

**САВАТЕЕВ** (катаваў на допытах падследных; арыштаваны і асуджаны, верагодна, у 1939).

З успамінаў Рамана Фёдаравіча Ляпіча[3]:

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1805, л. 87.

[2] Тамсама, с. 1688, л. 50.

[3] Ляпіч Раман Фёдаравіч [1.7.1906, в. Бор Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 9.1.1977, Мінск], крытык, перакладчык. З пачатку 1923 жыў у Мінску. У 1923–26 курсант школы міліцыі. У 1926–28 вучыўся на вячэрнім рабфаку, у 1928–31 — на літаратурным ф-це БДУ. Працаваў літработнікам у рэдакцыях газ. «Звязда»,

*«Пачынаўся допыт* (які вёў следчы Савацееў. — **Л. М.**) *быццам бы спакойна, затым прыходзіла ганьбаванне, пачыналася выкручванне рук...*

*Савацееў... тыцнуў у твар* (Р. Ляпіча. — **Л. М.**) *пісталетам... паабяцаў: «Згнієш у балоце, у тайзе... Пашлюць туды, куды Макар цялят не ганяў»*[1].

**СОТИКОВ** (лейтэнант дзяржбяспекі; катаваў на допытах Валерыя Маракова, Барыса Мікуліча, Станіслава Шушкевіча і інш.).

**ТИМОФЕЕВ** (дапытваў Яна Скрыгана, Уладзіміра Хадыку і інш.).

**ФАРБЕР** (памочнік следчага; катаваў на допытах Платона Галавача і інш.).

**ФИШ** (катаваў на допытах падследных).

**ХОДАНОВИЧ** (арыштоўваў і дапытваў Валерыя Маракова і інш.).

**ЦЕЙТЛИН** (лейтэнант дзяржбяспекі; катаваў на допытах Анатоля Вольнага, Яфіма Гаварушку, Станіслава Шушкевіча і інш.; арыштаваны; былыя сябры-энкавэдысты білі яго, пакуль у яго не адняло мову[2]).

З нарыса Я. Гаварушкі[3] «У сталінскіх засценках»:

---

«Рабочий». Друкавацца пачаў у 1929 (перакладаў на рускую мову творы бел. аўтараў). З літаратурна-крытычнымі артыкуламі ўпершыню выступіў у 1931. У 1931–35 у аспірантуры БелАН; пасля яе сканчэння да 1938 малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры. Адначасова выкладаў у МВПІ. У сак. — ліп. 1938 дэкан філалагічнага ф-та. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 21.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Надзеждзінская, д. 17, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «падрыўную работу» 10.10.1938 да 8 гадоў ППК. Этапаваны на Калыму ў адзін з паўночна-ўсх. канцлагераў. Пасля вызвалення з 1946 працаваў як вольнанаёмны геолаг на капальнях у Магаданскай вобл. Падарваў здароўе; з 1965 інвалід 2-й групы. У 1968 вярнуўся ў Мінск. Рэабілітаваны 8.8.1969. Апошні год перад смерцю паралізаваны. Асабовая справа Л. № 20094-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Возвращенные имена; БП*. Т. 4; *Рэпрэсаваныя*....

[1] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска. У 4 кн. Кн. 3. С. 457–458.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1706, л. 5.

[3] Гаварушка Яфім Максімавіч [крыптанім: Я. Г.; 15.10.1911, в. Востраў Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомель-

*«Яшчэ ў першыя дні допыту следчы Цэйтлін гаварыў, што я ні ў чым не вінаваты, што на нашым курсе не было ніякай контррэвалюцыйнай арганізацыі, а следчы ж Раманюк ад мяне патрабаваў падпісаць пратакол, у якім было запісана, што ў педінстытуце была контррэвалюцыйная нацыяналістычная арганізацыя, якую стварыў Цішка Гартны праз пісьменніка Васіля Шашалевіча. Цэйтлін жа сцвярджаў, што «падпішыце вы пратакол допытаў ці не падпішыце, мы ўсё роўна асудзім. Бадай усім дзесяці былым студэнтам газета-выдавецкага аддзялення дадзім па 10 год, а вам — 6». — «А чаму?» — спытаўся я. «А таму, што вы не вінаваты. Мы доўга думалі, ці браць вас. А потым вырашылі — узяць, бо вы таксама не дурны мужык, а ў нас ёсць загад нашага народнага камісара Мікалая Іванавіча Яжова ўбраць усіх разумных інтэлігентаў. Такі загад ён даў нам асабіста, калі прыязджаў у Мінск. Я думаю, што гэты загад у яго ўзгоднены з нашым дарагім Іосіфам Вісарыёнавічам Сталіным. Раю вам, Гаварушка, падпісаць усе пратаколы допытаў», — закончыў Цэйтлін»*[1].

З ліста К. Лаймана-Сапіэта сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«7 мая 1938... меня начал допрашивать следователь Цейтлин, требуя признаний, что я латвийский шпион. Цейтлин и его помощники начали надо мной издеваться... Я был подвергнут почти беспрерывной стойке, физическому воздействию кулаком... Цейтлин, а также пришедший в комнату допроса быв. начальник 3-го отдела НКВД БССР Серышев мне твердили: «Кожу снимем, ребра поломаем и шпионаж от тебя добудем...», а в конце третьих и начале четвертых суток допроса Серышев дал распоряжение Цейтлину «допрашивать меня по всем правилам», указывая, вернее, обращая внимание на доходящие до нас стоны, крики и стук из других каби-*

---

скай вобл. — 3.6.1992, Смалявічы Мінскай вобл.], празаік, публіцыст, педагог. Выхоўваўся ў дзіцячым доме ў Бабруйску. У 1935 скончыў МВПІ. Выкладаў бел. мову і літаратуру ў Смалявічах. Арыштаваны 9.12.1936 у мяст. Смілавічы. Асуджаны 2.10.1937 пазасудовым органам НКВД як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 6 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Пасля вызвалення вярнуўся ў Смалявічы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 19.10.1955. Працаваў настаўнікам і дырэктарам дзіцячага дома. Уклаў кнігу рэпрэсаванага акадэміка І. Замоціна «Творы» (Мн., 1991). У апошнія гады жыцця складаў анталогію паэзіі рэпрэсаваных паэтаў «Песня падуладных». Асабовая справа Г. № 9934-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[1] Правда истории: память и боль. Мн., 1991.

*нетов следователей… После этого распоряжения мне начали… трубить в уши… Под давлением физического и морального характера меня вынудили дать клеветнические показания, оговорив себя»*[1].

З абвінаваўчага заключэння па крымінальнай справе № 48805:

*«Избиения осужденных к высшей мере наказания производились Цейтлиным — помощником Гепштейна, начальника 3-го отдела… Осужденных избивали, обезображивая до неузнаваемости»*[2].

**ЧЕРНЯК** (катаваў на допытах падследных).

**ШАПОВАЛОВ** (следчы, паводле некаторых звестак арыштаваны ў 1939).

З ліста І. Смірнова Чорнаму (ад 24.12.1939):

*«Самым ужасным была «парилка», куда я был отправлен «погнить месяца 2» (следователь Шаповалов), чтобы легче раскаивался в своих несуществующих преступлениях. Это камера с населением в 3 человека на 1 кв. метр площади пола (14 кв. метров — 46 человек). Трудно себе представить, что это был за ад. Температура тропическая, воздуха через маленькое оконце поступало недостаточно; до этого мне никогда в голову не приходило, что может существовать острейший дефицит на этот «продукт»… Дышать было нечем, пот лил ручьем, можно ли было всем сидеть и спать — решайте сами, если вот, к примеру, на площади вашего стола нужно было жить 4–5 человекам. Вскоре, как правило, получалось сплошное воспаление кожи всего тела, чем мучения значительно усиливались. В такой обстановке я и пробыл около 3 месяцев. Естественно, ее выдержали не все: 3 человека отправились на тот свет…*

*Физические истязания доходили до тяжелых повреждений организма… Находящемуся здесь* (у ссылцы ў Паўладары Казахскай ССР. — **Л. М.**)*… следователем Шаповаловым были нанесены такие повреждения в брюшной полости, что он прямо с допроса… был отправлен в больницу, где и провалялся 3 месяца»*[3].

**ШИРОКОВ** (катаваў на допытах падследных).

---

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1805, л. 99–101.

[2] Тамсама, с. 1703, л. 15.

[3] Тамсама, с. 2184, л. 226–227.

**ШУРОВ Николай Георгиевич** (н. ў 1897; лейтэнант дзяржбяспекі (1936–1939); арыштоўваў і дапытваў Сымона Баранавых, дапытваў Змітрака Астапенку, Анатоля Вольнага, Міхася Зарэцкага, Алеся Звонака, Сяргея Знаёмага, Васіля Каваля, Барыса Мікуліча, Сяргея Ракіту, Яна Скрыгана, Юлія Таўбіна, Уладзіміра Хадыку, Станіслава Шушкевіча і інш.; арыштаваны ў 1939).

З успамінаў С. Грахоўскага:

*«На наступны дзень мяне прывялі ў кабінет да следчых Шурава і Серышэва. Шураў — маленькі такі, рыжы, рабацiністы — сядзеў за сталом, а на канапе сядзеў Міхась Зарэцкі. Гэта быў жывы класік, за яго кнігамі ў бібліятэках выстройваліся чэргі. Мяне правялі ў суседні пакой, але дзверы пакінулі адчыненымі, каб я бачыў Міхася Зарэцкага.*

*Шураў пачаў:*

*— Михаил Ефимович, повторим с вами то, что ранее записали: «Я, Косенков, Михась Зарецкий, входил в контрреволюционную организацию, которую возглавляли Купала, Колас, Бядуля, Гартны, ставившие своей целью отторжение Белоруссии от Советского Союза».*

*Зарэцкі маўчаў, а Шураў працягваў чытаць. Калі скончыў, прапанаваў:*

*— Теперь подпишите.*

*Бог ты мой!..*

*Назаўтра, калі выклікалі на допыт, у кабінеце на канапе разам з Зарэцкім сядзелі ягоныя дзеці — сын і дачка (гадоў па дванаццаць) і стаяла жонка Марыя. На стале параная бульба, селядзец, сала, каўбаса. Усе яны частуюцца, смяюцца. Шчаслівы бацька з сям'ёй.*

*— Видел? — спытаў Серашаў. — Зарецкого мы проверим два года в трудовой обстановке, а потом он снова вернется к литературному труду...»*

З ліста В. Саркісава[1] сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Неслыханными издевательствами, избиениями меня заставляют подписать т. н. протокол «допроса», причем весь этот протокол составлен от начала до конца Шуровым»*[2].

---

[1] Саркісаў Вартан Георгіевіч [1902, Гелаў, цяпер Грузія — ?], армянін, з сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў інжынерам-тэхнолагам на Магілёўскай шаўковай фабрыцы. Быў жанаты. Арыштаваны 10.6.1938. Абвінавачваўся ў «шпіёнскай дзейнасці». Асуджаны не быў. Вызвалены 30.5.1939. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа С. № 5359 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1805, л. 12–13.

**ЮРГЕНСОН** (дапытваў Сяргея Ракіту і інш.).

**ЯКУБОВСКИЙ** (арыштоўваў і дапытваў Уладзіміра Хадыку і інш.).

**ЯРОХОВЕЦ** (следчы).

З ліста В. Саркісава сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку (ад 5.3.1939):

*«Следователь Яроховец называл меня армяшкой, армянскай мордой и еще такими словами...»*[1]

Прыведзены спіс энкавэдыстаў, безумоўна, няпоўны. Ды ўсё ж я ўпэўнены, што прыйдзе час, калі, як любілі паўтараць у крывавыя трыццатыя, краіна павінна — і будзе! — ведаць усіх сваіх «герояў».

Вечны праклён забойцам і катам!

Вечны праклён іх роду!

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 1805, л. 12, 13.

## ДАДАТАК

**УРЫВАЕВ** (начальнік 8-га аддзела УДБ НКВД БССР).

З ліста І. Шараватых[1] (ад 3.3.1940) сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«Я был арестован в эпоху свирепствования банды Ежова. Я прошел у этой банды не один круг пыток и истязаний… Нахожу, что тот, кто меня арестовал (бывший нарком внутренних дел БССР Наседкин), и тот, кто создал мое провокационное дело (б. нач. 8-го отдела УГБ НКВД БССР Урываев), разоблачены ныне как активные участники контрреволюционной заговорщической организации… И несмотря на это я продолжаю находиться в смертной камере… Когда банда Ежова не была разоблачена — все было понятно. Но почему теперь, когда эта банда не только разоблачена, но и уничтожена, почему ни в чем не виновные продолжают находиться в смертных камерах?..*

*Если будет суждено пролиться моей невинной крови, я прошу вас (хотя бы после моей смерти) обратиться к моему делу…*

*У меня остается дочь, мать, жена. Пусть же они после моей смерти не будут носить маски врагов… Пусть никто не посмеет указать пальцем на них, что их отец, сын, муж был враг»*[2].

**ДЕЙКОВ (ДЕЙКОВСКИЙ)**[3] (следчы; арыштаваны ў 1938, далейшы лёс невядомы).

З ліста С. Памазава[4] сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

---

[1] Шараватых Ілля Уладзіміравіч. У 1930-я г. начальнік аддзела крымінальнага пошуку УЛКМ (абрэвіятура не расшыфравана) БССР. Арыштаваны ў чэрв. 1939. Пад следствам знаходзіўся ў Мінскай унутранай турме НКВД. Далейшы лёс невядомы.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2304, л. 37–39.

[3] Таксама гл.: с. 387.

[4] Памазаў Стэфан Емяльянавіч [25.4.1898, мяст. Краснаполле Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?]. З бел. рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1930-я г. працаваў раённым упаўнаважаным Наркамзага па Чэрвеньскім р-не Мінскай вобл. Уступіў у КП(б)Б. Быў жанаты, гадаваў трое дзяцей. Арыштаваны 24.6.1938. Адпраўлены ў Барысаўскую турму НКВД. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 3.11.1938 за «антысавецкую агітацыю» і за «шпіянаж на карысць буржуазнай Польшчы» да 10 гадоў

*«В нашем Червеньском районе председателем исполкома был Дейко, а впоследствии, как оказалось, не Дейко, а Дейковский — заклятый враг трудового народа, который переобкладывал как натуральным, так и денежным налогом население, производил незаконные изъятия... Секретарь исполкома Н. Костюкович*[1] *идеализировал его, как старого чекиста, говорил, что надо учиться у Дейковского работать...*

*Я, как свирепый тигр, каждую минуту на доверенных мне участках работы (предвыборные партийные собрания р-на, председатель избирательного участка на выборах в Верховный Совет БССР и СССР) боролся за правильность проведения их в жизнь... Всякую несправедливость, извращение советских законов не замалчивал, невзирая на личности критиковал... Такая критика карьеристам-поклепщикам не понравилась... Не знаю почему, но моя критика не понравилась и уполномоченному НКВД по Червеньскому району Мазурову...*

*Схватили без предъявления санкции прокурора, обыск, все отняли и в 9 часов отправили в Борисовскую тюрьму... 9 дней в тюрьме, потом камера предварительного заключения... Следователь Апрянич был прислан из Червеня... Зверскими нечеловечесими пытками, бесчеловечным избиением до потери сознания заставил меня подписать на себя позорный приговор. Следователь шесть суток день и ночь избивал меня и всевозможные пытки ко мне применял, а именно: бессчетные приседания, стойка, сажание на ножку стула, перевешивание через стул и биение резиной по мускулам ног, биение по пяткам, защемление пальцев в дверь, частое биение по связкам шеи, биение прессом по голове, и когда падаешь на пол, так бьет до потери сознания каблуками в бока... Потеряешь сознание — обливают водой и уводят, а через час-два обратно вызывают... Следователь говорил: «Ты лучше подписывай то, что нужно, все равно здашься, не такие здоровцы, как ты, сдавались, ведь пойми, подпишешь – увидишь своих детей... Дадут тебе 2–3 года, и возвратишься домой к семье, а не подпишешь – так знай, что это цветочки еще, а ягодки будут впереди... В предсмертной агонии, но подпишешь... Я подписал, но сам не знаю что — не читал. Знал – выше смерти ничего не будет, а смерть легче получить, чем такое истязание выдержать»*[2].

ППК. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай вобл. (ст. Сухабязводная, 13-ты лагпункт). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 20.3.1989. Асабовая справа П. № 21693-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[1] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[2] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2304, л. 67–73.

**ВИНЬКОВЕЦКИЙ**[1] (следчы, катаваў на допытах падследных).

З ліста (ад 7.3.1940) настаўніка Барысаўскай СШ № 8 Васіля Бірыча сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

*«29 сентября 1939 г. при личном свидании в Червеньской тюрьме с моим зятем, осужденным Андреем Шинкевичем*[2]*, последний в присутствии надзирателя рассказал, что в Минске следователь Винниковецкий подверг его жестоким пыткам и под страхом смерти его самого (из легких выливалось по литру крови) и угрозе его жене, вынудил его подписать признание, что он принимал участие во вредительстве. Причем А. Ш. добавил, что все то, что он сделал хорошего, как истинный большевик, он назвал вредительством в надежде, что следственные органы проверят факты и убедятся в его невиновности. Когда я на это заметил, что «ты здесь выказал малодушие», он сказал: «Счастье, что сегодня вы видите меня живым»*[3].

**ЧЕРНЫШЕВ** (следчы[4]).

З ліста М. Яроцкага[5] (ад 28.1.1940) сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

---

[1] Таксама гл.: с. 409.

[2] У 1930-я г. супрацоўнік палітаддзела пры Церахоўскай МТС Добрушскага р-на Гомельскай вобл.

[3] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2304, л. 55–57.

[4] УДБ НКВД УССР.

[5] Яроцкі Мікалай Ігнатавіч. Н. ў в. Булькава Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Жабінкаўскі р-н Брэсцкай вобл., у бел. сялянскай сям'і. У 1920-я г. праследаваўся польскімі ўладамі за прыналежнасць да нелегальнага Камуністычнага Саюза Моладзі (верагодна, Зах. Беларусі). У ліп. 1936 арыштаваны як падазроны ў прыналежнасці да «нелегальнай польскай арганізацыі», але вызвалены праз недастатковасць абвінаваўчых матэрыялаў. У ліп. 1937 зноў арыштаваны за прыналежнасць да «камуністычнага саюза» і спробу нелегальнага пераходу польска-савецкай мяжы. Асуджаны да 6 месяцаў турэмнага зняволення, якое адбываў у Ровенскай турме, цяпер Украіна. У снеж. 1937 перайшоў польска-савецкую мяжу, з'явіўся на заставу і здаўся памежнікам. Арыштаваны. Вывезены ў турму НКВД у г. Олеўск Жытомірскай вобл., Украіна. У пачатку 1938 пераведзены ў Жытомірскую турму НКВД. У сак. 1938 этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД Томскай вобл., дзе лагернай тройкай асуджаны да 10 гадоў ППК. У кастр. 1938 як «польскі шпіён» пераведзены з агульных прац у лагерны ізалятар, дзе зноў дапытваўся. У ліп. 1939 этапаваны ў Котласкі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. (лагпункт № 2, п/с № 202). Далейшы лёс невядомы.

*«Обвинение меня в контрреволюционной деятельности базируется на составленном следователем Чернышевым протоколе, содержание которого мне неизвестно, т. е. я, под влиянием физических методов воздействия, которые применил проводивший допрос следователь Чернышев, подписал чистый протокол, незаполненный лист бумаги»*[1].

Роўна за месяц да ліста М. Яроцкага ліст сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку таксама з канцлагера напісаў Камянецкі Сямён Георгіевіч (Люзман Шама Абрамавіч), лёс якога нагадвае лёс М. Яроцкага. Н. ў 1906 у Брэсце. У пачатку 1920-х г. уступіў у КСМЗБ. З 1924 член КПЗБ. З 1925 асуджаны да 4 гадоў зняволення. Пакаранне адбываў у Брэсцкай і Седлецкай турмах. Вызвалены ў 1928. Накіраваны ЦК КПЗБ у Мінскую партшколу. Пасля вызвалення ў распараджэнні ЦК КП(б)Б. Працаваў у Гарадоцкім, Бешанковіцкім р-нах, Полацку, Мінску. Быў жанаты на Галкавай Феадосіі Яфімаўне (у першай палове 1930-х г. уступіла ў КП(б)Б). Арыштаваны ў жн. 1937. Пад следствам знаходзіўся ў Мінскай унутранай турме НКВД. Абвінавачваўся ў «шпіянажы на карысць буржуазнай Польшчы». Асуджаны да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Іўдельскі канцлагер Свярдлоўскай вобл. У зняволенні напісаў ліст сакратару ЦК КП(б)Б, у якім прасіў разабрацца з яго справай і вызваліць як ні ў чым не вінаватага. Далейшы лёс невядомы (падрабязней гл.: НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2304, л. 112–113.).

[1] НАРБ, ф. 4п, в. 21, с. 2304, л. 44–47.

## Спіс скарачэнняў

абл. — абласны
АДПУ — Аб'яднанае дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне СССР
арт. — артыкул
Асаавіяхім — Таварыства садзейнічання абароне, авіяцыі і хімічнаму будаўніцтву
БелАН, АН БССР — Беларуская Акадэмія навук
БВА — Беларуская ваенная акруга
БДТ — Беларускі дзяржаўны тэатр
БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт
бел. — беларускі
БелАПП — Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў
БНДЦЭД — Беларускі навукова-даследчы цэнтр электроннай дакументацыі
БНР — Беларуская Народная Рэспубліка
*БП* — Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік: У 6 т. Мн.: БелЭн, 1992–1995.
БПІ — Беларускі політэхнічны інстытут
БПС-Р — Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў
БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка
*БЭ* — Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. Мн.: БелЭн, 1996–2004.
в. — вёска
в. а. — выконваў абавязкі
ВА — ваенная акруга
ваяв. — ваяводства
верас. — верасень
ВКП(б) — Усесаюзная Камуністычная партыя (бальшавікоў)
ВЛКСМ — Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі
ВМП — вышэйшая мера пакарання
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл. — вобласць
*Возвращенные имена* — Возвращенные имена: Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий / Сост. и авт. предисл. Н.В.Токарев. Мн.: Навука і тэхніка, 1992.
вол. — воласць
ВЧК (ЧК ) — Усерасійская Надзвычайная Камісія пры Савеце Народных Камісараў па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам
выбр. тв. — выбраныя творы
вып. — выпуск
г. — горад
газ. — газета
гарана — гарадскі аддзел народнай адукацыі
губ. — губерня
ГУДБ — Галоўнае ўпраўленне дзяржаўнай бяспекі

ГУЛАГ — Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў
г. п. — гарадскі пасёлак
ДАРФ — Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі
ДПУ — Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне
*Жертвы политического террора…* — Жертвы политического террора в СССР. Компакт-диск. 3-е изд. М., 2004. http://stalin.memo.ru/spiski
жн. — жнівень
зах. — заходні
Інбелкульт — Інстытут беларускай культуры (з 1929 БелАН)
кастр. — кастрычнік
КДБ — Камітэт дзяржаўнай бяспекі
кн. — кніга
КП(б)Б — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі
КП(б)ЛіБ — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Літвы і Беларусі
Кр. — крыніца
крас. — красавік
*ЛіМ* — газета «Літаратура і мастацтва»
ліп. — ліпень
ліст. — лістапад
літ. — літаратура
ЛКСМБ — Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі
лют. — люты
МБПТ — Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум
МДБ — Міністэрства дзяржаўнай бяспекі
МПІ — Мінскі педагагічны інстытут
МТС — машынна-трактарная станцыя
МУС — Міністэрства ўнутраных спраў
мяст. — мястэчка
н. — нарадзіўся (нарадзілася)
нам. — намеснік
*НАРБ* — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь
*НАРБ, ІКР* — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Індывідуальная картатэка рэпрэсаваных
Наркамасветы — Народны камісарыят асветы
*НГАБ* — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі
НДІ — Навукова-даследчы інстытут
НКВД (НКУС) — Народны камісарыят унутраных спраў
НКДБ — Народны камісарыят дзяржаўнай бяспекі
ПАВ — Польская арганізацыя вайсковая
пав. — павет
паліт. — палітычны
пас. — пасёлак
паўдн. — паўднёвы
паўн. — паўночны

ППК — папраўча-працоўны канцлагер
пр. — праспект
рана — раённы аддзел народнай адукацыі
РВК — раённы выканаўчы камітэт
РКП(б) — Расійская Камуністычная Партыя (бальшавікоў)
р-н — раён
*Рэпрэсаваныя...* — Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794–1991. Энцыклапедычны даведнік: У 3 т. Мн., 2002–2005.
с. — сяло
сак. — сакавік
сапр. — сапраўдны
СБМ — Саюз беларускай моладзі
с.-г. — сельскагаспадарчы
снеж. — снежань
СНК — Савет народных камісараў
СП — Саюз пісьменнікаў
СПА — сакрэтна-палітычны аддзел
студз. — студзень
ст. — станцыя
СШ — сярэдняя школа
сяльпо — сельскае спажывецкае таварыства
тв. — творы
тыс. — тысяча
УВБР — Упраўленне ваенна-будаўнічых работ
УКДБ — Упраўленне Камітэта дзяржаўнай бяспекі
УНКВД — Упраўленне Народнага камісарыята ўнутраных спраў
УМДБ — Упраўленне Міністэрства дзяржаўнай бяспекі
ун-т — універсітэт
усх. — усходні
Ушашдар — Упраўленне шашэйных дарог НКВД БССР
фальв. — фальварак
ФЗВ — фабрычна-заводскае вучылішча
ф-т — факультэт
*Хранить вечно* — Хранить вечно: Книга памяти жертв массовых политических репрессий 30–40-х и нач. 50-х гг. / Ассоц. жертв незакон. репрессий г. Астаны и Акмолин. обл. Астана, 2001. Ч. 1–3.
хут. — хутар
ЦВК — Цэнтральны выканаўчы камітэт
ЦК — Цэнтральны Камітэт
час. — часопіс
ЧК — Чрезвычайная Комиссия
чэрв. — чэрвень
*ЭГБ* — Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Мн.: БелЭн, 1993–2003.



**Леанід Маракоў** — журналіст, пісьменнік, гісторык, энцыклапедыст, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, правамоцны сябра міжнароднага ПЭН-клуба, пляменнік вядомага беларускага паэта 1920-х гг. Валерыя Маракова, расстралянага сталінскімі катамі ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 г. у Мінску разам з іншымі дзеячамі беларускай культуры і грамадства. Даследуе рэпрэсіі савецкіх (расійскіх) уладаў супраць беларускага, польскага, габрэйскага народаў.

Л. Маракоў — аўтар унікальнага энцыклапедычнага даведніка "Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі", у якім прыводзяцца біяграфіі каля 6000 расстраляных або загінулых у сталінскіх канцлагерах дзеячаў беларускай культуры. Аўтар энцыклапедычнага даведніка "Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі 1917—1967" (больш за 2000 біяграфій пакутнікаў).

